# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 1

1928

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ




## № 1

## 1928

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК — 1928

# ДРАПЕЖНІКІ

*Роман у трох частках*

**Я. Нёманскі**

## Частка першая

### I

— Салавейчык, га Салавейчык! Вязеце мяне, калі ласка, ня вуліцаю, а сьценкаю паўз сяло. Ведаеце?

— Добра!

Балагола зьвярнуў у бок і закульгаў па вузкай дарожцы, якая істужкаю працягнулася ўздоўж вёскі. Тодар Крэпчук вылез з буды і прымасьціўся на салавейчыкавым мяшку. Вось гэтыя гумны, пастаўленыя ў рад, як салдаты на вучэньні, вось вузенькія палоскі гародаў, над якімі матляюцца для пужаньня вераб'ёў старыя кашулі і спадніцы, а вось з другога боку сьценкі-загончыкі закаласіўшага жыта і яскрава зялёнае, нізкае яшчэ ярыны. Вось кабета адарвалася ад грады, прылажыла далонь да ілба і ўглядаецца, хто едзе.

— Бэрка, каго ты вязеш?—голасна пытаецца яна.

— Вусы вырастуць, калі ўсё будзеш ведаць!—адказвае хурман і падсьцёбвае запараную кабылку.

На Тодара зразу налятае вяласьць. Калі ад самае чыгункі, усе дваццаць вёрст ён неадчэпна падганяў Салавейчыка, раз-по-разу высоўваўся з буды, каб сачыць за вярстовымі слупамі, прыкмячаў усе ўзгоркі, лясы, гаёчкі, рэчкі, то цяпер, калі ён быў блізка ад дому, цікавасьць і нецярплівасьць раптам прапалі. Можа гэта залежыць ад таго, што калі едзеш куды, то думкі малююць перад табою нешта новае, нязвычайнае, што чакае цябе ўперадзе; і вось, як, замест гэтага нязвычайнага, убачыш тое, да чаго даўно прывучана вока і пачуцьцё, то мусіць быць рэакцыя супроць прыпаднятасьці настрою.

Тодар акінуў вокам роўны шэраг гумен, гароды з роўненькімі градамі, шэраг калодезных жураўлёў і далей, у канцы вёскі, вежу царквы і аддаўся задуменнасьці, якая ня мела ніякага зьвязку з уражаньнямі ад роднага сяла.

— Ну, вось і прыехалі!

Тодар уздрыгнуў ад гэтых слоў. Ён ускінуў свой бляды твар, рэзка павярнуўся ў бок школы, перад якою стаяў балагола. У яго стомленых вачох заблішчэў вагоньчык радасьці, на твары зьявіліся невя-

лічкія ружовыя плямкі. Рука крыху дрыжэла, калі ён абапёрся ёю на аглабіну злазячы з возу.

Тодар жвава саскочыў з возу і ў момант быў на ганку. Крыху прыпыніўшыся, ён узяўся за клямку. Дзьверы не адчыняліся. Ён мацней націснуў на клямку і грукнуў каленам у дзьверы. Нічога не пасобіла. Што-б гэта азначала?

— Выкіньце, Салавейчык, маю пляцёнку ды будзьце вольны,— зьвярнуўся апаўшым голасам Тодар да балаголы.

Расплаціўшыся, Тодар падняў сваю пляцёнку і пайшоў да брамкі, праз якую можна было папасьці на двор, а адтуль „чорным ходам“—у кватэру. Але і брамка была замкнута. Ня доўга думаючы, Тодар перакінуў свае клункі цераз плот, а потым і сам пералез. Пакінуўшы ўсё сваё дабро ляжаць на зямлі, ён кінуўся да „чорных“ дзьвярэй, і так быў упэўнены, што яны не замкнуты, што нават зьнячэўку трахнуўся аб іх ілбом.

„Што гэта здарылася?“

Школа стаяла ў адлегласьці ад вёскі, а таксама і ўсіх тых будынкаў, што звычайна бываюць на „дзядзінцы“. Такім чынам, у гэты час нават ня было паблізку нікога, у каго-б можна было запытаць аб сваіх, дзе яны. Дый пытацца неяк няскладна.

Пастаяўшы каля чорнага ганку, пакуль ад‘едзе балагола, Тодар пайшоў аглядаць школьны пляц—так сабе, не ад цікавасьці, а каб скаратаць час. Вось грады з малінамі, трускаўкамі, вось шпалеры кустоў агрэсту, далей сад з роўнымі востраверхімі ялінамі вакол, паўз плот. Бацька Тодара сьвядомы ня толькі настаўнік, аде і садавод, і сад каля школы заўсёды трымаўся ў належным парадку. Толькі цяпер ён выглядаў не такім чыстым, якім ведаў яго Тодар раней. На дрэвах лушчылася пажоўклая вапна, дзе-ні-дзе ўбачыш чортапалох або лопух, дарожкі былі засыпаны пажоўклаю апаўшаю цьвіценьню. Мімаволі зьвязваліся ў думках замкнутыя дзьверы і гэтая неахайнасьць саду.

З пануraю галавою перанёс Тодар свой багаж да чорнага ганку і зноў пайшоў сланяцца па садзе. Ён хадзіў узад і ўперад, як маятнік, падоўга стаяў на месцы і са ўзгорку глядзеў на маёнтак, за ім на рэчку і лес, але ўсё гэта не магло прыцягнуць яго ўвагі і зьмяніць той нудны настрой, які апанаваў яго каля замкнутых дзьвярэй.

Вылаяўшы ў сэрцы пчол і розную мошку, якая ў нярухомай цішы яснага сонечнага дня бясконца цягнула свой монотонны звон, Тодар раптам скінуў сваю студэнцкую жукетку, сьцепануў яе ад пылу і, кінуўшы на траву, лёг пад дрэва. Ён дастаў нейкую невялікую кніжку з кішэні.

„Дзеля гэтага ня варта было ехаць з Пецярбургу—можна было-б і ў Лясным так час правесьці“, падумаў, пачынаючы чытаць, Тодар.

— Ха-ха-ха!—срэбраным званком будзіць Тодара чыйсьці голас.

Тодар адганяе муху з свайго твару, якая непакоіла яго, адкрывае вочы. Маладая дзяўчына з травінкаю ў руцэ, якую яна раптам адхіліла

ад твару Тодара, крыху адскочыла ў бок і з вясёлымі вагоньчыкамі ў вачох глядзела на яго. Тодар сеў і недаўменна зірнуў на дзяўчыну.

— Ты ўжо ачнуўся, ці не? Чаго ты так глядзіш?—і звонкі сьмех рассыпаўся па зелені саду, прасякнутага косымі праменьнямі сонца.

— Пачакай!.. Да гэта ты, Зоська?

— Вось табе і на! Не пазнаў зразу?

Тодар ускочыў на ногі і кінуўся да сястры. Яна са сьмехам пусьцілася па садзе, пераскакваючы праз кусты, грады, хаваючыся за тоўстыя дрэвы. Белы капялюшык яе зваліўся з галавы, каса расплялася і лёгкая хваля залатых валасоў насілася з аднаго ў другі канец саду.

— Ну, здагані!—паддражнівала яна брата і з гэтымі словамі была ўжо ў густым маліньніку.

Так мусіць з поўгадзіны яны, як маленькія дзеці, гойсалі па ўсяму садоваму пляцу. Нават на блядым, стомленым твары Тодара зьявілася ружовая фарба.

— Ну, кінь ты!—напасьледак сказаў ён.—Я даўно ўжо ня лётаў так і не магу ўганяцца за табою. Ідзі да мяне!

Зося выскачыла з-за кустоў і павісла на шыі брата.

— Якая ты вялікая ўжо стала! Мне здавалася, што ты такая худзенькая, мізэрная дзяўчынка з чорным хвартушком на сінім убраньні. А ты вось якая.

Ён з замілаваньнем гладзіў растрапаныя косы сястры, углядаўся ў яе вясёлы жвавы твар, шэрыя вочы, з якіх нібы скакалі іскры.

— Ты быў дома зімою два гады назад. Помніш, ты не хацеў узяць мяне ў лес, як ішоў туды са стрэльбаю.

— Тады ты была дзяўчынка, а цяпер... кабета.

— Я і цяпер такая! Мне так хочацца, часам, паскакаць, падурэць, як цяпер! Толькі сорамна чужых. А вось з табою мне ня брыдка... Ды калі ты прыехаў?

Тодар паглядзеў на сонца, якое было на адвячорку, і сам падзівіўся, што так многа праспаў. Запытаньне сястры вярнула яго да таго настрою, які адчуваў ён раніцою, калі прыехаў да дому.

— Што ты такі хмурны зрабіўся?—запытала Зося.

— Так... Скажы мне, дзе ты была цэлы дзень і чаму школа замкнута са ўсіх бакоў?

— Татку вызвалі па нейкіх справах у горад, а я цяпер на службе.

Брат зьдзіўлена паглядзеў на дзяўчыну. Яна на службе, такое яшчэ, можна лічыць, дзіцянё? Дый дзе-ж тут можна служыць? Хіба настаўніцаю ў суседняй вёсцы, але-ж у гэты час ня можа быць заняткаў. Гэтыя думкі прамільгнулі ў галаве Тодара і не далі адказу на запытаньні, якія ўзьніклі пры паведамленьні Зосі.

— Я служу на заводзе!—І Зося сур'ёзна паглядзела на брата.

— На якім заводзе? Што за плёткі?

— Ды ці-ж ты нічога ня ведаеш? Няўжо-ж мы ня пісалі табе? Ідзі, глянь!

З гэтымі словамі Зося схапіла брата за руку і пацягнула за сабою ў рог саду на ўзгорак, адкуль адкрываўся шырокі кругавід.

— Вось, глядзі туды!

За маёнткам Ляскаўцамі, які хаваўся ў купах ліп вялізарнага парку і знаходзіўся каля самага гасьцінца, ніжэй к рэчцы ўздымаліся ў неба два вялізарныя коміны. Вакол іх раскіданы былі чырвоныя муры і белыя новенькія драўляныя будынкі. Дахі і новыя сьцены блішчэлі на сонцы і рэзка выдзяляліся на фоне сьветла-зялёных сенажацяў і больш цёмнае істужкі дальнага лесу. З таго боку рэчкі, якраз супроць новых будынкаў, па сенажаці разаслаўся роўны, як страла, шырачэзны роў, які ўпіраўся далёкім канцом у самы лес, хаваючыся там. Каля завадзкіх будынкаў, як мурашкі, поўзалі людзі, відаць былі запрэжаныя хурманкі, якія паражняком выяжджалі на вольнае месца. На рэчцы, супроць заводу, віліся ўверх сінія палоскі дыму з прытарнаваных плытоў.

— Ну, бачыш! Шкляны завод ужо пабудаваны і скончаны. Цяпер канчаюць папяровую фабрыку. Вось я і служу ў канторы шклянога заводу, ужо два тыдні.

Тодар ня мог пазбавіцца ад зьдзіўленьня. Яго ня толькі дзівіла тое, што ў гэтым глухім месцы ўзьнікла два заводы, а і тое, што яго сястрычка, учора яшчэ дзіцё, ужо пайшла самастойнаю дарогаю.

— І табе ня боязна там служыць?

— Не! Чаго-ж мне баяцца?

— Маладзец ты ў мяне! Трэба згадзіцца, што ты дарослая.

— Кінь ты дзівіцца з мяне! Хадзем лепш у хату.

Тодар сабраў свае клумкі і сьледам за сястрою ўвайшоў у школу. З дзяцінства знаёмыя малюнкі абступілі яго. Па сьценах таксама былі разьвешаны дзьве геаграфічныя парыжэлыя мапы, карткі зьвяроў і расьлін, карткі сьвятых, абраз на куце, крывая шафа з „Родным Словом“, „Житіями Святых“, „Часословом“, „Псалтирями“ ды іншымі „назидательными и душеспасительными“ кніжкамі ў замурзаных вокладках. На ўсіх рэчах ляжаў тлусты пыл і павуціна. Усё тое самае, ніводнае рыскі, ніводнае падрабязнасьці, якая-б сьведчыла аб зьменах у параўнаньні з мінулым. Як было пятнаццаць год назад, так і засталося, колькі-б раз ні прыходзілася аглядаць школу з новым прыездам. Можа не пятнаццаць год ня было зьмен, а і ўсе сорак, як існуе самая школа. Таксама і ў бацькавай кватэры ўсё на тым-жа месцы, усё тыя-ж старыя зэдлікі і крэслы, канапы з даўно страціўшаю фарбу абіўкаю, столікі, пакрытыя сьцертаю цыратаю. Вось і шафа з уласнымі бацькаўскімі кніжкамі: Ранке, Гельмгольц, Гааке, Карэев, клясыкі расійскай літаратуры. Ня відаць тут кніжок, якія былі тры-чатыры гады назад: у 1905 годзе ў гэтай самай

шафе побач з Карамзіным стаяў Шышкоў, між бібліяй і гісторыяй царквы ўціскаўся Рубакін, а на сподняй палічцы каля „Губернских Ведомостей“ ляжаў стажок „Нашай Нівы“. Засталіся толькі старыя пажоўклыя сшыткі ў цяжкіх вокладках, быццам яны, як струхлеўшыя дзяды, не маглі сыйсьці з месца; моладзь-жа кудысь дзелася. Але яна, мусіць, не пайшла шукаць прыстанішча па сьвеце, а марнее, захованаю ад сонца і чалавечых вачэй.

— Што ты разглядаеш у гэтай шафе?—высунуўшы голаў з другога пакою, запыталася Зося.—Яна ўсё такая самая і ў ёй усё тое самае.

— Ня зусім так!—з развагаю адказаў Тодар.

Запушчанасьць у садзе, неахайнасьць у школе, псалтыры і „житія святых“, як бросьнямі, абляплялі істоту Тодара. Увесь той жыцьцярадны настрой, які адчуваў ён пры спатканьні з сястрою, прапаў. Вялымі крокамі пайшоў ён у другую каморку, куды клікала яго Зося палуднаваць.

— А дзеля чаго паехаў татка ў горад?—запытаўся за сталом Тодар.

— Ён сказаў, што па школьных справах—дні на тры. А па якіх справах—я ня ведаю: нічога не сказаў.

— І часта ён езьдзіць да гораду?

— Амаль штомесяц, каля гэтага тэрміну.

— Штомесяц? Па школьных справах?

— Чаму гэта цябе так дзівіць? Ён так кажа.

Гэтыя рэгулёвыя штомесячныя наведваньні бацькам павятовага гораду занепакоілі Тодара. Няўжо-ж яшчэ да гэтага часу?.. Два гады назад яго бацьку, Пятрусю Крэпчуку, загадалі наведвадцца ў павет па „школьных справах“. Ці не такія самыя справы цяпер, як і тады? Тады бадай палову мужчын сяла Ляскоўцы цягалі ў павет. Даведваліся, хто падбіваў сялян на мяцеж улетку 1905 году, хто падпальваў панскія адрыны, хто ўдзельнічаў у зьнішчэньні хвальварку Закрошын. Шмат каго з сялян пасадзілі, і сядзелі яны гадамі, як гэта было ведама Тодару яшчэ ў Пецярбурзе. Раз увосень зьявіўся ў школу вураднік і загадаў бацьку ехаць да спраўніка ў павет. Тады яго пратрымалі з тыдзень ды пусьцілі, але пачаліся наведваньні па „школьных справах“.

— А благачынны часта бывае ў нас у школе?

Зося не зразумела адразу, дзеля чаго гэтае запытаньне.

— Благачынны?.. Часта, так... праз два тыдні зімою... Што табе ўзбрыў у голаў благачынны?

— Так сабе... Як пападзеш дадому, дык усялякая драбяза ўспамінаецца і цікавіць.

Так, мусіць да гэтага часу бацьку надта шмат непакояць „школьныя справы“. Раздумляючыся над гэтым, Тодар забыўся есьці і нярухомым поглядам уставіўся ў далячыню сенажацяй, якія, як на далоні, відаць былі з вакна...

— Дый што-ж ты, Тодзенька, засмучаны такі? Вось я табе...

З гэтымі словамі Зося, як кошка, падскочыла, абхапіла брата за шыю.

— Эй, нясі мяне, як тады ўлетку пераносіў цераз рэчку! Помніш, калі мы хадзілі за грыбамі.

— Ах, ты жанчына! Дарослая! Ну, трымайся!

Тодар пад хохат Зосі панёсься з пакою ў пакой. Старыя дошкі падлогі затрэсьліся, шкло ў вокнах зазьвінела, нават пагрызаны мольлю Карамзін крануўся з свайго месца ў шафе і штурхануў у бок Гельмгольца. Стол уздрыгнуў, стаў на адну нагу, пастаяў момант у разважаньні і рушыўся на этажэрку, з якое загрукаталі адна за аднэю кніжкі.

— Ну, досыць!—і Зося кумяльганам пераляцела цераз плячо брата.

Тодар, адсопшыся, пачаў падбіраць раскіданыя кніжкі. Сярод іх траплялiся невялікія сшыткі ў далікатных вокладках з залатымі надпісамі і вышытымі закладкамі. Такія прыбраныя, як лялькі, кніжкі ўжо гэтым прыцягалі ўвагу. Мопассан, Метэрлік, Купрын... Зося пасабляла падбіраць, але, як знарок, пакідала на падлозе гэтыя зухаватыя кніжкі.

— А ведаеш, я „Саніна“ чытала!—выпаліла яна, як з ружжа, і пачырванела аж да вушэй.

Тодар разагнуўся, правёў рукою па валасох і ўважліва паглядзеў на сястру. Вось табе і дарослая!

— Чытала? Ну, што-ж! Кепска толькі тое, што ты аб гэтым гаворыш з пахвальбою, усё роўна як зрабіла нейкі надзвычайна дадатны ўчынак... Адкуль ты бярэш гэтыя вось кніжкі, ад якіх нясе парфумай?—трошкі пачакаўшы, запытаўся Тодар.

— Мне дае іх панна Ляскоўская.

— Ты бываеш у паноў?

У голасе Тодара адчуўся халадок і няпрыязьнь.

— Бываю ў Ядзі Ляскоўскай—і даволі часта.

Зося была крыху зьбянтэжана тым наўчальным тонам, які брат узяў, калі яна прызналася яму аб „Саніне“, а таксама тэю рыскаю няпрыемнасьці, якая паказалася на яго твары пры паведамленьні аб адносінах яе з панамі Ляскоўскімі. Яна стаяла ціха, пазірала ў бок і перабірала пальцамі істужкі свайго хвартушка.

— Табе не падабаецца, што я бываю ў маёнтку?

— Зусім не падабаецца!

— Я-ж калісь з паннаю Ядзяю разам у гімназіі вучылася. Няўжо я не павінна і з ёю бачыцца?

— Павінна ты ці не—я нічога не кажу!

Тодар павярнуўся да вакна і пачаў з уважлівасьцю разглядаць вазон з фукцыяю. Відаць было па ім, што яго апанавала абурэньне, якое ён хацеў стрымаць.

— Ну, добра,—раптам павярнуўшыся, сказаў ён.—Яшчэ ў нас часу будзе шмат, каб пагаварыць аба ўсім. Прачытала Арцыбашава, ну і ліха з ім! Прачытаеш і што іншае: там у мяне цалюханька пляцёнка розных

добрых кніжок... Салавейчык, калі ўпіхаў мяне на станцыі ў сваю балаголу, дык нават запытаўся, ці ня золата ў мяне напакавана ў пляцёнцы—такая яна цяжкая.

— Давай я пасоблю табе распакоўвацца!—зноў ажывілася Зося.

Разьбіраючы рэчы брата, якія былі без парадку зложаны ў пляцёнцы, Зося некалькі разоў зьвярталася ў бок Тодара, быццам хацела яму нешта сказаць, але сутрымлівалася.

— Дык ты ня хочаш, каб я наведвалася да Ляскоўскіх?—напасьледак запыталася яна.

Тодар не пасьпеў адказаць, як яна з жвавасьцю падхапіла сваю думку, якая, мусіць, надта займала яе, і зашчабятала, як птушка раніцою:

— А ведаеш, заўтра ці пасьлязаўтра ў маёнтку будзе зборышча гасьцей. Шмат зьедзецца народу. Нават маршалак і, кажуць, губарнатар будзе. Пан Ляскоўскі склікае ня толькі паноў, але гатуе пачостку рабочым ды некаторым сялянам. Будзе баль з музыкаю.

— І рабочых і сялян склікае?

— Так.

— Што-ж гэта за фокус?

— А будуць гуту пушчаць. Я павінна буду пайсьці, як служачая,—гэта папершае, а падругое—нам прышлюць запросіны. Ты павінен будзеш пайсьці, і татка пойдзе, калі прыедзе да таго часу.

— Навошта я там здаўся? Не, мне няма чаго хадзіць да пана.

— Ах, Тодарка! Там будзе столькі народу, будзе музыка з гораду, будуць танцы—так вясёла. Няўжо-ж ты ўседзіш дома? Мне дык цяпер ужо хочацца скакаць.

— Блазан ты!

— Не, ня блазан, ня блазан! Вось табе!—І Зося абедзьвюма рукамі прайшлася па густой шэвялюры брата, зрабіўшы голаў яго падобнай да капы сена.

Тодар вызваліўся ад праворных рук сястрычкі, пасадзіў яе, як малую, на канапу і пачаў хадзіць з вугла ў вугал праз увесь пакой. Стала ціха, нібы ні жывое душы ня было тут, толькі падлога мерна рыпала пад нагамі Тодара. Зося, як мышка, прытулілася ў абочыны канапы і вадзіла вачмі за братам, як, здаецца, не прыкмячаў яе прысутнасьці. Глыбокая задуменнасьць апанавала ім, губы зляжыліся шчыльна і каля вуглоў іх зьявіліся рыскі горачы. Заходзячае сонца чырвоным праменем асьвятляла яго бляды твар, як толькі ён паварочваўся ў бок вакна, і рабіла яго жорсткім, чужым, далёкім.

— Тодар, ня трэба больш хадзіць!

— Га!

— Няпрыемны выгляд у цябе, злы такі. Ты раней такім ніколі ня быў.

— Праўда? Ну давай разам сядзем, я табе скажу што-кольвечы вясёлае аб тэатры, напрыклад, аб пецярбурскіх знаёмых...

Ад вакна ліўся лёгкі ружова-зялёны сьвет чэрвеньскага вечару.

II

Маёнтак Ляскаўцы быў у канцы сяла, у адлегласьці ад яго з поўвярсты. Гасьцінец, абсаджаны бярэзінамі, і рэчка абмяжоўвалі яго з двух бакоў. З гасьцінца да самага панскага палацу вяла гладкая, як стол, дарога, густа закрытая высачэзнымі старымі ліпамі. З аднаго боку ад гэтае дарогі быў вялікі сад, з другога-ж замыславаты па раскпляноўцы парк, які цягнуўся далёка і па-за палацам. Каля самага гасьцінца дворная дарога пачыналася высокімі жалезнымі варотамі з шыльдамі на кожнай браме і драконамі наверсе мураваных філяраў. Папасьці ў маёнтак можна было толькі праз гэтыя вароты, бо вакол усяго забудаванага пляцу была зроблена высокая мураваная агарожа з завостранымі жалезнымі зубамі зьверху. Агарожа з шэрага палявога каменьня, асабліва ў тых мясцох, дзе яна не аздаблялася зеленьню саду і парку, надавала маёнтку выгляд вастрогу. Гэтае ўражаньне яшчэ больш ахапляла па-за сьценамі маёнтку. Нізкія будынкі з тоўстымі мурамі і прыплюшчанымі маўрытанскімі вежамі, вузкія вокны з кратамі ва ўсіх будынках, апроч самога палацу, зусім адпавядалі высокай зубчатай агарожы.

Ляскаўцы былі старадаўным фамільным маёнткам паноў Ляскоўскіх. На шыльдах, якія аздаблялі і будынкі і мэблю Ляскоўскіх, былі выразаны тоўсты сноп і піка. Піку паны Ляскоўскія бадай што і ня трымалі ў руках; што-ж належыць да снапа, дык ён зусім адпавядаў „стяжательным“ імкненьням усяго роду. З пакаленьня ў пакаленьне Ляскоўцы цьвёрда былі і заставаліся фамільнай маемасьцю: права маёрату праводзілася ва ўсіх часох поўнасьцю і безадказна. Валадары Ляскаўцаў пад шыльдаю тоўстага снапа заставаліся вернымі рыцарамі нажывы і захопу багацьцяў. Сам па сабе невялікі маёнтак на працягу з паўсотні гадоў зрабіўся тым месцам, адкуль кіравалася каля шасьцёх буйных маёнткаў і мусіць з тузін больш дробных хвальваркаў, раскіданых па розных паветах. Казалі, што пан Тадэўш Ляскоўскі, быўшы на баку панска-польскага мецяжу ў 1863 годзе, схітрыў ня толькі сухім выйсьці з вады, але нават набыў два-тры маёнткі, сконфіскаваныя ўрадам у высланых паноў. Старэйшы сын Тадэўша, які быў валадаром Ляскаўцаў пасьля сьмерці бацькі, саслаў у Сібір (вядома, праз суд) каля трыццацёх сялян за „бунт“, які адбыўся ў выніку самавольнага скасаваньня панам сэрвітуту і ўвядзеньня высокае арэнды за пашу ў лясох. Нажыўныя былі людзі ад роду ў род, моцна сядзелі ў старазаветным гнязьдзе. Усялякія там няпрыемнасьці, клопат, пакуты праносіліся дзесь далёка за лесам, або па гасьцінцы і не заглядалі за муры панскага палацу.

Але гэты выгнаўшы сялян у Сібір Ляскоўскі ня вытрымаў да канца лініі сваіх бацькоў і дзядоў. Раптам ён пачаў надоўга пакідаць Ляскаўцы— быў то ў Пецярбурзе, то ў Варшаве або Парыжу. Калі-ж зьяўляўся ў Ляскаўцы, то ня мог уседзець на месцы. Кожныя два-тры дні ён браў са стайні жарабца і ехаў адзін у горад. Звычайна позна ўночы конь

прыходзіў адзін дадому. Тады чэлядзь наладжвала хурманку і з ліхтаром ехала шукаць пана па дарозе. Падабраўшы яго, п'янага, забруджанага, везьлі дамоў. Ужо было прададзена некалькі дробных хвальваркаў. Многія родныя і сваякі Ляскоўскіх, раскіданыя па Беларусі і Польшчы, прысылалі лісты з пагрозамі, прыяжджалі самі сварыцца, але нічога не пасабляла, пакуль не зьявіўся на сцэну адзіны сын гэтага пана—Стась. Ён прымусіў бацьку перадаць яму ўсё кіраваньне гаспадаркаю і маемасьцю, а потым выселіў яго „адпачываць“ у бліжэйшы хвальварак.

Стась Ляскоўскі гадаваўся з дзяцінства бадай што ў адзіноце. Бацька яго быў заўсёды заняты купляю, банкамі, спрэчкамі з сялянамі, арандатарамі. Маці, ня меўшая доўга дзяцей пасьля яго, увесь свой час аддавала так званаму „светскому“ жыцьцю, а потым у яе нарадзілася дачка, з якою яна цацкалася, як з якою забаваю. І ў гімназіі і ў першы год ва унівэрсытэце Стасю нельга было разыйціся. Толькі як бацька пачаў вандраваць па сталіцах, для Стася пачаліся залатыя дні. Грошай ён браў, колькі хацеў. Вядомае багацьце Ляскоўскіх прыцягала да Стася ўсю так званую „залатую моладзь“. Ён блізка сышоўся з маладым князьком Друцкім, а праз яго і з усёю сям'ёю Друцкіх. Улетку ён, як і бацька, валачыўся то па Карльсбаду, то па Ніццы або Остэндэ.

Першым яго горам была тэлеграма, якую ён атрымаў у Ніццы, седзячы ў кафэ сярод аголеных жанчын. У тэлеграме было толькі напісана, што грошы ня будуць высланы і што прадаецца адзін хвальварак. Гэта як бізуном сьцебанула Стася, у ім зразу ачнуліся радавыя традыцыі Ляскоўскіх. Ён кінуў Ніццу і паляцеў у далёкія хмурныя Ляскаўцы абараняць тое, што яшчэ можна было абараніць. Але там яшчэ нічога надта палохаючага ня здарылася, хоць грошай ужо ня было. Са злосьцю на бацьку і лёгкаю кішэняю паехаў ён у гэтую восень ва унівэрсытэт. „Залатая моладзь“, знайшоўшы сабе новага ідала, паступова пакінула Стася, і яму толькі заставалася захаваць глыбока пагарду і абураньне, якія былі выкліканы ў ім гэтымі новымі акалічнасьцямі.

Скончыўшы унівэрсытэт і паабіваўшыся каля году ў розных пецярбурскіх канцылярыях, Станіслаў Ляскоўскі прыехаў дамоў і, маючы дваццаць чатыры гады, узяўся папраўляць заблытаную і запушчаную гаспадарку, адсадзіўшы бацьку на хвальварак.

Другім здарэньнем, нарыхтаваўшым сьветапагляд пана Станіслава, быў сялянскі „мяцеж“ у 1905 годзе, калі яшчэ з вясны пачалі загарацца то адзін, то другі яго хвальваркі. Малады гаспадар зьездзіў у Менск да губарнатара Курлова, і праз некалькі дзён у Ляскаўцы прыехала сотня казакоў. Пажары прыпыніліся, „злачынцы“ былі злоўлены і аддадзены пад суд. Пасьля гэтага пан Станіслаў стаў уважліва адносіцца да начальства, хоць ім валадалі раней лібэральна-опозыцыйныя думкі, а таксама з пашанаю прымаць праваслаўных папоў, хоць сам ён належаў да каталіцтва...

Пан Станіслаў у чорным сурдуце, гладка прычэсаны, са шкельцам над адным вокам стаяў ля расчыненых насьцеж дзьвярэй прыёмнае, адкуль праз некалькі крокаў пачынаўся спуск уніз да пад'езду. Усходы былі засланы мяккаю дарагою посьцілкаю, на слупчыках балясаў па абодвух бакох усходаў былі расстаўлены цяплічныя расьліны і кветкі. Лёкаі ў расшытых, як у генэралаў, сурдутах стаялі ўнізе каля ўваходных дзьвярэй. На двару раз-по-разу чуцён быў лёгкі бразкат колаў, і сьледам за ім у дзьвярах паказваліся госьці, якіх лёкай вёў па ўсходах. Пан Станіслаў з нязьменнаю радасьцю і гасьцяннасьцю на твары сустракаў кожнага і праводзіў у пакоі, перадаючы далейшы клопат аб гасьцёх мацеры і сястры Ядзі.

— Ах, пан Юзаф! Вы ўсё такі-ж здатны!

— Віншую пані Гэлену, вы цьвіцяце, як ружа!

— Цішэй, пан Станіслаў, а то мой пан Вінцусь страціць спакой з-за вас.

— Ну, як жыве рыцар чатырох краін?

— Кепска, кепска, пан Станіслаў! У чатырох краінах няма ніводнай „дамы сэрца“.

З гадзіну такія прывітаньні ня сьціхалі каля дзьвярэй прыёмнае пана Станіслава. З гасьціннае і іншых пакояў нёсься гоман, вясёлы рогат. Лёкаі ўжо нікога не сустракалі і праводзілі ўверх, але пан Станіслаў стаяў і з застыўшаю мінаю гасьціннасьці чакаў. Ужо сястра Ядзя прыбягала і шапнула, каб ён ішоў да гасьцей, ужо старэйшы лёкай падыходзіў і напамінаў, што больш, мусіць, сустракаць няма каго. Аднак пан Станіслаў чакаў... Вось нехта пад'ехаў... Вочы пана Станіслава заіскрыліся, ён сышоў уніз на некалькі ўсходаў... але... раптам павярнуўся і пайшоў наверх да свайго ўласнага пакою.

Праз хвіліну за ім туды ўвайшоў лёкай-пакаёўшчык і падаў запячатаны конвэрт з князеўскаю каронаю. Пан Станіслаў, пачакаўшы, пакуль лёкай выйдзе, з нецярплівасьцю разадраў конвэрт і пачаў чытаць. Рука яго ўздрыгнула, халодны твар пачырванеў. Але праз момант ён быў зноў спакойны, халодны, важны, ня гледзячы на сваю маладосьць. Прачытаўшы яшчэ раз ліст, аздоблены каронаю, ён моцна зарагатаў.

— Будзем бачыць, князь Друцкі!—прамовіў ён і зноў весела засьмяяўся.—Гэй, Францішак!

Увайшоў лёкай.

— Скажы князеўскаму пасланцу, што яго не затрымліваюць!

— Пане, маршалак прыехаў!—пасьпешна паведаміў другі лёкай.

Пан Станіслаў падняўся і павольным крокам пайшоў насустрач прадстаўніку шляхты.

— Віншую вас, пане Ляскоўскі, як здатнага гаспадара, маладога гаспадара. Быў-бы я надта рады, каб паболей шляхты пайшло па вашай

дарозе,—гаварыў тоўсты, брыты пад ангельца маршалак, уваходзячы пад руку з Ляскоўскім у салю.

— Я, шаноўны пане-маршалак, пазбавіўся аднаго з недахопаў, які надта шкодзіць шляхетству—гэта гонар без эканомічнага грунту,—адказаў яму Стась.—Панове, вось наш правадыр, пан-маршалак.

Госьці паўставалі і з паклонамі абкружылі маршалка, які на ільсьцівыя словы, ухмылкі адказваў прыкра-ветлівымі фразамі. Праз хвіліну і кабеты і мужчыны вянком стаялі вакол свайго „бацькі“. Ляскоўскі застаўся па-за гэтым вянком і адышоў у бок.

— Вось, глядзі як яны каля яго ўвіхаюцца: вось тоўстая пані, а той сьлязьлівы стары!.. Ха-ха-ха!—Званочкам пасыпаўся з-за калёны сутрыманы сьмех.

Ляскоўскі падышоў да калёны. За ёю стаяла Ядзя з Зосяю, а крыху далей нейкі студэнт разглядаў разьбу старых дзьвярэй.

— Добры дзень, Ляскаўская Офэлія!—з нейкім прысмакам вясёла зьвярнуўся да Зосі Ляскоўскі.—Гэта вы кпіце над нашымі гасьцьмі?

— Даруйце, пане Ляскоўскі; папершае, на Офэлію я зусім ня здатна, а падругое—я кпінкамі не займаюся, а мне проста падабаецца колёрытнасьць усяе гэтае групы,—адказала Зося.

Ядзя цягнула яе ўжо ў другі бок. Ляскоўскі доўга глядзеў за імі, пакуль яны не схаваліся ў мільгаценьні натаўпу. Павярнуўшыся потым у бок калёны, ён зноў прыкмеціў студэнта, галава якога яшчэ ніжэй схілілася над штучнаю ручкаю старых дзьвярэй...

Праз кароткі час уся грамада кранулася з палацу ў бок рэчкі, дзе ўздымаліся коміны абодвух заводаў. Больш паважным гасьцём былі пададзены коні з ляскаўскае стайні. Рэшта невялічкімі гурткамі пайшлі ўніз па чыстых прыбраных дарожках парку.

Над комінам гуты віўся лёгкі дымок, які, як кавалачкі баваўны, разыходзіўся па блакіту неба. Двор гуты быў завалены дрывамі, чыстым белым пяском, дзежкамі. Сям-там яшчэ валяліся тачкі, запэцканыя цагельным пылам, па розных кутках ляжалі стагі стружак, рознага сьмяцьця. Відаць было, што будоўля толькі-толькі скончылася. Вакол нізкага і шырачэзнага будынку самое гуты былі раскіданы невялічкія дамы, ад якіх пахла смалою і хварбаю.

— Вось тут я працую!—паказала Зося Тодару на адзін з новых драўляных дамкоў, над ганкам якога на маляванай блясе было напісана „кантора“.

Страшэнная духата дыхнула гасьцём, як толькі яны пераступілі цераз парог гуты. Зразу, што кідалася ў вочы, дык гэта тры гліняныя стагі, якія стаялі пасярэдзіне памяшканьня. На локця паўтара ад нізу ў гэтых стагох былі невялічкія ваконцы, з якіх вырываўся і біў па вачох несьцярпіма бліскучы сьвет. Вакол стагоў-пячэй, супроць кожнага ваконца стаяла

па аднаму чалавеку з доўгімі круглымі палкамі. Людзі, што абкружалі печы, былі страшэнна блядымі, іх сарочкі былі нашчэнт мокрыя, быццам толькі выцягнутыя з вады.

Паны і асабліва пані падаставалі хустачкі, абмахваліся імі, але гэта не пасабляла: ад пячэй ішла такая духата, што многім здавалася, быццам яны пачынаюць таяць, зьнішчацца.

— Дайце вы спакой! Як гэта можна стаяць у такім пекле? Броніcь, вядзі мяне адгэтуль!

— Ціха, Магда! Ты абразіш пана Ляскоўскага,—схіліўшыся да чырвонае, як рак, пані гаварыў круглы, як галяндэрскі сыр, пан Броніcь.

— Ой, ратуйце!—не сваім голасам закрычала пані Магда.

Ляскоўскі падскочыў да млеўшае пані і пасьпяхова вывеў яе на паветра.

— Ну, пачынайце!—скамандаваў ён, выканаўшы свае гаспадарска-доктарскія абавязкі.

Рабочыя, стаяўшыя напагатове каля пячэй, сунулі свае палкі ў бліщчастыя ваконцы, і праз момант у паветры закружыліся яркія зоркі, якія з кожным кругам рабіліся ўсё больш цьмянымі і выцягваліся ў круглыя пухіры.

— Бах!—раздалося як з ружжа, і дробныя малюпаценькія шклінкі зазьвінелі ў паветры і пасыпаліся ўніз.

Увесь будынак гуты агаласіўся піскам і войканьнем. Кабеты, а за імі і мужчыны спалошным натаўпам кінуліся на двор.

— Што здарылася?—пыталіся адзін у другога, як ачухнуліся на сьвежым паветры.

— Гэта к дабру, к дабру, пане Ляскоўскі,—супакойна разважаў маршалак-ангелец, выходзячы апошнім з ім з гуты.

— Што здарылася?—напалі на іх са ўсіх бакоў.

— Ды нічога. Я прашу прабачэньня, калі ясныя пані напалохаліся. Крыху няздатны рабочы і ў яго шкло трэснула. Гэта часта бывае,—гаварыў Ляскоўскі.

Зося стаяла нездалёк ад сярэдняе печы і з цікавасьцю сачыла за тым, як рабочы праз сваю трубку выдзімаў шкляную кулю. І разам гэты выбух! Яна ўскрыкнула ад раптоўнага сполаху і замёрла на месцы. Калі яна апомнілася, дык першае, што ёй кінулася ў вочы,—гэта той самы рабочы, на якога яна раней глядзела. Ён закрываў абедзьвюма далонямі вочы, каля ног яго валялася жалезная трубка, ад чырвонага канца якое курэў дым. Зося кінулася да яго.

— Што з вашымі вачмі?

— Ня ведаю... ой як баліць.

Зося падхапіла яго пад руку і, падначальваючыся настрою натаўпу, пацягнула рабочага сьледам за вохаючымі панямі.

— Вы куды, панна Зося?

Перад ёю стаяў Ляскоўскі з маршалкам.

— Я... трэба яму дапамагчы!

— Кіньце, нічога з ім дрэннага ня здарылася. Ты заўтра зайдзі ў кантору да пана Стрэльчыка,—жорстка сказаў рабочаму Ляскоўскі і павольна вышаў з маршалкам на двор да сваіх гасьцей.

Зося пастаяла з хвіліну, потым павяла рабочага к другім дзьвярам, якія выходзілі на задні двор.

— Ня турбуйцеся, калі ласка! Дайце я павяду яго.

Каля самых дзьвярэй падышоў да іх высокі мужчына ў замасьленай жакетцы і з акулярамі на носе. Ён спагадна аглядзеў таварыша, які ўсё яшчэ не аднімаў рук ад вачэй, і ўзяў яго пад руку і з шчырасьцю ў голасе прамовіў:

— Дзякуй вам... за спачуваньне!—і вольнаю рукою ён моцна сьціснуў маленькую Зосіну ручку.

Незнаёмы чалавек у акулярах з параненым рабочым ужо ішлі па двару, выбіраючы найменей заваленыя розным хламам месцы. Зося пастаяла ў дзьвярах, з нейкім нутраным страхам паглядаючы на блішчастыя ваконцы ў цяжкіх вамгромністых печах. Адтуль цягнула духатою і густым чалавечым потам. З мешаным пачуцьцём страху і нейкае пагарды пакінула Зося душную гуту.

Калі яна выйшла на дарогу, то рознакаляровыя плямы часьцей ужо мільгацелі па крайніх дарожках парку. Зося ўспомніла, які піск і перапуд падняўся там у гуце, калі здарылася гэта, і як усе рынуліся скопам на двор. Чаму-ж рабочыя засталіся на месцы, ня кінулі свае працы? Няўжо гэтыя людзі, заўсёды мокрыя ад поту, такія сьмелыя ды харобрыя? Што будзе з вачмі гэтага небаракі? І хто гэты чалавек у замасьленай жакетцы і акулярах?

— Панна Зося!

Зося ўздрыгнула, адарваўшыся ад сваіх думак і запытаньняў, адказу на якія яна шукала ў сваёй маленькай галоўцы. Пад прысадаю стаяў пан Ляскоўскі.

— Я чакаю вас, а то вы засталіся аднэю. Дазвольце быць вашым кавалерам,—надта мяккім, нават нейкім асалоджаным голасам гаварыў Ляскоўскі, рашуча бяручы Зосю пад руку.

Зося засаромілася, пачырванела, стала вельмі пільна разглядаць дарожку ў сябе пад нагамі. Яшчэ ніколі ня было такога выпадку, каб пан Ляскоўскі выказваў ёй такую ўвагу. Калі ёй даводзілася быць у Ядзі і сустракацца з самім Ляскоўскім, то ён зварочваўся да яе ці ў ігрыста-ласкавым тоне, як да недаростка, ці зусім бязуважліва, як да нейкай пабочнай рэчы. Як ні крыўдны былі падчас такія адносіны, асабліва калі Зося здагадвалася палічыць сябе дарослаю, але яны былі ўжо звычайнымі і не маглі выбіць яе з каляіны. Цяпер-жа такі як быццам праўдзівы

тон, увага—і нават пад руку ўзяў. Мімаволі яна турзанулася, прагнучыся адхіліць ад сябе яго руку. Але Ляскоўскі быццам і ня прыкмеціў гэтага.

— Як спадабаўся вам завод?

— Я... я-ж бачыла яго раней,—не паднімаючы ад зямлі вачэй, адказала Зося.

— Ах, так, так! Вы-ж працуеце ў канторы, я і забыўся, выбачайце. Дый што я пытаюся ў вас аб заводзе? Лепш запытацца, які танец вы захацелі-б першым танцаваць. Я загадзя прашу вас пакінуць ваш вальс за мною. Добра?

Зося яшчэ больш пачырванела і павярнула ў другі бок голаў. Маўчала.

— З гэтым рабочым нічога ня здарылася, праўда?—адразу пераманіў гутарку Ляскоўскі.

— Як нічога?—на запытаньне адказала запытаньнем Зося, рашуча паднімаючы вочы на свайго кавалера.

— Так, нічога! Толькі крыху зацярушыў пылам, які падняўся ад выбуху.

— Што вы кажаце? Яму-ж так баліць, дый нават на дварэ яго павялі пад руку.

— Глупства! Вы не павінны былі бачыць нічога іншага, апроч таго, што я вам кажу,—халодным, строгім голасам прамовіў пан Ляскоўскі.— Зразумелі?

Зося сполахна-недаўменна зірнула на твар Ляскоўскага, які нібы адзервянеў. Але раптам гэтая адзервянеласьць зьмянілася ігрыста-вясёлаю ўсьмешкаю, і ён, як быццам нічога ня здарылася, гаварыў:

— Дык згода! мы танцуем з вамі вальс?

Яны былі ўжо каля палацу. Пан Ляскоўскі аддаў ёй прыветны ўклон.

— Выбачайце, я павінен выконваць цяпер свае гаспадарскія абавязкі. Вось госьці. Панна Скальска, што вы засмучаны і ў адзіноцтве? Вось вам мая маленькая прыяцельніца!—і з гэтымі словамі пан Ляскоўскі крануўся ў палац, прыпыняючыся то каля аднаго, то каля другога гуртка шпацыруючых гасьцей.

— Вы чулі, ён ужо прасіў яе на вальц? Хто яна такая?

— Адзета яна ня comme il faut.

— Мусіць нейкая бедная з яго далёкіх сваякоў. Гэтых сваякоў у Ляскоўскіх так многа.

— Кажуць, гэта яго канторшчыца.

— Ну што вы, канторшчыца? Стаў-бы ён канторшчыцу на вачох усіх прасіць на танец. З канторшчыцамі, ведаеце, скачуць мо'...—Голас стаў цішэй.

Гэткія фразы спаткалі Зосю. Куды-б яна ні павярнулася, усюды натыкалася на вочы, якія з цікавасьцю разглядалі яе з галавы да ног, перашэптваліся, не саромеючыся, што іх пачуе той, да каго гэтыя шэпты мелі адносіны. Нават рабая, з блёклымі вачмі, панна Скальская, якой Ляскоўскі даручыў Зосю, няпрыятна разглядала яе.

— Вы, мілачка, абулі-б бальныя туфлі, а то вам прыдзецца скакаць, дый яшчэ з панам Ляскоўскім,—параіла Скальская Зосі.

— Ня ваша гэта справа!—успалыхнуўшы, як пажар, адрэзала ёй Зося і адышла ад ае.

— За што вы раззлаваліся? Мо' у вас няма туфель?— агідна пыталася ўсьлед ёй панна Скальская.

Зося, то чырванеўшая, то бялеўшая ад крыўды, пайшла ў бок ад людзей. Па выкрутасах замыславатых дарожак яна ўсё аддалялася ад палацу. Людзкі гоман сьціхаў. Хутка яна апынулася ў дальняй, запушчанай частцы парку. Дрэвы стаялі тут густа і скрозь іх гальлё і лісьцё ледва праходзілі прамені заходзячага сонца. За адзежу чапляліся кусты сухадрэўкі, колкае шыпшыны. Тут была поўная цішыня і супакой, якія не парушаліся нават бульбатаньнем крыніцы, якая пералівалася па зялёных каменьнях няглыбокага раўчака. Зося прабралася праз навіслае гальлё і кусты да вады і астудзіла свой палыхаўшы твар. Сэрца крыху сутрымалася і ня так моцна цюкала. Яна села пад густою клянінаю і, прыслухоўваючыся да мернае гутаркі крыніцы, унеслася сваімі лятуценьнямі нямаведама куды...

Раптам пачуліся трэскі сучча пад чымісь нагамі.

— Зося! Ты тут?

Гэта Ядзя. Толькі яна магла здагадацца, што Зося ня іначай, як тут.

— Зося! пачынаюцца танцы, цябе пан Стась чакае.

Не, яна цяпер туды ня пойдзе! Каб панна Скальская іржала, як кабыла, над яе простымі гамашамі? Ніколі!—Зося прытулілася, нават сапці баялася. Ціха.

— Дзе-ж бы яна была? Што гэта за прыцуда!—прагаварыла сама сабе Ядзя і павольным крокам пайшла назад да палацу.

Зося, як толькі заціхлі крокі Ядзі, ускочыла на ногі і бокам пайшла, каб абмінуць палац і выйсьці з маёнтку. Ужо пачынала цямнець, і яна лічыла, што ніхто ня ўгледзіць яе па дарозе. Мінаючы палац, яна ўжо ня прыкмеціла гасьцей, якія, мусіць, сабраліся ўжо балявацьь. На газоне перад палацам былі расстаўлены даўгія сталы, каля якіх стаялі бочкі, а на іх вялізарныя бутэлькі; па дрэвах вакол газону разьвешвалі папяровыя ліхтары. Гэта зацікавіла Зосю і, прылажыўшы палец да губ, яна сачыла, як загараліся адзін за другім розцакаляровыя вагоньчыкі.

Але раптам ціш вечару разарвалася гукамі магутнага оркестру, якія віхрам панясьліся з расчыненых вакон палацу.

Зосю як разанула што. Яна ўбежкі памчалася па дарожцы ў бок заводаў і хутка апынулася па-за паркам. Па дарозе ў маёнтак ішлі людзі і моцна гаварылі паміж сабою. Зося збавіла шагу і павярнулася ў напрамак на гасьцінец.

— Мусіць, асьлепне, брат!—чуўся разважны зычны голас з завадзкое дарогі.

— Хто гэты рабочы?—захапіла Зосю новая думка.—Няўжо-ж гэта можа быць?

Яна задумліва ішла па сенажаці, падышла да парку і вышла на гасьцінец каля самых варотаў маёнтку. Паўз алеі, агорнутай ужо змрокам, нясьліся далёкія пяшчотныя гукі вальса, мяккі сьвет ружовых зялёных ліхтароў. Зося адвярнулася і нерашуча пайшла дамоў.

*(Працяг будзе)*

# Гаспадар

*(Апавяданьне)*

**Цішка Гартны**

I

Сьлесар Якаў Гузік, праходзячы паўз браму заводу, раптам спыніўся і паківаў галавою.

— Безгаспадарнасьць, дальбог-жа. Што-б узяць да падабраць, дык не. Валяецца—няхай валяецца... Пастаўлены сторaж, а каб паглядзеў— куды там. Ды загадчык, напэўна, ня раз бачыў—і таксама бяз увагі...

Якаў Гузік нагнуўся і падняў з зямлі здаровы кавалак жалеза.

Падняўшы, пачаў яго разглядаць, мераць на пядзю, вылічаць.

— Гэта-ж выйдзе на некалькі ручак у плузе... Во... Цаляй пяць таўшчынёю... Які недагляд, якая нядбайнасьць! Поўзавода расьсей— і хоць-бы што. Людзям не карціць... Мэрам-бы нікому ніякае справы,— паскарадзіўся ён сам сабе і рашуча крануў з месца.

— Гэта трэба сторажу пад нос паднесьці... Глядзі вось...

— Самусь!—выгукнуў Якаў Гузік, прачыняючы варотцы ў завод.

Ніхто не аказаўся—стоража ня было пры варотцах. Тады Якаў Гузік крыкнуў мацней, але зноў астаўся без адказу.

— Гэта ліха ведае што!—вылаяўся ён і вышаў на вуліцу, каб пайсьці са скаргаю на стоража ў кантору.

На вуліцы яго перапыніў каваль таго-ж заводу Палікар Скрынка.

— Якаў!—пазваў ён Якава Гузіка.—Стой! Ты куды?

Якаў Гузік спыніўся і паглядзеў на Палікара Скрынку.

— Бачыш, у кантору.

— Чаго?

— Сьвінства, дый годзе... Паглядзі во, якім жалезам кідаюцца. За брамаю падняў. А гэты, сукін сын, Самусь і нібыта той. Валяецца— няхай валяецца... Пазаву, думаю, ды пакажу во, каб на другі раз пільнаваў...

Палікар Скрынка выпучыў на Якава Гузіка вочы і насьмешліва праказаў:

— Эх, ты, гаспадар, гаспадар! Няўжо табе прыстае гэта клапатлівасьць? Што ты думаеш гэтым выграць? Пахвальбу?..

Якаў Гузік крута павярнуў ад Палікара Скрынкі і накіраваў да канторы заводу. За імуосьлед паляцеў выбух залiўнога, пакатнага рогату.

— Гас-па-а-да-ар! Гга-ас-па-адар... Чча-кай крыху...

З-за дзьвярэй канторы Якаў Гузік прымеціў, як Палікар Скрынка праводзіў яго многазначнымі кіўкамі рукі.

— Няўжо яму гэта не надаела?—зьдзівіўся ён і пастукаў у дзьверы да загадчыка. Дзьверы аказаліся запертымі—загадчык не вярнуўся з абеду.

— Скутку не знайсьці,—вылаяўся Якаў Гузік і вышаў з канторы.

Якраз загудзела заводзкая сірэна. Чакаць загадчыка было нельга. Калі ён прыдзе—ды яшчэ ці прыдзе... А прыдзе, то ласьне яму будзе час займацца справаю аб кавалку жалеза?

„Які я цудны, аднака,—разважыў Якаў Гузік, ідучы назад да заводу:—стану аднімаць ад таварыша Фанарніка час. Ён-жа выжане мяне з габінэту. Дай ты рады, уздумаў... Чалавеку столькі абавязкаў, цэлае прадпрыемства ў руках, а я... Тьфу ты, нікудышніца“...

З гэтымі развагамі Якаў Гузік падышоў да ўваходу ў завод. Ён спакойліва намерыўся ступіць у двор, як сторож зьнянацку хапіў яго за рукаў.

— Ты мяне шукаў, Якаў?—запытаў ён.

Якаў Гузік у момант перамяніўся ў настроі і суворым паглядам кінуў на Самуся.

— Шукаў... З-за цябе мусіў у кантору хадзіць ды назад... Думаеш, я патвоему не даражу часам...

Сторож не чакаў гэтага ад Якава Гузіка і недаўменна, вытарашчыўшы вочы, глядзеў яму ў твар.

— Так, цябе ніколі не застаць на тваім месцы... Я ўжо не кажу пра тое, каб ты хоць каліва выявіў увагі да прыўручанае табе справы.

Сторож ня ведаў, што адказаць, і толькі паціскаў плячыма, мармычучы сабе пад нос.

Ён быў вельмі задаволены, калі ў адзін момант двое рабочых адгарадзілі яго ад Якава Гузіка, пацягнуўшы апошняга за сабою.

— Што ён да мяне мае?—скардзіўся цэламу дзесятку рабочых Самусь.—Бяз дай прычыны прычапіўся да чалавека, як смала, і ні рады... Каб цябе ліха, каб цябе...

Якаў Гузік, зразумела, нічога акрэсьленага ня мог прад‘явіць Самусю. У яго галаве зляжыліся выразныя думкі наконт знойдзенага кавалку жалеза. Вынікі з гэтага можна было рабіць важкія, але на ўсё трэба падбіраць асобны час і ўдатную прычыну. Рабіць крымінал, адрываючы не ў пару ад працы людзей,—ня прыстала... Будзь то загадчык заводу ці хоць-бы сторож... І не нарвіся апошні на Якава Гузіка з сваім запытаньнем, засталося-б бяз лішняе гаворкі і непатрэбнае лаянкі. А то... Якаў Гузік яшчэ пры дзьвярах у майстэрню падняў угару знойдзены кавалак жалела і памахаў ім у бок Самуся. Праўда, усьлед гэтаму ён упічна сабе засьмяяўся і праказаў да рабочых:

— Гэта мая надмерная стараннасьць. Натура гэткая—не магу цярпець, калі бачу глум ці непарадак. То-ж усё наша праца, нашы стараньні... Калі мы іх не шанавацьмем—тады?..

Рабочыя не пасьпелі выявіць сабе, да чаго былі Якавіны словы, і пакінулі Якава Гузіка без адказу... Ён нездаволена кінуў паглядамі ўправа ды ўлева і пайшоў да сябе, к сьлясарнаму цэху.

У майстэрнях пачыналася праца: вярцеліся такарныя варштаты, бразкала начыньне, шыпела тачыла. У кавальскай майстэрні хтосьці знарок надзвычай моцна ляпнуў молатам па лісту жалеза. Рэзкі ляск прайшоў па ўсяму будынку, балюча ўрэзаўшыся Якаву Гузіку ў вушы.

— Мудрагельства—ня болей,—вылаяўся ён.

І не пасьпеў дакончыць думкі, як пачуў знаёмы голас:

— Гаспадар! Гга-аспадар!

Ён паглядзеў у бок і ўпёрся вачыма ў Палікара Скрынку.

— Ты зноў са сваім...—нездаволена праказаў Якаў Гузік.

— Чым скончылася ў канторы, скажы?—яхідна перабіў яго Палікар Скрынка.

Якаў Гузік маўчліва ўсьміхнуўся і пайшоў далей.

Спыніўшыся каля свайго варштату, ён раптам перанёсься думкамі ў нядаўнае мінулае і праказаў:

— Кпіць і хоць-бы што... А замест гэтага—прылажыў-бы чалавек болей стараньняў, тады... Пры ахвоце ды адданасьці працы і парадак будзе і нічога ня страціцца. Калі ўспомніць... Чым-жа дрэнна была наладжана наша паходная майстэрня? Люба! Дагляд, парадак, чыстата... Ці-ж гэта вада? „Гаспадар".

Ён яшчэ раз аглядзеў паднятае пры варотах заводу жалеза і прыняўся за работу.

II

Якаў Гузік зацягнуўся ў працу да забыўнасьці. У яго руках напільнік хадзіў па сталі, як смычок па струнах. Яго скрып—то былі зыкі ад струн.

Яго твар выдаваў настрой замілаваньня. Пагляд—сьвяціўся здавальненьнем. Каб хто за ім сачыў, то бачыў-бы, як Якаў Гузік старанна вымяраў куты выпіленых шрубак, агладжваў у іх рубы, наводзіў ровень. Гатовыя—складаў памяркоўна, акуратна ў правільныя стосікі. Для яго ў часе працы ня было іншага сьвету, апроч таго, які абыймаў сабою варштат, напільнік, кавалкі сталі. Загэтым Якаў Гузік амаль што не азіраўся ў бакі, не аднімаў ні вачэй, ні ўвагі ад работы. Рэдка, мо' два-тры разы ў гадзіну, яго ўзрокі траплялі на засмуглае, але асьветленае сонцам вакно. Кладучы гатовыя шрубкі, ён таксама зазіраў на знойдзенае жалеза, якое ляжала тут-жа.

Але ні пагляд у вакно, ні заўвага да жалеза не перашкаджалі яго роўным, адмераным поцягам напільніка па сталі.

„За працаю—будзь працаўніком“, разважаў ён сам з сабою: „Трэба разумець, што ты працуеш не на вецер, ня ў чужую кішэню. Працуеш—гэта ствараеш. Чым лепш створыш тую ці іншую рэч, тым большую прынясеш сабе карысьць. Сабе... Вось што дорага. Каб, здаецца, усім, як мне, гэта было ясна і блізка—тады... я-б не знаходзіў тады за варотамі заводу кінутага жалеза... „Гаспадар“. Чамусьці Палікару гэта сьмешна... І ўшалопаў, ліха ведае што! Замест таго, каб лішні раз молатам стукнуць—ён пяць разоў языком ляпне... І лічыць сябе задаволеным. А там“...

Якаў Гузік нагнуўся, каб палажыць чародную шрубку, як пачуў на сваім плячы чыюсьці руку.

— Вось дык запрацаваўся — можна жывым украсьці,—пачуў ён каля вуха.

То быў Яўсей, старшыня заўкому.

Гэта зьдзівіла Якава Гузіка.

За два гады яго працы на заводзе, калі Яўсей кіраваў заўкомам,— Якаў Гузік ня меў выпадку сыйсьціся з ім ці пагутарыць. Неяк ішлося так, што ён, Якаў Гузік, аставаўся нікім незаўважаным, сам сабою, адным. А тымчасам не прапускаў ніводнае сходкі, ніводнае вытворчае нарады. Нават на многіх выступаў, падаваў пропозыцыі, спрачаўся—і ўсё гэта недзе гінула, нікла. Нарэшце, мо' з паўгода назад, з лёгкае рукі Палікара Скрынкі, яго пачалі пазнаваць як „гаспадара“. Чаму „гаспадара“? А таму, што, ведаеце, Палікар Скрынка падлічыў, што на кожныя тры выступленьні Якава Гузіка два з паловаю падаюць на гаспадарскія пытаньні; а яго гутаркі агульнага характару—выключна круцяцца вакола „ўпарадкаваньня вытворчасьці на заводзе“. Яшчэ прымела Палікару Скрынцы заўважыць Якавіну клапатлівасьць над парадкам у заводзе: падняць кінутае жалеза, падмазаць станок, прычыніць дзьверы. Усё гэта казала за яго пільную гаспадарнасьць—чаму-ж ня даць Якаву Гузіку мянушкі „гаспадар“? Палікару Скрынку гэта было за ўцеху, калі ён гукаў Якава Гузіка, дзе трэба, а дзе ня трэба, гаспадаром і паўсюдзіў гэту мянушку па заводзе і за яго сьценамі. Чуў аб Якаву Гузіку, як аб „гаспадару“, і прэдзаўком Яўсей.

Якаў Гузік ня ведаў, як праламлялася ў Яўсеі значаньне яго мянушкі. Ну, ніколі-ж ня думаў, каб так, як у Палікара Скрынкі... „А хоць-бы і так“, рашыў Якаў Гузік у той момант, калі ўгледзеў перад сабою Яўсея.

Той ня даў Якаву Гузіку спыніцца на гэтай думцы, як вылажыў перад ім зусім адваротнае.

— Ты знаеш,—сказаў ён Якаву Гузіку:—у мяне зарадзілася думка аб тым... як-бы табе сказаць... каб гэта цябе высунуць намесьнікам загадчыка нашага заводу. У мяне пра цябе пыталі ня раз...

Якаў Гузік вытарашчыў на Яўсея вочы і ня ведаў, у чым тут справа—у жарце ці ў гіроніі. І палічыў лішнім весьці далейшую гутарку на гэту тэму... Але Яусей наступаў:

— Кадаўбец нас пакідае. А я ня толькі чуў аб табе многа цікавага, а і ведаю добра сам, што ты... Думаеш ніхто не заўважае?..

— Гаспадар?—перабіў Якаў Гузік і паглядзеў на жалеза, якое муляла яму вочы...

— Я насур'ёз, таварыш Гузік... Гэта не мяне аднаго думка, а і... Я раджу падумаць аб гэтым...

Якаў Гузік, казаць праўду, зрэдку тайком сам-на-сам дапушчаў думку аб гэтым. Але яе зьдзяйсьненьня ён не спадзяваўся... У яго ня было вялікіх намераў, не вытыркала жаднага імкненьня да адказных пасад. І над тым, што-б ён рабіў, каб гэта яму выпала што-кольвечы нечаканае ў гэтым напрамку, Якаў Гузік не гадаў.

— Я падумаю!—сказаў ён Яўсею, і калі той раптам адвярнуўся на вокліч, прыкусіў губы.

„Глядзі ты, якая трапіла да мяне сьмеласьць. Гэта табе не жалеза падняць!"

І чамусьці да самага вечара ўжо зусім іначай ішла ў яго праца.

Напільнік хадзіў тым-жа тэмпам, што і да Яўсея, а вось спору паменшала. Паменшала спору, бо, Якаў Гузік адчуваў, пабольшылася ў галаве навеяных Яўсеем думак. „Намесьнікам загадчыка заводу! гм... Яно не бяз цікава, ды каб ня было падобна да жарту! Ці-ж мне калі аб гэтым прыходзілася думаць усур'ёз, дай ты рады... А тымчасам... Ня ведаю адкуль гэта бярэцца", недаўмяваў Якаў Гузік...

Ён пацепаў плячыма і падазрона пазіраў у той бок, дзе схаваўся Яўсей. Хоць-бы той не чапаў яго! А то проста разварушыў Якавіна нутро, ускаламуціў жаданьні... Чаго ў сьвеце ня бывае! Стаць кіраўнікам гэткага прадпрыемства, як іх завод. З пяцістома рабочых, ласьне малая справа?

І ў гэтым раздуме Якава Гузіка таілася салодкая заваба і трапяткая трывога. Ранейшая ўвага да свайго варштату вачавідкі пашыралася, расла і пераносілася на цэлую майстэрню і нават на ўвесь завод. Рупіла, няпрошана кратала сэрца нячыстасьць вокан, раскіданасьць матэрыялу па праходах. Вуньдзе чамусьці сьвіціцца выбітая шыба, а на дварэ ён заўважаў ня раз няпрыбраныя кучы сьмецьця. Нават ня шчыльна прычыняюцца адна да аднэй форткі заводзкіх варот... А аб сторажы і казаць ня трэба... Каб гэта ды сапраўды вышла так, што ён, Якаў Гузік, пападзе ў намесьнікі...

Думкамі ды разважаньнямі ў гэтым напрамку Якаў Гузік упёрся ў зацяжны сьвіст гудка... Напільнік займа здароў вываліўся з яго рук, а адзеньне ня ўпрыкмет ачулася на плячах.

Ён, дбайліва азіраючы па бакох, пайшоў праўцом да дзьвярэй. Мінаючы варштаты, абмацваў іх, падчышчаў; падняў з падлогі некалькі

кавалачкаў дрэва і дроту. А стрэўшыся на дзядзінцы з майстрам стругальнага цэху, заўважыў:

— У нас не дастае гаспадарнасьці.

Майстар паківаў галавою і адказаў:

— На гэта патрэбны адпаведны чалавек...

III

Для чаго былі сказаны майстрам стругальнага цэху гэткія словы? Ці ня думаў ён прайсьціся па Якаву Гузіку? А мо' што-кольвечы ведаў і ён ужо аб пушчаных Яўсеем думках пра намесьніцтва?

Якава Гузіка гэта цікавіла і займала. Займала чым далей, тым мацней. І ўдому, калі ён прышоў з заводу, ну проста ня ішла яда ў горла... Усё вакольнае адышло на задні плян. Маленькі столік у кутку цеснае каморкі прыняў выгляд чарцежнага стала. Якаў Гузік, не адказваючы жонцы на запытаньні, аблажыўся папераю і пільна штосьці на ёй крэмзаў. Крэмзаючы, вылічваў многа розных лічбаў. Задуменна меркаваў пляны і, нецярпліва адрываючыся ад стала, тупаў два крокі наперад, два крокі назад па малюпаткай каморцы.

— Ты-б павячэраў, а тады браўся-б за гэту сваю работу,—нясьмела намякала жонка. Яна мяльком закідала на Якавіны паперы ўзрокі і зьдзіўлена адвярталася назад: на паперы стаялі выведзеныя Якавам замысловатыя малюнкі дамоў, баштаў, дарог...

„У чым справа?“ здагадвалася кабета; яе доўга скрабла інтрыга адкрыць сакрэт сёнешніх мужавых паводзін. Жонка здагадвалася аб адным, што муж заняўся нечым сур'ёзным. І адзнаньне гэтае сур'ёзнасьці спыняла яе адрываць Якава ад яго думак... „А вось ён не пашкадуе паведаміць“, падумала яна. І абмылялася: Якаў Гузік ня меў падстаў весьці з жонкаю гутарку аб сёнешняй размове з Яўсеем. Прызнацца, калі аднесьціся да гэтага сур'ёзна, то нічога акрэсьленага ня выявілася. Быў адзін намёк. Але намёк трапіў у каразьлівае месца. Чаму? Таіцца нечага: Якаў Гузік сапраўдны гаспадар ад галавы да ногцяў на ножных пальцах. Ён нарадзіўся для працы, для гаспадараньня... Згодна яго думак, стары сьвет рушыўся таму, што ня ўсе працавалі, а з працы адных нажываліся другія. Новы-ж сьвет акрэпне і ўзбагацее тады, калі кожны яго будаўнік будзе добрым гаспадаром. Дбайнасьць у працы, шчырыя адносіны да людзкога дабра, клопат за агульным, як за сваім,—вось штурхачы росквіту новага жыцьця... Праўда, ён, Якаў Гузік, ня мае сілы рэформатараў і няздатны на вялікія замахі,—ну-ж колькі ў яго хапае магчымасьці, ён дае жывы прыклад чулага гаспадара... Ён згодзен, што Палікар Скрынка ёмка пацэліў у точку, калі назваў яго гаспадаром. Але таксама прышлося-б Палікару Скрынку і яму падобным згадзіцца, калі-б ды... Яўсеевы словы мелі належны вынік... Згадзіцца перамяніць свае погляды на пытаньне гаспадаркі...

Кавалак жалеза, які выклікае жарты, занадта цьвёрды, каб растаць у сьмеху...

Годзе сьмяяцца там, дзе патрэбна сур'ёзу... Якаў Гузік заўсёды дапамінаў аб гэтым... Мажліва, каб ён меў сілу і волю, у форткі заводзкіх варот не пралез-бы ніводзін кавалак жалеза... Прыклады былі—паходная сьлясарня. Цяжкім часам, а лічылася ўзорнай на фронце. Працоўная дысцыпліна стаяла на яць... Яму здавалася ня раз, што разьвярніся майстэрня ў завод—справа-б намнога палепшылася. Якаў Гузік трымаў-бы струну нацягнута... Здавалася...

Але пайшлі іншыя часы, усё перакруцілася, зьмянілася, і ён стаў радавым рабочым...

Радавым, няпрыметным...

І ў той час упарта ўважлівым, старанным, цяглым...

Гаспадарнасьць, гаспадарнасьць...

На добры лад ён мог-бы спрабануць на кіраўнічым месцы. Уся машынэрыя яму вядома. І стругальнае, і кавальскае, і сьлясарскае, і, нават, сталярскае рамёслы яму ня чужы. Найшоў-бы сьцежкі і да ладу з рабочымі... А калі-б часамі і не патрапіў у чым—на другі раз паправіўся-б... Падума-аць!

К адзіннаццатай гадзіне Якаў Гузік узважыў свае сілы і здольнасьці і вывеў, што яму пара ўзыйсьці на вышэйшую ступню.

Самому не вымагаць, а калі прапануюць—ня ўхіляцца. Да чаго трусьлівасьць і нявера ў свае сілы! Прэч, ня ў наш век! Рабочаму не павінны быць страшнымі перашкоды на шляху яго пасуваньня наперад. Ён не павінен супыняцца перад сумненьнямі. Жыцьцё перадалося яго кіраваньню—трымай мацней лейцы ў руках...

— Я заўтра сумею даць Яўсею падцьвярджальны адказ. Думаеце—рабеце. Пастараюся ўскладзеныя на мяне надзеі апраўдаць,—заключыў Якаў Гузік і згарнуў свае „чарцяжы“.

І жонцы адкрыўся:

— Прызнацца табе, Алена, мне сёньня намякалі аб адміністрацыйным месцы. Прэдзаўком Яўсей!

— Я бо бачу, што ты гэтак захапіўся.

— Цудная, трэба-ж падумаць, пакуль даць адказ.

— Дык ты, вядома, рашыў?

— Рашыў, калі-б на гэтым стала...

— А то?..

— Бывае ўсякся... Магуць і перадумаць...

— Чаму так?

— Здагадваюся... Ты думаеш, я адзін такі, якога можна... У нас, бачыш, болей за пяць соцень рабочых... Есьць і вартнейшыя мяне... Чаму, канешна, каб я?

— А бо ты ня сумеў-бы з другіх? Хто вельмі цяперака навукі вялікія канчае. Ведама... А ты, вось, пятнанцаць гадоў на рамясьле.

Якаў Гузік не хацеў перад жонкаю таіць: ён чуе ў сабе здольнасьць на гаспадарскае месца. І, праўду сказаць, мажліва, што падобных яму на іх заводзе ня вельмі многа. Наўрад ці хто адмеціў у каго-кольвечы падобную яго дбайлівасьць. Усяго, што нейкая скромнасьць не дае яму высунуць сябе ў вачох адпаведных устаноў...

Іншы на другога-б!.. Выцягне язык і, здаецца, яму мора па калені... А каб за справу ўзяцца—ломіцца, брудзіцца, тандэтуецца... А тымчасам часта яго бярэ... Да прыкладу—Палікар Скрынка... „Гаспадар". Упік...

На добры лад—варта было-б гэткіх Палікараў падвучыць справе гаспадараньня. Гэта не ўкараціла-б іх языкоў...

— Ты заўсёды маўчыш і цябе заціраюць...—папікнула Якава Гузіка жонка.

Ён не адказаў нічога.

„У кожнага свой розум", падумаў пра сабе.

## IV

Назаўтра Якаў Гузік нёс пры сабе на завод гатовае цьвёрдае рашэньне—згадзіцца на пропозыцыю Яўсея. Меркаваў самому наведаць прэдзаўкома і выказаць яго так выразна, каб ня было жаднага сумненьня. Каб ня было адыходу ні назад, ні ўбок. Не павінен-жа Яўсей таіць учарашнюю гутарку. Якая-б то была таварыскасьць!

Але зазірнуўшы ў памяшканьне заўкому, ён нікога там не застаў. Ён адлажыў на пасьле... Прышло тое пасьле—і Якаву Гузіку не ўдалося стрэцца з Яўсеем таксама... Тады заставаўся час па рабоце і гэты зманіў яму... Як назнарок, як прымха якая, Якаў Гузік ня мог сыйсьціся з прэдзаўкомам ня толькі назаўтра, а і на працягу цэлага тыдню.

Адкуль браліся тыя прычыны, хто строіў тыя перашкоды—іх была процьма... Ён дзівіўся. І, нарэшце, у Якава Гузіка растала ўсякая вера, зьнікла ахвота, апаў настрой. Дома ён ня ведаў, як і што адказаць на жончыны запытаньні. Некалькі разоў бязьверна адкладаў з адказам на заўтра, а раз намякнуў на акрэсьлены тэрмін, на які быццам-бы справу адлажылі. А ўжо к канцу тыдню, перад самым канцом работы, ён рашыў сазнацца жонцы, што ўсё было кламствам. Ужо нават пальцы яго рук намерыліся зглажыцца ў кулак, каб магчы ўзмоцніць пачуцьцё разувер'я, як Яўсей зьнянацку прыдушыў яго ў Якавіным нутры.

— Нарэшце!—гукнуў ён на адгоне мо' двух сажняў ад Якава Гузіка, калі той складаў начыньне. Вырашана! А колькі каштавала сілы... Ледзьве пераканалі... Прыходзілі з аддзелу і з раённага камітэту. Ня хочам. Невялікая кучка крыкуноў... Што з яго за актывісты, крычаць... Ніколі слова людзкага не пачуць. . Зусім адарваўшыся ад палітычнага жыцьця...

І за вошта яны на цябе? Палікар Скрынка, Самусь, Дзямян Рашка?.. Ты з імі меў што?

Якаў Гузік паціснуў плячыма.

— Мажліва таму, што я люблю работу, а яны пустую гутарку. А мажліва... Ці-ж здагадаешся?

— Вось і я ніяк не магу здагадацца. Упрэцца, ведаеш, каторы з іх і на ўсё горла раве: „Якава Гузіка—ня варта". Але, нарэшце, большасьць заўкому аказалася на нашым баку... А цяпер—усё пойдзе без перашкод... Ты толькі не зважай на нічога, мала што. Ёсьць яшчэ гармідарцы... Гэта наша бяда, ведаеш... Але я—не патураю на іх...

Запыталі ў мяне аб кандыдату, і я зразу на цябе. Думаеш, я ня ведаю, хто і як адносіцца да справы?

Ужо гудок вяшчаў аб канцы работы і вакола рабочыя пакідалі завод, а яны—Якаў Гузік з прэдзаўкомам Яўсеем—рэзва абгаварвалі пытаньні ўнутрызаводзкага жыцьця. Яўсей выкладаў шэраг дробных недахопаў: у справе пастаноўкі гаспадаркі заводу, у некаторай нядбаласьці адміністрацыі да патрэб рабочых, у недасканаласьці працоўнай дысцыпліны з боку асобных рабочых.

Якаў Гузік шчыра выказаў сваю падзяку таварышу прэдзаўкому за яго рэкомэндацыю і цешыўся схожасьцю паглядаў на справу адраджэньня гаспадаркі і прамысловасьці краіны. Якаву Гузіку ня верылася, каб у Яўсеі, невядомым для яго чалавеку, таіліся аднакавыя з яго, блізкія яму думкі. Гэта асаблівасьць распаляла ў ім веру ў гатовую падтрымку яго на вызначанай працы. Ды, наогул, увесь факт розных гутарак аб ім сьведчыў аб тым, чаго ён і не чакаў. Увачавідкі расла яго вядомасьць. Значыць, дарэмна ён раней думаў, што яго ніхто ня ведае, ніхто не прыкмячае, апроч ліхамысных Палікараў... Жыцьцё—складаная рэч, у якім цяжка разабрацца. У адносінах да яго, якраз, гэта жыцьцёвая складанасьць увабралася завабнаю пікантнасьцю. Прасьцей кажучы, жыцьцё яму, Якаву Гузіку, радавому сьлесару другога дзяржаўнага заводу сельска-гаспадарчых машын, наперакор усяму рэзва ўсьміхнулася... Дык, калі так, чаму-ж не адказаць жыцьцю тым-жа настроем? Го! Ён валодае сіламі, ахвотаю і жаданьнем да жыцьця і да творчасьці. Ён любіць гэту творчасьць, шануе яе, адданы ёй. Чым большы яе размах — тым для Якава Гузіка цікавей. У гэтым пасьпее ўпэўніцца Яўсей, рабочыя, тыя, хто вызначае яго на адказную працу. Інакшым тонам гутарыцьмуць і Палікары Скрынкі.

Якаў Гузік уверана сказаў:

— Я рашыў паспрабаваць. На другі дзень, калі вы мне намякнулі, прышоў да заключэньня—згадзіцца... Пасьля-ж, не сустракаючыся з вамі, крыху ўсумніўся... А зараз—добра... Мне думаецца, што я знайду ў сабе сілы досі...

Яны на ўвесь завод заставаліся адны. Рабочыя вышлі, усё маўчала. Толькі ўборшчык падмятаў падлогу. Ён раз-по-разу азіраўся на іх, але не адважваўся перабіваць. Мала аб чым яны гутараць! Нарэшце ня ўцерпеў: яму дораг час. і хто-б сабе ні быў Яўсей ці Якаў Гузік, яны не павінны займа здароў выкрадаць яго, уборшчыка, час. Гэта варт дапомніць—упадабае хто, ці не. І сторож гукнуў:

— Таварыш Яўсей, вы яшчэ доўга?..

— Вядома, не,—адказаў ён і разьвітаўся з Якавам.

Той-жа пасьпешна адзеўся, і лёгкі, бадзёры, як ніколі, пабег да дзьвярэй. У выхадзе з іх ён ня мінуў выявіць перад уборшчыкам сваю гаспадарнасьць, заўважыўшы:

— Ты не забудзь, Лукаш, праверыць замок.

Уборшчык усяго пасьпеў азірнуцца, як Якаў Гузік зьнік за варотамі заводу. Аднак, ён не застаўся без адказу.

— Глядзі-ы ты, які руплівы! Што-б было, каб гэта зрабіў яго гаспадаром!—кінуў Лукаш удагон Якаву Гузіку.

V

Якаў Гузік тупаў па дзядзінцы заводу і пільна азіраў: заводзкі будынак, склады машын, агарожу, вартоўню. Колькі ўсюды недахопаў, недаглядаў, вынікаў нядбалых адносін да справы. Гэта-ж усё яму цяперака давядзецца папраўляць. Ох, ды працы наперадзе! Праўда, ён, Якаў Гузік, не адзін. Ёсьць загадчык, на якім болей адказнасьці за прадпрыемства, але і ён ад гэтага ня вольны. Намесьнік загадчыка — не малое званьне і не малая адказнасьць. Ён ня толькі можа загадаць рабочаму, ён мае права зрабіць тую ці іншую заўвагу і загадчыку. А ў час, калі загадчык адсутнічае, намесьнік—гаспадар. І цяпер вось Якаў Гузік у гэтым стане: загадчык паехаў у сталіцу, а ён выпаўняе яго абавязкі. Хто аб гэтым ня ведае? Кожны чалавек, які мае дачыненьне з заводам, у курсе справы... Якаў Гузік падмеціў, входзячы на заводзкі дзядзінец, як спрытна сторож Самусь уступіў яму дарогу, выцягнуўшыся ў струнку. Толькі мігнулася рука да казырка шапкі!.. А хутка ён праканаецца аб адносінах да сябе з боку рабочых... Ці-ж ня цікава? Ого!

Якаў Гузік прайшоў па дзядзінцы заводу, апераэаў яго абходам з надворнага боку і зазірнуў у сярэдзіну заводу. Завод працаваў. Усё гуло, раўло, вярцелася. І вось, калі ён увайшоў у завод, яму здалося, што ў сугучнасьць працоўнага галасу ўплёўся чулы подух задзіўленьня, выказаны рабочымі. Каб пералажыў яго на словы—атрымалася-б:

„Ага-а, Якаў Гузі-ык!“

Поруч з гэтым да яго накіравалі сотні вачэй. З-за калаўроткаў, варштатаў, з-за рамянёў і слупоў несьліся к яму цікавыя погляды Ад іх нельга было ня сумецца: бач, штодня будзе тое самае. І калі ён, Якаў Гузік, сумее сябе паставіць належным чынам — тады... Вось задача, над

якою трэба доўга думаць. Бо кожны пагляд—гэта выпрабоўнае мацаньне... Сярод усіх іншых дзесьці хаваецца і пагляд Палікара Скрынкі, Дзямяна, Рашкі і многіх ім падобных.

Якаву Гузіку не сьцярпелася, каб не павярнуць вачэй да кавальскага цэху. З молатам у руках, пазіраў на яго Палікар Скрынка. Што ён думае? Няхай што хоча думае, а ён з далікатнасьці прывітаецца з ім, як і з усімі іншымі. Начальнічы чын не павінен дыктаваць адносінамі з таварышамі...

Якаў Гузік ціхаю хадою абыйшоў усе майстэрні заводу, прывітаўся з рабочымі. Гаспадарскім вокам аглядзеў варштаты, сталы, начыньне, гатовыя рэчы. Амаль ня з кожным рабочым памяняўся двума-трыма словамі. Ходзячы, падняў не на месцы пакінутыя напільнікі, малаткі, кавалачкі дроту, жалеза.

Нарэшце апынуўся ў кавальскім цэху. Падышоў да Палікара Скрынкі і запытаў яго аб ходзе працы ў гэтым цэху. Палікар Скрынка зьбянтэжыўся ад нечаканасьці і не знайшоўся, што адказаць.

Але не пасьпеў Якаў Гузік зрабіць некалькіх крокаў у бок, як да яго дайшлі выразныя склады слова: „Гаспадар“.

Якава Гузіка ўразіла, але ён не адвярнуўся. Толькі сам да сябе прамовіў:

— Калі, з аднаго боку, ня трэба быць бюрократам, то з другога—нельга весьці працы без гаспадарскага аўторытэту... Яго павінны адчуць тыя, хто ня любіць працаваць...

Яшчэ, набліжыўшыся да выйсьця з заводу, дадаў:

— За працаю мусіш быць загартаваным гаспадаром, а ня вялым абібокам...

Аднак мулкаю гарошынкаю ў сэрцы націскала прыкрае пачуцьцё ад Палікаравых слоў. У вошта яны вырастуць далей? Ці не пярэйме іх адзін за другім увесь кавальскі цэх? А можа яго словы разрастуцца ў цэлыя сказы? І тады?..

— Ды што тады!—рашуча праказаў перад кантораю Якаў Гузік.— Думаючы аб гэтым,—нічога не магчымеш зрабіць... А я мушу рабіць, рабіць...

Цэлая плойма бягучых пытаньняў з заводзкага жыцьця апанавала Якавіну галаў. Ён увайшоў у кантору, сеў за сталом і пачаў абдумоўваць кожнае з іх. Рацыяналізацыя, рэжым эканоміі, паляпшэньне якасьці вытворчасьці спляталася ў адзін ланцуг і радзілі агромныя пляны. Завод мігаў перад Якавам Гузікам фордаўскімі прадпрыемствамі. Бясконцаю стужкаю віўся конвэйер аўтоматычны, выходзілі на двор шэрэнгі трактараў, жняярак, малатарань. Лес камінoў вянчаў пяціпавярхавыя гмахі будынкаў... Дзесьці далёка-далёка цягнулася палоса плённае творчае працы...

— Ці можна ўвайсьці?—перабіў яго знаёмы голас у прачыненыя незаўважна дзьверы.

— А... калі ласка,—адказаў Якаў Гузік і адхіліўся ад стала.

Перад ім стаяў Яўсей.

— Я перашкоджу? Толькі на хвілінку,—папярэдзіў ён Якава Гузіка і пры гэтых словах сеў каля стала.

— Сядайце,—падмацаваў Якаў Гузік Яўсеева права сесьці.

— Нічым не замінаеш .. Я яшчэ толькі што асвойтваюся з працаю. Толькі што аглядаў завод, знаёміўся з процэсам працы. Прызнацца, ня зусім добра ішла дагэтуль справа... Многа-многа давядзецца палажыць энэргіі, пакуль паставіць на нормальны шлях. Было шмат недагляду...

— Зразумела,—згадзіўся Яўсей:—справа ня лёгкая... Ну, як цябе, стрэлі рабочыя?

Якаў Гузік памаўчаў. Пасьля, зрабіўшы нявыразную міну на твары, адказаў:

— З першага разу цяжка вызнаць настрой рабочых... Здаецца, не заўважна было няпрыязнага ўражаньня... Хоць...

— Што хоць?—падхапіў Яўсей.

— Ды яно пустое... Палікар Скрынка правёў мяне звычайнаю лаянкаю. Напэўна, не ўпадабаў майго назначэньня. Але-ж ласьне ўсім угодзіш? Або павінна ад капрызу ядынак цярпець агульная справа? Я трымаюся правіла...

Якаў Гузік упэўнена прайшоў па пакоі канторы.

— Тады добра, калі ад гаворкі не адстае і праца, а калі язык заменяе рукі—то машына не пакруціцца... Я-б прасіў, таварыш Яўсей, каб і з твайго боку гэта мелася на ўвазе...

— Мне гэтага ня трэба казаць! Я сам добра разумею... Каб у мяне былі іншыя думкі, ці-ж бы я, думаеш, так за цябе стаяў? Браток ты мой... Мая праца, як прэдзаўкому, не разыдзецца з тваёю... Хіба якія-небудзь надзвычайныя здарэньні таму паперашкодзяць. Праўда...

Чагосьці абодва паглядзелі ў вакно.

— Праўда,—працягнуў Яўсей:—для наладжаньня тваіх з рабочымі адносін прыдзецца разоў колькі выступіць перад імі. Трэба будзе зрабіць адзін—другі сход, організаваць вытворчую нараду... Я, прызнацца, і прышоў за тым, каб цябе папярэдзіць аб гэтым. Мы склікаем праз тыдзень на суботу вытворчую нараду; ты павінен будзеш вылажыць свае меркаваньні наконт пэрспэктыў... Га?..

Якаў Гузік мэрам-бы сумеўся, але хутка ўроўнаважыўся і адказаў:

— Паколькі будзе датычыць майго погляду, я ні перад кім яго ня ўтою. Добра... Склікайце... А Фанарнік таксама будзе выступаць?

— Калі прыедзе да гэтага часу, запрагом і яго... Але наўрад ці ён вернецца да суботы.

— Я думаю, павінен вярнуцца...

Яны яшчэ нейкі час пагутарылі і пад гук сірэны пакінулі кантору.

## VI

Усе, хто цікавіўся дабрабытам заводзкага жыцьця, мог заўважыць здольную гаспадарскую руку Якава Гузіка. Яна, гэта рука, дзе ні прыкладалася, пакідала заметны сьлед. Усіх захапіла яго дбайнасьць— хоць-бы на завадзь знайшоў хто на дзядзінцы закінуты кавалак жалеза,— ані. Вароты ўшчыняліся акуратна, у вокнах зьявіліся шыбы. Да агульнага шоламу шківоў, да стуку малатоў і скрыпу напільнікаў далучыўся стук сякер, абчэсваўшых дрэвы для новага будынку пад склад. Над гатовымі вырабамі распасьцёрся новы брэзэнт, баронячы іх ад дажджу... Па майстэрнях сярод рабочых пайшлі чуткі, што Якаў Гузік атрымаў ліцэнзіі на новае абсталяваньне заводу. Намякалі на конвэйер... Многім выразна кідалася ў вочы аднаўленьне заводзкага жыцьця...

Але рэзкім няладам гучэлі цішком і адмоўныя да Якава Гузіка ноткі. Ён гэта заўважаў, бываючы ў заводзе ці седзячы ў канторы...

А перад вытворчаю нарадаю яму данесьлі, што некаторыя з рабочых зьбіраюцца яго „крыць“. Нават, падказалі яму, мэрам-бы сам загадчык, Фанарнік, мае выступіць з нязгоднымі Якавінаму пляну думкамі. Якаву Гузіку запрыкрыла, але ён стараўся адагнаць ад сябе сумніўныя думкі. Няхай пакрытыкуюць, каму хочацца, пасьля змоўкнуць. Не павінна-ж так стацца, каб той, хто яго ставіў на месца, верыў больш словам, чымсь дзелу. А гэтага дзела, як-ні-як, ужо здабыта нагэтулькі, што хопіць супроцьпаставіць безадказнай гутарцы. Той гэтаму будзе адмаўляць, каго ўжо нічым не пераканаеш. А чэсны...

Якаў Гузік не хацеў працягваць гутаркі на гэту тэму, калі зайшоў у заўком да Яўсея. Ён зразу перайшоў да дзелавых пытаньняў. І, пэўна, за гэтым на Яўсея зрабіла моцнае ўражаньне паведамленьне Якава Гузіка аб узяцьці новага заказу на плугі.

— Справа пасуваецца,—не сьцярпеў Яўсей.

— Іначай не павінна і быць,—упэўніў Якаў Гузік.

І каб хто яго бачыў у момант выйсьця ад Яўсея,— заўважыў-бы, што ў Якава Гузіка пэўнасьць не ў адных словах. Яна кіравала яго роўным, цьвёрдым ступам, напружаным поглядам ваччу, парыўнымі рухамі рук. Якавіна постаць выглядала стальлю, ад якое адскочыць і шрот. Гэту асаблівасьць адчувалі, вядома, і тыя, хто зьбіраўся яго абстрэльваць. І дзякуючы гэтаму, нейкай надзвычайна выразнай асобаю выдзяляўся ў гэты дзень Якаў Гузік на фоне разьюшанага працэсу работы... Молат у руках здаравеннага Палікара Скрынкі пры падыходзе Якава ападаў на чырвоную паласу жалеза куды мякчэй звычайнага. А рука Самуся рухлівей падляцела да казырка шапкі. На яго твары нельга было прымеціць і каліва нядбайнасьці. Але што таілася ў Палікаравым ды ў Самусёвым нутры—цяжка было адгадаць. Усё-ж Якаў Гузік не ўтаіў гардлівага пачуцьця, калі ўгледзеў шчыльна прычыненыя вароты і падмецены

двор. Як-ні-як, а яго ўплыў мае месца. „Па рабоце—няхай што-хоць, але за працаю ня можа быць вышэйшых ад яе інтарэсаў. Ці-ж трэба ў гэтым каго пераконваць?“

Гэтыя думкі ён выразна падкрэсьліць на вытворчай нарадзе. Можа каму і не спадабаецца—што-ж парадзіш? Гэткі ўжо закон працоўнае культуры... Той, хто ўпарта не згаджацьмецца з яе вымаганьнямі, няхай зоймецца „крыцьцём“... „Ды цікава, за вошта ўсё-ткі мерацца мяне крыць? Няўжо двухтыднёвая служба намесьнікам ужо кальнула каму-кольвечы ў вочы? А мо' я застаранна ўзяўся праводзіць дысцыпліну? Ці, наогул, занадта пільнай зьяўляецца мая гаспадарнасьць? Цікава!“

Якаў Гузік павольна ўхмыльнуўся, думаючы аб заўтрашнім. Што-б яно вызначала? Аднак, ён ніяк не чакаў таго, што паднесла яму жонка, стрэўшы яго на парозе.

— Вось, маеш,—казала яна:—ты быў праў...

— У чым?—зьдзівіўся Якаў Гузік, вытарашчыўшы вочы на жонку.—Аб чым рэч?

— Ужо ты стаеш лішнім з тваім намесьніцтвам. Толькі з поўгадзіны таму, як Сымон Кошык ліў на цябе памыі і грозіў скорпіёнамі... „Мы,—кажа,—яго ўвядом у рамкі. Гаспадар знайшоўся! Рэформатар! Ён у нас не разгоніцца... Машынка закручана, глядзі... На нашым баку і Фанарнік, і заўком... А ты,—кажа мне і пальцам ківае,—не ганарыся так сваім станам—ня надоўга... Мы яму рыхтуем такога...“

— Што ты кажаш?—уняверыўся Якаў Гузік.

— Увесь двор, кажу табе, зьбегся... Такое прыстаўленьне, што, ведаеш, гэтак прыкра, гэтак...

Якаў Гузік матнуў неахайна рукою, але балюча скрыгануў зубамі „Значыць, яно не здарма,—падумаў ён, адышоўшыся к вакну:—значыць, я мяшаю“.

Перад ім паважнаю хадою папаўзла стужка чатырнаццаці дзён яго намесьніцтва. Выпадак за выпадкам, здарэньне за здарэньнем малявалі яму вобраз натужнай клапатлівасьці ў гаспадараньні над заводам. Кожны крок, маленькі паварот, усякі рух, кожнае выказанае слова, нават пагляд ваччу—ён праверыў, перабраў, пракрытыкаваў. І—нічога! Нічога гэткага, каб хоць за вошта можна было зачапіцца, не знайшоў. Якія былі заўвагі—усе яны мелі характар таварыскіх гутарак; нават не насілі выгляду заўваг, а больш схіляліся на параду або і на просьбу. Ніводнага ўзыску не зрабіў, намёку ня даў на гэта, хоць даныя настойна таго вымагалі... Тут ужо ён уступіў сваім намерам, сваёй тактыцы і цьвёрдасьці дысцыплінарных вымаганьняў. І, здэцца, усё абыходзілася ціха, спакойліва. Праца заўважна папоўнілася ўнёсам у яе пачуцьця шчырасьці. Гэтак мэрам-бы рыпеўшыя, сьвісьцеўшыя варштаты—падмазаліся алеем і рушылі мяккім, плаўкім бегам... А тымчасам...

Блыснуўшы перад ім вобраз Сымона Кошыка адцягнуў зашмаргу задумаў. Якаў Гузік бачыў ускудлачаны доўгі хвост Сымонавай непашаны да работы. Каму, як ня Сымону Кошыку, абвяшчаў Фанарнік публічныя выгаворы: за спазьненьні на працу, за паломку варштату, за п'янства, нарэшце... Колькі разоў бараніў яго перад адміністрацыяй прэдзаўкомам Яўсей? Па сваёй дабраце, Яўсей браўся выправіць Сымона... І каб узяў да апытаў усіх рабочых, няведама, ці хоць каторы быў-бы на Сымонавым баку... Ну, але-ж... Сымон Кошык паўстае на яго, Якава Гузіка, і грозіць, грозіць... Якое ён мае права на гэта?

Мімавольна аднялася ад падлогі Якавіна нага і грузна апусьцілася назад: па пакоі пранёсься гулкі стук.

— Што з табою?—запытала Якава жонка.

— Нічога, давай абедаць...

## VII

Вялікая, прыбраная ў плякаты і портрэты саля заводзкага клюбу ўжо гадзіну ўпускала ў сябе рабочых. Яны сьцякаліся ў яе непарыўным касьнікам. Усё большы лік чорных палосак украпляўся ў белыя рады доўгіх лавак. Часьцей мятусілася чырвоная заслона над нелапою сцэнаю. Выразнымі буйнымі літарамі зазывалі аншлагі: „Павялічвай вытворчасьць працы!" „Паднімай якасьць продукцыі!". На сьценах, адзін перад другім, павярнуўшыся тварам да лёзунгаў, віселі ў рамках Ленін і Сталін. У іх сабраным у адну кропку поглядзе гарэў прызыў да ўпартага, стараннага будаўніцтва Савецкае краіны... Ніводзін з тых, хто пераступаў парог клюбу, не абмінаў кінуць узрокам на правадыроў рэволюцыі. Кожны, таксама, прачытваў надпісы. Але дапамінак, які яны давалі, тут-жа тануў у рэзвых спрэчках аб іншых пытаньнях. У напушчаным ад цыгар дыму бляднела выразнасьць літараў і разьбягаўся іх сэнс. Адчувалася агульнае хаценьне—хутчэй пачаць нараду. Руплівыя бегалі на сцэну, вярталіся назад, штосьці паведамлялі другім... Ужо мінула гадзіна пасьля прыўрочанага часу, а паседжаньне не адчынялася. Якаў Гузік усякся думаў аб прычынах гэтага. Ён чула прыслухоўваўся да кожнага слова, якое гучэла каля яго. Яму здавалася, нібы многіх увага зьвернута ў яго бок. Прынамсі, ён падмеціў гэта ня раз. Вунь, справа ад яго, у кутку, Палікар Скрынка згуртаваў грамадку з некалькіх чалавек. Стаіць гоман, рогат, ідзе аглядка ў бакі. А воньдзе дырыгуе рукамі перад трыма рабочымі Сымон Кошык... Ня цяжка здагадацца, што гэта рэпэтыцыя перадстаячых выступленьняў. Напэўна... Трэба мецъ навоку, іначай...

Але ў Якава Гузіка сабрана досыць пораху, каб адстрэліцца па ўсіх баках. Ён падгатаваўся да ўсякіх нечаканасьцяй. Няведама, як далей, а пакуль у яго слабага месца няма. Няма—ён выпрабаваў сябе, праверыў... Вось няхай адно...

Якаў Гузік намераўся яшчэ раз прааналізаваць сваю нядоўгую працу і паводзіны, свой пабудаваны на наступнае плян, але быў спынены датыкненьнем чыесьці рукі.

— Гатуешся?—запытаў падышоўшы.

— Ах, гэта ты, Лазар?—адказаў Якаў Гузік:—Я гатовы!—дадаў ён.

Лазар, майстар сьлясарнага цэху, сярэдняга росту мужчына, блёндын, з мілавідным тварам, прысеў побач Якава Гузіка.

— Гатуйся, а то будуць крыць! Цэлая шайка сабралася...

— Завошта, цікава, скажы мне?—запытаў Якаў Гузік.

— Або я ведаю... або хто ведае... або яны самі ведаюць?..—паціснуў плячыма Лазар.—У многіх-жа так, дзе ўпускаюць рукі ці розум, там выручае язык... Не здарма-ж кажуць, што язык без касьцей... Так і гэта...

Лазар нахіліўся да Якава Гузіка, каб казаць яму далей, але раптоўны званок яго перабіў.

Калі яны з Якавам паднялі вочы, шарганулі вяроўкі і заслона агаліла сцэну. Усе мігам змоўклі, гледзячы на пастаўлены сярод сцэны столік, за якім стаяў Яўсей.

— Прашу супакоіцца,—праказаў ён, і яшчэ раз пазваніў. У салі зрабілася зусім ціха.

— Каб весьці наш сход, трэба выбраць прэзыдыум. Каго?—падаў ён са сцэны. „Кавадлу! Сурэшку! Скрынку! Садовіча!“...

Дзесяткі выклікаў, мацнейшых і цішэйшых, танчэйшых і грубейшых, градам па даху, лінулі да Яўсея. А сьледам, некалькі чалавек, у тым ліку і Якаў Гузік, накіравалі вузкімі праходамі к сцэне. І не пасьпелі яшчэ ўсе ўладувацца каля стала, як Яўсей агаласіў:

— Слова для дакладу аб пэрспэктывах гаспадарчага стану заводу мае таварыш Гузік.

Відаць было, што для Якава гэта сталася перадчасным, бо ён раптоўна ўзьняўся з крэсла і паглядзеў на Яўсея. Той нешта яму сказаў і сеў...

Праз момант ужо Якаў Гузік стаяў з правага боку стала, на адкрытай сцэне і выкладаў сваю праграму працы і плянаў. Ён гаварыў павольна, з націскам на частых словах, пераказваючы некаторыя сказы двойчы. Раз-по-разу ён зазіраў у большыя ды меншыя паперачкі, якіх цэлы жмак трымаў у руках і ўсё яшчэ дабаўляў з кішэні. Прыводзіў шэраг лічбаў...

Гутарачы, ня мінаў акідаць паглядам салю. І заўважаў, што пільна, старанна слухаюць. Сотні вачэй—накіраваны праўцом яму ў твар. Ловіцца кожнае яго слова. Кожны падкрэсьлены ім сказ выклікае прыметныя калыханьні ўсяе салі. Гэта надавала яму настрою, хэнці, захапленьня. Ён нядбайна прапускаў бяз увагі рэдкія выгукі супроць яго, што іх кідалі дзесьці з задніх лавак і налева ад яго—з пярэдніх-

Ён адчуваў, што яго прамова мае значны ўплыў на рабочых і акрэсьлівае іх пэўны настрой. Апошні наўрад ці спрыяцьме яго няпрыхільнікам!.. Ужо відаць—гэта...

Захоплены прамоваю, Якаў Гузік не пачуў, як Яўсей падаў папераджальны званок. Тады бліжэйшы да яго, рагавы сябра прэзыдыуму, тузануў яго за рукаў.

— Ужо тэрмін?—запытаў Якаў Гузік у Яўсея, перарваўшы казаньне.

— Акурат, нават пяць хвілін болей...

— Дык я канчаю...—абярнуўся ён да салі.—Значыць, пераказваю, нам патрэбны, паперш усяго, старанныя, уважлівыя, дбайныя адносіны да працы. Гэта асноўнае. Бяз гэтага немагчыма наладзіць ніводнага прадпрыемства, бяз гэтага нельга чакаць разьвіцьця прамысловасьці, нельга пабудаваць соцыялізму. Бяз гэтага не разаўецца і наш завод. Глядзець на справу, як на чужую, адносіцца да яе, як да казёншчыны—гэта самы большы вораг соцыялістычнага будаўніцтва.

Сказаўшы гэта, Якаў Гузік павярнуў к сталу. За ім панясьліся гучныя воплескі.

— Хто мае запытаньні?—пераняў іх Яўсей выкрыкам да сходу:—падавайце на запісках... А таварыш Гузік,—абярнуўся ён да Якава,—зараз адкажа?

— Ці ня было-б лепей злучыць у адно і адказы на запытаньні і заключнае слова?—запытаў Якаў Гузік.

Яўсей перапытаў сход—усе згадзіліся на Якавіну пропозыцыю.

— Дык зробім перапынак, пакуль таварышы пададуць свае запытаньні, а тады...

Раптоўна прайшоўшым гулам сход компэнсаваў і гэту Яўсееву пропозыцыю.

## VIII

Пасьля перапынку пайшлі спрэчкі. Адзін за другім выходзілі на сцэну прамоўцы і на ўсе лады абгаварвалі Якавіну прамову. Яго імя вярцелася і перавёртвалася на ўсе лады. Яго думкі і пляны перастаўляліся з месца на месца, папаўняліся, крытыкаваліся. З першага погляду ладзілася гэтак, нібы кожны сказ новага прамоўцы быў пажаданым дадаткам да яго пляну. І Якаў Гузік са здавальненьнем, з самаўцехаю выслухаў каля пяці чалавек. Але раптам тон абгаварваньня зьмяніўся. На сцэну вышаў Палікар Скрынка.

— Мы не павінны спыняцца на Гузікавым пляне,—пачаў ён свае слова.—Якаў Гузік мала чым сябе зарэкомэндаваў, каб мы маглі паверыць у рэальнасьць яго вылічэньняў... Болей таго, мінулыя два тыдні яго работы паказалі, што нашаму заводу нельга пакладаць надзей на новага гаспадара... Адна рэч—падняць з зямлі жалеза, а другая...

Якаў Гузік нэрвова закоўзаўся па крэсьле.

„Гэта-ж жывая, злосная напрасьліна, брахня; гэта безадказная балбатня“, праказаў ён сам сабе. Палікар Скрынка вынес сваю беспадстаўную варожасьць і труціць ёю здаровыя сэрцы! Няўжо гэта нікому не карціць? І чаму такі Яўсей дазваляе яму разводзіць атрутлівую дэмагогію? Няўжо і ён пасьпеў зьняверыцца ў Якаве Гузіку? „Калі чаго добрага, дык я сам“...

Перад Якавінымі вачыма мігнуўся на зьмену Палікару Скрынцы Сымон Кошык. Тыя самыя словы, што кідаўся імі Скрынка, паляцелі і з вуснаў Кошыка. Іх нельга было чуць бяз вострага хваляваньня, бяз злосьці і суму...

І Якаў Гузік дэманстрацыйна сышоў са сцэны. Ён прытуліўся ў цёмным праходзе за грудаю дэкарацый і прачакаў, пакуль скончыліся спрэчкі... Ён вышаў назад на сцэну тады, калі апошні прамоўца канчаў сваё слова. Якраз яно было прысьвечана ў яго абарону. Лазар, які гэта слова трымаў, рашуча і востра накідаўся на „безадказных балбатуноў“, агаляючы іх беспадстаўнасьць.

Гэта Якава Гузіка некалькі ўзбадзёрыла, прыдало яму сьмеласьці. І калі праз пару хвілін ён узяў апошняе слова—дасталося ад яго кожнаму па заслугах. Замоўкшая саля лавіла слова ў слова Якавін адказ на напады. Было вачавідкі, што сымпатыі цалкам на яго баку. І цікава, дзе-ж прытуліліся яго крытыкі? Няўжо ім усяго і трэба было, каб лішні раз укалоць Якавіна нутро?

— Як і ў дакладзе,—заключыў свой адказ Якаў Гузік:—я стаю на адным: з Палікаравым языком мы далёка ня зойдзем. Тыя, хто з ім, ня ёсьць творцамі гаспадаркі. Іх час прайшоў. Зараз час людзей справы, работы, людзей шчырае, сьвядомае працы, а ня пустых балбатуноў.

Якаў Гузік не спадзяваўся, што ў яго маецца гэтулькі пэнту і натхненьня, якімі аддалі яго апошнія словы.

Тыдні два-тры назад ніхто-б ня мог чакаць ад яго падобнага красамоўства. А сёньня—сёньня выясьнілася, што ў Якаву Гузіку хаваюцца нязвычайныя здольнасьці прамоўцы. Ён можа дзе трэба сказаць, і сказаць не абы як. Нават зацікавіўся яго выступленьнем увесь прэзыдыум. Яўсей—дык той быў поўнасьцю ўсьцешаны. Ён задаволена сказаў свайму суседу: „Маладзец Якаў, абрэзаў языкі, каму сьлед“.

Але самому Якаву Гузіку было не па сабе. Нарада пакінула няцікавае ўражаньне... На сэрцы застаўся прыкры асадак ад чутага і бачанага. Яму не хацелася верыць, што ўсё рабілася само сабою, бяз усякіх хітрыкаў. Ён сам заўважаў на Яўсеевым твары хітрую ўхмылку, калі прачытваў ліхамысныя запіскі. Міжвольна думалася Якаву: „Назнарок выцягнуў Яўсей мяне на абгавор сходу. Бо ці можна ў два тыдні сказаць што-кольвечы аб праробленай рабоце?“

З гэтым настроем Якаў Гузік кінуў сцэну і прэзыдыум. У праходзе да выйсьця ён пачуў гутарку аб рэзолюцыі па дакладзе, але ня спыніўся. Перад яго ваччу міганула з дзесятак рук і зьнікла за форткаю ўшчыненых дзьвярэй. Наступнае глядзела на яго поўнай нявыразнасьцю. Як-жа далей разгортваць працу? „Заставацца простым выканаўцам Фанарнікавых загадаў і толькі? А думкі, намеры, хэнць і жаданьне запраторыць у нутро? І на другой нарадзе падпасьці абстрэлу за бясчыннасьць?—Не! лепей вярнуцца да варштату і адзнаць, што ты нешта творыш... Лепей... Тады, няхай мне скажуць, чаму яны мяне адрывалі ад яго? Навошта ламалі роўную хаду майго жыцьця?.. Незразумела...—Якаў Гузік спыніўся перад сходамі.—Ды што я? Трусіць перад кучкаю безадказных балбатуноў? Масы рабочых за мяне. Ня было-б таго, ці гэтак-бы слухалі маю прамову! Ці пляснула-б мне хоць адна рука! Дарма! Я не дазволю перад кожным каменьчыкам на дарозе сыходзіць у бок. Гэта будзе ня праца, ня творчасьць, а ломка, зьнішчэньне“.

Якаў Гузік заварачваў на вуліцу, калі з адчыненага вакна клюбу пачуў заключныя воплескі. Чаму і што яны? „Няцікава; яны справы не паправяць“, праказаў ён накіраваў дамоў.

IX

Якавіна рука кратала закрутку брамы, калі над яго вухам празычэла:

— Таварыш Гузік?

Ён зьбянтэжана адхіліўся і ўгледзеў перад сабою Яўсея.

— Чаго ты ўзлаваў і не дачакаў канца нарады?—запытаў ён Якава Гузіка.

Той хвілінку памаўчаў, пасьля адказаў:

— А чым канец цікавей пачатку?

— То та і ёсьць, што цікавей... І вось чаму... Ха-ха-ха!

Яўсей весела сьмяяўся.

— Пакрылі, ведаеш, на ўсе сто процантаў і так... Ужо не пасьмеюць другі раз... Ты думаеш дрэнна, што мы зрабілі нараду,—ніколі. Гэта навука брахуном... Будзеш бачыць... Давай пройдзем на хвіліну...

Яны рушылі з месца.

— Усё-ж мне здаецца,—пачаў на хаду Якаў Гузік:—што... гэтым іх не правучыш... Мне здаецца, тут павінна падыходзіць з іншага боку... Кожнаму, хто мае здольнасьць і стараннасьць да працы, павінна быць забясьпечана поўная мажлівасьць гэтага. Мне здаецца, што мы занадта многа гаворым... Ці не пара было-б пільней узяцца за працу...

— Чакай, чакай,—пераняў яго Яўсей:—Ты перагінаеш палку... Мы супольна будуем соцыялізм... А таму ўсе, як адзін, мусім быць у курсе гэтага будаўніцтва. Нельга абсякаць рабочую ініцыятыву... Толькі...

— Толькі няможна, таксама, зьбіваць з дарогі наладжанае працы... Мне здаецца, што вельмі ўпоперак шкодна рэальнай ініцыятыве ставіць

дзесяткі неправераных доказаў... Вось сёнешняя нарада выразна паказала, куды-б мы зайшлі, каб згадзіліся з Палікарам Скрынкаю або Сымонам Кошыкам... Удумайся адно, як ён становіць сваё пытаньне... Паягонаму выходзіць, што мы не павінны мець жаднага рэжыму на прадпрыемстве. Кожны, як захоча, гэтак мусіць рабіць. Што-ж тады выйдзе? Да чаго мы дойдзем?

— Я згодзен, таварыш Гузік, з тым, што нам яшчэ шмат давядзецца папрацаваць над выхаваньнем культурных адносін працы... Нам у гэтым напрамку стаяць агромністыя задачы... Але браць пад сумненьне ўсіх і ўсё і апускаць рукі...

— Так, цяжка падняцца рукам, па якіх б'юць кіем... Я з вялікім натхненьнем ішоў на гэту працу; я з усёй шчырасьцю ёй аддаюся; не даражу здароўем і часам, абы ляпей наладзіць вытворчасьць, шырэй разгарнуць прадпрыемства, удасканаліць абсталяваньне, а мне кідаюць мянушкаю... „гаспадар“... Ты толькі ўдумайся ў сэнс і вымову гэтага слова... З якою агідаю ў твары выказвае яго Палікар Скрынка ды яго сябры... „Гаспадар“—гэта перашкода гультайству, нядбаласьці, абыякасьці ў адносінах да працы. А паіхняму—таго не павінна быць... Ці-ж можна дазволіць сабе дайсьці да гэткае апушчэльнасьці? Дбалае гаспадараньне, бачыш ты, зычыць дакорам, гіроніяй... Н-не-э, не...

Якаў Гузік рашуча замахаў рукою і больш пэўна пачаў адбіваць крокі. Яўсей ня меў чым яму супярэчыць. Абодва нейкі час памаўчалі. Але кожны адчуваў патрэбу далейшае гутаркі. Зачэпленае імі пытаньне інтрыгавала абодвух. Бяз поўнага яго высьвятленьня нельга і кроку ступіць у справе гаспадараньня над заводам. Загінаючы за рог вуглавога дому, і Якаў Гузік і Яўсей, як згаварыўшыся, ў адно слова праказалі:

— Мы павінны...

Атрымалася нечаканым і сьмешным.

— Кажы, ну,—падаў Яўсей.

— Кажы ты,—перадаваў яму пяршынства Якаў Гузік. Аднак, ніводзін не пасьпеў вымавіць і аднаго сказу, як да іх данёсься рэзкі гоман з процілеглага боку вуліцы. Яны настаражыліся.

— Палікараў голас,—шапнуў Якаў Гузік Яўсею.

— Няўжо?

— Я табе кажу... Во, чуеш.—Яны прытуліліся да шэрае сьцяны будынку і сталі прыслухвацца.

— Вось зараз ён пачухае тылак,—казаў Палікар Скрынка дваім сваім спадарожнікам:—Яму гэта гаспадараньне вомегам вылязе. Знайшоўся!.. З гразі ды ў князі... Гэта табе, галубчык, не бывалашняе... Трэба забыць...

— Не, ты яго, Палікар, памастацку пакрыў... Паглядзі, ажно ня ўстоіў і сышоў са сцэны... Го-го-о! Міла было глядзець... Абіў усю пахвальбу...—падхвальваў Палікара Скрынку чыйсьці голас.

— Я яму вольна дыхнуць ня дам... Ня я буду, калі ня выжыву яго з заводу... Не пасобіць нічога і Яўсей...

— Зазнаўся, сукін сын... Ты паглядзі, пройдзе майстэрнямі, дык як стары гаспадар... Жыла!.. Вось і заўчора—падыходзіць да мяне і зразу: „у вас недагледжаны варштат“, і бярэ, ведаеш, анучку ды пачынае пры ўсіх падчышчаць... Ласьне гэта таварыскія адносіны да нашага брата—рабочага. А запытай Самуся, штодзень, сукін сын, падсочвае за кожным, ці не спазьніўся на хвіліну-другую...

— Начальству падлагоднівaецца... Бяз мыла лезе... Го, цяпер пайшоў народ!..

— Праўду, Палікар, кажаш—трэба гадаў асякаць... Няможна даваць зазнавацца... Барані божа...

— Не зазнаецца... Калі не паможа словам, дык...

Далейшыя словы гутаркі скраў раптоўны стук брамы ў суседнім доме.

Якаў Гузік парыўна адхіліўся ад сьцяны і намерыўся ісьці ўсьлед зьнікшым Палікару з падарожнікамі. Яўсей яго перапыніў:

— Куды ты?

— Цікава даслухаць... Ці чуў ты? Вось, браток, і разгортвай работу!.. Ах! Ты ведаеш...

Яўсей узяў Якава Гузіка пад руку і завярнуў назад...

— Ці-ж варта прыслухацца да таго, што шэпчацца па кутках, украдкам, з боку людзей... Я табе кажу, што падобныя людзі ня ў моцы выйсьці з рамак балбатуноў...

— Няпраўда, Яўсей... Наша нарада паказала... што мы ня можам або ня хочам падтрымаць на належнай вышыні аўторытэту тых, каму даручаем адказную працу... Праз гэта многае губіцца...

— Недаверак, скажу табе... Якаў... Кінь... Табе даверылі—трымай...

Яны параўняліся з дваром Якавінавай кватэры. Якаў Гузік прасунуў руку за зашчапкаю.

— Ды я... не падамся пустой дэмагогіі... Я ня сыйду займа здароў са шляху творчае працы... Намесьнікам, загадчыкам ці каля варштату—я роўна шчыры работнік... І мяне ня любіць той, хто ня ўмее і ня хоча працаваць...

Стукнула зашчапка, і дзьверцы, як на спружынах, адскочылі ад вушака.

Якаў Гузік працягнуў Яўсею руку.

— Ваша ўстанова павінна быць на маім баку.

— Якаў... ці-ж можа фабзаўком ісьці супроціў уздыму нашае вытворчасьці?

— Мне здаецца, ні ў якім чыне... На гэта ён ня мае права...

## X

— Я чуў, таварыш Гузік, што ў вас тут гібель непаразуменьняў?—перайшоў Фанарнік да дзелавое гутаркі...

Якаў Гузік павярнуўся да адчыненага вакна і праказаў:

— Ёсьць... Няма чаго хаваць...

— У чым-жа справа? Вы хіба не патрапілі?..

— Так,— хапіўся Якаў Гузік за Фанарнікаў сказ:—не патрапіў... Я мерыўся ў адно, а пацэліў у іншае...

— Як гэта?

— Ды так... Я паспрабаваў крыху націснуць на нашу нядбайнасьць, як атрымаў адбой... Не падабаецца некаторым...

— А ласьне на нашым заводзе гэта наглядалася?

— Тварыш Фанарнік, вы хіба ня бывалі ў нашых майстэрнях?..

— Вы за мяне...

Фанарнік пачырванеў і рушыў з-за стала...

— Вас ня было і, бязумоўна, я мусіў за вас...

— Так, гм... ці надоўга...—У скрыжаваным тупаньні па канторы Фанарнік зьнянацку наткнуўся на Якава Гузіка. Абодва папрасілі адзін у другога прабачэньня і разышліся на значны адгон...

— Я ня ведаю, чым я вам замінаю?..—праказаў Якаў Гузік і азірнуўся да дзьвярэй.

У гэты момант у кантору ўбег майстар сьлясарнай Лазар.

— Я болей не магу так... Гэта чысты крымінал... Як назнарок... Учора зламалі варштат, дык даў выгавар. А сёньня прыходзяць з эркаі і абвінавачваюць у грубых адносінах да рабочых... Я пытаю ў вас аднаго, таварыш Фанарнік, ці мы павінны ламаць машыны з падзякаю, ці нам... Я болей не магу так; я прашу зьняць з мяне абавязкі загадчыка майстэрні...

Фанарнік крыху памаўчаў, пасьля адвярнуўся да Якава Гузіка і праказаў:

— Пайдзеце з таварышам Лазарам і выясьніце ў чым рэч...

— Давайце ўсе разам пойдзем,—пазваў Фанарніка Якаў Гузік.

Фанарнік падняў вочы ўгору, паглядзеў крыху на замусьленую люстру пад стольлю і адказаў:

— Я маю больш важныя справы, таварыш Гузік. Мне да нядзелі трэба прадставіць падрабязны плян пэрспэкцыйнага разьвіцьця нашага заводу... Я буду прасіць вас...

— Але-ж вы ўжо болей трох тыдняў, як ня былі ў заводзе... Я хоць пакажу вам тое, што ў вашу адсутнасьць завёў... Ці ўхваліце вы, ці можа...

— Я згодзен з усімі вашымі новаўводамі, але-ж павінны зразумець, што на мне ляжыць...

Фанарнік нэрвова падбег да пісьменага стала, адчыніў шуфлядку і пачаў выцягваць з яе кіпы папер. Яго вочы пуглíва бегалі па дробным шрыфту зялёных і сініх літар, па няроўных радкох рукапісаў. У тоўстых, мазалістых руках камячыліся дакладныя запіскі, проекты, пляны,

разважаньні. Па ўсьцішанай канторы хадзіў разьюшаны шам і шорпат папяровых лістоў.

Якаў Гузік з-пад ілба сачыў за ўсім гэтым, нясупынна прапускаючы тварам нецярплівую ўхмылку. Побач яго стаяў Лазар. Гэты натужна чакаў, чым кончыцца цягучая, густая маўклівасьць, і азіраўся ў вакно. Ён перапалохаўся, калі раптам Якаў Гузік мерзкануў яго за полу і пацягнуў да выйсьця.

— Вось табе прыклад увагі,—праказаў ён да Лазара за дзьвярыма:—А пасьля скажа, што без яго я ня мусіў...

Лазар згодліва паківаў галавою.

— Я разумею, таварыш Якаў, што табе вельмі цяжка ў гэтых умовах працаваць... Толькі скажу адно—цябе рабочыя паважаюць... Я пераканаўся цьвёрда. Бачыш, як праводзілі тваю прамову на нарадзе? Як прагліва лавілі кожны сказ твайго заключнага слова?.. Ды ў заводзе можна чуць шчырыя спагадлівыя водгукі аб тваім кіраўніцтве. Не патурай на адзінкавыя выступленьні... Гэта выключнасьць... Гэта болькі, якія лёгка загояцца самі сабою. Зусім іншае са мною. Мне трэба пакінуць сьлясарную... Я не магу далей.

— На гэтыя болькі трэба добрага хірурга, таварыш Лазар,—не згадзіўся Якаў Гузік.—Пакуль яны загояцца, многа крыві атруцяць... Глядзі, вось, ці гэта лад, каб сярод работы майстар пакідаў майстэрню і бег прасіць дапамогі?.. Ласьне можна ўносіць падобныя перабоі ў працы?..

Абое да таго захапіліся гутаркаю, што не заўважылі, як падышлі да варот заводу. Угледзеўшы іх здалёк, Самусь адчыніў дзьверцы і стаяў на выцяжку. Лазар паглядзеў на яго і штурхануў Якава Гузіка.

— З якога гэта часу?—шапнуў ён.

— Гэта?..

Якаў Гузік абарваў сказ на слове: ім перагарадзіў дарогу прэдзаўкому Яўсей.

— Ідзяце?.. А я накіраваў па вас... Дзе таварыш Фанарнік?— Сухасьць у яго голасе зацікавіла Якава Гузіка.

— Чаго ты па нас?

— Рабочыя прасілі; яны самахоць наладзілі сходку і хочуць акрэсьліць да вас свае адносіны.

Для Якава Гузіка Яўсеева паведамленьне было нечаканым. Яго заінтрыгаваў і ў той-жа момант нашарохаў сход рабочых. „Штоб-то было?" кальнула думка. І, падганяны ёю, Якаў Гузік хутка зашагаў да заводу. Лазар пайшоў за ім, а Яўсей заднім...

Яны былі каля дзьвярэй у завод, як на дзядзінцы паказаўся Фанарнік. У чатырох, адзін за другім, яны ўвайшлі ў майстэрні заводу і кучкаю згрудзіліся ў праходзе паміж фразэровачнай і сталярнай. Прайсьці ўглыб было нельга: перад імі тоўпіўся мітынг, слухаючы імпровізаванага прамоўцу. Стоячы на сталярным варштаце, з гэ-

блем у руках, прамоўца гукаў: „Я сьведчу ад усяго нашага цэху, што Якаў Гузік — найлепшы таварыш. Ён ні разу не пераступіў мяжы таварыскіх адносін... Нам трэба раз назаўсёды сказаць—досі тузаць нашу адміністрацыю за няма нішто. Паводзіны некаторых з нашых таварышоў павінны быць зьнішчаны... Што гэта—служба агульнай справе, ці дзяльба чужога?“

Яшчэ ня сьціхлі з боку рабочых гукі адабрэньня яго словам, як чарговы прамоўца з тымі-ж палкасьцю і рашучасьцю бараніў Лазара: „Ніхто ня скажа бяз задняй думкі, што Лазар—дрэнны гаспадар. Ніхто, за выключэньнем рэдкіх ядынак, не паскардзіцца на яго адносіны да нас. Трэба адкрыта сказаць, што таварыш Лазар дрэнны майстар для дрэнных рабочых. Нельга папускаць разбазыранасьці ў часе працы. Няможна патураць дурасьлівасьці... Вы, таварыш, з рабоча-сялянскае інспэкцыі, так і запішэце... Мы ні ў чым не вінавацім ні Якава Гузіка, ні Лазара Стукалкі“. Апошнія словы прамоўцы зьліліся ў гучных воплесках сходу, які, сьцяною павярнуўшыся да месца, дзе стаялі Якаў Гузік, Фанарнік, Яўсей, і Лазар, гукалі „брава“...

— Я вельмі рад, таварышы рабочыя, што вы...—зрабіўшы два крокі наперад, загаварыў расхваляваным голасам Якаў Гузік...—У мяне не хапае падзякі, якую я мушу вам падаць за вашу ўвагу... не да мяне, не да Лазара, а да тэй працы, да тае справы, на якую мы разам з вамі пастаўлены. Я веру...

Гучны, урачысты сьвіст сірэны падхапіў яго словы і панёс далёка высока па-за сьцены заводу.

# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА

*(CHCl=CH) 3 As* (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

„Не магу маўчаць, бо не хачу ўдзельнікам быць“.

*Золя.*

„Я адмаўляюся: ад лёгкадумнае надзеі на паратунак праз выпадак; ад тупога чаканьня, якое тупы сэнс ня можа распазнаць“...

*Клозэвіц.*

De te fabula narratur. Гэта твая справа, чытач, якая тут робіцца.

## Уводзіны

Рукі прэч!

Рукі прэч ад гэтае кнігі, калі вы перасычаны і калі вас да сьмяротнага ванітаваньня нудзіць, жадаеце толькі забіць некалькі з вашых гультайскіх гадзін!

Сьмярдзячай падле нашага часу я ня ўю вянкоў.

Аслаблы дух нашых афіцыяльных поэтаў здавальняе ўжо надзвычайна гэткім патрэбам. Што ўтварае сёньня боль: гэта адухаўленьне, адвага, пагарда да сьмерці паасобных людзей, цьвярозасьць, мэтаўпэўненасьць і яснасьць. Аб'яднаньне, непарыўнае адзінства ўсіх, хто ў поце твару працуе. Гэтае аб'яднаньне і ёсьць вялікая разрыўная міна, якая дзень за днём разрываецца і калісь падарве падмурак гэтага гнілога грамадзтва...

Справа ідзе не аб поэтычных вынаходках, фантастычных конструкцыях або зданях.

Справа ідзе аб дзеяньні, аб учынках, аб здарэньнях.

Справа ідзе аб тым, што існуе і ідзе цьвёрда; ідзе аб тым, што было, ідзе аб тым, што будзе.

Гэтая кніга, зразумела, ня дзіця таго духу, што „над вадамі лунае“, яна нарадзілася з рачаіснасьці і нясе на сабе яшчэ выразна, усім відадавочна, адзнакі гэтага пекла пакут. І цела таксама: сталёва-шэрае ў рубцох, шчылінах: члены моцна зьвязаны, рукі цяжка вісяць з плеч: малаткі, сякеры, ламы. Крывавы рух мускулаў. Гэта не клясычнае пешча-

нае цела, не напарфумленая лялька з часу сумленных фольваркаў, не лятуценны нягоднік романтыкі: гэта ўсьцяж пакрытае дзюркамі ад ран пакутнае цела працоўнага народу, раскрыжаванае ў чадзе газавага параваньня, пылу, дыму, копаці, аблепленае атрутнымі мухамі з здыхляціны. Гэта—пакутнае цела працоўнага народу ў тым гістарычным пэрыодзе, калі ён зрываецца з крыжа, зыходзіць і ставіць перад сабой на калені зброд сваіх катаў... Мільёнагалосны крык, песьня паўстаньня і жальбы, якую пяюць мільёны мэталёвых агнёвых языкоў. Хай гэтая кніжка, як жывая істота, у будучым часе прыме зноў удзел у тых бойках, аб якіх яна крывава сьведчыць, хай стаіць яна ў агні і сваёю крывёю яшчэ чырваней фарбуе чырвоныя сьцягі, пад якімі яна служыць як салдат рэволюцыі. Аб „каханьні“ гутаркі будзе ня многа.

Гэтая кніга—гэроічная поэма. Дзе мільёны, якія крычаць „голад“ і з бясформенай масы набываюць сабе больш пэўны выгляд, а затым кіруюцца на роўнядзь гісторыі,—у жалезнай рытміцы гучыць і голас крыві, як мэталь. Лабы паднімаюцца адзін супроць аднаго, як высечаныя з граніту. Бубен сэрца б'е на барацьбу і марш. Думка чалавека-барацьбіта выступае як калючае полымя! Іншым, як ты быў калісь, знойдзеш ты зноў сябе раптоўна праз гады нанова народжаным з згубных крызісаў, як з пякоты гамарні.

Вялізны прарыў тых чалавечых армій у будучыню пачаўся ўжо даўно. Месца барацьбы—сьвет. Пляц барацьбы не адзначаны па нацыях і часьцінах сьвету. Усе паўзьмежныя слупы сьвету хістаюцца, як здань у чырвоным ветры буры, як пужалы для птушак... Усюды, дзе людзі зьвязаны між сабой у процэсе працы, усюды па ўсёй зямлі, нават у найглыбейшых глыбінях колёній грыміць навальніца...

Выўчайце гісторыю Эўропы, Эўропы на краю бяздоньня!

Прысьвячаецца нямецкай соцыяльнай рэволюцыі, якая ўжо надыходзіць!

## Разьдзел першы

„Deutschland über alles!..

„Нямеччына вышэй за ўсё!..

Эпізоды з дзён лістапада 1918 г. — „Нямеччына вышэй за ўсё!..“ „Шпітальная поэзія“. Прысьвячаецца тым, якія спраўляюць патрыётычныя памінальныя сьвяткаваньні гэрояў. — Сьвятая сям'я. Trio. Чалавечы кал.—Багі валяцца.—„Ідзі сваім шляхам!“

### 1

Восень, лістапад 1918 г., чатыры гадзіны раніцы.

Апошнія нямецкія войскі пераходзяць Рэйн.

Зданьнёвыя кучы туману коцяцца па абодвух берагох Рэйну, вадзяныя масы пад мастом бягуць з падземным рокатам і непакойна, цяжка накладзены човен плыве маўчком, быццам ён, як здань баек мінулых

вякоў, бродзіць па бясконцаму сну. Толькі готычна зубкаваты шпіц Кёльнскае катэдры высоўваецца з туману, як верхавіна магутнага чорнага масыву.

Здалёк заглушаны звон катэдры падае марудна і марудліва на зямлю,—цяжкая мэталёвая кропля...

Гэта была пераможаная штурмавая пяхотная колёна, рэшта калісь гордага нямецкага палка, які цяпер ішоў бяз кроку: зарослыя барадамі твары, касьцявыя целы ў раздрапанай зьлінянай форме, якая вісела і целяпалася, у шапках ці бяз шапак, той-сёй яшчэ ў сталёвым шаломе, з струпехлай раздрапанай малпай на сьпіне, з стрэльбай, дзіркай к нізу, за плячыма. Коні, высілёныя да шкілетаў, перад адзінай паходнай кухняй спатыкаліся і падалі на калені. Роўнадушна саскакваў з сядзеньня салдат, колёна на хвіліну спынялася, хто праціскваўся ўлева ці ўправа па краі дарогі, потым зморaны трэск бізуна, і коні стаялі зноў хістаючыся, і кучка салдат зноў пачынала маршыраваць.

Каманды ня было больш. Ніводнага слова не гаварылася. Аднак, бывала, што адзін ці другі раптоўным рухам абарачаўся, хутка хапаўся за зброю, ківаў, асабліва сьмяючыся, галавой і пачынаў маршыраваць, быццам ніколі інакш ня было і не магло быць...

Яшчэ за два дні...

Адзін падлічыў:

„Да, гэта двойчы дваццаць чатыры гадзіны...“

Значыць: толькі што з гранатнай ямы, як выпечаныя з гразі...

А баявая оркестра-асілак раўла сымфонію барабаннага агню, сталёвых бур і жалезнага гурагану; forte, fortissimo; хвалі газу наплывалі нявідна, таемна; і вось ужо загрымеў фінал блізкага бою над агароджанымі калючым дротам узоранымі гранатамі лябірынтамі акопаў: глухі трэск ручных гранат, якія разрываліся ў падземных акопах, чалавечы крык то булькаючы, то „гу-гу“ і бой штыхом...

Сон? Ці рачаіснасьць?

У тых, што тут маршыравалі назад у родны край, сьвядомасьць зьнікла, мазгі былі пустыя, толькі нейкае імкненьне гнала іх уперад; улева, управа, улева, управа, твар апушчаны данізу, туды, дзе ўсе ідуць, дзьве ногі ў ботах ці абсац пярэдняга, які цяжка ступае ў вулічную гразь.

Аб нейкім адпачынку ці нават аб ядзе ніхто і ня думаў.

Калі яны маршыравалі праз сяло, так здавалася ім, быццам жыхары палахліва саступалі ім з дарогі, ніводны чалавек не паказваўся, усе дзьверы і вокны былі моцна зачынены нават яшчэ і цяпер, калі яны ўжо цэлы дзень знаходзіліся на нямецкай зямлі.

Надыходзіла раніца.

Не, гэта ня быў ангельскі танк, які раптоўна і хутка пратрымчэў з расшчэпленых хмар туману, і не агнякідальнікі, якія, пырскаючы вадкі

фосфар, скручваюць у паветры цэлыя камякі згарэўшага чалавечага мяса; ні лёгкая пяхотная гармата, ні самалёт, які нізка над зямлёй пралятае над позыцыямі...

Нічога, нічога больш з таго...

Гэта былі вінаградні, узгоркі, чысьценькія камянічкі з лесьвіцамі і добра пракладзенымі праз вінаградныя краткі сьцежкамі, шпіцы царкоўных вежаў блішчэлі. Сваімі кіямі тыкалі салдаты ў кучах лісьця; гэта было сапраўды прыгожае, вільготнае, чырвона-бурае лісьце.

Аднак, ліхаманкава гарэўшыя вочы салдат зноў шукалі зямлю, адчувалі сябе ня зусім добра, штурхаліся і абмацвалі адзін аднаго, і ўжо прызвычаіліся, што ў каго чаго не хапае, ні трупаў, ні расьціснутых рук, ні тулаваў, якія кіпелі ў сьпякоце; ні паху, які густа паднімаўся з зноў разрытых гранатамі масавых могілак... Чыстае і вострае было паветра, туманы паднімаліся ўгару. Адзін засьвісьцеў ужо, другі ў тахт яму стаў напяваць, троху-патроху зноў зрабіліся шэрагі, усё мацней і мацней адбіваліся крокі і, самі таго не адзнаючы, маршыравалі яны праз сяло ўжо роўным крокам.

Ім ужо махалі рукамі, людзі стаялі ў дзьвярах і вокнах і ласкаваківалі, і ў той момант, калі яны толькі мінулі апошнія дамы, прарвалася поўнае сонца. Разадрана і расшчэплена вісеў кругом туман, верхавіны дрэў хісталіся, так што апошняе лісьцё падала з іх; вялікія агнёвыя сонечныя праменьні цьвілі на прасторы сьвятла...

Як раптам адзін з ландштурмістых (апалчэнцаў) у сярэдзіне колёны голасам, перарыўчатым ад слёз, крыкнуў: „Таварышы! Глядзеце: сонца над Нямеччынай!“

Гучыць трубны сыгнал.

Б'е барабан.

Сотня галоў цягнуцца ўгару. Зноў б'юцца у тахт сотня сэрцаў.

І з сотні высахшых ад смаку крыві і пораху горлаў з рыданьнем раздаецца песьня:

„Deutschland über alles!..“

(„Нямеччына вышэй за ўсё!..“)

2

І Пётра Фрыд'юнг, тады яшчэ толькі 22-гадовы хлапец, знаходзіўся сярод тых, якія вярталіся дамоў. І ён запеў зараз „Deutschland über alles“...

З песьняй „Deutschland über alles“ ішоў у пачатку вайны полк ахвотнікаў на штурм, з песьняй „Deutschland über alles“ на вуснах былі маладыя ахвотнікі, змолатыя ў кашу трупаў.

Пяць разоў за вайну быў Пётра Фрыд'юнг ранены за „Deutschland über alles“.

А зараз?!

Калі-б усьцяж на мяжы Рэйну ляцеў самалёт, дык ён мог-бы выразна назіраць, як васьмімільённая нямецкая армія, накшталт вялікага струменю гразі, рушылася дадому, як масы армій усмактваліся гарадамі, як даўката цягнікоў на геомэтрычных фігурах чыгунак, а там ужо зноў цягнікі ў поўным парадку—цягнік за цягнікам—туга каціліся далей...

Увечары колёна, у якой служыў Пётра Фрыд'юнг, была ў трох кілёмэтрах ад чыгуначнай станцыі, дзе яна павінна была накіравацца на Мюнхэн.

Матрос, дужы чалавек, нехта ў цывільным адзеньні з шышкаватым чырвоным носам і трэці ў шэрай паходнай форме, усе з чырвонымі павязкамі на руках сустрэлі іх пры ўваходзе ў сяло і прапанавалі ім скласьці зброю.

„Значыць, справа сталася фактам. Рэволюцыя!", вызначыў таварыш Фрыд'юнг.

„Тут у вясковай школе Савет рабочых і салдат".

Усе тыя, што вярнуліся, глядзелі адзін на аднаго нерашуча. Але ім ня далі часу абмеркаваць.

Зьявіўся ўзброены аддзел чырвоных павязак. Колёна была зараз-жа абяззброена.

У першы раз можна была зноў чуць аб здарэньнях на роднай зямлі.

„Войска па аддзелах паўстала. Бойкі на вуліцах. Кайзэр уцёк. Новая ўлада. Соцыялістыя..."

Калі перакласьці гэта на мову немца,—вырашыў Пётра,—дык гэта абазначае, што: знадворна Антанта перамагла, а з тым відавочна ўнутрана—бязьвераньне, адсутнасьць радзімы, панаваньне просталюду, анархія.

На вуліцы перад чыгуначнай станцыяй сабраліся вялікія аддзелы войскаў, усе без афіцэраў: яны, казалі, раптам парабіліся цывільнымі. Пелі Інтэрнацыянал, салдаты стаялі поруч, ва ўсіх былі садраныя цэшкі і пагоны... Калі-ні-калі адзін з іх садзіўся на плечы таварышоў і гаварыў прамову, тады крычалі ўсе: „Hoch! Hoch! (Ура! Ура!). Далоў! Далоў!"

Знайсьці таварышоў, з якімі Пётра вярнуўся, ужо было нельга.

Ён стаяў сярод бязладзіцы адзінока.

Ён наогул ня ведаў, што з сабой рабіць.

Ён прыпамінаў сабе, што ён за вайну чытаў і чуў аб рэволюцыйным руху.

Па імені ведаў ён, натуральна, пра Карла Лібкнэхта, гэтага ганебнага зрадніка, як яго тытулявалі заўсёды афіцэры на сваіх п'яных пагулянках, аб якім казалі, быццам ён вельмі багаты, мае шмат дамоў, якога падкупіла Антанта з тым, каб нямецкаму народу ў ваенных крэдытах...

„І другія ня будуць амаль што лепш, чужаеды нашай перамогі, крыва-ўласьнікі народнага няшчасьця, якія выступаюць са словамі толькі ў момант поўнай бязладзіцы, абамленьня і безабароннасьці народу.

І слухаюць іх, на жаль, з прычыны нямецкага глупства, даверлівасьці і палітычнай неадукаванасьці.

І востра ў кожнай сваёй страшэннай падрабязнасьці ўстала ў памяці Пётры тая раніца, пачатак таго дню наймагутнейшага бою, які бачыў толькі заходні фронт.

Гураганны агонь спыніўся. Пяхота пайшла на штурм. Ад позыцыі да позыцыі. Толькі палі кратэра зьявіліся зараз па сыстэме ворага магіламі нашых.

Хвалі пяхоты прарвалі ўжо вялікую дзірку на фронце ворагаў, і „цяпер з ангельцамі ў мора“,—радаваліся, упэўненыя ва ўдалым прарыве розныя палкі рознастайных нямецкіх пляменьняў; ужо быў адданы загад: „Коньніца, наперад!..“ Тады неспадзеўна вышаў на контр-атаку рэзэрвны дывізыён канадцаў. І вось заграджальны агонь уласнай артылерыі спыніўся, усе патроны, гранаты, знарады былі расстраляны; ні адкуль ніякай дапамогі; ніводнага стрэлу; толькі гарматы ворагаў білі самымі цяжкімі знарадамі, слуп пылу паднімаўся высока за слупом, і пачалася ўпартая бойка штыхамі, нажамі, рыдлёўкамі і рукамі, адзін на адзін; а ўвечары нямецкія войскі былі прымушаны крок за крокам аддаць з вялікімі стратамі занятыя позыцыі, і прарыў на фронце ворагаў зноў быў без астачы запоўнены.

Яшчэ ў тую-ж ноч прышлі весткі:

Фабрыкі знарадаў у нямецкай бацькаўшчыне бастуюць. Артылерыйскіх знарадаў на фронце няма. Цяпер закрывай фронт, дзе ён прарваны, голым целам з нажом у зубах. У бліжэйшыя дні нельга спадзявацца на знарады...

Дзікая клятва помсты вырвалася з сэрцаў франтавікоў; нікому не хапала пальцаў пералічыць страчаных сёньня дарагіх яму таварышоў; гвалтоўна растаптвалі іншыя пакеты з падарункамі ў зямлю і пагражалі страшэннымі тварамі:

„Удар кінджала ззаду! Ну, пачакайце, калі мы вернемся! Тады мы грунтоўна разаб'ем гэты нячысты соцыялістычны зброд...“

Але ўсё гэта хутка было забыта. Большасьць, як здавалася прынамсі тады Пётру, зрабіліся самі падсобнікамі гэтага соцыялістычнага зброду, зрабіліся вялымі, бурчэлі, а няўгодлівых афіцэраў расстрэльвалі ззаду ўсё часьцей... Нават падвязваньне да дрэва на цэлы дзень, як сродак процi парушэньня субордынацыі, і паасобныя расстрэлы не дапамагалі...

Пачаўся моральны распад нямецкага фронту.

Халодны, як лёд, ад унутранага ўзбуджэньня, вачыма поўнымі нянавісьці глядзеў Пётра навокал.

„Зброд б'ецца, зброд...“

„Не, ня трэба было нам зброі...“ Нават самыя верныя і надзейныя схаваліся зараз у мышыныя норкі.

Зноў прашумеў цягнік з крыкамі „ура“ і чырвонымі сьцягамі...

Рабы крывы чалавек у цывільным адзеньні накінуўся на Пётру, садраў з яго цэшку. „Падла!“

Пётра стаяў, як разьбіты паралюшом, усьміхаўся і заікаўся.

Той пайшоў далей.

Тады выцiснуў ён з зубоў:

„Сабакі! сьвіньні! манюкі! нікчэмныя падлюкі!..“

Восенная бура мяла. Дахі на дамох грукалі. Увесь сьвет быў як абгрызены касьцяк...

„Eine feste Burg ist unser Gott!“

„Цьвёрдая цытадэля ёсьць наш бог!“

Гэты хораль моцна гудзеў у ім з тысячамі званоў у цудоўных гучных скрутках, і ўсё-ж ткі зоркі блішчэлі, неба паднімалася скляпеньнем у бясконцыя бязьмежныя петлі і крывыя лініі і кідала агні... Ці ня быў гэта водбліск бога, таго мірыяда—вочнага бога, які стварыў сьвет, пакрыў яго зьзяньнем глянцовага пласта, бліскам услаўленьня, які дапамог людзям у гэтай даліне плачу? Таго бога, чыё дыханьне падобна да морскага спаду і пажару, чыя сэкунда замыкае ў сабе тысячы чалавечых гадоў, які быў усемагутны зьдзьмухнуць найвышэйшыя на чалавечай зямлі горныя масывы як пяшчынку!? Мора, усе вялікія і малыя акіяны— гэта толькі малы глыток у келіху боскае рукі. Хіба ня быў увесь сьвет адны магутныя арганы, якія ўслаўлялі вечнага, а кожнае тварэньне ня было клявішамі, на якіх творца ўсяго, творца сьвятога парадку, усіх істотаў і рэчаў, праўобраз усяго тварэньня, выклікаў моцныя, адважныя, узьнёслыя акорды, а таксама і праразьлівыя дысонансы з тым толькі, каб у канцы разьвязацца ў тым мацнейшае разрастаючае „Алілюя“!

Зацiснуты паміж зусім абаўшывелых і запушчаных салдат, якія цынічна клялі бога, кайзэра і бацькаўшчыну, набліжаецца Пётра да айчыны.

## 3

Пётра знайшоў сваіх бацькоў дома ў прыгнечаным настроі. Праўда, вісеў вянок з „міласьці просім“ і чорна-бела-чырвоная істужка над дзьвярыма, але выплаканыя вочы маткі паказвалі яму, што яна ўжо шмат дзён і начэй была няпэўная ў спатканьні з сынам.

„Вось-жа ён!“ абняў яго бацька. „Ну, дык так! Зноў падаравалі нам цябе, як адважнага нямецкага гэроя. Відаць, што і трымаў ты сябе чыстым. Таксама бяз плям і ганьбы захаваў ты гэрб свайго гонару. І жалезны крыж! Цяпер магу я спакойна памерці... Якая радасьць!“

„Так, Пётра, добра, что ты зноў з намі!“ прывітала яго маці, пасівелая і згорбленая. „Ну, адпачні! Вайне канец!“ Гэта казала яна нарасьпеў, тонам, якога Пётра ніколі раней ня чуў у яе.

Пётра маўчаў. Так стаяў ён сярод пакою, усё трымаючы пад рукой сталёвы шалом. Сьлёзы стаялі ў вачах. Але тое, што матка выказала,

гучэла так, быццам вайна яшчэ ня скончылася, ніколі ня скончыцца, быццам ён пойдзе далей, і зьмяніў толькі поле бою, магчыма нават адных таварышоў на другіх. Магчыма нават тут-жа ў Нямеччыне, калі меркаваць па тым, што адбываецца. Мускул проці нэрва, жыла проці жылы, мазгі народу проці мазгоў, сэрца проці сэрца...

Хіба ня гучэла тое, што казала матка, быццам з тым ніколі канца ня будзе, быццам гэтая вайна была нават толькі мірная прэлюдыя і быццам зварот у дом бацькоў ёсьць для Пётры толькі кароткі адпачынак, каб хутка зноў...

Быццам вайна як рака.. Калі згода,—цячэ яна няпрыкметная, падземная, перасыпаная сьляпучымі каменьнямі, з тым, каб раптам, неспадзеўна для тых, хто ня ведае законаў руху ракі, зноў вырвацца на зямлю з пылам, булькатаньнем і кіпеньнем.

„Не, вайна ня скончана!“ крычала ў Пётры ўнутры, калі ён глядзеў у вочы матцы, тупыя ад страху і клопату. „Згода ёсьць толькі вялікае ашуканства, сродак аглушыць, парашок для супакою. Вайна пачалася, каб больш ня скончыцца. Ізоляцыйныя баракі і шпіталі, як ён іх бачыў і перажываў, будуць будавацца па ўсяму сьвету. Зараз яна сьпіць, толькі лягла паспаць; вайна, слухайце, храпе, яна сьпіць пасьля ап'яненьня крывёю. Потым яна зноў устане—сьвежая, магутная, галодная, прагавітая, як яна ёсьць, паднімаецца ў паветра і ляціць! ляціць! ляціць! Паляціць яна і зараз і расьсяе атрутны газ, семя: газ, газ, газ... І ўзойдзе гэтае семя, страшэнная болька ў кожных чалавечых грудзях, як палючая высыпка, якая робіць болькі па ўсяму целу, як нараст, што выклікае шал у мазгох кожнага... Якое дзеяньне на глыбіню! Ён пажне сьмерць багата...

„А хто-ж ёсьць вайна!?“

„Людзі!?“

„І якія людзі!?“

Пасьля полудню бацька ўстаў, адзеўся і запытаўся ў сына:

„Пойдзем разам паслухаць „Trio“?“ Паглядаючы на матку, Пётра нерашуча згадзіўся.

Варочаючыся дадому, бацька пачаў:

„Ты ведаеш, Пётра, што ў сябра савету народнае асьветы доктара Рэйхліна нельга пытацца аб яго сыне. Не датыкацца да гэтага! Старога шкода. Трэба з ім быць тактоўным і стрыманым. Жах, якая доля!“

Пётра задуменна кіўнуў.

„А які слаўны хлопец быў малады Рэйхлін; ніяк не зразумею“. „Дый для мяне гэта загадка. Звычайнае зацямненьне ад умоў жыцьця, блытаніна, можа, інакш не растлумачыць!..

І якое дакладнае выхаваньне даў ён свайму сыну. Дзіўна, як можа чалавек вырадзіцца!..“

У „Trio“, якое адбывалася раз у тыдзень у пышна абсталяваным васьміпакаёвым памяшканьні нежанатага дэкана Лямпэрта, прымалі ўдзел

паны дырэктар фабрыкі Іоахім Гэльмэр, сябра савету народнае асьветы доктар Рэйхлін і бацька Пётры—старшыня земскага суду доктар Фрыдзюнг. Тады прысутнічалі яшчэ госьці: падпалкоўнік Гугэнбург, Эміль Фрэйвольф, рэдактар вялікай лібэральнай газэты, ваенны дапішчык, вядомы Паўла Брац, які славіўся ў грамадзе шукачом прыгод, раней лейтэнант войск абароны, у часы вайны звольнены за хронічнае п'янства; цяпер ён бадзяўся па ўсіх санаторыях Нямеччыны і валачыўся за жанчынамі.

Грамада была ўжо ў зборы, калі зьявіліся доктар Фрыд'юнг з сынам. Большасьць гасьцей Пётра ўжо ведаў.

„І як-жа ён зьмяніўся! Сын мой, ты зрабіўся куды сталейшы". Шырока і спакойна, як статуй Лютэра, усеўся перад Пятром дэкан.

„Так, сапраўды, вайна ёсьць найлепшы настаўнік! Гэта бачым мы зноў. Бог мае свой удзел у гэтым. Бог хацеў, каб мы ўтварылі гэты суд, і на нашым баку чыстата моральнага сумленьня. Як узгодніць канец вайны з гэтым фактам: шляхі боскія няведамы. Магчыма, што вялікія часьці нямецкага народу, пераважна ніжэйшыя слаі і галоўным чынам працоўныя масы прамысловых раёнаў, не зьявіліся яшчэ даволі падрыхтаванымі для гэтага боскага заданьня. Мы ідзем насустрач цяжкім часом. Аднак, моладзь належыць нам і з ёй і будучына, і калі-б уся моладзь Нямеччыны складалася толькі з Фрыд'юнгаў... тады Нямеччына ня зойдзе... Ну, сыне мой, сядай..."

Яшчэ адну хвіліну пачакаў дэкан.

„Ну, хіба ня я казаў заўсёды, што пруская лейтэнанта ня так лёгка падрабіць..."

Пан Брац дастаў свой монокль і ўставіў у вока.

Старшыня земскага суду Фрыд'юнг кланяўся на ўсе бакі, дзякуючы за прывітаньне.

Толькі сябру савету народнай асьветы доктару Рэйхліну моўчкі сьціснуў ён руку.

„Зноў будзе добра... Толькі галаву ўгару! Адвага..."

Хлапец з гэтакімі здольнасьцямі, як вашы, пан дырэктар... Я прапаную: банкавую кар'еру. Зараз гэта—найпэўнейшае..."

Усе згадзіліся з фабрыкантам. „Я з ахвотаю зьмесьціў-бы яго ў сябе... Мне трэба бязумоўна надзейныя, ад усялякіх забастовачных узрушэньняў застрахаваныя людзі, зараз больш, як калі-небудзь".

Тымчасам рэдактар, падпалкоўнік, пан Брац сабраліся разам.

„Правільна, зусім, як вы кажаце: вайна ня толькі неабходны элемэнт у народным жыцьці, але яна ёсьць яшчэ неабходны фактар культуры, найвышэйшая моц і выяўленьне жыцьця сапраўдных культурных народаў".

Падпалкоўнік адухоўлена дапоўніў рэдактара:

„Ня толькі біолёгічная канечнасьць, але і моральнае патрабаваньне і, як такое, неабходны фактар культуры..."

„Панове, пабачце, як ідзе цывілізацыя ў колёніях. Колёніі нам патрэбны, гэта ёсьць жыцьцёвая канечнасьць для нямецкага народу. Праца ў колёніях ёсьць неабходна крывавая праца, і апраўдваецца выпіханьнем паганства хрысьціянствам. Нас зноў усе прымушаюць там ўнізе скончыць з чорнымі. Нават ад страты цэлых пляменьняў з іх паселішчамі нельга, на жаль, ухіліцца...

Культура! Культура!.. А потым да мінулай тэмы: забойства аўстрыйскага насьледніка. Я кажу: калі калі-небудзь крывавая афяра мела вызваленчую і паратунчую дзейнасьць, так гэта была тут...“

Група зноў разышлася і дыскусія стала агульнай.

„Агулам, мая думка: соцыял-дэмократы, што проці іх ні гавораць, павінны зараз справу пакінуць. Нам трэба нарыхтаваць політыку на доўгі час... Наш час прыдзе. Трэба чакаць!..“

Брац энэргічна пярэчыў фабрыканту.

„Не, зусім ня так“. Ён гаварыў аб нелегальных організацыях, замахах, клюбах змоўнікаў, ударных войсках, якія зараз павінны быць сформаваны з актыўнейшых і надзейнейшых элемэнтаў бацькаўшчыны, каб энэргічна ўзяцца за „лістападаўскіх“ злачынцаў... „Як, вы бачыце, рабочыя падзелены на два варожыя лягеры. Соцыялістыя ў барацьбе са спартакаўцамі ня змогуць абыйсьціся бяз нашай дапамогі, і мы павінны прадаць і прадамо гэтую дапамогу як найдаражэй. „Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісьці“... Так нас не здаволяць. Ніколі... ніколі...“

„Панове, ня будзем спрачацца! Я стаю за два жалезы ў агні!“—замяшаўся дэкан. „Легальныя спосабы, а таксама прапановай пана нельга пагрэбаваць... Для народу трэба на ўсякі выпадак захаваць рэлігію. Тут справа ня ў розуме ці глупстве адзінак, а ў ратаваньні душы. Што мае значэньне для адзінак, мае значэньне і для цэлага. Унутранае ўдасканаленьне, вось што нам трэба“.

Загаварыў і бацька Пётры:

„Галоўная справа ў тым, каб падтрымаць павагу да ўлады.

Я, з свайго боку, ня чытаў у соцыял-дэмократаў з моманту пачатку вайны нічога такога, што пярэчыла-б тэорыі аб непарушнасьці дзяржавы. Наадварот, іх партыя за вайну ўтварыла сваё мінулае!.. І, панове, форма дзяржавы для нас ужо ня так важная, справа ў зьмесьце“.

Падпалкоўнік перапыніў яго:

„У кожным разе, зараз трэба нам крок за крокам, як магчыма даўжэй, абараняць нашы позыцыі, даць уладу соцыял-дэмократам, цішком ганьбіць іх панаваньне, зрабіць іх існаваньне немагчымым у вачох найшырэйшых народных колаў і назаўсёды, а потым, калі дзяржаўны апарат застанецца параўнальна ня кратаны ў нашых руках, калі-небудзь, я прадпалагаю з гадамі, перайсьці да генэральнага нападу... Панове, практыку вайны магчыма дапасоўваць і да мірнага часу... У кожным разе сьпех, надта раньняе афяраваньне нашых пастаноў каштавала-б нам надта

дорага. У нашы дні, панове, дні чырвонага патопу, найменшая тактычная памылка павінна быць аплачана крывёю!..“

„Так і ёсьць ужо: з воўкамі жыць...“ пацьвярдзіў сябра савету народнай асьветы доктар Рэйхлін. „У сэрцы нашым ёсьць і застаемся монархістыя. Але на практыцы магчымы і такія акалічнасьці, што мы здаволімся і рэспублікай. Калі прарракаць, можа надыйсьці дзень, калі мы ўсе зьявімся найпэўнейшай апорай рэспублікі .. Ня сьмейцеся, не качайце недаверна галавой...“

„О!“ запярэчыў патэтычна Брац, „калі наблізіцца дзень лёсу і над намі павісьне змрок багоў, тады лепш у бушуючым баі, чымся ў крадучайся кволасьці...“

„І я таксама знаходжу, доктар Рэйхлін, што гэта гучыць па Канту“, філёзоўнічаў цяпер дэкан. „Такім чынам монархія была-б адзінай рацыянальнай формай дзяржавы, але, так кажучы, толькі як постулят практычнага розуму, ажыцьцяўленьне якога ніколі сапраўды ня будзе дасягнута, дасягненьне якога будзе як-бы мэта і павінна трымацца, як настрой.

...Гэта магчыма выказаць і хрысьціянскі—тэрмінолёгічна“.

„Панове“, буркнуў цяпер падпалкоўнік, „я думаю, што гутарка гэтая завядзе нас надта далёка... Лепш—мала аб тым гутарыць. Заўсёды аб тым думаць...“.

„Праўдзіва, тут справа ў дзеяньні“ зрабіў вывад Брац...

Старшыня земскага суду сядзеў ужо пры роялі.

Фабрыкант настрайваў скрыпку. Сябра савету народнай асьветы сядзеў за віолёнчэлем.

„У апошні раз мы займаліся Бэтховэнам. Паглядзімо, што з гэтага выходзіць“.

Трыо пачалося.

Старшыня земскага суду адбіваў тахт...

Раскідана сядзелі ў пакоі рэдактар, падпалкоўнік, дэкан, Брац і Пётра.

Дэкан думаў аб нядзельным казаньні. Трэ‘ было быць асьцярожным і ўсё выказваць прыпавесьцю. Клапаціла яго трохі і магчымае адлучэньне царквы ад дзяржавы. Ен шукаў усё адпаведнага тэксту для будучай нядзелі. Вядома было, што ён гаварыў так жаласьліва, што людзі плакалі... Прышла яму на розум слыннае слова апостала Паўла: „І калі-б ня мелі любові!..“

На практыцы дасканала. Ён выцягнуў кніжку для запісу і накідаў плян. Натуральна: любоў, любоў і яшчэ раз любоў: хрысьціянства і соцыялізм, соцыялізм і хрысьціянства, толькі два розныя выразы для аднэй сутнасьці. Дзейнічаць прымірэнча! І да чаго лепшага магчыма было-б заклікаць у такі час, як не да любові, саманаглядданьня, працы над сабой; форма дзяржавы і знадворныя соцыялістычныя посьпехі на другім пляне. Чалавек ёсьць найгалоўнейшае, унутраны чалавек; аб ратаваньні душы

чалавека ідзе справа... А гукі трыо паднімалі яго: ён ліхаманкава рабіў нататкі ў кніжцы, і калі яны скончылі „трыо" цудоўным piano-pianissimo, прычым асабліва захапляюча гучэла скрыпка, ускочыў ён радасна:

„Дзякую, панове, тут маё нядзельнае казаньне! Дасканала ўдалося..."

Пётру ў часе канцэрту прыходзілі ў галаву жартаўлівыя думкі. „Франтовая сьвіньня купаецца ў концэрце!" Ці „пачастунак з вушыных рубцоў" і „смажаніна з нядзельнага казаньня", і „рагу з лагоднага мяса старэйшага сябра консысторыі" і г. д. Глядзеў ён і з юрлівай злосьцю на пана Браца каля сябе, гэту ўсё грымасьнічаўшую морду з моноклем... Але і журналісты не заставаўся бяз працы.

У яго мазгох стаяла ўжо спрытна гатовая перадавіца „аб новым духу часу". Тут былі раскрытыкаваны востра і дакладна грахі і шмат памылак мінулага рэжыму, а потым рупліва і замілавана прадстаўлена ўсё добрае, сумленнае і праўдзівае мінулых часоў, усё, што трэба хаваць і пеставаць далей, і, нарэшце, была падана, як балянс, заклёнцая формула проці бальшавізму і анархіі, якая пагражае ўсім духоўным і маральным творам культуры. Весткі падарожнікаў з Расіі, зьявы жаху, поўныя фантастычных выразнасьцяй, былі лоўка ўплецены, а галоўным чынам тут быў гучны і перасьцерагаючы голас за недатычнасьць прыватнай уласнасьці.

А Брац, наадварот, марыў паміж „піаніно-фарбаў-клявілюкс", „сонечнай машыны" і „ўзьдзеяньне грамофонаў на неграў", а потым думаў аб Люсі, жанчыне добрай пароды, кельнэршы з бару, і аб тым, як было-б магчыма дастаць грошы, жанчыны дорагі, гэта старая рэч. Ці не дастаць грошы ў клюбе, патрыотычным клюбе змоўцаў, да якога ён належаў. Але ён (клюб) яшчэ не раскачаўся: багатых сяброў яшчэ няма, аднак чаго няма, тое ўсё-ж ткі можа быць...

Падпалкоўнік аддаўся музыцы. Праўда—гэта ня маршавая музыка, думаў ён, і духавыя інструманты не даюць так лятуцець. Усё-ж ткі гэта мастацтва, узьнёслае, вялізнае. Толькі мастакі—іншая рэч... Наўпроці Бэтховэна без дысцыпліны быў Гётэ—дасканалы чалавек... Потым заўважыў ён нехаця, што ён у цывільным. Прыгожая старая форма. Можа яшчэ і дажыву да таго: сонечны бляск, грудзі ў ордэнах, вуліцы запёртыя для параду... ужо гучаць крокі... Тут якраз скончылася „трыо" pianissimo.

Яшчэ некалькі музычных нумароў. Скрыпічнае solo. Марш па асобнаму жаданьню падпалкоўніка, і вечар „трыо" скончыўся.

І вось госьці засталіся яшчэ за поўнач.

„Жыхары былі-б павінны для абароны сваёй уласнасьці аб'яднацца, за спакой і парадак, проці грамадзянскай вайны і анархіі".

„Ужо зважана і разьвязана".

„Урэшце, што да нашай рэволюцыі, дык ад удару такіх малойчыкаў, як Толлэр, якія цяпер так раскрылі раты, асабліва вялікай небясьпекі няма. Яны самалюбны аж да перакіданьня, іх трэба песьціць, гэтых

ветрагонаў. . Трэба іх трохі ласкатаць, схіляючыся быццам перад іх геніяльнасьцю, якой у іх і сьледу, натуральна, няма; трэба ім праз прэсу лоўка нагаварыць, быццам яны маюць сусьветную місію, і з імі магчыма тады зрабіць, што толькі хочаш. Бальшавікі ўжо іншыя людзі, літыя, тыя ведаюць, прынамсі, чаго яны жадаюць. З імі кашы ня зварыш. Рускі запал, амэрыканская грунтоўнасьць: гэта іх галоўныя якасьці, у гэтым не адмовіць ім і самы ліхі вораг...“

„Таксама і ў школе на кожнай лекцыі паказваем мы, якія небясьпекі пагражаюць нашай бацькаўшчыне. Нашы хлопцы, слава і падзяка богу, разумныя, і адразу пойдуць, калі пачнецца...“

„Напэўна і ваш сын“, падміргнуў дэкан на Пётру, які сядзеў як скамянелы.

„Само сабой зразумела,“ адказаў за яго бацька. „Ён заварожаны ад бальшавіцкай атруты. У гураганным агні ён закаваўся ў панцырную скуру. Фрыд'юнг і бальшавік—гэта агонь і вада“.

„І я таксама думаю!“ засьмяяўся дэкан здаволены.

Яшчэ раз зацягнуліся сыгарамі, спаражнілі рэшту з піўных шклянак і падняліся.

„Такім чынам скажам мы ў аўторак на наступным тыдні!“ Стаялі ўжо каля дзьвярэй.

„Няўжо ж мы гэтак разойдземся пасьля такога вечара; як-ні-як а гэта быў прывітальны вечар для маладога Фрыд'юнга. Гэтак разыйсьціся без...“

Усе згадзіліся жыва з прапановай рэдактара.

Старшыня земскага суду сядзеў зноў за роялем.

„Але пст... ціха, калі ласка!“ упрашаў дэкан, „а то будуць няпрыемнасьці“.

І яны запялі заглушанымі галасамі:

„Deutschland über alles“.

Пётра ня пеў.

Ен гаварыў ціха, цьвяроза і суха з сабой словы тэксту. Як мэханічны контрольны апарат. Пры гэтым ён назіраў сьпявак. І пры апошнім вершы сказаў упоўголаса:

„Вы... нікчэмныя... падлюкі“.

Унізе яны разьвіталіся.

Брац стукнуў перад падпалкоўнікам абсацамі і выцягнуўся. Пётра ледзь скланіўся. Брац прайшоў яшчэ кавалак вуліцы з абодвума Фрыд'юнгамі. Свой монокль ён зноў засунуў у вока.

„Асьцярожнасьць найперш за ўсё. Мой дэвіз—прадаць жыцьцё найдаражэй...“

І, зварачаючыся да Пётры, запытаўся:

„Вы-ж будзеце, напэўна, прадаўжаць заняткі ў унівэрсытэце?! Напэўна ў Бэрліне? Я магу даць вам рэкомэндацыі ў корпарацыі...“

„Дзякую“, запярэчыў Пётра халодна.

Брац разануў кіём па паветры, так што засьвісьцела.

„Паслухайце, гэта прускі сьвіст. ...Хутка прыдзе вялікі, сьвяты, рашучы дзень...“ Пры гэтым прагудзеў ён мэлёдыю. „Хіба вы ня ведаеце адкуль гэта? Не? З Вагнэра „Тангэйзер“, трэці акт... Я ўсё думаю аб бедным, вартым жалю старшыні савету народнае асьветы. Як робяцца сыны пятлёй для бацькоў! Бедны стары разьбіты чалавек...“ разважаў старшыня земскага суду. Гэта быў офіцыяльны сакрэт: „сын доктара Рэйхліна быў за паўстаньне і здраду на вайне адданы пад ваенны суд, засуджаны на сьмерць і расстраляны“.

4

Матка Пётры яшчэ ня спала, калі бацька з сынам прышлі з „трыо“ дамоў.

„Дзіця маё, ты перажыў цяжкое. Я скажу табе: калі ты зноў адойдзеш ад нас, тады канец і мне. Ты пэўна ведаеш, што мы жывем з бацькам дрэнна. Толькі з-за цябе я засталася тут. Але цяпер ты ўжо дарослы і я табе больш не патрэбна...“ „Усё-ж ткі, усё-ж ткі!“ заікаўся Пётра, але ня змог вымавіць больш ні слова.

„Найлепш, Пётра, я зараз сёньня разьвітаюся з табою: ты прыклад для ідэалістычна настроенага маладога немца. Як ты прабіўся ў гэты час?! Як ты з ім справішся?! Што з цябе яшчэ выйдзе. Я быццам усё гэта ведаю. Я прадчуваю нешта. Але пакуль я маўчу. Нарэшце: няхай, Пётра, людзі гавораць, а ты ідзі сваім шляхам... Гэта наша разьвітаньне. Бывай здароў! Добрай начы!“

Зноў маўчаў Пётра.

„Але што ёсьць праўда?! Што павінен я рабіць?..“

І спаў Пётра неспакойна.

Ён спаў у тым самым пакоі, у якім ён спаў яшчэ дзіцянём; там на сьцяне віселі яшчэ дубовыя вяночкі, яго першыя прызы за плаваньне і футбол, а там у першай шуфлядзе шафы ляжалі яшчэ яго падручнікі і сшыткі. Непасрэдна з гімназіі пасутпіў ён у полк, за час свайго вайскоўвага навучаньня рэдка прыходзіў ён дамоў. „А цяпер, а зараз, што з мяне станецца?“

Бацька Пётры быў старшыня земскага суду, судзьдзя ў найвышэйшай грамадзянскай установе. Найлепшы дзень у яго жыцьці, як ён сам бязупынна падкрэсьліваў, быў тады, калі Пётра выступіў з палком самаахвотнікаў, з пучкамі кветак на шаломе, і пучком сьпераду ў рулі: гэта была велічная процэсія адных пышных маладых людзей з песьняй „Птушкі ў лесе“ на вакзал. З боку яго на тротуары ішлі тады бацька і матка, абое рыдалі; Пётра і рыдаў і радасна сьмяяўся; увесь горад быў у сьцягах, вянкох і кветках: выступленьне гэтага палка самаахвотнікаў выклікала сьлёзы радасьці...

...Многа гадоў таму назад Пётра падслухаў аднойчы ў гэтым пакоі ўначы гутарку бацькі з маткай.

Бацька Пётры быў тады прокурор і абвінавальнік у вядомым процэсе славутага разбойніка Алоіса Кпэйзэля. Кпэйзэля залаталі сьпярша ў хірургічнай клініцы, раненага жандарамі пры арыштце, а потым перадалі кату.

Гэта здарылася, напэўна, у ноч перад карай сьмерцю, бо бацька загадаў служцы разбудзіць яго акурат у пяць гадзін раніцы. Будзька быў старанна настаўлены. Таксама дастаў ён сурдут, цыліндар, белыя глянсавыя пальчаткі, добрыя камашы, сьвежую каляную кашулю і манжэты з чырвонымі, як рубін, гузікамі.

Пётра прылажыў вуха шчыльна да сьцяны, калі ён пачуў першыя ўсхваляваныя словы маткі. „Не, Гэнрых, пры найлепшым жаданьні я не магу больш з табой жыць", плакала матка, „ты забойца, вінны ў подлым барбарскім, праклятым забойстве...

Прашу цябе адпусьці мяне".

Бацька гаварыў спакойна і глыбокім голасам аб дзяржаве, аб неабходнасьці захаваньня аўторытэту, аб моднай тэорыі кары, па якой кара ёсьць, папершае, выкуп у рэлігійным сэнсе, а потым таксама профілактычна дзейны момант застрашэньня і, патрэцяе: вызваленьне грамадзтва ад грамадзянскай небясьпекі вядомых шалёных людзей.

Аднак, аргумэнты бацькі ня мелі посьпеху ў маткі, яна ўсё яшчэ рыдала. „Гэта-ж фальшывасьць, глыбокая хлусьня... Я не магу выказваць гэтага на словах, але маё чуцьцё, мой інстынкт гаворыць мне гэта... Ах, божа-ж мой, божа, чаму ты гэтага ня бачыш, так закажанеў, хто мог-бы падумаць..." І матка ціха плакала ўсю ноч.

Адзін раз закрычала яна: „Хіба-ж ня бачыш ты яго перад сабой: твар яго апошняй ночы—вялікі, аграмадны, тут і шыя і цёплае цела...

Гэты далёкі погляд... Ах, як, ты мне прыкры... Больш не магу я вытрымаць з табой".

Ізноў прыпадак сьлёз.

„Дык ты ненавідзіш мяне?" запытаўся бацька.

„Дасі мне дзіця!?"

„Ні ў якім разе..."

„Каб ты выхавала мне яго злачынцам найпадлейшым і зьвярыным злачынцам!?"

Цяжкі ўдар.

Крык высокі і зычны...

Хоць Пётру тады было толькі восем гадоў, ён адразу пазнаў: бацька пабіў матку.

І Пётра захістаўся, быццам сам атрымаў удар, зваліўся назад на ложак і пагрузіўся ў цяжкі, падобны да абамленьня, сон.

Як залаты дождж, роіліся анёлы і пяялі, як пчолы выглядалі яны, а зямля ўнізе была нібы нязграбная, цёмная, набраклая куля крыві.

І матка была тут, надпрыродная постаць, лашчыла яго крывавыя раны на галаве, і Пётра напружваўся, каб кроў ішла мацней, цякучая кроў была яму прыемна; яна цякла і цьвіла бясконца пучочкамі і ягадамі ў нябесным садзе...

Матка ў тую-ж ноч уцякла. Бацька ўстаў роўна ў пяць гадзін раніцы.

Калі ён у паўдня прышоў дамоў, Пётра паглядзеў на яго многазначна і з запытаньнем. „Няўжо бацька сапраўды яго забіў?“

Але адзеньне бацькі было бездакорнае, чорнае: зручная хатняя куртка. Ён сам быў як выглянцаваны, нідзе крывавай плямы, нават на манжэтах. „Хіба ён падвязаў сабе хвартух, як на разьніцы?“ Пётра хацеў даведацца, ці зрабіў ён гэта ўласнаручна, сякерай ці вострай брытвай. Усё яшчэ глядзеў Пётра многазначна, з запытаньнем. Але бацька маўчаў, даведаўся аб школьнай працы Пётра і сеў за гуся.

Праз восем дзён вярнулася матка дзеля дзіцяці.

„Дзяцінства чалавека ёсьць рашучы момант у яго жыцьці. Што-б ні здарылсая паміж нас, Генрых, што-б трапілася—ня ёсьць галоўная рэч. Мая пастанова: я застаюся... Я не магу інакш... Таксама застаюся я пры думцы: кару сьмерцю можна ўжываць толькі проці тых, якія самі гвалтоўна ўжываюць гэтую сыстэму...“

Але з тэй ночы матка зрабілася зусім іншая. Нешта асаблівае, рэдкае здарылася з яе нэрвамі, казалі людзі... Можа якая душэўная хвароба...

Яна больш не зьвяртала ўвагі на аддзеньне, днямі нічога ня ела і ня піла; яна адпусьціла слугу, усё рабіла сама. Калі бацька адзін раз загаварыў аб тым, што гэта не адпавядае іх становішчу, з ёю здарыўся прыпадак. Пачалі баяцца, што яна на доўгі ці на кароткі час зробіцца шалёнай. Яна больш не дазваляла сабе ніякай радасьці. Трэцяе слова ў яе было: берагчы. Гадзінамі сядзела яна на бальконе, яе губы варушыліся, яна ківала галавой, уздыхала... Бацька і матка—кожны з таго часу пайшоў асобна сваім шляхам.

Толькі калі гутарка заходзіла аб Пётры, аб яго здольнасьцях, прызначэньні, будучыне, тады спляталіся на момант іх шляхі, каб зараз зноў разыйсьціся ў процілежным кірунку.

## 5

І зноў нахлынулі на Пётру ўспаміны аб вайне, як цяжкі сушачы зваротнікавы віхор:

Вось сярод брызантных знарадаў стаіць чалавек, акружаны воблакамі атрутнага газу пад фосфарным агнём, як пад белым, нібы крэйда, душам. Адзеты ён у форму, падобную да адзеньня вадалаза, якая робіць яго рухі нязграбнымі і нязручнымі. Надзетая на яго процігазавая маска

канчаецца зьверху авальным сталёвым купалам-шаломам. У роце трымае ён канец фільтра, кароткі тоўсты хобат. Шрубы, ручкі, падважнікі, манометры кругом пояса. Навокал цела гумавыя трубкі, аплеценыя дротам... Гэтая форма аблягала яго, як шчыльна прыложаны да цела пляйстар. Насычаная атрутным газам яна выклікала на скуры сьвярбячыя пухіры. Ужо пачаліся, пайшлі гнойныя гангрэнозныя пухліны ў дыхальным горле і ў гортані; крывавыя рвакі. Ён заліваецца пад сьмяротным потам і прыпадкамі ўдушша ў соках уласнага цела. Лёгкія набраклі, як нассаўшаяся вады губка. Скура і адзеньне зьліпаліся ў адну студзяністую мокрую, прасякнутую гноем масу. І вось форма-скура, скура-форма пачала саскабляцца, і чалавек стаяў ужо голы і агалёны, як бясформены кавалак сырога крывавага мяса, як забітая скаціна, якую жывою забілі і асьвежавалі паводле ўсіх правіл моднай навукі і ваеннага штукарства. Сонца душыць з неба, як распаленая пячатка. Усё цела гарыць, як у вадкім агні. А з выпаленых да вугалю западзін выкачваюцца ў яго вочы— дзьве белаватыя кулі, як у рыбы, якую вараць у катле... І гэты кавалак сырога крывавага мяса, які заве сябе чалавекам, варушыцца, жыве: гэта ёсьць чалавек, іх шмат, цэлы народ людзей, цэлы народ сырых крывавых кавалкаў мяса з рукамі і бяз рук, з нагамі і бяз ног, без галоў, а каторыя з сінявата распухшымі галовамі... Адны з іх ёсьць ужо такія, а другім яшчэ прыдзецца ў хуткім часе зрабіцца такімі. І вось, прысуджаныя да страшэннага лёсу, пачынаюць яны жыць, ажываць, адзнаваць сябе, яднаюцца крывавы з крывавым і вылязаюць з казармаў, фабрык, брацкіх магіл, маршыруюць па шырокай вуліцы, дзе цьвіце вялікі, прыгожы, вясёлы, шырокі, бясклопатны, шчасьлівы сьвет, дзе жыцьцё пануе і прагульваецца: трубны гук—увага, вы, далікатныя пані і панове, вось ідзе сьмярдзючае сырое крывавае чалавечае мяса; яно ідзе, коціцца, як гнілы струмень, раве ад болю, кляне хорам і рыкае... Пані высока паднімаюць свае спадніцы: асьцярожнасьць, каб іх не папэцкаць, мужчыны глядзяць смутна на свае запэцканыя лякавыя бацінкі і гамашы. Не, найгарачэйшае сонца не гарыць так горача, як гэтыя раны, ніколі так чырвана, як гэтая фарба ран... А з разьбітых прыкладамі сківіц, на якіх яшчэ вісяць ясна на жылах палова, тры чвэрці сківіц, сьвішча, сычыць і скуголіць песьня: „У родным краю ўбачымся". „Асадзі назад", лаецца афіцэр з крывавым кавалкам чалавечага мяса, калі ён хоча прабіцца праз загароду на вялікі пляц, дзе сьвяткуюць сьвята ўспамінаў гэрояў. „...Быў у мяне таварыш!" грала вайсковая оркестра. Крывавыя ліхтары сьвецяць.

„Я невядомы мёртвы салдат!"—гаворыць крывавы кавалак чалавечага мяса.

„Прашу слова на гэтую тэму, і я маю што казаць, я жадаю гаварыць".

„Не падходзьце..." „Гэткая грубасьць! Гэткая адсутнасьць такту!" ужо бурчаць дробна-буржуазныя душонкі і яра сьціскваюць кулакі. „Што гэта вам уздумалася? Няўжо вам ня сорамна? У гэтакім адзеньні і сярод

белага дня! Голыя!.. Вы выклікаеце агульнае абурэньне! Гэта шкандал! Зброд мерцьвякоў, гэта, проста кажучы, дрэнь...

„Назад! А то я мушу ўжываць зброю. Я маю найстражэйшыя інструкцыі дзейнічаць бяз літасьці. Трымайцеся спакойна і не займайце паважнасьці і ўрачыстасьці сьвята! Гаворыць пан генэрал фэльдмаршал...“

„Хто?“

„Прашу ў апошні раз, ня то буду страляць. Вам тут няма чаго шукаць...“

Але ўжо сьвісьцяць гумавыя дубінкі, штыкі бяруцца на-перавес, конная сотня асобнага прызначэньня нясецца галёпам, бранявік гручыць...

„Аднэй сьмерці вам, відаць, мала; ідзеце зноў у брацкія магілы ці зноў на крыж! Гэткія людзі, як вы, ня могуць быць актыўнымі сябрамі новага грамадзтва...“

У гэты момант другая колёна выступае проці паліцэйскага ланцуга, чырвоны сьцяг на чале, моцна грыміць песьня: „Настане дзень жаданай помсты, тады мы зьявімся судзьдзёй...“

„Гэта нашы прадстаўнікі, вось сапраўдныя схоўнікі вашага вялізарнага, каштоўнага, пакутнага скарбу“, кажуць засечаныя крывавыя кавалкі мяса... „у іх рукі будучына кладзе мінулае як законную спадчыну. У гэтым захаваны і наш лёс“...

Адным рухам абудзіўся ад сну Пётра, крыкнуў „Жоні“, і перад ім блізка стаяў бядак з амэрыканскага газавага палка, якога ён паланіў на аднэй з небясьпечнейшых мінных позыцый ворагаў. Жоні не прасіў міласьці, не абараняўся. З нязвычайна сумным выразам у вачох глядзеў ён на немца і сьціснуў проста і шчыра яму руку, калі ён ня кінуў нарыхтаваную ручную гранату.

Жоні быў адзін, сын дробнага амэрыканскага фэрмэра, працаваў у пачатку вайны на мылаварні, трапіў у газавы полк і зараз потым быў адкамандыраваны ў Эджвуд—вялікі амэрыканскі вайсковы арсэнал.

Тры месяцы прабыў ён у Эджвудзе і потым прыбыў на фронт.

У часе зваротнай дарогі разгаварыўся з ім Пётра праз перакладчыка і даведаўся, што там робяцца досьледы з газавымі маскамі і газавым занядужаньнем на жывых людзях. Спачатку досьлед на жывёле, а потым чалавек...

„Дык гэта-ж вівісэкцыя“,—запярэчыў Пётра, і амэрыканец кіўнуў галавой. Кожны салдат меў пры сабе так званы другі жалезны паёк, які павінен ужывацца пры пэўных сымптомах пасьля газавага атручаньня. Гэта яна, атрута, якая выклікала раптоўную сьмерць і ратавала ад яшчэ горшай сьмерці ад газу. Быў таксама намер ужываць гэтую атруту ў стасунку да цывільнага насельніцтва пры атрутна-газавых атаках з самалётаў.

„Вы на сваім франтавым вучастку, здаецца мне, жывяце як на месяцы“, заўважыў перакладчык, гледзячы, як Пётра зацікаўлены гэтым. „У нас

робіцца тое самае... гэта не навіна, да гэтага часу яшчэ ня вырасла, на жаль, на чалавечай зямлі зельле проці газавага атручаньня.

Аб гэтым клапацяцца найвялікшыя аўторытэты. Дарма. Абарона проці газу вядзецца шляхам мерапрыемстваў, якія практычна ня могуць быць ажыцьцёўлены... Шмат хто з нас гінулі штодзённа пры іспытах проці-газавых масак у поўных газаў памяшканьнях. Аднак і фабрыкі дастаўляюць дрэнныя вырабы. Найгоршае ў гэтай галіне даволі добра для франтовай сьвіньні. Голы, аголены чалавек ёсьць найтанейшы матэрыял. Усялякія накладныя выдаткі робяць рэч даражэйшай. А справа павінна даваць барышы... Мала таго: калі хто захварэў ад газаў, дык пачынаецца па лазарэтах лячэньне. Даволі пра гэта... Хто гэтага не пражыў, усё роўна не паверыць...

Гутарка паміж немцам і амэрыканцам не цягнулася, аднак, доўга: падышоў тоўсты, грубы фэльдфэбаль і, убачыўшы амэрыканца, выхапіў аўтоматычны левальвэр, пакруціў ім некалькі разоў і забіў Жоні са словамі: „ах ты, сьцерва“.

„Ты, свалата!“ закрычаў на яго Пётра і схапіў з паса ручную гранату.

Надасьпеўшыя таварышы хутка ліквідавалі сутычку, якая ня мела ніякіх вынікаў для ўдзельнікаў.

Праз тыдзень Пётра, ранены штыхом у сьцягно, быў адпраўлены у лазарэт.

6

Гэты лазарэт быў у поўным сэнсе слова прытулкам морфіністых і кокаіністых.

Ня толькі галоўны ўрач упырскваў сабе і нюхаў, але ўсе асыстэнты і ўвесь тэхнічны пэрсонал былі заражаны хваробай. Лазарэт быў разьмешчаны ў паласе агня, і тыдню не праходзіла, каб цяжкі знарад ня падаў на адзін з баракаў і разрываўся тут пад шалёнае выцьцё ўсіх хворых.

У той час, як Пётра там ляжаў каля трох месяцаў, здараліся яшчэ напады самалётаў, якія вельмі дрэнна ўплывалі на нэрвы.

Салдаты называлі гэты лазарэт „атрутнымі арэлямі“, і былі там, галоўным чынам, хворыя ад газавай атруты.

Было там і аддзяленьне для вар'ятаў, але, істотна, хворыя мала чым адрозьніваліся адзін ад аднаго.

Тут ляжалі, галоўным чынам, паралітыкі і заікі. Усе яны пры ўзрушэньні нэрвовай сыстэмы ад вайны былі параліжаваныя. Выпадкі ачуньваньня бывалі рэдка з прычыны дрэнных умоў і абыходжаньня. Як вадаспад у бяздоньне, несьліся яны да магілы.

Кокаін ня толькі нюхалі, але і ўпырсквалі вялікімі дозамі, асабліва тыя, хто прыўчыў сябе да яго.

У пачатку лячылі „газавых“ хворых шмараваньнем і тлёнам, а пасьля, калі вострая небясьпека мінала, хапаў няшчасны морфій, а потым кокаін

Новая хэмічная матэрыя выклікала ў большасьці болькі, адкрытыя раны, якія не гаіліся і даходзілі аж да касьці. Шмараваньне, перавязваньне тут мала дапамагала. Становішча лёгкіх было больш, чымсь безнадзейнае. А ў большасьці газ выклікаў глыбокія зьмены ў крыві. Белыя крывяныя цельцы зьмяншаюцца, чырвоныя зьмяняюць сваю форму і масамі гінуць. Фарба скуры ад складу крыві зьмяняецца зусім да жоўта-шэра-бронзавай. Назіраліся і адклады жалеза ў пячонцы і селязёнцы. І кожнаму, хто выпісваўся з лазарэту, заставалася яшчэ прыемная надзея на так званую „позную" сьмерць, якая часта прыходзіла зусім неспадзеўкі.

Палата, дзе ляжаў Пётра, была „сэптычная", палата, у якой былі зьмешчаны, „гнойныя", галоўным чынам з эмфызэмай лёгкіх.

Чатырнаццаць чалавек напоўляжалі на паходных ложках з тоўстымі папяровымі павязкамі навокал цела, гумавымі трубкамі паміж адкрытых рэбраў, праз якія выцякаў з запаленых лёгкіх гной. Цепламер хадзіў бязупынна па палаце, тэмпэратура была галоўнай тэмай гутаркі. Супроць гнойнага смуроду пырскалі „ сасновым духам", а дактары заходзілі ў палату толькі з цыгарай у роце.

Кожны быў недаверлівы да другога, зайздросна спасьцерагаў кожную розьніцу тэмпэратуры; вялікая зларадасьць бывала, калі ў каго цепламер паказваў некалькі градусаў больш. Кожны без надзеі на паратунак быў нявольнікам сваёй „крывой" тэмпэратуры, па гэтай „крывой" адчуваўся і рытм сьвету. Бывалі і бойкі пры разьмеркаваньні харчу, і тыя, хто адчуваў сябе пакрыўджанымі, кідаліся на сваіх кастылях з ложкаў на тых, хто атрымаў ад сястры, на іх думку, больш яды. Аднойчы ў аднаго хворага разьвязалася павязка пры гэтым, і вадкі гной паліўся і запэцкаў падлогу.

...Калі быў хто зноў „на чарзе", яго выправаджвалі на ганак, а хворыя крычалі яму ўсьлед: „добрай папраўкі!.."

А пякельныя пакуты ад „пролежняў"! Праз кароткі час зьяўляліся яны і, ня гледзячы на стараннае і частае абмываньне сьпірытусам, шмараваньне і пудру, рабілі дзіркі з кулак; самым хворым падкладалі паветраныя ці вадзяныя падушкі, але раны гнаіліся, а хворы гніў цяпер ня толькі з сярэдзіны і зьверху, але і зьнізу. Гэткаму пакутніку здавалася, быццам ён на „пролежнях" смажыцца на распаленых жалезных плітах.

Дапамагалі трохі тут розныя „наркоцікі".

Было немагчыма абыйсьціся бяз іх у выпадках удушша і корчаў. Пры першым ужываньні: надмернае бяспрычыннае вясельле, пацыенты гутарылі бесьперастанна дзень і ноч, і з сэнсам і бяз сэнсу, будавалі пляны, прапанавалі з заміламаньнем і самаафярнасьцю модэль азбэставага адзеньня проці ўсялякага газу. Ідэі, фантастычныя ўяўленьні ганяліся адно за адным у іх галаве. Кожны быў да часу задаволены сваім становішчам, пакуль сястра не затрымаецца са шпрыцам.

А затрымаецца—паднімаецца формальнае паўстаньне: рычаць, званяць. Уся палата корчылася, як у прыпадку вар'яцтва... Гэтаму хутка дапамаглі тым, што далі кожнаму хвораму здавальняючую порцыю атруты і кожны рабіў сабе ўпрыскваньне сам.

І вось кожны дзень новыя болькі: іх рэзалі, хворыя сядзелі па паўдня ў ваннах, пакуль не зьяўляліся фурункулёзы, флегмоны па ўсяму целу і пры праколваньні шпрыцам скуры пырскала гнойна-вадкая жыжка.

А пасьля шмат гінулі ад тромпозу (закаркоўваньне жыл).

Тады на зьмену зьявіўся кокаін.

Хворыя ўжывалі яго ўжо некалькі тыдняў, пакуль ім усім ня сталі чуцца галасы, зьяўляцца фігуры, якія клікалі іх па імені, пагражалі ім, схілялі іх да распусты. Праз сьцены прасоўваліся электрычныя голкі, утыкаліся ў іх цела... І зноў галасы зьверху, зьнізу, побач... праклінаюць, лаюцца...

Потым атручаным кокаінам здавалася, быццам іх палата абярнулася ў яму ад разрыўных знарадаў: ім чулася бязупынная страляніна. Адзін хворы падпаліў свой ложак, але гэта ў пару было заўважана наглядчыкам.

Другі ўсё пеў аднастайна сабе пад нос: „О, дзіўнае фосгэннае паветра! ты мая зорка...“, пакуль яго не закідалі першымі трапіўшымі пад руку рэчамі. Пасьля гэтага, у сувязі з будучай рэвізіяй, норма наркоцікаў для хворых была зьменшана.

Хворыя пад уплывам эфіру, хлёроформу жралі цэлымі пляжкамі вэрональ, другія, каб адвучыць сябе ад наркоцікаў, пілі алькоголь з пантопонам, іншыя ўжывалі „снатворныя“ і ляжалі цэлымі днямі задушаныя паральдэгідным парам, а іншым, якія не пераставалі бушаваць, доктар даваў скополямін, які паралізаваў усе здольнасьці чалавека: ён не разьбіраўся ў мясцовасьці, твар рабіўся вузкі, голас глухі і цьвёрды... і ляжаў ён так на цьвёрдым паходным ложку як у глыбокім бяздоньні...

„Вар'яцкая“ кашуля больш ня ўжывалася.

Таксама і Пётру зараз пасьля яго прыезду былі прапанаваны наркоцікі.

„Вельмі добра! Вы не павінны адмаўляцца ад гэтага. Проста: нірвана...“

Гэтак прапанавала яму, соладка сьмяючыся, сястра.

„Нявыгойная хвароба ёсьць самы чалавек, хвароба, якую трэба зусім вытруіць“, думаў Пётра з пачатку. Далей ён ня думаў... Ён не адкінуў наркоціка: прыемная, цеплаватая вадкасьць разьлівалася ў яго па ўсіх жылах, прабягаючы па ўсяму целу.

І аднойчы ўбачыў ён: ён ня можа бяз іх абыйсьціся.

Калі ён прапускаў упырскваньне, дык валіўся, быццам зусім пусты, як парожні мех, трасучыся ўсімі нэрвамі з аднэй думкай: „шпрыц“...

Сястра заходзіла зноў:

„Ага, я-ж вам адразу казала: ня думайце многа. Гэта ўжо ня так дрэнна...“

Тады дапамагалі яму добра ўспаміны дзяцінства, якія зьявіліся для яго якарным ланцугом яго жыцьця.

Былі там горы і сьцежкі праз горныя даліны, былі роўнядзі, лясы на кругавідзе, як густыя цёмна-зялёныя хвалі, засеяныя горчанкай і хмызьняком альпійскія лагчыны; лясныя ручаі над бяздоньнем; быў там і стары горны павадыр, самабытны дзівак, цэлы пучок аленевых зубоў і срэбных талераў на яго агромністым ланцугу ад гадзіньніка; быў усход сонца; глетчаравыя палі і горныя вяршыні: вадка-агнёвы лёд, а там у нізіне народныя скокі, забавы—усё ад здаровага чалавека, які рукамі і нагамі адбіваўся ад чужакоў з моноклямі і лярнэткамі... Бывалі і навальніцы і разрывалі неба над горнай вёскай: усе цэрквы даліны званілі ў званы; агнёвая хмара хавала горы, і маланка за маланкай, пярун за пяруном; кожны момант загаралася ад маланкі сасна, а шматгалосае водгульле пяруноў біла ў сьценкі скал. А вось паліў і дождж, бура раўла, а чалавек паднімаўся, мускулы яго напружыньваліся: гэткая навальніца гаварыла языком пачатку сьветабудовы і старажытных часоў...

Быў Пётра і раньняй вясной ў гарах: тут грукаталі сьнегазвалы, усюды ляжаў яшчэ сьнег і пачаў цячы... Тады стаў Пётра проці ветру, расставіў шырока ногі, як форвард у футболе, і бура, быццам ударам кулака, скранула яго з месца; гэткая моцная, пышная, надчалавечая была бура...

Успаміны аб гэтым моцна трымалі Пётру ў яго думках: ён ссаў з іх чыстую, як крышталь, празрыстую, як лёд, моц, і аднойчы засьмяяўся: „як! Я павінен з гэтай брыдотай скончыць...“

І ён скончыў. На яго напаў воўчы голад, ён краў яду ў паміраючых, ужо забруджаную сьлінаю, гэта было агіднае жраньнё, але з тым ён зрабіўся дужы і здаровы.

Опэрацыйныя вагонэткі каціліся па калідорах, адна опэрацыя рабілася за другой, на дзядзінцы стаялі санітарныя самаходы адзін побач аднаго: першыя адзнакі толькі распачатых вялікіх масавых баёў. „Маё дзяцінства на гэты раз мяне адратавала; спадчына, якую дзеці багатыроў доўга глыдаюць... А іншыя? Што можа чалавек перацярпець за гэткія чатыры гады?.. І за што і для чаго ўсё гэта?!“

Адказ Пётры быў:

„Нямеччына“.

Праз тры дні пасьля свайго звальненьня з лазарэту Пётра быў пасланы са сваёй ротаю ў наступленьне.

## 7

Дома Пётра ня вытрымаў даўжэй. Пэнсіі бацькі старчыла на тое, каб ён вучыўся ў унівэрсытэце. Ён выбраў Бэрлін. Былі там і некаторыя таварышы: добра было на першы час ня быць аднаму.

За некалькі дзён перад ад'ездам прышоў ён на вечарынку таварышоў па выпуску. Раз у месяц зьбіраліся яны ў піўніцы. На гэты раз было іх пяцёра. Тры чвэрці клясы ўжо загінулі.

Райнэр Фэк, пахабны і пусты хлопец, які прынцыпова насіў найма́днейшыя гальштукі, гаварыў пра свае ваенныя прыгоды. Ён брахаў бязупынна пры гэтым і апавядаў, захлібаючыся ад захапленьня, як ён раз уначы зусім адзін падарваў варожы акоп.

„Чалавек з пяцьдзесят паверылі гэтаму".

Але і Фрыц Кунц, быўшы першы вучань, з вялікім пэнснэ на маленькім глянцавітым носе, жартаваў і лаяўся. Потым чокаліся, пялі патрыотычныя песьні і выводзілі хмяльнымі галасамі: „Deutschland über alles!"

„Пётра! слухай! дай нам тваё нямецкае слова гонару, пакляніся тваім мужчынскім гонарам, што ты, калі прыедзеш у Бэрлін, дык добра задасі соцыялістым... Ты чуў пра прыкрую бабу Розу Люксэмбург... Ідзі напралом, кажу я табе... Віват! Вып'емо за будучыя гэройскія ўчынкі вялікага руйнавальніка соцыялізму Пётры Фрыд'юнга! яго здароўе!"

„Брава, Пётра, гэтак добра!" верашчэў Кунц, а Фэк схапіў і моцна сьціснуў руку Пётры.

„Яшчэ ня можам мы варушыцца. Але прыдзе дзень! Крывавая помста! Дрэнная народная рэспубліка Баварыя! Ну, пачакайце толькі... Сьпі спакойна, калі Эбэрт..."

„Брава!—плёскаў у далоні Кунц"... Раптам стала ціха і ў памяшканьне ўвайшоў патруль з трох чырвоных матросаў.

Ва ўсіх твары былі напалоханыя... І ў Пётры, які сароміўся сваіх таварышоў.

З усіх сталоў з нянавісьцю глядзелі на трох матросаў, якія спакойна і працавіта правяралі дакуманты прысутных і насьмешна ўхмыляліся, калі тоўсты мешчанін дрыжэў ад страху.

Двое ўжо вышлі, трэці набіў сабе я̆чэ люльку і вышаў, далікатна і прыветна жадаючы „добрага вечара". Уся піўніца зашумела.

„Гэткія прахвосты! Гэткая подласьць! Што яны сабе дазваляюць! Паліцэйскія абавязкі, спагнаньне штрафаў. Увесь сьвет стаў нагамі дагары! Пакуль іх на ліхтарах ня..." „А ведаеце, што", запішчаў Фэк, „да іх трэ' было-б падасла́ць нашых агентаў, інсцэніраваць паўстаньне, провокаваць галодныя масы на рабункі, падкідаць бомбы і зброю туды, дзе яны зьбіраюцца. Правадыроў іх, калі будуць сьпірацца, зьнішчаць... карацей гаворачы, іх трэба выводзіць з пасыўнасьці і падстаўляць пад стрэл... Шмат з нас маюць гэткія пасады. Гэта таксама навука, мастацтва, трэба выўчаць. Яно патрабуе штодзённага практыкаваньня, прысутнасьці духу, цэлага чалавека, які не баіцца небясьпекі. Гэткі чалавек атрымлівае даручэньне, выконвае яго. Сам стаіць пад контролем... Дзень і ноч шпіонаж на варце выведніка. Бесьперастанку атручваць. Гэта, зразумела, каштуе грошы: уласнае памяшканьне, яда, жанчыны таксама, шмат жан-

чын... А там і гарнітур, пэрсональная прэмія, асобныя нагароды ў непакойныя часы. Ну, а каб гэтыя часы ніколі ня міналі, аб гэтым яны паклапацяцца... Як вы адносіцеся да маёй прапановы! Хіба ня ўзяцца нам самім за гэту спэцыяльнасьць і не даручаць яе лёгкадумным людзям!?" „Зразумела", думаў Кунц, „чэсная куля—занадта для гэткай сваласы.... Проці гэткай паскудзіны магчыма выпусьціць і ўсе свае зьвярыныя інстынкты. Мэта апраўдвае сродкі".

„Як, Пётра!?"

„Выбачайце, але я вас проста не разумею. Я ня ведаю гэтай мовы"...

Усе сьмяяліся.

„Дрэнна цяміш, ці трохі ашалеў на фронце, малпа! Гэмороіды ў мазгох?!"

Падняліся.

„А цяпер яшчэ да дзяўчат... трэба-ж адсьвяткаваць зварот Пётры!?"

На рагу вуліцы Пётра моўчкі адсунуўся...

„Дрэнь і сьцерва!" крыкнуў яму ў здагон Фэк.

І вера Пётры была зьнішчана.

Як тысячагадовы дуб пад ударамі сякеры дрывасекаў валіцца ў гушчар, так аднойчы ляжаў у бяздоньні часу, расшчапаны на трэскі здарэньнямі і перажываньнямі ствол і верхавіна—бог. Тая верхавіна, што, як бальдахін, пакрывае зямлю, ствол; які ў маркоце чалавечага сэрца даваў карэньне і, як сокі, выклікаў шчырыя малітвы людзей.. Павяла залатое лісьце, пах балота і гнільля даў Пётру ў нос ад паваленай верхавіны; ён дзівіўся і цікавіўся: „дык гэта-ж быў бог..." І адначасна дайшло да яго вушэй „Deutschland über alles", якое пяялі натоўпы бясьцелых зданяй. Твары пеўшых крывіліся ў крывавыя грымасы. Здавалася, быццам яны не разумеюць, што пяюць. Затое з няведамых лябірынтаў будучыні ўсё больш упэўнена і мацней пад сугалосьсе молатаў, электрычных мотораў, турбін і трансмісій неслася насустрэчу „Ўставай..."

Пётра ўспомніў свой зварот дамоў, пераход праз Рэйн, „Песьню Нямеччыны", калі сонца зазьзяла над тучамі... „Deutschland über alles..."

„Не, Нямеччына, аб якой вы марыце, не мая..."

Два мужчыны ў рабочым адзеньні стаялі пад варотамі, і Пётра пачуў: „сэрца кожнага нямецкага рабочага пад уплывам гэткіх здарэньняў робіцца гаручым матэрыялам... Вялікае творыцца ў сьвеце... Глянь на ўсход. Рэволюцыйныя дзесяцілецьці... Пакуль усё старое, гнілое і згніўшае ня будзе зьнішчана..." Калі Пётра на другую раніцу паехаў у шырокі сьвет, сказаў яму на разьвітаньне бацька:

„Ну, Пётра, стань тым, хто ты ёсьць! Будзь і далей чысты. Ты—чыстай расы і ў жылах тваіх цячэ чыстая кроў. Стань і з характару немцам! Памятай, што ты немец..."

А, варочаючыся дамоў, бацька казаў матцы:

„Аб адным прашу, калі будзеш яму пісаць: я не жадаю сабе другога Рэйхліна-малодшага“.

„Ня турбуйся“, запярэчыла яму матка спакойна і ўпэўнена, „Пётра ўжо зусім адзін пойдзе верным шляхам!“

## Разьдзел другі

Зямля трашчыць!

Катастрофа ў рудні „Імпэратарка Люіза“.—Веліч сьмерці.—Што рабіць!?—Лепей згарэць у вагні рэволюцыі, чымся...

### 1

Цяжка было ўтрымаць людзей у дамох.

Іх гнала на вуліцу. Імчаліся спачатку па адным кожны па сабе, пасьля натоўпамі, сотнямі і вось ужо тысячы нясуцца па вуліцы. Размахвалі рукамі, іншыя напаўголыя, у рызьзі.

Пералязалі праз парканы, краты, на ўсіх вежах гораду званілі званы.

Ніводнага п'янага на вуліцы. Усе шынкі зачынены.

На фабрыках грукацяць у няправільным рытму машыны, ужо бяз людзей.

Трамваі спыніліся.

Усюды на рэйках стаялі, як няжывыя чурбаны, пакінутыя вагоны. Было каля пяці гадзін дня, як пад зямлёй пракаціўся працяглы гром. На зямлі было гэта быццам электрычны ўдар, які пранік у самыя далёкія куткі дамоў гораду. Тэлефоны яшчэ раз затрашчэлі. Тэлеграфныя апараты застукалі... І з вуснаў у вусны перадавалася жудаснае ўзрушэньне: яно перадавалася ад нэрва да нэрва, кожнае сэрца чалавечае сьціскалася і выпіхала зноў струмень крыві. Шчокі людзей упераменжку фарбаваліся: рабіліся то белыя, як крэйда, то чорна-чырвоныя... Раты аўтоматычна то адкрываліся, то закрываліся... У іншых былі адкрыты, як у аслупяненьні. Зямлю быццам раптам адсунулі з-пад ног. Хадзілі вобмацкам, як у цемры, хоць быў яшчэ яркі дзень. Як у пустой, парожняй прасторы. Усе абмацвалі, як у пустэчы... Волатны нябачаны знак пытаньня стаяў быццам над людзьмі.

Усё жыцьцё, чалавечае існаваньне ў момант стала нібы пытаньнем.

Крамы раптам зачыніліся.

Ніхто не паказваўся ў вокнах.

У багатых раёнах гораду самаходы сьпешна варочаліся ў гаражы. І нават у квартале магнацкіх вілл адчувалася прыцішанасьць. Гаварылі ў паўголаса.

„Што з гэтага стане?!“

Фабрычныя гудкі рычэлі.

Зграі дзяцей моцна чапляліся за спадніцы матак, якія, нібы шалёныя, кудысь гналіся.

І паліцыя, якая сьпяшалася на грузавіках, не магла затрымаць гэтага чалавечага струменю.

Званілі фургоны пажарнай каманды. Сьпяшаліся санітарныя аддзелы. Шалёныя прарэзьлівыя крыкі несьліся зараз над морам бягучых людзей.

Беглі па палях, падалі, падніміліся зноў. Чалавечы струмень несла па тротуарах усё далей.

Гэта было ў лютым. Але быў ужо як-бы веснавы дзень.

Праз дымавую заслону, якая ў гэтай мясцовасьці заўсёды засланяе сонца, відаць былі кавалкі блакітнага неба. Сонца моцна парыла. Убогая рэшта бруднай травы зелянела па ўскраі рыштка і вуліцы.

Пахнула крывёй, потам, порахам. Адчуваўся пах гарэлага мяса.

2

З вялікага незабудованага пляцу, які быў акружаны заглушонымі копацьцю нізкапарослымі дрэвамі, даносіўся моцны голас.

„Зараз цьвёрда выяўлена, што там былі вялікія масы вуглянага пылу, якія ня былі ні намочаны, ні абясьпечаны каменным пылам... Адклад коксу пасьля выбуху даводзіць гэта... Таксама і зграмаджэньне грымучага газу не навіна на „Імпэратарцы Люізе“. Вельмі часта пры сваіх абходах зазначаў заводзкі камітэт прысутнасьць грымучага газу. Але з прычыны таго, што мы вельмі часта ўтрудняілі начальства і дакладалі аб гэтым праўленьню і штэйгерам, нам рабілі ўсялякія перашкоды... З кастрычніка мінулага году праўленьне не дапушчала нашых правільных абходаў... Усе вы адчуваеце на ўласным целе, і выявіць гэта вельмі лёгка па колькасьці здабытага вугалю, што ў нас пануе самая горшая сыстэма здабываньня... Ды так выглядае, па праўдзе, дух прадпрыемства... Аб тым, што пагрэбна гарняку, што ён, урэшце, ўсё-ткі чалавек, мае свае патрэбы, клопаты—на гэта, відаць, зусім забыліся. Мы жывём тут у нашых норах, як у падзямельнай фабрыцы трупаў...“

Тысячы таварышоў стаялі тут, цесна абступіўшы прамоўцу і апусьціўшы вочы. Тысячы кулакоў сьціскаліся ў каменныя брылы.

Чулася і рыданьне.

Праўленьне рудні аддало строгі загад не даваць ніяк
разьмерах бяды, аб ліку і іменьнях забітых.

Чалавечыя масы стаўпіліся ля варот рудні, як мур.

Моцна стаяў гэты чалавечы мур, то насоўваўся, то адсоўваўся перад шэрагамі паліцыі.

Як наплыў і спад.

Як дыханьне.

3

Поўгадзіны таму назад у паўночна-ўсходнім раёне рудні „Імпэратарка Люіза“ здарыўся выбух грымучага газу.

Спачатку моцны ўдар па паветру...

Трэскаецца барабанная перапонка. Сьціскаецца грудная клетка... Быццам лёгкія выходзяць вонку праз горла... Штурх ад выбуху, і гарнякі адкінуты да сьцен. З перакрышанымі членамі, са страсеньнем мазгоў, з пакалечанымі чарапамі ляжаць яны такія брыдкія, што нельга пазнаць...

На дваццаць, трыццаць мэтраў падняло іх на паветра і важка, як поўныя мяхі, падаюць яны зноў уніз... А полымя ўжо шалее. Паліць, абвуглівае, накідаецца з усіх бакоў, выядае вочы... Некалькі жывых бягуць, шукаюць паратунку ў ахопленых полымем калідорах. Як агнёвыя вужакі, уюцца яны. Бізуном падганяе іх жах, калючымі маністамі сьціскае ім горла жах сьмерці. Бягуць, паўзуць ракам, быццам плывуць, натыкаюцца ў цемры адзін на аднаго. І бязупынна сьцелецца атрутны вугляны пыл.

З трэскам валяцца груды каменьняў, подувы ветру б'юць, як удары. Згушчанае паветра цісьне, як жалеза. Нябачны кляп атомаў...

Віхор. Вір. Віхраслуп. Агнёвыя струмені...

А ў гэтых скалістых скляпох, як стрэлы вялікай сілы, грукаюць тыя каменныя масы, што заваліваюцца. Часьці лёкомотываў і вадзяных помпаў, іх сталёвую пакрыўку зьмяло, як лёгкую бляху. Цэлыя цягнікі вагонэтак падкідаліся, як цацкі. Вось—толькі прарыты тунэль завалены цэлымі штабялямі запасных рэек, тут ляжаўшых. Яны паламаныя, пакалечаныя. Дрот вісіць кругом, як павуціна... І іншаму прыходзіць у барацьбе са сьмерцю ў галаву жартаўлівае:

„Тут быццам сам асілак, дзядзька.

„Шырокабароды" жыў..."

Тут быў выхад... Але ход—нядаўна ўжо замураваны. А тут лужына ў мэтр глыбіні. Людзі натыкаюцца адзін на аднаго. З усіх бакоў, як дым па коміну, зьбягаюцца яны сюды, праваліваюцца ў правалы, як у бяздоньне...

І тут няма выхаду.

А газ ужо набліжаецца, ціха, няпрыкметна, як сьвяты дух, як на галубіных нагах. Навіваецца. Растае... Глыток яго: і ўсе члены—як абвешаныя волавам. Жудасны, унутраны цяжар. Цягне ўніз...

Чуўся шум: кс... кс... ксс... кс... ксс... і ўсё кс... ксс...

У скронях гудзела, стракатала, грукала, шуршэла...

І зноў усё: кс... ксс...

Вось коні: як паламаныя дзіцячыя цацкі—растармошаныя ногі, надзьмутыя, як балён, жываты...

Грукаючы, пакаціліся накладзеныя вугляным сьмяцьцём вагонэткі па схілу. Глухі ўдар далёка. Відаць, дзесь сутычка.

І больш нічога. Ані гуку.

І зноў толькі кс... ксс...

Санітарныя колёны праз шмат дзён, калі атрутныя газы ўжо зьніклі, знаходзілі яшчэ поўныя бутэлькі кавы, адзнакі на сьценах: „аб 11-ай гадзіне ўначы я яшчэ жыў“, „маё прывітаньне Юлі“.

Вялізны душнік гудзіць. Брацкую магілу добра праветрываюць, і праз тыдзень паднімаецца зноў для новых афяр зданьнёвы цмок.

4

Але ўнізе яшчэ газы густа ліпнуць.

Паратунчыя каманды ўсё паднімаюцца навеох у пад'ёмных машынах, як аглушаныя. Адзеты, як вадалазы. Шчыльнасьць газу ўсё яшчэ вялікая. Усё зноў адмаўляюцца працаваць тленныя апараты.

А шматтысячавочы жывы чалавечы мур праз краты варот бачыць, як нехта па сходках да праўленьня паціскае плячыма, ківае галавой...

І жывы чалавечы мур крычыць з шмат тысяч вуснаў адно: прозьвішча, тысячу іменьняў, кожная жонка крычыць імя мужа, кожны таварыш—імя таварыша.

„Люц, Фрыц, Адольф... дзе ты... ці ня бачылі Антона, Карла... ці Штыбэрт яшчэ ўнізе... Аўгуст, Язэп, Царэўскі...“

А жанчыны рукамі, быццам што адкопваюць, варушаць пальцамі, нібы дастаюць з рудні мужаў.

Колёна паліцэйскіх паддаецца, разрываецца.

І жывы чалавечы мур прарываецца ў краты варот.

Абрыўкі мяса, кавалкі скуры.

Тулавы з адарванымі рукамі і нагамі.

Спаленыя на вугаль чалавечыя галовы, як скамянелыя кулі.

Усё гэта ляжала ў непарадку па дварох.

Жывыя кінуліся з крыкамі на гэтыя трупы. Рвалі, адрывалі іх. Чый гэта пук валасоў?! А гэтая рука з татуіроўкай?! А гэты пярсьцёнак на пальцы?! А хто гэта з рубцом на шыі?!

Запалілі ліхтары.

Натоўп людзей па чарзе ва ўсе бакі перадавалі адзін аднаму гэтыя астачы людзей.

Пад'ёмнікі працавалі, як зямлячэрпкі: яны ўсё чэрпалі з глыбіні новыя рыданьні, новыя пакуты сэрца, новыя неймаверныя пакуты, новыя апавяшчэньні, усё новыя трупы, кавалкі, скрутні трупаў.

Гадзінай пазьней дайшлі весткі аб катастрофе і да сталіцы за трыста кілёмэтраў ад рудні.

„Ад чаго здарыўся пажар?!“

„Ад лямпы!? ад стрэлу!?“

„Ці сапраўды бясьпечныя разрыўныя сродкі пры працы?“

„Ці ня было недагляду з боку загадчыка падрыўнымі работамі!? І як стаіць наогул справа з бясьпечнасьцю гарнякоў!?“

„Ці функцыянавалі адгародкі?! А калі не, дзе глыбейшая прычына!?“

„У рурскай рудні два-тры забітых штодня, больш сямісот раненых у месяц... хіба-ж павінна гэтак быць!?“

„Не, не, не... Вы не разумееце, што значаць гэтыя няшчасныя выпадкі... Гэта ёсьць лёс. Усё раней прызначана невытлумачальнай боскай радай... Як сусьветная вайна ёсьць боскі суд, каб пазбыцца лішку насельніцтва, таксама шахтавая катастрофа ёсьць прызначэньне боскае, каб зьнішчыць капіталізм. Бог бярэ ў пролетарскай сям'і дабрадзея, каб капіталісты падтрымліваў жонак і дзяцей. Гэтым паказвае бог капіталістым, што ён ім ня спрыяе...“

5

Было каля 12 гадзін ночы.

Рабочыя раёны ня спалі. І тут адгукнуўся выбух. І тут на момант спынілася сэрца ў грудзях кожнага рабочага. Да самых канцовасьцяй цякла вестка, як лёдавая крывавая хваля, і халадзіла мазгі.

І Макс Гэрзэ падскочыў з ложка, адзеўся, калі да яго пастукаўся сусед—трамвайны рабочы, які толькі вярнуўся са службы.

„Ты чуў ужо, Макс!?“

„?“

„Да гэтага часу сто дваццаць забітых...“

„?“

„Выбух грымучага газу. Шахтавая катастрофа. Натуральна, там тыя парадкі, што і ў нас на траме.

Усюды недахопы, ні на вошта не хапае грошай, абсталяваньне было, зразумела, нездавальняючае... Цяпер рабочая сіла пролетара таньней, чымся новыя тэхнічныя прылады. Яны не выкупляюцца. А ўладары, і гэта трэба падкрэсьліць, вельмі паважаныя паны, якія праглынулі шмат мільёнаў рурскіх крэдытаў.

Яны прагавітыя. Вайна, рэволюцыя—нішто ня можа іх накарміць... Калі мы, пролетары, не заткнем ім глоткі...“

І трамвайны рабочы стукнуў кулаком па стале.

„Калі, пытаю я сябе, чорт пабяры, будзем мы адны, адны, адны... У гэтым толькі справа... Мы—пролетары, праклятыя пролетары...“

Макс Гэрзэ павінен быў з ім згадзіцца.

Яны яшчэ доўга гутарылі.

„Адкуль і чаго гэтая варожасьць у працоўных мас!?“

Прычын шмат: паасобныя профсаюзы вельмі мала дапамагаюць адзін аднаму, часта нават выступаюць адзін проці аднаго. Беспрацоўныя, напрыклад, і працуючыя дрэнна настроены друг проці друга. Што адзін займае лепшую пасаду на прадпрыемстве, чымся другі. Адсюль рознасьць інтарэсаў, розная ідэолёгія... конфлікты. Што большасьць з іх ня бачаць, на жаль, далей свайго носа... Глупства... вузкасьць... Уся сыстэма псуе рабочых... Зайздрасьць, зьніжэньне заработнай платы і г. д.

За самую нязначную розьніцу гатовы яны, зараз, як пеўні, грызьціся на радасьць „трэціх“... што яны замала зьвяртаюць увагі на інтарэсы рабочай клясы. Што яны ўсе ўрэшце змарыліся і ўсё яшчэ надта мала афяруюць на супольную справу... Дрэнна адбіваецца на іх праца: адрабіўшы свае восем ці больш гадзін, чалавек ня здольны больш згрупаваць свае сілы, сваю ўвагу. Ён вытыхаецца і ні да чаго больш ня прыгодны. Фізычныя сілы яго ня толькі не павялічаюцца, але з кожным днём зьмяншаюцца. Трэба вялікая напружанасьць, каб хоць як-небудзь трымацца... І ўся справа ў тым, каб... Ды рабочай клясе цяпер няма чаго больш казаць.

Яна зноў страціла тыя позыцыі, якія калісь мела.

Зараз рабочыя ня здольны да адпору, абяззброены, зьняможаны.

Верацъ правадырам, якія...

І трэба, бязумоўна, зноў зьбірацца з сіламі, аб‘яднацца, зноў змагацца.

Змагацца толькі за тое, што справядліва і разумна.

Змагацца за тое, што кожнаму чалавеку належыць дзеля таго, што ён чалавек па сваёй натуры.

За тое, што другія яму ніколі самохаць не аддадуць.

Што трэба, такім чынам, змагацца за ўладу!..

Не дазваляць сабе ўперад лёгкавернасьці, даверлівасьці, прабачэньня. Не, трэба настойнасьць, цьвярозасьць, яснае разуменьне мэты. Канечна трэба выгнаць з шэрагу пролетарыяту, які змагаецца, тых, хто заўсёды сваім нахілам да перамаўленьняў і ўступак аслабляюць баявую здольнасьць і рэволюцыйную энэргію.

Такім чынам, катастрофа гэта прыціснула пролетарыят.

Але яна і ўзбудзіла яго.

Сваімі магутнымі ўдарамі выкавала яна яго клясавую сьвядомасьць, пачуцьцё згуртаванасьці, згоднасьці, адзінства ў барацьбе, клясавы гонар, клясавую павіннасьць.

„Каб былі ўрэшце рабочыя: адна воля, адзінае тахканьне сэрца адна кроў, адно цела, адзіны дух...“

Моцна паціснуўшы рукі, разышліся абодва пролетара.

„Гэты сьвет будзе наш“, казаў адзін.

А другі:

„Тады мы зьявімся памсьлівымі...

Канчатковая перамога за намі!“

6

Яшчэ ў тую самую ноч у розных карэспондэнцкіх бюро і газэтах катастрофа была грунтоўна апрацована.

І ўжо з раніцы кінуўся вялікі сьвет, як зграя сабак за крывёю, на новае здарэньне.

Апошнія тыдні было ўсё гэтак: упераменку кожны дзень у газэце падаваўся к сьнеданьню новы шкандал.

А вось і руднічная катастрофа: гэта бо далікатная зьмена на шэрым кругавідзе нудных, аднастайных сэрый шкандальных здарэньняў.

Самі мы далёка ад стрэлу... Толькі там ці тут невялічкая колёніяльная вайна—ня страшная...

Усё яшчэ бальшавіцкія брыдоты... склады зброі, бомбаў, плянавыя дынамітныя замахі, прыгоды чэка... халерныя бацылы. Дзеньнікі славутых катаў... З усім гэтым удвойчы смачнейшая філіжанка кавы...

Але і катастрофу, хаця-б загінула і палова народу, трэба прыгатаваць смачна. Спрытна круціліся ў рэдакцыйных кухнях кухары друку. Гэтыя, даволі да газэтнай атруты прызвычаеныя мазгі газэтных чытачоў зноў задрыжэлі пад уплывам нэрвовай навальніцы гэтае жудаснай сэнсацыі.

„Хіба не нагадвае гэта „Жэрміналь" Золя?" „Зразумела, дарагая, і ў літаратуры такі матэрыял быў ужо часта і, можна сказаць, з посьпехам скарыстаны. Таксама і Сынклера „Цар-вугаль"—прачытай—таксама ня дрэнна"...

І да нясьцерпнасьці даведзеная напружанасьць разьвязалася. Журналістыя давалі артыкул за артыкулам. Сантымэнтальныя і сарамяцкія воклічы зараз зьявіліся ў друку. Зьявілася шмат тэорэтычна-навуковых разважаньняў аб „сутнасьці шахтавых выбухаў у старажытныя і цяперашнія часы" з масай малюнкаў, ці „Барацьба чалавека з прыродай", ці „Помста элемэнтаў". „Катастрофа ў падзямельлі ад захаванай сонечнай энэргіі". Апарат запрацаваў зноў дасканала; усё варушылася, як па струне: профэсары, гісторыкі, тэхнічныя спэцыялістыя, песьняры: усе прымалі тут удзел, усе бязупынку клапаціліся, каб адхіліць ад прамысловых магнатаў адказнасьць і ідэолёгічна іх падтрымаць. Пры гэтым трэба адзначыць, што профэсыянальныя зраднікі рабочае клясы і тут сумленна выканалі свае абавязкі. І засталіся яны панамі становішча, і гэтага становішча.

Пачаліся акты дабрачыннасьці.

Славутыя іменьні, вялікія нацыі народу сталі на чале.

Сабраўся рэйхстаг.

Дэпутаты ў знак жалобы падняліся з месц.

Калі комуністыя прапанавалі камісію з пацярпеўшых прадпрыемстваў для разгляду ўсёй справы дасканала і грунтоўна, падняўся прэзыдэнт.

Прадстаўнікі ўлады зашапталіся.

Прэзыдэнт паправіў сабе гальштук і, патэтычна выцягваючы рукі з рукавоў сурдута, вымавіў:

„Няхай перад веліччу сьмерці на сёньня змоўкнуць усе партыйныя нязгоды... Грамадзянская згода!.."

Прапанова комуністых была адхілена. Апрача гэтага, комуністых абвінавацілі і адзначылі, як агітатараў,—у тым, што яны граюць на катастрофе.

У чорным сурдуце хадзіла „веліч сьмерці“ па дэпутацкіх крэслах: спачувалі адзін аднаму, жадалі шчасьця, кожны з тут прысутных думаў, што і ён гэтак нечакана мог загінуць.

„З прыемнасьцю... Калі ласка... Мая шчырая падзяка... Маё найлепшае, калі ласка, прывітаньне вашай жонцы...“

„Усё добра... Нас ня так лёгка пакрыўдзіць... Усё добра, пан Леві, трэба толькі там і тут троху опозыцыі падпусьціць... І толькі ў рашучы момант... У гэтым уся справа... Гэтаму можна даверыцца...“

І „веліч сьмерці“ яшчэ раз энэргічна пацьвердзіла паном дэпутатам іх заўсёдную гатоўнасьць да паслуг у кожнай справе.

„Мы вас не пакінем... Будзьце ўпэўнены...“ „Веліч сьмерці“ абяцала і кожнаму паасобна. „Наконт выдаткаў, якія вы панясеце, мы згодзімся. Акцыямі ці так грашыма. Само сабой зразумела, што ўсё добра будзе“.

Зноў пачалі ўсьміхацца, падміргваць ва ўсе бакі блакітнымі вочкамі. Кароткая ўдзячная малітва да неба, і „веліч сьмерці“ адышла з туга набітым портфэлем пад пахай, каб хутка сабраць з прадпрыемстваў другіх організацый міласьць і афяру на дапамогу тым, хто застаўся, паводле прыкладу 1914—1918 гадоў. „Веліч сьмерці“ была пры гэтым працавіта на чале справы.

Але ля насілак забітых стаялі яны з непакрытымі галавамі: рэйхсканцлер, дэлегаты ад установ, паны ад індустрыі, прадстаўнікі буйных банкаў. Таксама і паны соцыялістыя стаялі, як заўсёды, паміж іх. Магнатныя гарадчане. Адзін бургомістар, яшчэ адзін, і адзін обэрбургомістры.

„Блюзьнерства, нічога іншага ня робяць яны, калі тут стаяць.

... Кожны сумленны пролетар павінен гэта адчуваць“.

Надзвычайныя цягнікі на месца катастрофы адразу выслала чыгуначная ўлада для паноў прадстаунікоў ўлады.

„Яшчэ добра,—думае кожны з радні забітых,—што ён загінуў прынамсі пры масавай бядзе... Загіне адзін, дык ніхто аб ім не клапаціцца... Трэба толькі добра і прыгожа здаволіцца тэю жабрачаю дапамогаю, якую дае каса забясьпекі...

... За адзін год гэткіх выпадкаў больш 6.000, з іх 600 сьмяротных...“

7

Памалу высахлі сьлёзы ў тых, хто застаўся жывым. Праўда, хадзілі яшчэ прыціснутыя жудасным цяжарам, але ўжо прыглядаліся і прыслухоўваліся. А напярэдадні агульнага пахаваньня ўсіх афяр катастрофы рабочыя апамяталіся, большасьць іх была цьвярдзей настроена, больш рашуча рыхтавалася да барацьбы. З чырвонымі сьцягамі на чале і пяяньнем „Інтэрнацыяналу“ праходзілі раніцай у дзень пахаваньня па

пакрытых копацьцю вуліцах шахтавага гораду таварышы, удовы і сіроты. Ох, прыпамінаў іншы, гэта было ўжо раз.

Можа, тры, чатыры гады таму назад. І кожны думае пра гэта з гордасьцю. Шкода толькі, што ня... Усё-ж на памылках трэба вучыцца. Цяжка ідзе справа наперад і нішто не дастаецца чалавеку дарма—гэта так...

Чырвоная армія ішла тады ад гораду да гораду.

Рэйхсвэр адступаў у непарадку. Чырвоны сьцяг ляцеў.

Горы і даліны сьвяціліся...

Мы маршыравалі праз лясы, па захопленых понтонах пераходзілі рэкі, дзень і ноч, бязупынна ўсе за белым ворагам...

Чырвоныя салдаты паднімаліся з рудняў і кідаліся на чырвоны фронт...

Увесь горны раён маршыруе...

Увесь горны раён змагаўся за ўзброенае паўстаньне.

Гэтак было.

Гэтак зноў будзе.

Магіла каля магілы, шахты, у якіх ссыпаны задушаныя тысячы барацьбітоў, палі баёў грамадзянскае вайны, упагноеныя крывёй гэрояў—гэта наша Вэстфалія.

Зямля тут—быццам болька, увайшоўшая ў зямлю.

Змрокла сьвеціць сёньня полымя рэволюцыі.

Рудня, як загашанае жэрала.

Чалавечае мяса, рабочае мяса гніе на жывым целе ў руінах гэтых новых катакомбаў. Яно пакрыта копацьцю. А чалавечы труп у шынкох налівае яшчэ сябе атрутай-гарэлкай!

Але не памыляйцеся!

Заўтра, пасьлязаўтра зноў выбухнуць: рубцы, раны, болі, і мільёны таварышоў, як жывыя масы лявы, зноў выйдуць з глыбіні зямлі.

Зямля трэскаецца!

Бруха зямлі трэскаецца: з напоўненай жывымі чалавечымі трупамі сярэдзіны выпускае яна груды і груды вугляных камлыг, якія аджылі і аджываліся... Гора! вугаль ідзе! Гора, калі чалавечы вугаль прыдзе на вас, распалены ад пакут на працягу сталецьцяў.

Гэты дзень будзе днём уваскрашэньня, днём вызваленьня цэлых пакаленьняў, жыўцом пахаваных.

У добры час!

8

Толькі труп старога гарняка Гэмпэля нельга было выратаваць.

Сядзеў ён, ведалі, сагнуўшыся на карачках, адлучаны вялікімі руінамі скал, у забітай газамі шахтавай дзюрцы. Да яго нельга было дабрацца ні так, ні гэтак: пры кожнай спробе зьверху валіліся каменьні цэлымі масамі. Апрача таго, натыкаліся тут раптам на газавыя крыніцы.

Такім чынам, прыходзілася пакінуць бацьку Гэмпэля ў яго спакойнай каморцы.

Дарма чакала на „свайго“ два дні і дзьве ночы радня.

Чакалі, ламаючы рукі, пры кожным пад'ёме з глыбіні. Усе вочы сабе выгледзелі.

Не, стары не варочаўся.

Ня было яго і на вялікім пахаваньні...

Напоўлежачы, сядзеў ён там, троху скорчыўшыся, апусьціўшы галаву на грудзі, верхняя частка цела была голая, чорная: так густа быў ён пакрыты вугляным пылам. Цела, як губка, налітая газам. Губы скрыўленыя са згусткам пены. Вірлы (вочныя яблыкі) вільготныя і белыя, на твары грубыя, кароткія, белаватыя валасы.

Каля яго куртка, лямпа, прылада. Больш трыццаці пяці гадоў працавалі тут бацька і тры сыны: аднаго страціў ён на вайне, другога— у шахце, трэці яшчэ жывы... І матка мусіла зарабляць на фабрыцы ля брыкетнай машыны.

А стары заўсёды быў трохі дзіўны.

„Ах, хіба ня ходзім мы, людзі, усе ў поцемках. Гэта ня так ужо дрэнна. Рукі скласьці. Вочы закрыць. Бывай здароў, сьвет—чорны сон!..“

Сто пяцьдзесят дамавін, сто пяцьдзесят гарняцкіх трупаў у сьпехам зробленых трунах пад бляшаныя гукі жалобнага маршу цягнуліся па веснавому паветру.

За імі ішла нязвычайная працэсія людзей.

Дэпутацыі ўсіх гарнякоў былі тут прысутныя.

Чорныя сьцягі. Чырвоныя сьцягі. ...Вугаль і кроў...

Унізе на глыбіні зноў зваліўся кавалак скалы.

Стары ляжаў расьцягнуўшыся. А на зямлі матка думала: „Так, так я адразу казала: у гэты раз бацька сьвяткуе...“ Рот у яго адкрыўся. Язык прышчаміла паднябеньне. Каля губ, быццам вянок, рэшта зубоў.

Шум ад хаўтурнай працэсіі быццам ад далёкага вадаспаду.

А тут у падзямельнай сыстэме—калідорах, лябірынтах, заваротках цяжка навісала нябачная хмара газу: ён трашчэў у сьценах, дрэве, наганяў ваду, вецер... і чорна, чорна было кругом, так чорна, што, здавалася, патрэбны былі бормашыны, каб прагнаць гэтую цемру. Беспрасьветна чорна.

Гэта быў, урэшце, спакой. Вялікі Спакой.

9

Адны прымалі ў гэты жалобны дзень парад.

Яны рыхтаваліся да параду мёртвых.

Патрыотычныя лёзунгі, жалобныя прамовы.

Фільма-апарат круціўся.

Міма дэфэлявалі мерцьвякі тузінамі. Шмат развагі, ладану, абяцаньняў. Шмат штучных сьлёз трэба было тут праліць, бо огулам усё-ж ткі пахнула масавай сьмерцю... Шырокім жалобным флёрам былі абвіты капялюшы...

Улада перамагла.

Але другія прымалі парад барацьбы.

Яны стаялі, узброеныя да новай барацьбы.

Як: стрэльба да нагі.

Крывава-чырвоныя вымпелы, крывава-чырвоныя сьцягі.

Крывава-чырвоны мітынг.

Палкія ўзгалосы, якія аб'ядналіся ў клятве:

„Лепш згарэць у вагні рэволюцыі, чымся здыхаць на сьмяцьцё гэткай рэспублікі...“

А сонца ярка зьзяла над імі, запаўняючы ўсё, як зданьнёвы сьветлавы круг.

Пераклаў з нямецкае мовы **Ю. Зэмэль.**

*(Працяг будзе)*

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*Урывак з поэмы*

**Якуб Колас**

IV

Дык так: пуціны пераняты—
Заўзяты вораг перамог!
Кардон цяпер між імі лёг...
Ой, думкі, думкі-арляняты!
Ня вырвацца вам з роднай хаты,
І да яго няма дарог!
І як паведаміць мілога,
Што тут, закінута, адна,
Па ім маркоціцца яна?
У Насьці плянаў розных многа,
Ды з плянаў тых няма нічога—
Адны лятункі і мана.
Сябе Настуся дакарае,
Чаму з Засьценьня не ўцяклі?
Ці мала месца на зямлі?
Ну, што цяпер ім з свайго краю,
Дзе запануе гэта зграя,
А калі выйдзе, то калі?
А можа так і будзе далей,
Забраным станецца іх край,
І згіне родны абычай,
І ўсё зальле чужая хваля,
Бо не спрацівішся навале?
Тады ўсё роднае—прашчай!
А тое шчасьце, што каханьне
Павабна так суліла ім?
Няўжо разьвеецца, як дым?
Няўжо дарогі іх спатканьня
Прапалі ў жудасным тумане,
У гэтым віры заклятым?
І жаль і страх, душы тамленьне...
А што нясе наступны час?

Дзень у вачох яе пагас,
Кладзецца мрок на аддаленьне,
І націскаецца суцэньне
На гэты жудасны абраз.

Змоўклі громы.
Жудзь і ціша
Невядомы
Страх калыша.
Дзе-ж той вораг?
Дзе навала?
І ў тых горах
Ціха стала.
У зьнямозе
Млеюць далі,
Па дарозе
Люд ня валіць.
Пуста, глуха,
Нема, жудка.
Як ні слухай—
Нікагутка!
Гэта ціша
Так варожа!
Ліха вышла
Ў падарожжа!
Безгалоўе,
Паланеньне—
Момант поўны
Напружэньня!

Было і страшна і журботна...
Заслала дымам пастаўнік.
Зрабіў пажар сваё і ўнік,
А гаспадар стаіць гаротна,
Глядзіць на спаленае котла
І шэпча штось, бы чараўнік,
І вус трасецца пасівелы:
Чаго-ж чакаць цяпер ад тых,
Ад ворагаў, ад заклятых,
Калі свой брат, казак зьдзічэлы,
Будынкі паліць у дзень белы
І скуры драць гатоў з сваіх?
Прышло, відаць, на ўсё згіненьне—
Спалілі клуню, спаляць дом,

Ï пойдзе ўсё дабро суздром,
Скаціне будзе вынішчэньне,
Пустэля стане, разбурэньне,—
Парадак, лад ідуць на злом.

Стары ўздыхае сіратліва
Ды ў двор ідзе чакаць „гасьцей“,
Заве старую і дзяцей,
Што пахаваліся пужліва—
Лепш разам быць ды ждаць маўкліва
Ï свайго лёсу і падзей.
Сям'я сабралася памалу,
Нібы трывогі ніякой,
Улёгся трохі непакой—
Пранесла першую навалу.
Наш лёс ваенны, знаць, прапалы,
Бо аўстрыякі за ракой.
Ідуць напорна і заўзята
Колёны іх і ланцугі...
Ша! грымнаў стрэл... адзін, другі,
Часьцей, гучней равуць гарматы,
Бой разгараецца зацяты,
Дымяцца ўзгоркі і лагі,
Дрыжаць, калоцяцца паземы,
Агні выбухваюць, і дым
Кладзецца покрывам рудым.
Усьцяжны гуд, зацята-немы
Пужае ціш пяшчотнай дрэмы
Ï ломіць грукатам густым.
Ï лес, што мроіў па-над рэчкай,
Якоча, крышыцца, гудзе,
То тут, то там вяршок спадзе,
Галіны сыплюцца, бы грэчка,
Ï сьвеціць зьбіты ствол, як сьвечка—
Няма збавеньня тут нідзе!
Прапалі ў дыме аўстрыякі,
Агнём іх скошаны рады.
Гух-гух! гудзе на ўсе лады,
Ï кулямёт дзесь зататакаў...
Ідзе атака на атаку...
Зноў падаецца фронт сюды.
Знаць нам прышла падмога ў часе,
Ці ўжо дайшлі да тэй мяжы,
Дзе лягуць моцна рубяжы,

Дзе будзе выпіта ўся чаша,
Дзе пераможа сіла наша,
А ім паставяцца крыжы?
Глядзіць Настуся ў аняменьні
На гэты жах, пякельны вар,
Дзе сьмерць—бязьлітасны ўладар,
Дзе чыніць бог вайны зьнішчэньне,
І шэпча Насьця ў амяртвеньні:
„О, божа! колькі там ахвяр!“
А бой бурліць, няма разьвязкі,
Рэзэрвы гоніць аўстрыяк.
Ідуць палкі другіх ваяк,
Мундзіры сінія і каскі.
Гудзе зямля ад груку, ляску,
І загудзе яна ня так!
Паўзуць страшылішчы-гарматы,
Ідуць-гудзяць бранявікі,
І раптам—жжж! дзесь з-за ракі
У іх рэзэрвы б‘юць гранаты.
Залеглі ў полі супастаты,
Растуць акопы, раўчакі.
І разьярыўся вораг люты!
Джуг-джуг-джуг! бух-бух! ра-ррах!
Здаецца, ўсё скрышыў у прах
Сталёвы гад, у бронь закуты,
І шле ды шле клубкі атруты,
Сьмерць выкідаючы і жах.
Дрыжыць зямля, паветра вые,
Шумяць, хістаюцца дубы,
І дыму коцяцца клубы,
І чмышуць віхры агнявыя,
А сьцены стогнуць, як жывыя,
Ад нячуванае пальбы.

Настуся цьмяна памятае,
Што потым здарылася тут:
Яе зьбіў з ног страшэнны гуд.
Пад рукі хтось яе хватае,
Ў ваччу мільгае цьма густая,
У доме страх і перапуд,
А потым грукат, шум пякельны,
Шатанскі рогат, скогат, піск
І вар‘яценьня дзікі віск
У гром зьліваюцца суцэльны,

І вее холад падзямельны,
І чуе цемры яна ціск.
І дзе яна? Усюды сьцены.
Руку ўзьняла—і там сьцяна.
Глядзіць—яна тут не адна:
Бацькі і дзеці і Алена...
І зразумець ня можа зьмены—
Душа ўскалыхнута да дна.
І ўсе маўчаць, прыпаўшы к долу,
Трасуцца ў страсе, а ў гары,
Здаецца, крышацца муры,
Як-бы ў вялізарныя колы
Шатан запрэжан дзікі, голы
І круціць чорныя віры.
Яна ачулася памалу,
І ўсё тут ясна стала ёй—
Яна у пограбе з сям'ёй,
Ня ўцяміць толькі, як загнала
Сюды шалёная навала,
І душу муціць неспакой.
А кожны грук і дрыгаценьне
У сэрцы болем аддаюць,
І мысьль адна—заб'юць, заб'юць!
І душаць сьцены і каменьне.
А дзе ратунак? дзе збавеньне?
Душа агортваецца ў жудзь.
Малы быў час ці час вялікі
Тамленьня, жудасных мінут,
Ніхто сказаць ня можа тут.
Але сьціхае голас дзікі,
Крывавы, жорсткі, без'языкі,
Сьляпы, бязьлітасны прысуд.
Глушэе гром, радзеюць гукі,
І толькі дзесьці з-за ракі
Гурчаць яшчэ бранявікі
Ды збоку ухнуць два-тры стукі,
І загрыміць, бы воз па бруку,
Пустое водгульле з лукі.

ГАЛУТА

О, божа, божа твая воля!
Такое пекла, такі страх!
Мабыць, усё зьмяшалі ў прах,
Паклалі боразны і ролі

Грымоты гэтыя на полі,
Пажалі, выкасілі гмах...

НАСЬЦЯ

Ды што ўздыхаць ужо аб гэтым!
Душа была-б хаця жыва.
Народ кладзецца, як трава,
І сыплецца адцьвіўшым цьветам.
І сам ня ўгледзіш сонца, сьвету—
Усім, знаць, доля такава!

ГАЛУТА

Ну, пацішэла, дзякуй богу!
Абы канец—ці так, ці сяк...
Ох, дасца гэта ліха ў знак!..
Хто-ж мае верх і перамогу?
Ша! тупат, грук чуваць з дарогі!
Ці наш ідзе, ці аўстрыяк.

———

На двор выходзіць—полаг ночы
Кладзецца-сьцелецца ў палёх.
Павозак скрып і тупат ног.
То здань вайны у цемры крочыць,—
І вораг ворага тут сочыць,
А сьмерць туляецца ў кустох.
І рух там нейкі на дарозе,
І гоман здушаны, чужы,
І енк, і грук—зямля дрыжыць.
Ці не параненых вывозяць
У тэй працэсіі-абозе
Пад чорным покрывам імжы?
А там, бы зьмей паводзіць вокам,
Бліс-бліс! і ўставіць пільны зрок
У ноч у гэтую, у мрок,
А потым—шуг ламаным крокам
У высь пад самыя аблокі,
Жахнуўшы ўдоўж і ўпапярок!
Трывожна ўсюды, неспакойна,
Снуюць-успыхваюць агні,
І ходзяць цені ў цішыні,
І гэта ціш гняце забойна,
Ды толькі зрэдка гук падвойны,
Як гром, гудзе ў далячыні.

Ня спалі ноч усю ў Засьценьні.
І ноч прайшла, сьвітае дзень.

Глядзіць нярадасна пругмень,
У дрэў аголена карэньне,
Пабіты комлі... Разбурэньне
Вітае сонечны прамень.
Абходзіць двор стары Галута
І робіць боязна агляд
Зьнішчэньня гэтага і страт.
І лютаваў-жа бой тут люты!
На ямах дол. Страха бы зьдзьмута,
Сьцяну ў хляве прабіў снарад.
Дзьве грушы вывернуты ў садзе,
У трох мясцох пабіла плот,
Не абмінула і гарод—
Уцехі мала ў тым аглядзе!
Ой, ліха-горачка насядзе!
Эх, не пазбавіцца бядот!..

Зірнуў і ўмлеў: ідуць салдаты!
Ня нашы, не, і афіцэр—
Гатунку іншага каўнер—
І прыглядаюцца да хаты.
Ось ліха дзе! ось дзе, бяда ты!
Што-ж іх за замысел-намер?
І рукі дрогнулі ў старога—
Забраны ён, вядома рэч,
Але ідзе ім насустрэч
І пакладаецца на бога.
Начальнік іх зірнуў так строга—
А ты маўчы і не пярэч!
І стаў Галуту распытоўваць—
Па мове нібы сваякі,
Але ўсё ўцяміць ня з рукі.
Стары ўслухоўваецца ў словы,
Яны-ж гучаць ня ёмка, нова,
А сэнс-жа гутаркі такі:
Кватэра трэба афіцэру,
Яны ідуць агледзець дом—
Стары ўшалопаў хоць з трудом,—
Вядзе у хату на кватэру,
А сам ён трусіцца праз меру,
Ды што паробіш з чужаком?
Вядзе „гасьцей“ стары ў сьвятліцу,
Ці рад тым госьцям, ці ня рад.
Прышлі, зірнулі і назад...

Галута можа пахваліцца—
Пад густ прышлася бакавіца,
Паручнік сам знайшоў там лад.
Ён будзе тут час некаторы—
Няхай прабачыць гаспадар:
Вайна кладзе на ўсіх цяжар,
А мірным людзям ён ня вораг,
І ад яго ня будзе гора,
А ад салдатаў іх—вычвар.

Стары гадае і варожыць,
Як гэты выпадак прыняць:
Няўжо запыніцца тут раць?
Няўжо на грозным раздарожжы
Рубеж і ім вайна паложыць,
Каб іх у вір у свой заняць?
Адно зьдзівіла тут старога:
Страхотны вораг, чужакі,
Лагодней шмат, чым казакі—
Няма ў іх сквапу да чужога
І не расьцягваюць нічога,
Ня то, што нашы хапакі.
І сам начальнік не сваволіць,
Сур'ёзны, строгі на пагляд,
Сабою відны хлопец, хват,
Гадоў пад дваццаць пяць, ня болей,
Але начальніцкаю роляй,
Ня злоўжывае, як наш брат.
І ў доме ён нейк няпрыметны,
Як-бы яго тут і няма.
Стары палохаўся дарма:
Уважны „госьць“ яго, шляхетны,
З усімі роўны і прыветны,
Да сэрца блізка ўсё прымаў
І ўсім цікавіўся: звычаем,
Укладам, працаю, жыцьцём
І іншым нашынскім стацьцём,
І нашай песьняю, і краем,
І нават нашым Мікалаем,
Не добрай памяці царом.
Ён сам па ўласнаму пачыну
Паведаў некалькі навін
Пра скутак жудасных хвілін—
За рэчку рускі іх адкінуў.

Ён сам ня вораг славяніну,
Бо ён таксама славянін.

А час плыве сваёй чаргою.
Ї дзень мінаецца, другі.
Прымоўклі ўзгоркі і лагі,
Ї лёс вайны закрыт смугою,
А фронт вычварнаю дугою
Ў рачныя ўпёрся берагі.
Так апыніліся няждана
Галута сам, а з ім і ўсе,
У прыфронтовай паласе,
Дзе часам нагла-нечакана
Пад сьпевы грознага баяна
Сталёвы сеіцца пасеў.
На небясьпечным раздарожжы,
На тых пярэсмыках вайны
Їх налучае лёс дзіўны.
Пужае Насьцю стан варожы.
Яе і вабіць і трывожыць
Спакусы голас патайны...
Настуся спотайку ў самоце
Мяркуе плян адзін цішком,
Як разьвітацца з хутарком.
Бы тую пташку на адлёце,
Ї непакой і жаль калоціць.
Бо як прайсьці к тым беражком?
Глядзіць раз Насьця ў тыя далі,
Дзе фронт хаваецца цяпер.
Эх, як-жа выканаць намер?!
Ї раптам думкі ёй спужалі,
Сама дзяўчына задрыжала:
Прад ёю госьць іх, афіцэр!

4—24-XII—1927 г.

## РАЗГУЛЯЎСЯ ПОШЧАК...

*Комсамолу Заходняй Беларусі*

**Ал. Дудар**

Разгуляўся пошчак па шырокім полі—
Гучна, гучна кроў загаманіла:
Што ўзялі мы з бою—не здамо ніколі!..
Дык каму няміла?..

Запалілі сэрца беларускім словам,
Расказалі праўду пра краіну.
Шып зьмяіны здушым, рык зьвярыны зломім
Узьлётам сакаліным.

Воі маладыя! Будучына з намі!
Дзікі сівер кроў не замарозіць.
Альбо перамога грымне пярунамі,
Альбо... крыжам на дарозе!..

Мы каменьні зрушым, мы муры узьнімем,
Гордай вежай вырасьцем ў надхмар'е.
Заблішчаць пад сонцам крыльлямі сваімі
Нашы думкі-мары.

Калі-ж вораг люты з бруднымі рукамі
Пераможнай пыхай зашугае—
Без развагі песьню мы паб'ем аб камень...
Песьня дарагая!..

## ТЫ СКАЗАЎ...

**Н. Вішнеўская**

Ты сказаў мне—роўна ў дзесяць
Да цябе прыду,—
Хай-жа ветры апавесьцяць
Лёгкую хаду.

Хай-жа ветры нагадаюць
Твой далёкі крок...
Я з надзеяй і з адчаем
Выйду за парог.

Пагляджу на пуцявіну
Шлях стары далёк.
Так трывожна б'юць гадзіны...
Паланее зрок...

Вее даль... палын і мята
Ды сівы туман...
Прашумі мне вецер, братка,
Любае імя!..

Выйду, гляну... ў хмарах месяц,
Навакол імгла...
Ты сказаў мне—роўна ў дзесяць,
А чаму-ж няма?..

Лістапад 1927 г.

# ЦЕНІ НА СОНЦЫ

*Поэма*

**Андрэй Александровіч**

(Частка першая)

Уступ

Былі-жылі на простай на зямлі
і рознае
парознаму
віталі.
Вялікі сьвет. Ня дзіва,
дні плылі,
як быццам бурай змучаныя хвалі.
У нас яны
з часоў даўно-даўных
майго паданьня
знаныя гэрої.
Жыцьцё зьмянілася,
зьмяніліся яны—
перапранулі колеры настрояў.
Было калісь, на стоптаны байдан
чуць сьвет-зара
штодня сьвіней зганялі.
І без штаноў, ці ў сонца, ці ў туман,
так да шаснаццаці ад роду вандравалі.
Былі-жылі на простай на зямлі,
ня знаўшы скал арліна-недасяжных.
Жылі і кошыкі лазовыя пялі,
рэч ведама, на рынак для прадажы.
І маці добрая сарочку, хоць адну,
хоць паркалёвую, на сьвята справіць рада.
Прыхарашыўшыся,
ідуць гукаць вясну,
паклонам славіць стромкія прысады.
І так жылі на простай на зямлі,
наўкол лясы, адвечныя вазёры.
Былі пад сонцам ветлівым расьлі,
Былі расьлі пад ветлівым сузор'ем.

1

Адзін быў з Меншчыны,
качаўся тут, узрос,
і тут узгадаваў свае імкненьні.
Ня раз, на беразе прылёгшы ў вербалоз,
пярсьцёнкамі ўзьвіваў ён лятуценьні.
Гады імчаліся, як хвалі на рацэ.
Прышла вайна. Забралі. Абучылі.
Глядзі—ўслужыўся ён,
стаў унтэр-афіцэр,
і брыль на сонцы, нос на небасхіле!
І раптам чуецца:
— Таварыш, кідай фронт!
— Далоў вайну!
— Далоў людзкое гора!
... Уцёк на Поўдзень ён,
і генэрал-барон
яму даў новы чын,
даў пару новых шпораў...
Цяпер... паголены. І тут ня сонца-жар.
Жыве, як спэц. Так водзіцца ўжо гэтак:
учора—
генэрал-барона сакратар,
а сёньня—
консультантам у Саветаў!..

2

Другі гэрой...
Няма тае дарогі,
дзе не рассыпаў-бы імкненьні ён свае.
— „Ну, што зрабіць, каб стаць бліжэй да бога?
— „Маліцца?—мала, часу не стае...“
Але рашыў. І, змрочнасьцю пакрыты,
у манастыр пайшоў, схіліўшы галаву:
— „Быць ня быць! Дадуць архімандрыта,
— не, ідрытваю, іначай зажыву...“
І не далі. І ён зажыў іначай.
І не спазнаць праз тыдзень альбо два:
мову вывучыў; стаў езьдзіць, як дакладчык,
рваць карані, пусьціла што царква.
Калісьці-ж сам быў старастам царкоўным.
(Ці-ж мала пуцявін у наш дваццаты век?)
Ён знае, дзе й каму зьняць шапку,—

бязумоўна—
ён бывалы, спрытны чалавек.
Барада адна—архімандрыта варта,
таму мо' й вылучэнцам стаў, як на бяду.
І гляньце—сёньня ўжо „дырэктар“ не на жарты!
— Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!

3

Лагодна жыць! Як ня любіць сваяцтва?
Адным ён сват, другім шаноўны кум.
А зяць яго! О, зяць—
мастацтва для мастацтва,
збавеньне ў пекнаце,
цудоўны персьцень дум.
Сваяцтву гімн! Яно гняздо зьвівае,
гняздо прытульнае, як птушанькам вясна.
І кум і зяць і ўсіх знаёмых зграя—
адна орыентацыя, даходная, адна.
Славуты кум, дарогай камяністай
да славы ідучы, ня раз зьмяняў свой грым:
Ён земгусарам быў,
чыноўнікам,
міністрам
у Скарападзкага па справам нутраным.
Прагналі з Кіева, і зяць зазваў у Прагу.
Бяз дзейнасьці—ніяк ня можа быць:
зьявіўся ў Вільню ўжо, і там, нібы з адвагай,
ён прагнуў памагчы ў хвіліны барацьбы.
І першы крок:
— Браты!
(Здымае акуляры...)
— Гатоў вагонамі вам кнігі дастаўляць,
— але мне дайце тысяч сто даляраў—
— і я зраблю... Прыеду... Працаваць...
І не далі. Зьдзівіліся—і толькі,
пануры ў Прагу выехаў назад.
Міргнуў у полі явар адзінокі
і зясьмяялася ля возера лаза.
Абодва ў нас цяпер,
„На бальшавіцкіх „cresach“.
Зьмянілі гальштукі, дый што далей казаць:
Чудэсны кум чырвоны стаў профэсар,
Портфэль рэдактара набыў цудоўны зяць.

4

І пяты друг. Адкормлены случак.
Вочы вострыя, як быццам гіцлі ў шафе.
Сваяцтва зноў:
дырэктару—зямляк,
кум—куму,
а консультанту шафер.
Біць паклон
прывык ён з даўных дзён.
І знаць ня знаць,
а слухаць пад дзьвярыма...
Было ён першы рынуўся на фронт,
на абарону—
„Единой неделимой“.
І незадоўга Карскага портфэль
і рэчы іншыя усьлед за Карскім носіць.
... Знайшлася-закруціла карусэль—
здаць позыцыі бяз бою давялося.
Зьмяніўся час.
О, доля перамен!
Дый што зрабіць, прышлося пагадзіцца.
Сёньня ўжо, дзівіцца, ён доцэнт!
Сваяцтву гімн!
Няма чаму дзівіцца!

5

Як ня славіць песьняй сакалінай,
Беларусь—рэспубліку сваю.
Краіна родная, савецкая краіна,—
табе я ў песьнях сэрца аддаю!
Ты красуеш ростам рыштаваньняў,
творчай працай гартаваных сіл.
Ты ў агні шчасьлівага сьвітаньня,
быццам раніцай на ўсходзе небасхіл.
Зацьвілі прысады,
зелянее рунь.
Так і рвецца радасьць,
як ракета, ўгрунь.
О, мая радзімая краіна,
б‘юць паклон табе, як сонцу каласы.
Б‘юць паклон і славу ткуць машыны,
дзе вечны гул машын, дзе шалясьцяць пасы.

Зьвяжа сонца ў моцны вузел хмары
— Расьцьвітай жыцьцё свабоднае зямлі!
Сьвет стрыножым сонечным пажарам,
хоць і на сонца цені напаўзьлі.

6

Капейку да капейкі,
глядзіш—сабраў рубель.
Ня скрыпку ці жалейку
купляем мы сабе.
Імкнемся ў родным краі
старое сьцяць ушчэнт.
Начыньне мы купляем,
купляем мы цэмэнт!
Мы ўзводзім рыштаваньне—
працоўнай сілы шмат!
Але адно, як глянеш,—
ці-ж мала ў нас растрат?
А колькі хлебаедаў
на карку ў нас сядзяць!
— А ўсе свае патрэбы
мы самі зможам сьцяць?
Эх, людзі, людзі-п'яўкі,—
іх спэцыяльны штат.
Даем мы ім спэцстаўкі—
узвышаны аклад.
— Таварышы, браточкі,
сястрыцы, гэй, мае!
Яшчэ-ж нам на сарочкі
паркалю не стае.
Капейкі, дарагія,
зьбіраем мы адны,
а з іх жывуць былыя
праклятыя чыны.
І хочацца часьценька
каб ценяў гэтых—жуць,—
узяць і колкім венікам
страхнуць-бы, страсануць!..

7

Ідзем наперад мы і цені з намі йдуць,
мы карчуем пні—
яны ў кустох прылеглі.

Ну, а дай спаткаць нам ворага-бяду,
адыйшлі-б адразу,
ой,—адразу зьбеглі-б!..

І як хораша—было-б тады цяпер!
О, як хораша было-б краіне нашай!
Я ад сэрца, шчыра напісаў-бы верш,
яго назваўшы скромна—
пахавальным маршам...
Руку таварыша, як любы свой багнэт,
сьціснуў моцна, радасьцю я ўзрушан!..
— Наіўнасьць шчырая,
яны жывуць як сьлед,
жывуць, прыкрыўшыся савецкім дабрадушшам...

Менск.
Студзень 1928 г.

# ПЕСЬНЯ РАДЗІМЕ

**Е. Пфляумбаум**

Люба мне ў чужой краіне
Беларусь мацней кахаць
і над рэчкай з белых лілій
ёй вяночкі завіваць.
Беларусь—краіна казак,
казка сьветлая сама,
ца табе ў нямым экстазе
рукі звыкла заламаць.
І ў даліне неабдымнай
шолах родны затаіць,
вялічава ціхім гімнам
вобраз ласкавы завіць.
Люба мне ў чужой краіне
Беларусь мацней кахаць
і над рэчкай з белых лілій
ёй вяночкі завіваць.

Вёска Алі-Беева,
Башкірск. рэспублікі.

# РАДАСЬЦЬ...

**Е. Пфляумбаум**

Усё прамінецца, зблякне ў сьвета-ценях
і тваньню-сівізной запеніцца краса,
і толькі яркія, парыўныя імкненьні
ня кінуць ў сэрцы разгарацца і згасаць.

І заўжды сьвежасьцю імклівіць пераліўнасьць,
уздымнай навізной трывожыць стынь і жаль,
і зноў ў сугучнасьці так проста і так дзіўна
квяцісты шлях у туманох запален.

Сусьвет сьвятла... дзьве бліскавіцы—вочы,
такая шыр нэрвова-гордых дзён,
а зьмеі-сьцежкі неабдымнае прарочаць
і стомленая радасьць нікне за адхон.

І зноў жыве. У трэпеце стагодзьдзяў
зьвівае думныя бліскучыя гады,
і ў мазаічнасьці жыцьцёвых карагодаў
пакіне новыя нязьбежныя сьляды.

# АГЛЯДАЮЧЫ ТРЫЦЦАЦІГОДЗЬДЗЕ ЖЫЦЬЦЯ...

(Überschauend dreissig Jahre meines Lebens)

*(Вольны пераклад)*

**Іоганэс Бэхэр**

Аглядаючы
трыццацігодзьдзе жыцьця,
як-бы лётам
над змрочнай краінай,
крываняня убачыў
крыніцы там я,
шмат бяздоньняў
і дзікіх руінаў.

Сон атрутны, сьмяротны
людзей ахінуў
у падземным
багністым астрозе.
Крыкі роспачы
ў лейках гранатных я чуў,
па заблытанай
йшоў я дарозе.
Колькі-ж там было гора;
яно ўсё расло
ў голай роўнай
паўднёвай пустыні...
Але вось што ў жыцьці
самым лепшым было—
пераможны паход
па краіне*).

Сэрца з сэрцам у тахт
і пляча ля пляча—
мільёны
йшлі хваляй адзінай:

*) Па айчыне: рэволюцыя 1918 г. *Л. Ц.*

без фальшывага бляску
і твар, і душа—
іскраў зманных паток
ужо згінуў.

Тут з касьцей рыштаваньне
нясло ўвесь цяжар:
абвугліліся
аркі у гмаху...
Вырваў вока сваё,
акрывавіўшы твар,
я—і прэч яго кінуў
з размаху,
і спакусы пазбавіўся
з гэтай пары—
ў час заходу сусьветнага,
ў змроку,
запаліў я агонь
у лясным гушчары.
Гэта вогнішча
бачна здалёка.

Для сусьвету яно
бурным зьзяньнем блішчыць,
ясным полымем
раніцы новай—
аб пачатку жыцьця
будзе ўсім гаварыць,
як магутнае,
дзіўнае слова!

Пераклаў з нямецкае мовы **Л. Цьвяткоў**.

# ПРОБЛЕМА КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА *)

**Л. Каплан**

Проблема культурнай рэволюцыі зараз асабліва актуальна паўстала перад нашай комуністычнай партыяй і перад усімі працоўнымі масамі СССР, якія ўсё больш пачалі разгортваць будаўніцтва соцыялізму. Мы ўсё больш пачынаем адчуваць нашу някультурнасьць, нашу тэхнічную і агульную няпісьменнасьць, якая ў значнай меры перашкаджае нам „перасесьці з сялянскага канякі на каня буйнай індустрыі“, на трактар, на машыновае таварыства, на Асінбуд і г. д.

Больш востра, чым у Маскве, Ленінградзе, Донбасе ды інш. мясцовасьцях нашага Саюзу, пытаньне культурнай рэволюцыі стаіць у нас, у БССР (гэтак сама, як у іншых нацыянальных рэспубліках), дзе культурная проблема шчыльна зьвязана з пытаньнем будаўніцтва нацыянальнай культуры, якая на шляху свайго разьвіцьця сустракае значныя перашкоды як з боку часткі, шовіністычна настроенай расійскай інтэлігенцыі, таксама і з боку нашай партыйнай опозыцыі.

Тав. Ігнатоўскі ў сваім дакладзе на XI зьезьдзе КП(б)Б вельмі яскрава ахарактарызаваў становішча рэчаў у гэтым пытаньні. Мы дасягнулі гэткага ўзроўню культуры, якога Беларусь ніколі ня мела і ня можа мець пры буржуазнай уладзе: унівэрсытэт, акадэмія, тэхнікумы, школы, дзесяткі часопісяй, Інстытут Беларускай Культуры, тэатры, музэі, сотні аркушоў у год літаратуры і г. д. Але ўсё-ж нам прыходзіцца адзначыць, што элемэнты матэрыяльнай культуры ў нас растуць у шмат разоў хутчэй за элемэнты духоўнай культуры, чым ствараецца пагроза значнага разыходжаньня „ножніц“ між гэтымі часьцямі культуры, якія ў пэўнай меры адна ад аднае залежаць. Мы пачалі будаваць Асінаўскую Электрычную Станцыю, у хуткім часе пачнем будаваць заводы сельска-гаспадарчых машын, галянтарэйна-цэлюлёідавую фабрыку, фабрыку штучнага валакна, пашыраем трыкотажную і швацкую прамысловасьць, мяркуем пабудаваць вялікую фабрыку абутку, перабудаваць завод „Энэргія“ і цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў, якія павінны зьмяніць твар нашае краіны, павялічыць ролю прамысловасьці ды пролетарыяту ў экономіцы краіны і штурхаць наперад інтэнсыфікацыю сельскай гаспадаркі, якая таксама

---

*) Друкуецца ў парадку абгаворваньня. *Рэд.*

павінна быць пераведзена на трактар, на машыну. Усе гэтыя задачы, якія патрабуюць для свайго ажыцьцяўленьня 5—6 год часу, вымагаюць ад нас рабочай сілы і спэцыялістых, ведаючых мясцовыя ўмовы: экономіку, быт, мову, культурныя і іншага роду асаблівасьці нашае краіны. У артыкуле „Беларусь у Ленінградзе“ (гл. „Сав. Беларусь“ №№ 247—248) аўтар правільна адзначае, што тое студэнцтва, якое на стыпэндыі ўраду БССР вучыцца ў Маскве, Ленінградзе і ў іншых культурных цэнтрах СССР, наўрад ці вернецца на Беларусь для працы; ці тыя адзінкі, якія сюды і вернуцца, прымушаны будуць зноў засесьці за выўчэньне асаблівасьцяй нашае краіны, бо бяз гэтых ведаў яны нам нічога карыснага даць ня змогуць.

Тав. Ленін у сваіх апошніх артыкулах шмат разоў спыняўся на гэтым пытаньні, нібы стараўся ўбіць нам у галаву ўсю важнасьць проблемы культурнай рэволюцыі, якой нам ня старчыць для таго, каб перайсьці да соцыялізму. Сэнс гэтай культурнай рэволюцыі ня толькі ў тым, каб падвесьці пад соцыялізм матэрыяльную базу (тэхніку ды інш.), але і ў тым, каб *перарабіць* жыцьцё, *учыніць* вялікі політычны пераварот, *рэорганізаваць* быт, які, ня гледзячы на парасткі новага, усё-ж адстае ад політыкі на сталецьці. Ніякімі фразамі аб „інтэрнацыянальным варштаце“ нікому ня ўдасца гэтае праўды замазаць. Інтэрнацыянальны варштат, машына пакуль што яшчэ цалкам рэволюцыі ў быту не зрабілі. Колькі-б тав. Карачун *) ды іншыя падобныя поэты ні пісалі адваротнае, усё-ж прагулы, п'янства, бойкі, на фабрыках і заводах яшчэ ня спыніліся. Інтэрнацыянальная культура зусім не патрэбуе таго, каб мы чорнае прымалі за белае, і таму мы знаходзім, што ў газэце, дзе каравай рукой рабочага напісана аб дзесятках выпадкаў прагулаў, ня можна пісаць вершаў аб тым, што прагулаў на заводах ужо няма. Мо' гэтых прагулаў і няма на якім-небудзь прадпрыемстве, дзе працуюць адзін-два рабочыя, але нашым ідэалам зусім не зьяўляецца саха і саматужная вытворчасьць, хоць-бы на дэмонстрацыі, прысьвечанай 10-годзьдзю Кастрычніка, як то было ў адным мястэчку па Случчыне, і быў выкінуты лёзунг: „няхай жывуць саматужнікі—лепшыя будаўнікі соцыялізму“.

Усе гэтыя балячкі існуюць, і нам трэба з імі змагацца. Варштат, машына, трактар, коопэрацыя — колектывізуюць працу рабочага і селяніна, але ня маюць ніякай магчымасьці цалкам яго выхоўваць, яго вучыць. Машына робіць уплыў на рабочага і селяніна, дае ім кірунак, стварае іх сьветапогляд, але афармленьне, тэорэтычнае абгрунтаваньне ўсяму гэтаму даецца ў школе, гуртку, за вучобай,—усё роўна самастойнай ці колектыўнай. Вось чаму для інтэрнацыянальнага выхаваньня патрэбна нацыянальная форма. Машына дае інтэрнацыянальны соцыялістычны зьмест; тэрыторыя, мясцовая эканоміка, быт, мова,

*) Гл. „Зьвязда“ № 282.

разам узятыя (пры дыктатуры пролетарыяту), даюць нацыянальную форму. Мы дадаемо: „пры дыктатуры пролетарыяту“ таму, што ў той час, як лёзунг нацыянальнай культуры пры буржуазнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці мае сваёй мэтай ашукаць нацыю, павялічыць клерыкалізм, пры дапамозе якога капіталістыя атрымліваюць магчымасьць яшчэ больш эксплёатаваць працоўныя масы,—пры пролетарскай дыктатуры гэты лёзунг зьяўляецца штурхачом, рухаючай сілай соцыялістычнага будаўніцтва, прыцягвае самыя адсталыя слаі насельніцтва да ўдзелу ў дзяржаўным будаўніцтве, дае магчымасьць кожнаму, карыстаючыся роднай мовай, хутчэй уявіць сабе шлях разьвіцьця рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Бясспрэчна, што ў нашыя дні нацыянальная культура зрабілася пролетарскім лёзунгам. Зусім зразумела, гэта ня значыць, што рэшткі разьбітай буржуазіі адмовяцца разьліваць атруту нацыяналізму і шовінізму. Часам гэткага роду справы імі робяцца. Але ўсякае выяўленьне нацыяналізму і шовінізму таксама, як і расійскага вялікадзяржаўніцтва, заўсёды сустрэнуць адпор працоўных, якія выкоўваюць праз свае нацыянальныя формы інтэрнацыянальную перадавую культуру.

З гэтага роду дзейнасьцю расійскага вялікадзяржаўніцтва мы сустракаемся амаль штодзень у нас у БССР, і асабліва тады, як выяжджаем за межы БССР у РСФСР і г. д. Недарма Ленін казаў, што варта паскрэбсьці іншага комуністага—і мы знойдзем вялікарасійскага шовіністага.

КП(б)Б за апошні час значна ўзьняла свой тэорэтычны ўзровень, але яшчэ і зараз мы можам знайсьці шмат адказных працаўнікоў, якія ў пытаньні нацкультуры і нацпытаньня або нічога не разумеюць, або гэтую нацполітыку ператварылі ў нацполітыканцтва. Ленін нас вучыў асабліва ўважліва адносіцца да пытаньняў будаўніцтва нацыянальных дзяржаў і нацкультуры. У сваім лісьце да каўкаскіх таварышоў Ленін папераджаў іх аб тым, што заўсёды трэба мець на ўвазе адрозьненьне ў становішчы сваёй Рэспублікі ад становішча і ўмоў РСФСР. Тав. Сталін піша:

„Ленін у сваіх лістох да таварышоў, якія працуюць у нацыянальных вобласьцях і рэспубліках, заклікаў да разьвіцьця нацкультуры гэтых вобласьцяй на падставе саветаў. Менавіта таму, што пасьля ўзяцьця пролетарыятам улады ў свае рукі мы ўвесь час ішлі па гэтаму шляху, нам ўдалося стварыць нябачаны ва ўсім сьвеце інтэрнацыянальны будынак, які завецца СССР“.

Ленін, які ў 1913 г. са ўсёй рашучасьцю паўставаў супраць лёзунгу нацкультуры, як лёзунгу папоўскага, контр-рэволюцыйнага, буржуазнага, зусім інакш ставіў гэтае пытаньне пасьля перамогі дыктатуры пролетарыяту, і ён у сваім лісьце лічыць канечна патрэбным зьвярнуць увагу каўкаскіх таварышоў на гэтую розьніцу ў становішчы і ўмовах працы.

Наша партыйныя опозыцыя, адносна якой тав. Сталін на XV партыйным зьезьдзе казаў, што няма ўжо ніводнага пункту, дзе опозыцыя была-б згодна з партыяй, пачала рэвізаваць ленінізм таксама і ў

пытаньнях нацполітыкі і нацыянальнай культуры. На жнівеньскім пленуме ЦК УсеКП(б) тав. Зіноўеў абвінавачваў Сталіна ў няправільным разуменьні лёзунгу аб нацыянальнай культуры. Зіноўеў кажа, што калі Сталін гаворыць:

> „Пролетарская культура не адхіляе нацыянальнай культуры, а дае ёй зьмест, і наадварот, нацыянальная культура не адхіляе пролетарскую культуру, а дае ёй форму,—дык, зразумела, ён няправы, ён гаворыць ня мовай Леніна“.

Гэтае абвінавачаньне сьведчыць аб тым, што наша опозыцыя ў пытаньні аб нацыянальнай культуры цалкам згодна з т. Ваганянам, вядомым усёй партыі сваёй барацьбой супраць ленінізму. Аб Леніне Ваганян дазволіў сабе напісаць наступныя радкі:

> „У гэтую самую эпоху (фармаваньня партыі. *Л. К.*) Ленін займаў палавінчатую позыцыю па ўсіх карэнных пытаньнях рэволюцыйнай тактыкі, ня змог сваячасова рэагаваць на ход унутрыпартыйнай барацьбы, ён быў рэволюцыянэрам са спазьненьнем... ня Ленін зьяўляецца цэнтральнай фігурай раньняга партыйнага руху... ня ім кіравалася праца па зьбіраньні раздробненых партыйных груп і груповак у адзіную партыю“ *).

І вось цікава, чалавек, які ўвесь час малюе Леніна не як цьвёрдакаменнага бальшавіка, а як хісткага дробна-буржуазнага палітыка, зараз спрабуе спасылкамі на Леніна давесьці беспадстаўнасьць Сталінскай формулёўкі: „нацыянальная па форме, інтэрнацыянальная па зьместу“. Ваганян рэвізуе і фальсыфікуе Леніна ва ўсіх асноўных пытаньнях бальшавізму, а тут ён чамусьці ўжо зьяўляецца перад партыяй як стопроцантны бальшавік. Але мала хто яму ў гэтым паверыць.

Ваганян у сваёй кніжцы „Аб нацыянальнай культуры“ (з якой згодна апозыцыя) свой адыход ад партыйнай лініі апраўдвае Ленінскімі выняткамі 1913 году, але гэтым ён толькі даводзіць свой „талент“ вылучаць букву марксызму супраць духу марксызму і ленінізму. І опозыцыя ў асобе т. Зіноўева пасьпяшалася ўзяць гэтага рэвізыяністага пад сваю абарону, гэтым самым яшчэ раз выкрываючы соцыял-дэмократычную сутнасьць опозыцыйнай ідэолёгіі.

Як у кніжцы Ваганян, таксама і Зіноўеў у сваім выступленьні бязбожна наблыталі, даводзячы гэтым сваё поўнае неразуменьне нацыянальнай політыкі пэрыоду дыктатуры пролетарыяту.

Гаворачы аб нацыянальнай культуры, Ваганян перш за ўсё ашаламляе, глушыць чытача выняткамі, імкнецца намаляваць жудасны і бязупынны рост вялікадзяржаўнага мясцовага нацыяналізму. Гэткае згушчэньне фарб, гэткая пераацэнка пытаньня мо‘ былі-б не бескарыснымі,

*) Т. Ваганян. „Г. В. Плеханов“.

калі-б гэта ня выліласся ў панік'ёрства і каб пад гэтым не хавалася агульнае абвінавачаньне партыі ў правым ухіле, бязьдзейнасьці, дапамозе росту нацыяналізму.

Кожнаму вядома, што дробна-буржуазныя нацыяналістыя, напрыклад' нашы беларускія эсэры, беларускія народныя ўрадаўцы (БНР) ды інш., пад лёзунгам „нацыянальнай культуры" на справе праводзілі „раздрабненьне рабочых, абясьсіленьне дэмократыі, гандлявалі народнымі правамі і народнай воляй" (Ленін). Кожнаму таксама вядома, што ў сучасны момант нэпаўская і кулацкая буржуазія выгадоўвае нацыяналізм, шовінізм, імкнецца праз нацыянальную форму культуры правесьці свой нэпаўскі, буржуазны зьмест, вядзе на культурным фронце заўзятую клясавую барацьбу з намі. Хіба-ж наша партыя не вядзе барацьбу з гэтымі тэндэнцыямі новай, якая нараджаецца, буржуазіі? Можна было-б падаць шмат прыкладаў з нашага жыцьця, калі нацыяналістычныя элемэнты імкнуліся, дый імкнуцца, пад нацыянальнай формай працягнуць клясава-буржуазны зьмест. Буржуазная кулацкая нацыяналістычная інтэлігенцыя імкнецца прасякнуць чыннасьць усіх нашых культурных установ нацыяналістычным зьместам. Але хіба ня праўда, што ў гэтых самых культурных установах, побач з мясцовым нацыяналізмам, не змагаецца вялікадзяржаўны расійскі шовінізм? Хіба ў нас ёсьць мала прыкладаў, калі вялікарасійскім шовіністым удалося схіліць студэнтаў і вучняў адмовіцца ад вывучэньня беларускай мовы і культуры? Хіба ня факт, што гэткага роду шовіністым удалося схіліць на свой бок нават такіх комуністых, якія добра разьбіраюцца ў нацыянальным пытаньні, што трэба Беларускі Дзяржаўны Тэатр перайменаваць у Менскі Дзяржаўны Тэатр і гэтым самым увесьці ў Менск расійскую халтурную драму? Хіба ня факт, што дробна-буржуазная шовіністычная стыхія праз працаўнікоў нашага апарату ўзяла сабе за правіла ганьбіць усё беларускае, мясцовае і хваліць усякую расійскую халтуру?

Гэта значыць, што на культурным фронце з нашай асноўнай бальшавіцкай лініяй заўзятую барацьбу вядуць расійскі шовінізм і мясцовы нацыяналізм. Расійскі шовінізм, якім была прасякнута ўся папярэдняя чыннасьць нашых культурных установ, выгнаны і выкінуты са ўсіх сваіх старых позыцый, зараз змагаецца хоць за які-небудзь, хоць за невялічкі ўплыў на нашае культурнае будаўніцтва; мясцовы нацыяналізм—беларускі, яўрэйскі, польскі,—у зьвязку з ростам нэпаўскай і кулацкай буржуазіі, пачынае высоўваць свае патрабаваньні на асобную ролю ў нашым культурным будаўніцтве; КП(б)Б, якая на дзесятым зьезьдзе выкінула лёзунг: „КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва", усё больш і больш узмацняе і пашырае свой уплыў на чыннасьць усіх нашых культурных установ, комуністыя-культурнікі адыгрываюць значную ролю ў жыцьці і ролі нашых культурна-асьветных інстытуцый, выкладаньне грамадзкіх дысцыплін усё больш пераходзіць да комуністых-профэсараў і настаўні-

каў, што значна павялічвае партыйны, бальшавіцкі ўплыў на выхаваньне нашых вучняў і студэнтаў.

Але барацьба з нашай лініяй будзе весьціся яшчэ доўгі час, бо мы з-за недахвату сіл яшчэ ня можам узяць усе позыцыі культурнага фронту ў свае рукі. Расійскі і мясцовы нацыяналізм яшчэ і зараз вядуць заўзятую барацьбу за кожную шчэліну ў нашым культурным будаўніцтве. Якую вялікую барацьбу прыходзіцца весьці нашым органам і працаўнікам пры разглядзе навучальных плянаў, програм школ, унівэрсытэтаў, акадэміі, Інбелкульту, каб адстаяць у іх пролетарскі зьмест. Тав. Кнорын у справаздачы ЦК КП(б)Б на XI зьезьдзе спэцыяльна спыніўся на тым, што наш Інбелкульт працуе над 2—3 тэмамі, якія сапраўды будуць мець марксыцкі вытрыманы зьмест, а хіба ў іншых умовах аб гэтым трэ' было гаварыць? Або колькі патуг прыходзіцца зрабіць, каб палепшыць беларускія кнігі, падручнікі, каб выкінуць з іх дробна-буржуазную мяшчанскую ідэолёгію? Досыць хоць-бы адзначыць той факт, што нашы падручнікі, якія мы выдалі ў 1927 годзе, па свайму клясаваму зьместу куды лепшыя за кніжкі, выданыя ў 1921—22—23—24 і нават 1925 г. Хіба гэта ня сьведчыць аб упартай, сыстэматычнай барацьбе партыі з нацыяналістычнымі ўхіламі ў нашых савецкіх школах, унівэрсытэтах і г. д.?

На культурным фронце канечна трэба весьці сыстэматычную штодзенную ўпартую барацьбу; наскокам па мэтоду Ваганяна можна толькі галаву зламаць. Зламаць, разьбіць, зьнішчыць, разагнаць, паніку навесьці гэта кожны можа, нават без Ваганянаўскага „таленту", але мы таму і будуем не паводле Ваганянаўскага, але паводле Ленінскага рэцэпту.

> „Пролетарская культура,—кажа т. Ленін,—не зьяўляецца невядома адкуль узятай выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта цалкам бязглузьдзіца. Пролетарская культура павінна зьявіцца законамерным разьвіцьцём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад прыгнётам капіталістычнага грамадзтва, чыноўнічага грамадзтва". *(Ленін. Прамова на III зьезьдзе РКСМ).*

Усё гэта гаворыць аб тым, што новую культуру мы створым на падставе дасягненьняў усяго чалавецтва і ў выніку доўгай сыстэматычнай барацьбы і зьнішчэньня ўсяго таго, што зьяўляецца фэўдальнай і буржуазнай гнільлю.

Зьвернемся да кнігі Ваганяна „Аб нацыянальнай культуры". Кніга гэта мае некаторыя дакладныя якасьці. Калі аўтар у гэтай кнізе выступае супраць паходу на расійскую мову з боку нацыяналістых, калі лае ўсіх тых, хто „ўкараняе ў сьвядомасьць не аднэй тысячы моладзі нянавісьць да расійскай мовы", выкрывае „нацыяналістычны партыкулярызм, дух выключнасьці, імкненьня да адасабненьня, да замкнутасьці абмежаванасьці і рэакцыйнасьці", дык ён, бязумоўна, робіць партыйную справу. Калі т. Ваганян лае ўсіх тых паноў, якія лічаць, „быццам ярмо ангель-

скага колёніяльнага панаваньня ёсьць культура больш высокая, чым культура інтэрнацыяналізму і нацыянальнага супрацоўніцтва з атрымаўшым перамогу на поўначы „вялікарасійскім пролетарыятам", тады ён паўтарае выступленьне нашых парторганаў і асобных таварышоў, і партыя яго ў гэтым пытаньні цалкам падтрымае. Але калі Ваганян толькі і бачыць цёмныя бакі ў нашым жыцьці, як наша моладзь распусьнічае, як яе ад нас адрываюць, укараняюць у ёй варожную нам псыхолёгію, як сыстэматычна на нашых вачох і не бяз нашае дапамогі рыхтуюць нам ідэолёгаў нацыянальнай абмежаванасьці, людзей варожых інтэрнацыянальнай культуры пролетарыяту і ўсё гэта „на сродкі рабочых і сялян" *),—тады мы маем поўнае права абвінаваціць яго і яго прыхільнікаў у адмаўленьні ўсякай станоўчай працы партыі і савецкай улады ў нацыянальных рэспубліках, у глыбокім пэсымізьме, няшчырасьці і палітычнай спэкуляцыі.

У другім месцы сваёй кніжкі Ваганян бярэ пад сумненьне ўсю чыннасьць Народных Камісарыятаў Асьветы нацыянальных рэспублік, абвінавачваючы іх у лібэралізьме, у тым, што яны даюць разьвівацца буржуазнай ідэолёгіі. І калі зараз чытаеш кніжку Ваганяна, дык мімаволі ў галаву лезуць словы опозыцыянэра Вардзіна:

> „Навакол столькі нездаволеньня, сумненьняў, небясьпекі, памылак, злоўжываньняў, глупства, а вы думаеце, што так званая „творчая праца" рашае ўсё".

Вось да якога занепаду і распаду дайшла наша партыйная опозыцыя. Нявера ў сілы пролетарыяту штурхае іх усё больш і больш у лягер меншавізму. Опозыцыя, у тым ліку і Ваганян, спалохаліся ўжо першых перашкод. Іх палахлівасьць выкрыта ўжо на гэтым павароце. Тым лепш для партыі, якая далей зможа будаваць соцыялізм бяз хныцікаў, трусоў і малавераў. Гэта-ж проста характарна, што аб чым-бы опозыцыя ні гаварыла: аб замежнай палітыцы, англа-расійскім камітэце, кітайскай рэволюцыі, нацыянальным пытаньні ці гаспадарчым будаўніцтве, адусюль у яе прэ пэсымізм, нявера ў сілы рабочае клясы і яе здольнасьць будаваць соцыялізм.

Зьвернемся да формулы т. Сталіна: „пролетарская па зьместу і нацыянальная па форме", супроць якой паўстаў т. Зіноўеў на пленуме ЦК УсеКП(б). Праўда, т. Зіноўеў нічым ня тлумачыў, ня ўгрунтоўваў, не выкладаў сваіх поглядаў па гэтым пытаньні, але затое плеханавец Ваганян—опозыцыйны аднадумец Зіноўева, які ўжо руку набіў сабе ў выступленьнях супраць ленінізму—склаў ледзь ня цэлую „філёзофію" вакол гэтай формулы, дарма імкнучыся яе адхіліць.

Тав. Сталін на пленуме вось як адказаў т. Зіноўеву:

„Тое, што тут нагаварыў т. Зіноўеў аб нацыянальнай культуры, трэ' было-б увекапомніць для таго, каб партыя ведала, што т. Зіноўеў

*) Т. Ваганян. „О национальной культуре", стар 180.

зьяўляецца ворагам разьвіцьця нацыянальнае культуры народаў СССР на савецкай аснове, што ён зьяўляецца прыхільнікам колёнізатарства. Мы лічылі лёзунг нацыянальнае культуры ў эпоху панаваньня буржуазіі лёзунгам буржуазным. Чаму? Таму што лёзунг нацыянальнае культуры ў пэрыод панаваньня буржуазіі абазначае духоўнае падпарадкаваньне працоўных мас нацыянальнасьцяй кіраўніцтву буржуазіі, яе панаваньню, яе дыктатуры. Пасьля ўзяцьця ўлады пролетарыятам мы агаласілі лёзунг разьвіцьця нацыянальнае культуры народаў СССР на аснове саветаў. Што гэта значыць? Гэта значыць, што мы дапасоўваем разьвіцьцё нацыянальнае культуры сярод народаў СССР да інтарэсаў і патрэб соцыялізму, да інтарэсаў і патрэб пролетарскае дыктатуры, да інтарэсаў і патрэб працоўных нацыянальнасьцяй СССР. Ці значыць гэта, што мы цяпер проці нацыянальнае культуры наогул? Не, ня значыць. Гэта значыць толькі тое, што мы цяпер за разьвіцьцё нацыянальнае культуры народаў СССР, нацыянальнае мовы, школы, друку і г. д. на аснове саветаў. А што значыць агаворка „на аснове саветаў“? Гэта значыць, што па свайму зьместу разьвіваная савецкаю ўладаю культура народаў СССР павінна быць культураю агульнаю для ўсіх працоўных, культураю соцыялістычнаю, па сваёй-жа форме яна ёсьць і будзе культураю неаднолькаваю для ўсіх народаў СССР, культураю нацыянальнаю, культураю рознаю для народаў СССР адпаведна розьніцы ў мове, у нацыянальных уласьцівасьцях. Аб гэтым я гаварыў і ў сваёй прамове ў Комуністычным Унівэрсытэце працоўных Усходу гады тры таму назад. У гэтым духу і дзейнічала ўвесь час наша партыя, падахвочваючы разьвіцьцё нацыянальных савецкіх школ, нацыянальнага савецкага друку ды іншых культурных устаноў, нацыяналізацыю партыйнага апарату, нацыяналізацыю савецкага апарату і г. д. Уласна таму Ленін у сваіх лістох да таварышоў, працуючых у нацыянальных вобласьцях і рэспубліках, заклікаў да разьвіцьця нацыянальнае культуры гэтых вобласьцяй і рэспублік на аснове саветаў. Уласна таму, што пасьля ўзяцьця ўлады пролетарыятам мы ўвесь час ішлі па гэтаму шляху—уласна таму ўдалося нам пабудаваць нячуваны ў сьвеце інтэрнацыянальны будынак, які называецца Саюзам Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. І вось т. Зіноўеў думае цяпер зьмяніць усё гэта, выкрэсьліць, пахаваць, абвяшчаючы вайну нацыянальнай культуры. І гэтая колёнізатарская балбатня ў нацыянальным пытаньні называецца ў нас ленінізмам. Ці ня сьмешна гэта? Вельмі шкода, што грузінскія ўхілістыя ня ведаюць яшчэ аб гэтым“.

Наша опозыцыя не разумее розьніцы ў пастаноўцы пытаньня аб нацыянальнай культуры раней і зараз. Опозыцыя, падаючы наступную цытату Леніна:

„Значэньне лёзунгу нацыянальнай культуры вызначаецца об'ектыўнымі суадносінамі ўсіх клясаў гэтай краіны і ўсіх краін сьвету“,

хоча нібы давесьці, што Ленін наогул быў супраць гэтага лёзунгу.

Ленін сапраўды гаварыў гэтыя словы, але опозыцыя нават не патурбавалася зразумець сэнс гэтых глыбокіх слоў. Для Леніна марксызм ніколі ня быў мёртвай догмай. У марксызьме ён галоўным чынам цаніў яго жывую душу—дыялектыку.

Ленін ганіў лёзунг нацыянальнай культуры. Але *калі* і *чаму?* Той, хто аб гэтым не падумаў, нічога ніколі не зразумее ў ленінізьме.

„125 год таму назад, калі ня было яшчэ расколу нацый на буржуазію і пролетарыят, лёзунг нацыянальнай культуры мог быць адзіным і цэльным заклікам у барацьбе супроць фэўдалізму і клерыкалізму (духавенства)“ (Ленін).

Гэта *адно* значэньне лёзунгу нацыянальнай культуры.

Але з таго часу, як разгарэлася клясавая барацьба паміж пролетарыятам і буржуазіяй, з таго часу, як „адзіная“ нацыя раскалолася на эксплёатуючых і эксплёатаваных, лёзунг „нацыянальная культура“ набыў у руках буржуазна-паліцэйскае дзяржавы іншае, *рэакцыйнае* значэньне. У царскай Расіі у імя нацыянальнай культуры—вялікарасійскай, польскай, украінскай, беларускай, яўрэйскай, — усякія Пурышкевічы, Маркавы, Шульгіны ды інш. праводзілі свае чорнасоценныя справы, пляны і проекты.

Разам з гэтым Ленін тады яшчэ зазначаў, што, поруч з буржуазна-папоўскай культурай, існавалі элемэнты, пачаткі іншай культуры—дэмократычнай і соцыялістычнай, прадстаўленай Чэрнышэўскім і Плеханавым.

Урэшце, *трэцяе* значэньне датычыць пэрыяду дыктатуры пролетарыяту, які, на падставе сваёй улады, будуе соцыялізм на аднэй шостай частцы сьвету, пры тым будуецца ў такім Савецкім Саюзе, які зьяўляецца фэдэрацыяй працоўных шмат нацый. І тут ужо лёзунг нацыянальнай культуры зрабіўся *пролетарскім*.

Што з гэтае вынікае? Чым тлумачыць, што т. Ваганян, Зіноўеў ды інш. забыліся на гэткую „дробязь“, якое рознае значэньне лёзунгу нацыянальнай культуры ў *розных* гістарычных абставінах? Гэта тлумачыцца тым, што опозыцыя чапляецца за літару марксызму, не разумеючы яго духу. Гэта тлумачыцца тым, што Ленін — дыялектык, а Ваганян — архіварыус.

Разьбярэмся ў Сталінскай формуле, прызнанай усёй партыяй.

Ва ўмовах саветаў у розных рэспубліках мы ствараем адзіную па свайму клясаваму значэньню і зьместу культуру. Напрыклад, усе школы, тэхнікумы, вышэйшыя навучальныя ўстановы ва ўсіх нацыянальных рэспубліках маюць адзіны пролетарскі зьмест: падрыхтоўваюць організатараў новага жыцьця, абслугоўваюць індустрыялізацыю краіны, узьнімаюць дыктатуру пролетарыяту, узьнімаюць культурны ўзровень насельніцтва і г. д.

Мастацтва, літаратура, тэатр таксама маюць сваёй адзінай мэтай — пабудову, шляхам узьдзеяньня на эмоцыянальныя пачуцьці, соцыялістычнага грамадзтва.

Але гэтая адзіная па свайму зьместу культура прымае розную форму ў залежнасьці ад нацыянальных уласьцівасьцяй кожнае рэспублікі.

Што мы разумеем пад словам „нацыя“?

„Нацыя“ — гэта гістарычна складзеная трываласьць, супольнасьць мовы, тэрыторыі, экономічнага жыцьця, псыхічнага складу, які выяўляецца ў агульнасьці культуры“. (Сталін).

Гэта значыць, што пад уплывам мовы і нацыянальных уласьцівасьцяй, выкліканых тэрыторыяльнымі, бытавымі, экономічнымі ўмовамі, культура прымае розныя формы.

Тав. Ваганян бязбожна блытае, жадаючы давесьці, што па зьместу і па форме культура рабочае клясы адзіная на ўсіх мовах.

„У звычайнай гутарцы можна гаварыць аб нацыянальнай форме культуры, але навуковая мова, мова марксыцкай навукі гэткай дзікай формулы не прызнае, бо структура культуры, яе пабудова (г. зн. форма культуры) канчаткова вызначаецца ня мовай і правамі, але клясавай барацьбой“. („Нацыянальная культура“. Т. Ваганян, стар. 45).

Так што форма культуры—гэта яе пабудова, яе структура... Але хіба наша беларуская літаратура і музыка па сваёй пабудове не адрозьніваюцца ад расійскай?

Ня будучы нават такім вялікім „філёзофам“, як т. Ваганян, можна заўважыць, што наша беларуская літаратура і музыка па сваёй пабудове, структуры, разьмеркаваньні матэрыялаў істотна адрозьніваюцца ад расійскай ды інш.

Цікава, што пад уплывам опозыцыйнай фальсыфікацыі ленінізму мы зараз вельмі часта можам чуць, што нашы поэты не павінны пісаць аб Беларусі, а толькі аб усесаюзным і г. д. Слоўца „нацыянальная абмежаванасьць“ направа і налева кідаецца на адрас нашых поэтаў і пісьменьнікаў. А хіба гэта ня значыць, што вялікадзяржаўнікі, расійскія шовіністыя, хаваючыся ў вопратцы нашай опозыцыі, хочуць прымусіць нашых маладых літаратараў адарвацца ад тае роднае глебы, якая іх выхоўвала, адарвацца ад чытача, без якога ня можа быць ніякай творчасьці? Наша бацькаўшчына,—разважаюць гэтыя опозыцыянэры,—увесь сьвет, а таму поэта павінен таксама выхваляць *увесь* сьвет. Зусім зразумела, што гэткімі парадамі мы адарвалі-б нашу поэзію, літаратуру ад жыцьця, ад роднай глебы, бо літаратура, якая не адбівае мясцовых уласьцівасьцяй быту, экономіку і г. д., ніколі жыць і цьвісьці ня будзе. Напрыклад, стварацьадзіную па сваёй пабудове і структуры музыку — гэта значыць выпусьціць з рук адну з найвялікшых прылад перабудовы грамадзтва, бо такая музыка ня будзе зразумела масам, ня дойдзе да іх, бо яе выкарыстаюць нашы клясавыя ворагі. Тое самае можна сказаць і пра нашы школы, унівэрсытэты і г. д. Сельска-гаспадарчы характар нашае Беларусі, мэліорацыя балот, лясістасьць нашае краіны, этногра-

фічная адасобненасьць нашае мовы зусім зьмяняюць структуру нашых вышэйшых навучальных установаў, прымушаюць іх у іншай форме пабудаваць навуковы матэрыял.

Гэта значыць, навука, мастацтва, як элемэнты культуры ва ўсіх рэспубліках маюць адзіную мэту перабудовы грамадзтва на соцыялістычных асновах, г. зн. адзіны зьмест... Гэтыя элемэнты культуры прымаюць у гэты час нацыянальную форму, адрозьніваючыся па сваёй структуры, пабудове, разьмеркаваньні матэрыялаў.

Замест гэтае формулы опозыцыя высоўвае іншую: „інтэрнацыянальная культура на нацыянальных мовах". Высоўваючы блытаную, нічога ня кажучую формулу, опозыцыя ўсю нацыянальную адзнаку зводзіць толькі да мовы, чым зусім выразна становіцца на дробна-буржуазную пляцформу, што больш узмацняе і згрупоўвае элемэнты „трэцяй сілы" вакол опозыцыі. Выступленьне опозыцыі супроць „нацыянальнай культуры" *дало козыр усім расійскім шовіністым даць партыі яшчэ раз бой па нацыянальным пытаньні.*

Зусім ня дзіва, што мы ў апошнія часы зноў заўважаем узмацненьне чыннасьці шовіністычных, вялікарасійскіх груп. Калі пры стараньні ўсёй партыі ўдалося перамагчы і паставіць на сваё месца мясцовы беларускі шовінізм, дык у пытаньнях закілзаньня вялікарасійскага шовінізму ў нас ёсьць досыць значны недагляд. Расійскі шовінізм у выступленьнях Ваганяна ды інш. опозыцыянэраў знайшоў нешта сваё, што штурхала яго на сымпатызаваньне і спачуваньне опозыцыі. Аб гэтым вельмі ясна піша белагвардзейская газэта „Руль" ад 4 кастрычніка 1927 г.:

> „Цікавым і надзвычай важным зьяўляецца зазначэньне на ролю беспартыйных... Беспартыйныя даюць свае памяшканьні для падпольных явак, хаваюць нелегальныя выданьні, распаўсюджваюць іх, служаць сувязьзю і г. д., словам, бяруць самы блізкі ўдзел у небясьпечнай і незамірымай барацьбе з уладаю. Гэты факт аднолькава зьяўляецца паказальным як з пункту погляду звароту опозыцыі да беспартыйных аб падрыманьні, так і з пункту погляду гатоўнасьці апошніх такую дапамогу даць. Вядома, што ня толькі комуністыя, але і іх падгалоскі—меншавікі—лічаць сябе белай косткай, і знаходзяць ганебным для сябе сесьці за адзін стол з чорнай косткай, з якімісьці беспартыйнымі, г. зн. розначынцамі. Парушэньне гэтага ідыёцкая „клясавага прынцыпу" сьведчыць аб жыцьцёвай гнуткасьці опозыцыі. Але больш важнае, зразумела, гэта адносіны беспартыйных. У імя чаго яны рызыкуюць галовамі, дапамагаючы опозыцыі? Не для таго-ж, каб аднавіць безнадзейна забруджаную сталінцамі чыстату комуністычных прынцыпаў. Калі-б гэта было так, дык яны, зразумела, перш за ўсё, увайшлі-б у партыю, каб змагацца ўнутры. Але яны, як і сам Троцкі, добра разумеюць, яшчэ больш выразна адчуваюць, што рака часоў назад не цячэ, і што за тэрмідорам,

наяўнасьць якога опозыцыя правільна вызначае, нямінуча ідзе брумэр".

Гэта заява вельмі характарная ў тым сэнсе, што расійская белагвардзейшчына, шовінізм, монархістыя так і разьлічалі, што опозыцыя ажыцьцёвіць іх мары, іх жаданьні. Опозыцыя, засьляпёная фракцыйнай барацьбой, біла, як гэта кажуць, і ў хвост і ў грыву па ЦК, па кіраўніцтву, па дзяржаўнаму апарату, па профсаюзах і г. д. І зусім зразумела, што яна гэтым толькі сыгналізавала беспартыйнай белагвардзейшчыне. Расійскі шовінізм перайшоў у наступ, што нам асабліва прыходзіцца падкрэсьліць.

Гэты факт лепш за ўсё вызначаецца ў справе выўчэньня беларускае мовы. За прыкладамі далёка ня трэба хадзіць: на запытаньне, чаму ня выўчаеце беларускай мовы, адзін вэтэрынар у Бабруйску адказаў:—я мову выўчаць ня буду, бо мае пацыенты бяз гэтае мовы абыходзяцца. Або факт, што беларуская мова, якая ўкаранілася і дала шмат station ўкіх вынікаў у жыцьці і працы N палка беларускай дывізіі, зараз амаль зусім выгнана з працы палка. Загад па палку, які раней пісаўся на беларускай мове, зараз пішацца на расійскай. Гэткіх прыкладаў можна было-б падаць дзесяткі, і яны гавораць аб тым, што вялікадзяржаўны шовінізм некаторыя позыцыі адваяваў сабе назад. Тое-ж самае мы бачым у Горацкай акадэміі і г. д.

Для нас ніколі мова ня была фэтышам, мэтаю, за якою мы ганяліся. Мова ў нашым разуменьні ня мэта, а *сродак*, патрэбны нам для таго, каб з большым поспехам узьняць шырокія слаі працоўных нацыянальных рэспублік да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве нашае краіны. Для пасьпешнага будаўніцтва нацыянальнай культуры мова зьяўляецца сродкам, абавязкова патрэбным для яе выўчэньня.

Мы заўсёды змагаліся і зараз мы лічым канечна патрэбным змагацца супраць лёзунгу „адзіная нацыянальная культура", гэтак сама, як мы заўсёды выступалі супраць „адзінага нацыянальнага фронту", нават у пытаньнях культурнага будаўніцтва. Ніяк ня можна згадзіцца з заклікам поэты З. Бядулі, каб усе „сустрэчныя" і „папярэчныя" ладзілі з ім сьвята і сьпявалі з ім песьню. Ва ўмовах, калі ўсё больш выяўляецца дыфэрэнцыяцыя, калі расьце гарадзкі і вясковы кулак (пад тэрмінам „кулак" трэба зразумець і гарадзкога нэпмана. *Л. К.)*, калі барацьба паміж соцыялістычнымі і прыватна-капіталістычнымі элемэнтамі ў нашай гаспадарцы ўсё больш узрастае, падобны заклік да сустрэчных і папярэчных зьяўляецца няправільным і шкодным. Нас Ленін вучыў, і ў гісторыі мы знаходзім дзесяткі такіх выпадкаў, калі кулак супраць рэволюцыі выступаў разам з царамі, папамі, капіталістымі ды іншага роду белагвардзейцамі. Гэта асабліва абвастраецца ў нашых умовах. Таму гэтыя радкі З. Бядулі трэба заганіць, як нявытрыманыя і ідэолёгічна шкодныя. Гэтыя радкі могуць зрабіцца сьцягам усіх варожых нам элемэнтаў, якія заўсёды

будуць выступаць за адзіны нацыянальны фронт. Але адначасова, з аднолькавым імпэтам трэба змагацца з ваганянскімі довадамі аб канечнасьці біць па нацыянальнай культуры; ён ідэалізуе расійскую мову, як мову рэволюцыйную, а мову нацыянальных ускраін, як меншавіцкую і контр-рэволюцыйную. Ваганян піша: „што значыць расійская мова? Гэта ня толькі мова самадзяржаўных прыгнятацеляў, як таго хоча інтэлігент-нацыянал, гэта мова ўсесаюзнай комуністычнай культуры, якую мы выпрацоўваем *усе разам*. Але да ўсяго гэтага расійская мова ёсьць *міжнацыянальнай мовай нашага Саюзу*. У нашым Саюзе няма іншай мовы, якая ўзяла-б на сябе гэтую функцыю, а што бяз гэтай міжнацыянальнай мовы Саюз ня можа існаваць—гэта зусім відавочна; далей, гэта мова нашай адзінай саюзнай экономікі“. (Ваганян. „Аб нацыянальнай культуры“, стар. 129. Курсіў усюды яго. *Л. К.*). І далей Ваганян бярэ наполеонаўскую позу і пытае: „як разумець, што ў школах саюзных рэспублік зусім выгнана расійская мова?“

Толькі зусім адарваны ад конкрэтнай рачаіснасьці інтэлігент можа нагаварыць на некалькіх радкох столькі недарэчнасьцяй.

Па меры ажыцьцяўленьня культурнай пяцігодкі, па меры росту культурнай рэволюцыі гэтыя пытаньні будуць браць ад нас усё больш увагі, і партыя і ўся краіна павінны будуць значна больш займацца будаўніцтвам нацыянальнай культуры. Компартыі нацыянальных рэспублік: Беларусі, Украіны, Грузіі і г. д. зьяўляюцца авангардам на фронце культурнага будаўніцтва. На працягу апошніх трох год КП(б)Б правяла вялізарную ўнутрыпартыйную працу ў сэнсе выхаваньня комуністых—барацьбітоў на культурным фронце. У школах, тэхнікумах, інстытутах, унівэрсытэце мы ўжо адчуваем значнае ўзмацненьне комуністычнага кіраўніцтва і ўплыву.

Побач з гэтым трэба адзначыць, што нізавыя партыйныя організацыі пачынаюць разумець, што нацыянальную культуру,—у даным выпадку беларускую, як культуру пераважнай большасьці насельніцтва рэспублікі, павінны будаваць ня толькі адзінкі-інтэлігенты, але ўсе перадавыя рабочыя і сяляне БССР. Ніколі, ніхто, нікому ня даў патэнт на будаўніцтва нацыянальнае культуры. Гэта зьяўляецца абавязкам і клопатам усёй партыі. Вось чаму нам катэгорычна трэба заганіць байкі аб тым, што справу будаўніцтва беларускае культуры трэба даручыць толькі беларусам. Кожны комуністы, якой-бы ён ні быў нацыянальнасьці, павінен гэтай справай займацца, зусім зразумела, у рамках, адведзеных яму яго культурным узроўнем. Наогул, пытаньням кваліфікацыі партыйцаў партыя ў апошнія часы аддае значную ўвагу і зусім зразумела, што партыя не пакіне бяз увагі і гэты фронт.

Толькі перамогшы фронт нацыянальнае культуры, мы атрымаем вялізарныя посьпехі ў справе барацьбы за соцыялізм.

Таксама як мы падзяляем клясавую культуру і культуру клясы, гэтак сама трэба заўсёды падзяляць тэрміны „беларуская культура“ і „культура на Беларусі“. Няправільна разумеюць тыя, хто кажа, што, друкуючы расійскія кнігі ў Беларусі (нават аўтараў, якія жывыць у Беларусі), яны гэтым узбагачаюць беларускую культуру. Правільна, што яны ў выпадку мастацкай і наогул культурнай каштоўнасьці іх творчасьці ўзбагачаюць нацыянальную культуру, але ні ў якім разе не беларускую [1]).

Вельмі часта нашы таварышы з расійскіх літаратурных організацый на Беларусі кажуць: „што вы нам перашкаджаеце ўдзельнічаць у будаўніцтве беларускай культуры?“ Зусім іншая рэч, што ніхто ім у гэтым не перашкаджае, але тут характарна тая блытаніна, якая існуе ў тэрмінах. Ясна, што яны ўзбагачаюць сваёй творчасьцю толькі культуру расійскай нацыянальнай меншасьці на Беларусі, яны гэтым узбагачаюць культуру на Беларусі пастолькі, паколькі паднімаюць культурны ўзровень расійскай меншасьці насельніцтва БССР. Але гэта ня можна блытаць з беларускай культурай, якую мы будуем для пераважнай большасьці насельнасьці БССР—беларускай, на беларускай мове.

У гэтым нам трэба раз назаўсёды ўмовіцца, бо такога роду блытаніна існуе ня толькі ў нашых расійскіх літаратараў, але і далёка за межамі БССР. Падамо вельмі характарны прыклад.

У 1924 г. ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі ў Нью-Іёрку вышаў зборнік вершаў на расійскай мове Р. М. Карнасэвіча. Па сваёй творчасьці Р. К. зьяўляецца сапраўдным пролетарскім поэтам. Уся яго творчасьць прасякнута пролетарскімі мотывамі. І ня дзіва: Р. К. сам рабочы амэрыканскай гіганцкай індустрыі. Мусіць, па нейкай выпадковасьці ён уваходзіць у склад Усерасійскага Саюзу сялянскіх пісьменьнікаў. Р. К. родам з Горадзеншчыны, з Беларусі. У яго творчасьці вы знойдзеце найпрыгажэйшыя радкі аб Беларусі, аб Нёмане, Горадні, бацькаўшчыне.

Падамо некалькі:

Вот мой город Гродно,
Вот мой дом родной,
Овит горделиво
Неманом рекой [2]).
Там сирень цветет душисто,
Вспаханы поля пушисто.
Там страна моя родная,
Белоруссия простая [3]).

Где воды прозрачны мчит Неман река,
Где сочной травою покрыты луга,
Где стройныя сосны, песчаны поля,
Там Белоруссия простая моя.
. . . . . . . . . . . . .

1) Мы тут і вышэй будзем гаварыць толькі аб элемэнтах духоўнай культуры. *Л. К.*
2) „Звездные Бразды“. Книга стихов. Р. М. Карнасевич. Нью-Іёрк, 1924 г., стар. 13.
3) „Родина“. 1923 г., стар. 15.

Где сердце встречает восторгом восход,
Где бодрый румяный и резвый народ,
Где бури и смерчи колеблют леса,
Вот там Белоруссия простая моя [1]).

Прыкладаў з творчасьці Карнасэвіча, дзе ён пяе аб Беларусі, можна было значна павялічыць. Для нас ясна, што мы тут маем справу з беларусам, парваўшым з Беларусьсю, які нават не карыстаецца сваёй роднай мовай, але ў сваёй творчасьці пяе аб Беларусі, якую ён ведае лепш за іншыя часткі са складу ранейшай Расіі. Але ці дойдзе яго творчасьць да селяніна беларускай вёскі? Бясспрэчна, не, бо яна па форме не падыходзіць для нашага беларускага сялянства, якое гаворыць не парасійску, а пабеларуску, і натуральна, што гэтым зборнікам вершаў узбагачаецца не беларуская культура, а расійская.

Але гэтага не разумеюць некаторыя таварышы ў нас, а таксама некаторыя і там, у Амэрыцы. У зборніку *„Звездные Бразды“* Р. М. Карнасэвіча мы знаходзім цэлы шэраг водгукаў рабочых-беларусаў, што жывуць у Амэрыцы, на яго творчасьць, дзе, паміж іншым, нейкі Нікан Арэцькі піша наступнае:

„Я сильно разочаровался в Америке и тоскую о моей дорогой родине, о реке Немане, что описал Карнасевич. Моя жена сильно ругает поэта за то, что он взбунтовал меня, но я на ругань не обращаю внимания; моя мысль о родных лесах, полях и о реке Немане. И помимо того, что моя жена не соглашается ехать на родину, но я еду один, и с нетерпением ожидаю весны, чтоб увидеть свои родные места и родную деревню, где живут честные мои братья землеробы.

Привет тебе, наш белорусский поэт Р. М. Карнасевич, ты воспламенитель чувств к родине, воспевай нам свои песни и буди в нас застывшие чувства к ней.

Ты наш поэт Белоруссии, славься!“

Ці можна зваць Карнасэвіча „беларускім поэтам“? Ні ў якім разе. Гэта будзе няправільна. Зусім іншая рэч, што ён абуджае беларускага рабочага ў Амэрыцы пачуцьцямі замілаваньня да сваёй бацькаўшчыны. Р. М. Карнасэвіч бязумоўна „поэта Беларусі“. Гэта правільна. Для яснасьці між гэтымі словамі трэба было нават уставіць літару „з“, але ён не зьяўляецца „беларускім поэтам“, беларуская культура яго творчасьцю не ўзбагачаецца.

Тое самае можна было казаць адносна А. Н. Майкова—вядомага расійскага поэты XIX сталецьця, у якога мы таксама знаходзім „Бѣлорусския пѣсни“, пісаныя, прыблізна, у 1870—1880 г. г. [2]) Мы тут не ўваходзім у разгляд соцыяльнага зьместу майкаўскіх „Бѣларусскихъ пѣсенъ, але ясна, што Беларусь, беларускі рабочы і селянін, за выклю-

[1]) „Родина“. 1924 г., стар. 41.

[2]) Гл. поўны збор твораў А. Н. Майкова, том I. кніга II, стар. 212.

чэньнем адзінак, нават і ня ведаюць аб іх. Беларускай культуры песьні Майкова нічога не далі.

Уся партыя ажыцьцяўляе нацыянальную політыку згодна партыйнай програмы і пастаноў яе зьездаў і конфэрэнцый. Гэтая праца выконваецца партыйцамі—якім партыя гэта даручае—з гэткім-жа самым энтузыязмам і імпэтам, як іншыя партыйцы выконваюць іншую даручаную ім працу, напрыклад, па гаспадарцы, коопэрацыі, гандлі і г. д.

Тут мы хочам сказаць адносна расійскай інтэлігенцыі, якая чамусьці ня хоча прызнаць, што Кастрычнікавая рэволюцыя зьнішчыла панскія адносіны расійцаў да нацыянальных рэспублік.

Характарны факт, што расійская інтэлігенцыя на працягу ўсіх 10 год пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі маўчыць аб усіх культурных дасягненьнях БССР, УССР і г. д. Хіба ня цікава, што нямецкі, італьянскі, чэскі друк пісалі аб нашых беларускіх дасягненьнях значна больш, чым у РСФСР? Колькі мы ні пераглядзелі часопісяй, кніжак, альманахаў, прысьвечаных 10-лецьцю Кастрычнікавай рэволюцыі ў СССР, але, на вялікі жаль, мы там ніводнага радка аб Беларусі, Украіне, Грузіі не знайшлі. Звычайны прыклад: часопісь „Печать и Революция“, прысьвечаная 10-лецьцю, пачынаецца з артыкулу „Навука ў СССР“, далей ідуць артыкулы „Літаратура за 10 год“, „Мастацтва, тэатр за 10 год“, падаюцца фото-здымкі выдатных і нявыдатных пісьменьнікаў, поэтаў, артыстых, мастакоў і г. д., але ўсё гэта расійскіх, і ніводнага слова, ніводнага здымку з Украіны ці Беларусі. Гэта-ж ня можна тлумачыць недаглядам ці памылкай.

Таксама і далей. У той час, як за межамі мы ўжо зараз наўрад ці знойдзем больш-менш пісьменную газэту, якая-б у стасунку да нас ня ўжывала тэрміны „СССР“, „Саюз“, „Савецкі Саюз“, мы ў нас, у СССР, амаль заўсёды ў літаратурных і навуковых часопісях ці кнігах знаходзім тэрмін Расія або ў лепшым выпадку Савецкая Расія. Для лепшай ілюстрацыі гэтага падамо наступныя радкі з перадавога артыкулу „От редакции“ газэты „Читатель и Писатель“ № 1:

„Октябрьская революция знаменует собой в жизни России глубочайшую борозду, резко разграничивающую ее историю на два периода: Россия дореволюционная, сначала—княжеская, затем царская и в момент своего падения—императорская, и Россия как Союз Советских Социалистических Республик“.

Гэтая вынятка характарна па сваёй шчырасьці. Рэдакцыя гэтае газэты, я ўпэўнены, да крыві змагацца будзе, што ўсё, ёю напісанае, вытрымана і адпавядае рачаіснасьці. І сапраўды, хіба-ж гэтай рэдакцыі, як і шмат сотням іншых расійскіх інтэлігентаў, ведаць трэба, што Расіі ўжо даўно няма, а што РСФСР, у якой у пераважнай большасьці жывуць расійцы, складае толькі адну частку Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік?

Вось на што трэба зьвярнуць увагу. Зусім недарма т. Бухарын сёлета ў аднэй з сваіх прамоў, іменна ў Ленінградзе, спэцыяльна спыніўся на нацыянальным пытаньні і антысэмітызьме. Гэтае пытаньне зараз набывае асаблівую важнасьць. Ваганян, які выступае за агульнадзяржаўную мову, зьяўляецца рупорам гэтых падняўшых—з прыходам НЭП'у—галаву расійскіх шовіністых. Яшчэ ў спрэчках з украінскім опортуністым Л. Юркевічам і лібэраламі т. Ленін злосна кпіў з пляну стварэньня агульнадзяржаўнай мовы і што гэткай мовай павінна быць расійская. Тав. Ленін прыводзіў у прыклад Швэйцарыю, дзе няма *адзінай* агульнадзяржаўнай мовы. Выступаючы супроць агульнадзяржаўнай мовы, т. Ленін якраз і адзначаў, што мы ня маем ніякага права перашкаджаць разьвіцьцю адсталых народаў захаваньнем якой-небудзь прывілеі для якой-небудзь мовы. Гэтыя радкі Леніным быццам спэцыяльна пісаліся для Ваганяна і яго прыхільнікаў.

Расійская шовіністычная інтэлігенцыя,—якая, праўда, ніякай палітычнай ролі не адыгрывае,—хоча стаць бар'ерам паміж культурай расійскага рабочага і селяніна і абуджанымі працоўнымі масамі нацыянальных рэспублік. Ці ня варта для гэтых шовіністых успомніць вось гэтыя залатыя словы т. Бухарына, сказаныя ім на XII зьезьдзе РКП(б) з выпадку каўкаскіх спрэчак:

„Калі-б пачалі тут, на зьезьдзе, разглядаць пытаньне аб мясцовых шовінізмах, мы-б вялі няправільную палітыку. Чаму-ж т. Ленін з такой энэргіяй пачаў біць трывогу ў грузінскім пытаньні? І чаму т. Ленін не сказаў ані слова ў сваім лісьце аб памылках „уклонистов", і наадварот, усе словы казаў, і чатырох-аршыновыя словы казаў, супраць політыкі, якая вялася супраць „уклонистов"? Чаму ён гэта зрабіў? Таму, што ня ведаў, што існуе мясцовы шовінізм? Ці таму, што ня мог пералічыць дзесятка паветаў з сэпаратыцкімі тэндэнцыямі? Чаму-ж гэта ён зрабіў? А таму, што т. Ленін—геніяльны стратэг. Ён ведае, што трэба біць галоўнага ворага, а не эклектычна нанізваць адценьні на адценьні. Напрыклад, на гэтым зьезьдзе няма чаго гаварыць аб мясцовым шовінізьме. Гэта—другая фаза нашае барацьбы". (XII зьезд РКП, стэнограф. справаздача, стар. 563).

Ваганяну трэ' было вельмі далёка адыйсьці ад Леніна, каб яго вынятками прабаваць абвяргаць патрэбнасьць будаўніцтва нацыянальнай культуры.

„Бязумоўным патрабаваньнем марксыцкае тэорыі, пры разглядзе якога-б ні было соцыяльнага пытаньня, зьяўляецца пастаноўка яго ў *пэўныя* гістарычныя рамкі,—кажа т. Ленін, а потым, як гутарка ідзе аб аднэй краіне (напрыклад, аб нацыянальнай програме для данае краіны),—падлік конкрэтных уласьцівасьцяй, якія адрозьніваюць гэтую краіну ад іншых у межах аднэй і тэй-жа гістарычнай эпохі". (Ленін, том XIX, стар. 94). З Ваганянам ды іншымі яго прыхільнікамі таму гэткі казус

здарыўся, што яны ня ўзялі пад увагу „падліку конкрэтных уласьцівасьцяй“ нашага дарэволюцыйнага і пасьлярэволюцыйнага жыцьця. Ваганянаўцы ў 1927 г., на 10-м годзе рэволюцыі, згодны з тым, што Ленін гаварыў 17—14 год таму, але наўрад ці Ленін у выпадку, каб ён быў жыў, згадзіўся-б з імі. Нам здаецца, што прыблізна аналёгічны казус здарыўся з рэдакцыйнай колегіяй часопісі „Узвышша“, якая ў першым нумары сваёй часопісі зьмесьціла артыкул т. М. Бухарына „Злыя нататкі“ з наступнай заўвагай ад рэдакцыі: „Зьмяшчаючы на старонках нашай часопісі гэты артыкул найвыдатнейшага пролетарскага ідэолёга, з вялікім задаволеньнем павінны зазначыць, што нашы погляды на літаратуру спаткалі нечаканае падтрыманьне з боку т. М. Бухарына. Гэта сьведчыць, што з самага пачатку намі была ўзята правільная лінія“. („Узвышша“. Часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі. № 1, стар. 128).

З гэткім самым правам Ваганян сказаў: „Ага, Ленін казаў якраз тое, што я думаў“. Ніхто нікому не забараняе сабе ў абаронцы ўзяць хоць самага найвыдатнейшага правадыра, але навошта падзіцячаму тыкаць пальцам: якраз Бухарын нас падтрымлівае. У горшым выпадку можна таварышам з „Узвышша“ верыць, што яны згодны з Бухарыным, але наўрад ці ён з імі згодны. Нават упэўнена можна сказаць, што не. Бухарынскія „Злыя нататкі“ сапраўды іх падтрымліваюць, але другім канцом: як вяроўка шыбельніка, бо якраз па іх ён гэтымі злымі нататкамі і б'е. Усё гэта нас вучыць таму, што ў пытаньнях будаўніцтва нацыянальнай культуры трэба асабліва раіць аўтарам быць вельмі асьцярожным.

Ясна:

што барацьба за культурную рэволюцыю ня можа быць адарванай ад барацьбы за нацыянальную культуру;

што барацьба за нацыянальную культуру павінна весьціся поруч з барацьбой за культурную рэволюцыю;

што бяз культурнай рэволюцыі, якая ў сябе ўбірае і нацыянальную культуру, ня можа весьціся посьпешная барацьба на фронце барацьбы за соцыялізм;

што са ўсімі, хто перашкаджае будаўніцтву нацыянальнай культуры, мы павінны весьці рашучую барацьбу;

што агонь трэба адкрыць па ўсіх нібы марксыстых, якія рэвізуюць Леніна ў нацыянальным пытаньні і фальсыфікуюць яго ў пытаньнях будаўніцтва нацыянальнай культуры.

## „ЗАПАДНО-РУССКАЯ„ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ*)

А. Цьвікевіч

### Гаворскі і „Вестник Западной России“ ў Вільні

II

Прычын, дзякуючы якім „Вестник Западной России“ мусіў перабрацца з Кіева ў Вільню, было некалькі. Прычынілася гэтаму дрэннае матэрыяльнае становішча, якое было вынікам ня толькі малога ліку падпісчыкаў, але і няўмелага кіраваньня самой часопісьсю. Гаворскі быў дрэнным гаспадаром „Вестника“, выдаваў яго неахайна і неакуратна, заблытваў разрахункі. Чарговыя кніжкі яго выходзілі са спазьненьнем на месяц, а то і два—тры, і гэта рабіла на падпісчыкаў дрэннае ўражаньне. Ратуючы журнал, Гаворскі зьвяртаўся за дапамогай да ўсіх знаёмых, але просьбы ў большасьці былі дарэмнымі, бо прыхільнікаў у „Вестника“ на Украіне было надзвычайна мала. Сам Гаворскі скардзіўся, што нават сярод украінскага чынавенства і духавенства, якія мелі непасрэдны загад ад вышэйшай улады падпісвацца на „Вестник“ за скарбовы кошт, нават і тут ён не знаходзіў падтрымкі. Аб шырокім грамадзтве Кіева і украінскае провінцыі няма чаго і гаварыць. У найбольш жывой і актыўнай частцы яно спачувала лібэральным і украінафільскім часопісям, і груба-патрыотычны „Вестник Западной России“ выклікаў з яго боку толькі варожасьць. Да ўсяго—барацьба Гаворскага з украінафільскім рухам у 1864 г. страціла ўжо сваю ранейшую вострасьць. Дзякуючы польскаму паўстаньню, правыя ўрадовыя сфэры Пецярбургу, кіраваныя „тройцай“ у складзе міністра ўнутраных спраў П. Валуева, обэр-прокурора сыноду гр. Д. А. Толстого і шэфа жандараў кн. В. Долгорукова, падтрыманыя ў Маскве ўплывовым рэдактарам „Московских Ведомостей“ Катковым, узялі гару над пецярбурскімі лібэраламі і пачалі жорсткую кампанію ўціску ўсялякага нацыянальнага руху. Разам з паўстаўшай Польшчай, урадовым рэпрэсыям падпала і Украіна, якая так буйна ўзьняла ў пачатку 60-х гадоў працу па сваім нацыянальна-культурным адраджэньні. Згодна формуле Гаворскага, украінская справа была абвешчана „коварной іезуитской интригой“, нацыянальныя школы, падручнікі на украінскай мове, лекцыі, сходы, спэктаклі, нават казаньні

*) Гл. „Полымя“ № 8 за 1927 г.

ў царквох паукраінску,—усё было прызнана дзяржаўна небясьпечным і забаронена. Пачалася расправа з найбольш актыўнымі украінафільскімі працаўнікамі. Калі ў гэтым сэнсе яшчэ заставалася што-небудзь дарабіць, дык гэтым заняўся „Кіевлянин“—толькі што заснаваная газэта Шульгіна (бацькі сучаснага монархістага), выдаваная ў Кіеве з 1864 г. і таксама прысьвяціўшая свае сілы „барацьбе з украінафільствам і полёнізмам“. Для нязграбнага „Вестника“ зьяўленьне спрытнага і безварункова больш таленавітага „Кіевлянина“ было вялікай конкурэнцыяй, і Гаворскі зразумеў, што ён гэтай конкурэнцыі ня вытрымае.

Аднак галоўнай прычынай пераезду было тое, што Вільня, у параўнаньні з Кіевам, набыла ў тыя часы не ў параўнаньні большае палітычнае значэньне. Тут быў цэнтр агромністага паўстаньня, якое полымем абхапіла ўвесь захад імпэрыі і пагражала яе цэласьці, тут адбывалася крывавая расправа М. Муравьёва з гэтым паўстаньнем і ў вялізным памеры пачала праводзіцца запаветная мара Гаворскага аб зьнішчэньн лацінства і панаваньні праваслаўя. Пры гэтым у Вільні ня было ніводнага пэрыодычнага органу, які мог-бы быць голасам грамадзтва, адбіць думкі і дапамагчы ўладзе ў яе „охранительных“ мерапрыемствах. Праўда, у Вільні быў мясцовы офіцыёз, вядомы штодзенны „Виленский Вестник“ (ранейшы „Kurjer Litewski“—„Wileński“) на чале з А. Кіркорам. Але, ня гледзячы на зьмены, якія загадаў „Виленскому Вестнику“ сам Муравьёв, ня гледзячы на расійскі шрыфт і друкаваньне ўрадовых абвестак, асабісты склад рэдакцыі і ранейшыя шматгадовыя традыцыі перашкаджалі ямуператварыцца ў губэрскія ведамасьці пры ген.-губарнатарскай канцылярыі. Ён усё неяк захоўваў ня той тон і ня той напрамак. Яшчэ папярэднік Муравьёва—ген.-губ. Назімов характарызаваў „Виленский Вестник“, як газэту, якая „ня мела ніякае істотнае карысьці для краю, дзе яна выдаецца“, ня гледзячы на тое, што ён меў тады да 3.000 падпісчыкаў, а яго супрацоўнікамі былі гэткія работнікі навукі і літаратуры, як Нарбут, Ярошэвіч, Кандратовіч, графы Тышкевічы, П. Кукольнік, М. Гусев, В. Веселоўскі ды шмат іншых*). Не давяраў „Виленскому Вестнику“ і Муравьёв. Рэшта часопісаў, як то „Литовские Епархиальные Ведомости“, заснаваныя ў 1863 годзе І. Семашкай, і „Памятная кніжка Виленской губернии“, рэдагаваная раней Корево, а пасьля М. Сементоўскім, не маглі прымацца пад увагу: „Епархиальные Ведомости“, як орган спэцыфічна конфэсыянальны, а „Памятная книжка“, як штогоднік, які прысьвячаў сябе статыстычна-гістарычным даведкам.

Тымчасам патрэба ў патрыотычнай „истинно-русской“ часопісі была ў той момант у Муравьёва вельмі вялікая. Ня гледзячы на тое, што ўзброенае паўстаньне ў краі было задушана, што апошнія правадыры яго Каліноўскі, Здановіч і Дылеўскі скончылі жыццё на шыбеніцы,

*) „Живописная Россия“, т. III, очерк VII: „Просвещение и народное творчество в Литве“, стар. 134.

да поўнага заспакаеньня яго было яшчэ далёка. А галоўнае, ня было пераконаньня, што падобнае паўстаньне не паўторыцца ў будучыне, дзеля таго што край пастарому захоўваў тыя-ж самыя адносіны грамадзкіх сіл, у ім панавала тая-ж соцыяльная кляса польскіх памешчыкаў і, што асабліва важна, у ім, ня гледзячы на рэжым тэрору і гвалту, панавала ўсё тая-ж польская культура.

Усюды, на кожным кроку адчувалася, што Муравьёв стаіць тут перад моцнай органічнай сілай, якая ў самым карэньні нішчыла трыумф яго шыбеніцкай расправы. Як-ні-як, але яшчэ год перад паўстаньнем Вільня і ўся Беларусь зьяўлялася краем, дзе поўнай крыніцай біла грамадзкае і інтэлектуальнае жыцьцё, дзе маса пытаньняў з галіны літаратуры, політыкі, пэдагогікі і культуры, у шырокім сэнсе гэтага слова, займала мясцовае грамадзтва. Кожны прыяжджаўшы адчуваў сябе ў Вільні ў атмосфэры вялікага культурнага цэнтру. Кніжнае выдавецтва атрымала тут найвышэйшае разьвіцьцё, аб якім і ня думалі ў той час у Маскве і Пецярбургу: у Вільні, прыкладам, было ў 1864 годзе 12 друкарань, у Горадні—5, у Менску—3. „У той час, як адзіная расійская друкарня пры губэрскім праўленьні (rządowa) была занята пераважна друкаваньнем канцылярскіх блянкаў, справаздач і загадаў мясцовай адміністрацыі, рэшта друкарань, як польскіх, так і яурэйскіх, выдалі некалькі раз Міцкевіча, Лелевэля ды іншых польскіх пісьменьнікаў, штогодна выпускалі тысячы беларускіх і жмудзкіх лемантароў польскімі літарамі і г. д.[1]). Ня меншы быў і кніжны гандаль,—у аднэй Вільні было 15 кніжных крам і адпаведна ў провінцыі. Па ўсяму краю былі распаўсюджаны бібліотэкі, (з якіх бібліотэкі польскіх магнатаў у Шчорсах і Несьвіжу карысталіся эўропэйскай вядомасьцю),—бібліотэкі манастыроў, рэлігійных ордэнаў вышэйшых капітулаў, школ, гімназій і г. д. У той самы час расійская кніга была рэдкасьцю: „Для набыцьця расійскае кнігі, амаль ня літаральна, кожны раз прыходзілася зьвяртацца ў Пецярбург або Маскву. За выключэньнем газэт і часопісаў, расійскія выданьні траплялі ў край ня інакш, як у выніку якой-небудзь надзвычайнай падзеі: завязе студэнт або нешта іншае ў гэтым родзе“[2]).

Месцы адміністрацыі ў краі займалі амаль выключна палякі, ці, дакладней кажучы, сполёнізаваныя беларусы. Як відаць з лічбаў, сакрэтна сабраных паводле загаду І. Семашкі ў 1855 годзе, з 723 старшых чы-

---

1) А. И. Миловидов. „Судьба русской книги в Северо-Западном крае в связи с его культурной историей“, стар. 27.

2) Виленские Губ. Ведомости, 1864, № 1. Па пытаньні аб расійскай кнізе на Беларусі ёсьць процілежныя апініі. Прыкладам, П. Шпілеўскі („Путешествие по Полесью и Белорусскому краю“, СПБ, 1858 г., стар. 66) кажа адваротнае. Падчас падарожжа па Беларусі, ён „радаваўся посьпехам асьветы ў ёй, знаходзіў шмат людзей, якія разважалі аб Гоголі, Жукоўскім таксама, як аб Дыкенсу і Тэкэрэю“, у дамох знаходзіў расійскія часопісы. Відаць, расійская мастацкая літаратура і прэса знаходзіла тут сабе прызнаньне; адзіна падручнік расійскі ня меў тут збыту.

ноўнікаў Віленскае і Горадзенскае губэрні 583 было каталікоў, г. зн. людзей, якія гаварылі папольску і praводзілі польскую культуру [1]). На 1 студзеня 1864 году, г. зн. пасьля ўсіх арыштаў, звальненьняў і высылак польскіх настаўнікаў і загадчыкаў школ, іх усё-ж такі заставалася 239 на агульны лік 392 [2]). Аб памешчыках і наогул аб прадстаўніках экономічнага жыцьця Беларусі няма чаго і гаварыць: яны зьяўляліся асноўнай, кардынальнай сілай краю, на якой ляжаў акрэсьлены польскі колёрыт. Экономіка, культура, адміністрацыя,—усё знаходзілася ў руках польскай інтэлігенцыі, усё кіравалася ёю. У гэтым сэнсе розьніца паміж Беларусьсю і, прыкладам, Люблінскай або Ломжынскай губ. была вельмі нязначная,—розьніца была толькі ў народных масах, якія тут заставаліся беларускімі, а там—польскімі.

Зламаць гэтую агромністую культурную сілу і традыцыю было для Муравьёва справай далёка ня лёгкай,—часам гэтая задача была труднейшай за зламаньне і прыдушэньне ўзброенага паўстаньня. Тут фізычным гвалтам і тэрорам мала што можна было зрабіць, трэ' было ўжываць другіх мер і захадаў. На месцы пастаўленай пад забарону і зьнішчэньне польскай культуры трэ' было выпрацоўваць новую,—і Муравьёў бярэцца за „обрусение Северо-Западнаго края".

„Для нашага моральнага аўторытэту, для годнасьці рускага імя, урэшце для вачавіднага доказу, што тутэйшы край сапраўды рускі, а ня польскі, урад павінен усімі мерамі ўзбуджаць і падтрымліваць тут дзейнасьць расійскае думкі і слова",—пісаў у 1864 г. адзін з бліжэйшых супрацоўнікаў Муравьёва, яго правая рука—І. Корнілов. „Няма чаго ўзбройвацца супроць полёнізму толькі войскамі, пушкамі, паліцыяй тайнай і яўнай. Адны толькі адміністрацыйныя мерапрыемствы выклікаюць протэсты і азлабленьне і павялічаюць непашану, варожасьць і нянавісьць. Трэба, каб расійская думка, расійскае слова і расійская кніга моральна заваявалі гэты край паўсюдых" [3]). „Барацьба, якая вядзецца ў цяперашні час у Заходнім краі,—пісаў другі спаборнік Муравьёва і яго намесьнік—К. Кауфман,—ёсьць барацьба інтэлігенцыі польскай з расійскай. Усе захады, якія вабяць у Заходні край расійскі народ, расійскую асьвету, расійскія капіталы, аднолькава патрэбны і карысны для выкананьня высачайшае волі абрусеньня краю" [4]). Паводле пляну Муравьёва, гэтай мэце павінны былі служыць сыстэматычныя мерапрыемствы ўлады як у галіне адміністрацыйнай, экономічнай і рэлігійнай, так, асабліва, у галіне культурна-грамадзкай і асьветнай. Побач з выпіскай з цэнтральнай Расіі паліцэйскіх, вураднікаў, вялікарускіх папоў і цэлае процьмы „истинно-

[1]) Сборник Шолковича, т. II, „Причины неуспеха в Зап. крае русскаго дела", стар. 294.

[2]) Сборник „Памяти М. Муравьева", стар. 5.

[3]) И. П. Корнилов, „Русское дело в Сев.-Западном крае", письмо И. Делянову.

[4]) Арх. Вил. ген.-губ. 1866, № 1541, гл. Миловидов, op. cit.

русскаго“ чынавенства, разам з захаваньнем у краі вайсковага палажэньня і грамады войск,—пачалося „насаждение“ на Беларусі расійскае школы, кнігі і прэсы. Заклiканы з Пецярбургу актыўнейшы русыфікатар І. Корнілов быў прызначаны на пасаду папячыцеля віленскае вучэбнае акругі. У гэтых-жа самых „обрусительных“ русыфікацыйных мэтах зьявіўся ў Вільню К. Гаворскі са сваім „Вестником Западной России“.

Варункі, пры якіх „Вестник“ Гаворскага трапіў у Вільню, вельмі характарныя для перажыванай эпохі і варты, каб на іх спыніцца больш падрабязна.

Як ведама, у 1860—62 г.г. расійскае міністэрства народнае асьветы выпрацоўвала новы статут для сярэдніх і ніжэйшых навучальных установ. Аб сыстэме іх, мэтодах выкладаньня, ролі школьных рад, настаўнікаў і бацькоў, таксама, як і аб мове выкладаньня ў школах ніжэйшых ступеняй, ішла тады ў расійскім грамадзтве і навуцы жвавая пэдагогічная дыскусія. Міністэрства асьветы А. Головіна, па свайму часу вельмі лібэральнае, прымала ў гэтай дыскусіі блізкі ўдзел, цікавілася поглядамі пэдагогаў і наогул культурных працаўнікоў і нават выдала зборнік гэтых поглядаў, водзываў і апіній ў шасьцітомных „Замечаниях“ [1]). У гэтай дыскусіі прыняла гарачы ўдзел грамадзтва на Беларусі, прычым некаторыя відныя яго прадстаўнікі, у пытаньні аб мове выкладаньня ў ніжэйшых школах, выказаліся ў тым сэнсе, што падобнай мовай павінна быць матчына мова, мясцовы беларускі дыялект. Аб гэтым пісаў у міністэрства памянёны вышэй А. Кіркор, рэдактар „Виленскаго Вестника“, каторы, „як публіцысты, добра знаёмы з мясцовымі варункамі краю, выказваў грамадзкую апінію найбольш асьвечаных жыхароў, якія ведаюць, што маса насельніцтва Віленскай, Горадзенскай і Менскай губ. гаворыць папольску, так. зв. „белорусским наречием“ [2]); гэтага-ж самага трымаўся і віленскі маршалак Домейко, які пісаў Головіну, „прыняць за правіла, каб у народных школах Беларусі гадунцы іх навучаліся на „господствующем простонародном диалекте“ [3]); у гэтым-жа самым сэнсе пісаў навагрудзкі маршалак Брохоцкі, які „выясьніў на кантрактах шляхты ў Навагрудку, што тутэйшы народ менш за палякаў разумее парасійску, а што яго мова ёсьць славяна-польскі дыялект“. У падобны спосаб пісала і рэшта дапісчыкаў з Беларусі і Літвы.

Міністэрства Головіна ахвотна прымала гэтыя парады і само трымалася таго погляду, што ў ніжэйшых школах паасобных краін імпэрыі трэба ўжываць мясцовую народную мову. У пытаньні аб мове міністэрства трымалася поглядаў лібэральных славянафілаў, якія ў тыя гады яшчэ не пазбыліся цярпімых, а часам і сардэчных адносін да народ-

---

1) „Замечания на проект устава общеобразовательных учебных заведений и на проект общаго плана устройства народных училищ“, 6 томов, СПБ. 1862.

2) „Замечание на проект“, т. II, стар. 442.

3) Ibid., т. V.

насьці, незалежна ад таго, ці была яна расійскай, ці якой іншай. Украінафільства шырака скарысталa міністэрскую толеранцыю, і на працягу трох—чатырох год здолела выдаць з дазволу цэнзуры некалькі дзесяткаў тысяч лемантароў, падручнікаў і популярных брошур на украінскай мове і офіцыяльна адкрыць некалькі сот украінскіх народных школ. Што да Беларусі, дык тут справа ня ўсьцігла гэтак хутка пасунуцца наперад, як з прычыны больш слабага нацыянальнага ўсьведамленьня беларускага грамадзтва, так і з прычыны надышоўшага польскага паўстаньня. Адно, што рэальна пачало проектавацца на Беларусі, і то па ініцыятыве самога ўраду, гэта выданьне ў Вільні спэцыяльнае часопісі на беларускай мове [1]). Думку аб часопісі горача падтрымліваў папярэднік І. Корнілова тагочасны папячыцель віленскае акругі—кн. Шырынскі-Шахматов, падтрымлівала і пісала аб гэтым славянафільская прэса ў Маскве. Аргуманты на карысьць падобных мерапрыемстваў былі, зразумела, сваяадменныя: „трэба, каб беларускі селянін разумеў гасудараў загад і распараджэньні расійскае ўлады зусім выразна і без непаразуменьняў,—пісаў, славянафільскі „День“,—трэба, каб ён адчуў сябе зусім рускім, а для таго ён павінен адчуць сябе перш за ўсё беларусам: разам вылепіць з яго велікарускага мужыка немагчыма, дый няма патрэбы... Мы лічым дзеля гэтага, што было-б надзвычайна карысна выкладаць першапачатковыя веды і сэнс урадовых загадаў беларускаму селяніну на беларускай мове, навучаць чытаць і пісаць яго па беларуску, а пасьля безварункова парасійску і па царкоўна-славянску“ [2]).

З тых самых практычных і пераходных меркаваньняў ставіўся да справы кн. Шырынскі-Шахматов. Ён бачыў, як з кожным годам пашыраўся друк беларускіх кніжак, маліцьвенікаў, казаньняў і г. д. лацінскім шрыфтам, як наплывала гэтая літаратура з Польшчы і Галіцыі і якой популярнасьцю карысталася яна сярод беларускага насельніцтва. Ня гледзячы на свой пераважна рэлігійны зьмест, яна зусім не адказвала „видам правительства“, і на фоне рыхтаванага паўстаньня набірала акрэсьлена нелегальны характар. Шырынскі-Шахматов справядліва здагадваўся, што польскія партыі пачалі карыстацца друкаваным беларускім словам, як спосабам у барацьбе з расійскай уладай на Беларусі.

Народная часопісь на беларускай мове, друкаваная кірыліцай, мусіла быць у руках мясцовай улады контр-манэўрам. Супроць гэтай польскай пропаганды яна павінна была зьявіцца моцным спосабам для адпаведных уплываў на настроі жыхарства, расійскае ўлады ў краі, выразам яе програмы і жаданьняў. Каля гэтае часопісі павінна была стварыцца адпаведная мясцовая партыя, пераважна праваслаўная, скіраваная на падтрыманьне ў краі ўсяго расійскага і на барацьбу з полёнізмам. Выдаваць гэты орган

[1]) „Памяти М. Муравьева“, арт. И. Корнилова: „По вопросу об издании народного журнала в Северо-Западном Крае“, стар. 164—184.

[2]) „День“, 1863, № 25.

пастанавілі на манер галіцыйскага „Слова“, якое выходзіла ў той час у Львове мяшанай расійска-украінскай мовай і над якой гіронічна насьміхалася левая расійская прэса (прыкл., „Современник“),— „Слово“ было органам русафільскае галіцкае групы і выдавалася дзякуючы грашовай дапамозе з Пецярбургу.

У студзені 1863 г. Шырынскі-Шахматов атрымаў ад Аляксандра II спэцыяльнае асыгнаваньне на гэтую мэту ў суме 6.000 руб. на кожны год. Была апрацавана програма першае „западно-русское“ часопісі, якую проектавалася выпускаць для сялян-беларусаў штомесячнымі кніжкамі ад 4 да 6 друкаваных аркушоў (для Жмудзі пастанавілі выдаваць літоўскую газэту два разы на месяц лацінкаю), і надалі ёй спэцыфічнае імя: „Друг Народа“. Выказвалі нават пажаданьне, каб рэдакцыя часопісі кіравалася ня чыноўнікам, але „прыватным грамадзкім дзеячом, які добра ведаў-бы край і інтарэсы мясцовага насельніцтва“. Задача часопісі зазначалася ў наступнай пышнай форме: „Народная часопіс для „западно-руссов“ павінна ставіць сабе галоўнай мэтай спрыяць інтэлектуальнаму і этычнаму выхаваньню народу „в духе православия, русской народности и преданности престолу“ і тым дапамагаць зблiжэньню Заходняга краю з супольнай бацькаўшчынай Расіяй для ўзаемнага іх злучэньня сувязьзю грунтоўных інтарэсаў у адно органічнае цэлае“ *).

Аднак калі ў маі 1863 г. ў Вільню прыехаў нова назначаны ген.-губарнатар Муравьёв, справа з часопісьсю стала, а затым і наогул ліквідавалася. Прыблізна ў сярэдзіне таго-ж году па пропозыцыі Муравьёва была склікана нарада, якая аднагалосна прызнала непатрэбнасьць выданьня „Друга Народа“ ў беларускай мове і спроектавала выданьне новае часопісі на расійскай мове пад назвай „Русское Чтение“.

К. Гаворскі, седзячы ў Кіеве і чакаючы ў пэрспэктыве „долговое отделение“, ня мог ня ведаць аба ўсіх гэтых проектах і меркаваньнях. Па працы ў „Вестнике Западной России“ з першых дзён паўстаньня ён быў добра зьвязаны з мураўёўскай партыяй у Вільні; апрача таго, былі ў яго тут знаёмыя яшчэ і з часоў выданьня ім неофіцыяльнае часткі „Витебских Губ. Ведомостей“. Аднак, пакуль у Вільні быў Шырынскі-Шахматов, які фактычна больш за ўсіх праводзіў ідэю „Друга Народа“,— зьявіцца ў Вільню Гаворскі ня мог. Зусім іншая стварылася сытуацыя, калі Шырынскага зьмяніў Корнілов і калі ў ген.-губарнатарскім палацы загаварылі аб выданьні часопісі на расійскай мове. Тут трэба было ўжо дзейнічаць, і Гаворскі хутка пасьпяшаўся зьявіцца на віленскім кругавідзе. Пераконваць Муравьёва і Корнілова ў патрэбнасьці „Вестника“ для Беларусі яму ня прышлося: абодва яны занадта добра ведалі, чым быў Гаворскі ў Кіеве і якую карысьць мог ён прынесьці ў Вільні. Ня цяжка было давесьці ім і тое, што проектаванае „Русское Чтение“

*) „По вопросу об издании народного журнала“, стар. 170.

цалкам можа быць заменена тым-жа „Вестником“, бо атэстат апошняга ў сэнсе праваслаўна-расійскім быў зусім пэўны. Апрача таго, за ім была ня толькі выпрацаваная „западно-русская“ тэорыя, але і ня менш бліскучая практыка. „Вестник Западной России“, як і яго рэдактар, былі з усіх бакоў выпрабаваны.

Так яно і здарылася. Перапіска Муравьёва з Пецярбургам наконт „Русскаго Чтения“ яксьці сама сабой заглохла, і грошы, што былі асыгнаваны на яго выданьне, патаемна пайшлі на падтрыманьне органу Гаворскага.

Рэдакцыя „Вестника“ вельмі ганарылася прыхільнымі адносінамі да яе Муравьёва. У аднэй з апошніх сваіх кніжак яна хвалілася тым прызнаньнем і тэй пашанай, з якой ставіўся Муравьёв да іхняга выданьня і да літаратурнай дзейнасьці Гаворскага. „Наша праца прышлася моцна па думцы і сэрцу гр. Муравьёва“,—пісала „рэдакцыя“ у 1870 г.;—„удыхаючы расійскае жыцьцё ў спольшчаны і злацінены край, ён палічыў патрэбным прызваць і нас да пасільнае чыннасьці на карысьць гэтае вобласьці... Пашана да графа, жаданьне новае дзейнасьці пры новых абставінах прымусіла нас без разважаньня пакінуць шчасьлівую старонку—Кіеў. Мне надта прыемна пажадаць,—казаў нам тады граф,—каб выдаваная вамі часопісь, якая першая з нашых часопісяй адкрыта выступіла на барацьбу з ворагамі Расіі, на барацьбу з крамольным польскім племем, што накіроўвае свае процізаконныя імкненьні на цэльнасьць і адзінства нашае ўлюбёнае бацькаўшчыны,—каб гэта часопісь і ў будучыне з посьпехам працавала на карысьць праваслаўя і рускай народнасьці“.

Зьявіўшыся ў Вільні, К. Гаворскі спачатку як-бы зышоўся з А. Кіркорам,—у кожным разе першую кніжку „Вестника Западной России“ пачаў друкаваць у яго друкарні. Апрача таго, была зроблена абвестка, што рэдакцыі абодвух „Вестников“—Віленскага і Западнага—прымаюць супольна падпіску на свае выданьні. Аднак не прайшло і месяца, як гэтае ненатуральнае знаёмства расклеілася, і Гаворскі зьвярнуўся да сваіх будучых чытачоў з папярэджаньнем, што паміж ім і „Виленским Вестником“ „зайшлі некаторыя непаразуменьні“ і што ён просіць ня блытаць іх і выпісваць „Вестник Западной России“ асобна; разам з тым і друкаваньне апошняга перайшло да іншых друкарань—Ромма або Губэрскага Праўленьня. Відаць, аўтар „Тэкі Віленскай“ зразумеў, наколькі Гаворскі для яго непадыходзячая пара.

Для А. Кіркора „непаразуменьне“ мела непажаданыя вынікі: праз год ён мусіў пакінуць Вільню і перабрацца ў Пецярбург, дзе з 1866 г. разам з вядомым расійскім журналістым Юматовым пачаў выдаваць полёнофільскае „Новое Время“. Што да „Вестника Западной России“, дык, ня гледзячы на тое, што ён карыстаўся падтрыманьнем з боку Галоўнага Ўпраўленьня Паўночна-Заходняга Краю і друкаваўся часам зараз у некалькіх друкарнях, выхад яго быў, як і ў Кіеве, вельмі неакурат-

ным і неахайным. Так, прыкладам, другая чарговая кніжка, выданая ў Вільні, азначана верасьнем, а фактычна цэнзурны дазвол на яе быў даны ў лістападзе,—значыць, яна вышла са спазьненьнем на тры—чатыры месяцы; чацьвертая кніжка была нумаравана сьнежнем 1864 г., а фактычна цэнзура дала на яго дазвол толькі ў лютым 1865 г.,—і г. д. на працягу ўсіх год. Амаль у кожным нумары рэдакцыя „Вестника“ прасіла выбачэньня перад чытачамі за неакуратны выпуск часопісі, чэсным словам абяцалася выдаваць яго сваячасова, ды так і ня здужала стрымаць свае абяцанкі. Як і ў Кіеве, так і тут у Вільні, здаралася, што матэрыял у „Вестнику“ друкаваўся з чужых газэт і часопісяў без азначэньня крыніцы, за што рэдакцыі прыходзілася адпісвацца перад зьбянтэжанымі аўтарамі.

Першая кніжка „Вестника Западной России“ ў Вільні адкрылася традыцыйным „зваротам да чытачоў“. Тон гэтага звароту нязвыклы для Гаворскага, спакойны, салідны, бяз вострых слоўцаў аб езуіцкіх інтрыгах і без гістарычных выклікаў супроць лаціна-польскай пропаганды. „Вестник“ хоча выглядаць тут ня як зацяты ваяўнічы палякажэрца, а як часопісь, прысьвечаная гісторыі і этнографіі краю.

„Большасьці чытаючых людзей Заходняй Расіі,—гаворыцца ў звароце,—канешне, вядома, што рэдакцыя „Вестника Западной России“ перанесла сваё месца побыту з Кіева ў Вільню. Гэтае перасяленьне накладае на рэдакцыю калі ня новыя, дык асаблівыя абавязкі. Не пакідаючы бяз увагі паўдзённы-захад Расіі, яна цяпер павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на гісторыю і этнографію Паўночна-Заходняй Расіі. Рэдакцыя „Вестника“ ведае тыя труднасьці, якія зьвязаны з выкананьнем гэтае задачы,—без староньняй дапамогі, без спачуцьця і ўдзелу ў гэтай справе ўсіх асьвечаных патрыотаў Заходняй Расіі яна яе ня выканае. Труднасьць гэтага падвойваецца тым, што навуковыя багацьці краю раскіданы тут на тэрыторыі каля 1.000 кв. вёрст (?) і большай часткай схаваны ў архівах кляштарных, царкоўных і ў прыватных асоб“. У зьвязку з гэтым рэдакцыя зварачаецца „да ўсіх любячых гісторыю і асьвету Заходняй Расіі з просьбай дзяліцца з ёй гістарычнымі матэрыяламі, артыкуламі і мясцовымі этнографічнымі назіраньнямі, параўнаньнем мінулага народнага быту з сучасным, мясцовымі звычаямі, павер'ямі, апісаньнямі вядомых цэркваў, абразоў і г. д. „Этнографія“, як бачым, паводле Гаворскага, была даволі арыгінальнай. Пры гэтым рэдакцыя заяўляла, што яна з прыемнасьцю „за гонораріум“ прыме для надрукаваньня толькі граматы, унівэрсалы і дэкрэты каралёў, але і фундушныя запісы, мэтрычныя выпісы і наогул усялякія дакуманты, якія маюць дачыненьне да гісторыі тутэйшага краю і якія даводзяць, што гаспадары ў гэтым краі—рускія, а палякі—або рэнэгаты, або прыходцы *).

Да тэмы аб навуковых мэтах „Вестника“ Гаворскі вяртаецца яшчэ другі раз, калі гаворыць, што „прыяжджаючым у край вялікарусам трудна

*) „Вестник Западной России“, 1864 г.

разабрацца ў яго гістарычных і этнографічных варунках“. Абавязак даць „бесстароньнія“ і палітычна праўдзівыя тлумачэньні рэдакцыя брала на сябе.

Аднак навуковыя заданьні засталіся для „Вестника“ толькі прыгожай фразай. Увесь ён ад першай і да апошняй кнігі нашпігоўваўся ў Вільні тым-жа, што і ў Кіеве: шалёнай злабой на ўсё польскае, нічым нястрыманым жаданьнем зьнішчыць у краі польскі элемэнт і польскі ўплыў ва ўсіх праявах жыцьця, не разьбіраючыся—дадатныя яны ці адмоўныя,—нястрыманай злабой супроць каталіцтва, патрыотычным, пераходзячым усялякую меру прызваітасьці, выхваленьнем мясцовай улады і самай зацятай, крайняй русыфікацыяй. Паводле справядлівага выразу А. Пыпіна, ён абярнуўся тут у такога абаронцу расійскае ідэі і расійскае ўлады, які горшы за найбольшага ворага*).

За ўвесь час выданьня „Вестника Западной России“ ў Вільні ў ім было зьмешчана толькі дзесятак-другі аглядаў і артыкулаў на этнографічныя і гістарычныя тэмы, без асаблівых тэндэнцый. З іх найбольш вядомы працы П. Баброўскага: „Физические и нравственные элементы сев.-зап. губерний“ і некалькі гістарычных монографій аб гарадох Беларусі; П. Кукольника—„Исторические замечания о Сев.-Зап, крае“; І. Эрэмича—„Очерки белорусскаго Полесья“; некалькі нататак М. Максимовича; А. Корэвы, Н. Сементовскага, ды інш. дробныя артыкулы. Рэшта матэрыялаў (каля сотні кніг па 200—250 старонак у кожнай) складала хроніка дзейнасьці Муравьёва, выхваленьне яго мерапрыемстваў па выкараненьні польскага элемэнту і русыфікацыі Беларусі; смакаваньня ўсялякага роду расправаў і гвалтаў над памешчыкамі і каталіцкім духавенствам, паведамленьні аб асьвяшчэньні новых цэркваў, адкрыцьці брацтваў, перадрук „верноподданических адресов“ мясцовага дваранства, апісаньне безьлічы афіцыяльных урачыстасьцяй, абедаў, прыёмаў і г. д., пратаколы паседжаньняў урадовых камісій, загады і распараджэньні генэрал-губарнатарства і г. д. І побач з гэтым,—багаты архіўны матэрыял, галоўна з гісторыі барацьбы праваслаўя з каталіцтвам, гісторыі перасьледваньня вуніі і „русской народности“. Тут, сапраўды, дакумантаў, грамат, лістоў і ўсялякіх гістарычных даведак было выдрукавана за сем год існаваньня „Вестника“ ў Вільні шмат, прычым некаторыя з іх маюць безварункавую навуковую вартасьць.

З першых дзён выданьня „Вестник“ заняў становішча „казённой рептилии“, якая цалкам была ў распараджэньні ген.-губарнатарскай канцылярыі і ў распараджэньні епархіяльнага ўпраўленьня Іосифа Семашкі. Разам з тым, ён павінен быў адыгрываць пры Муравьёве ролю таго грамадзкага голасу, быць выразам тае грамадзкае апініі, без якой уся-

*) А. Пыпин: „История белорусской этнографии“, т. IV, стар. 91.

сільны адміністратар ня мог абыйсьціся, ня гледзячы на моральнае падтрыманьне патрыотычнай Масквы. У Пецярбургу ў яго былі ўплывовыя ворагі, былі ненавісьнікі і скэптыкі, якім незразумела і агідна была шыбеньніцкая політыка ў стасунку да заходняга краю і польскага шляхецтва і якія ня лічылі патрэбным захоўваць пры сабе сваіх адмоўных поглядаў да Муравьёва [1]). Ня мала выступленьняў было супроць яго і за граніцай, дзе сымпатыі былі цалкам на баку польскага паўстаньня і адкуль ішла энэргічная дыплёматычная інтэрвэнцыя ў расійска-польскае пытаньне [2]). Каб абараніцца ад варожага лягеру і паказаць, што ён абапіраецца ня толькі на сілу расійскага войска, але і на мясцовае насельніцтва, каб давесьці, што яго політыка ідзе на карысьць асноўных мас насельніцтва і сустракае з боку апошняга падтрыманьне, — Муравьёв мусіў мець пры сабе „голас“ гэтага заходня-рускага насельніцтва, якім і зьявіўся „Вестник Западной России“.

З беларускай ідэяй, ці, бліжэй кажучы, з беларускім рухам накшталт украінафільства, Гаворскаму ў Вільні змагацца ня прышлося. Замілаваньне да беларушчыны, якое разьвівалася ў 40—50 гадох мінулага веку і якое знайшло свой выраз у беларусафілах польскай і расійскай культуры, было тады яшчэ вельмі слабое і не пацягнула за сабой масы, як гэта было з украінафільствам. Творчасьць Яна Чачота, Зэнона, Сыракомлі, Э. Тышкевіча, Ігн. Даніловіча, А. Кіркора, а нават Баршчэўскага і Дунін-Марцінкевіча стварыла, праўда, пэўную плынь у мясцовым грамадзтве і ў мясцовай літаратуры, але паважным фактарам у агульным жыцьці краю не зьявілася. Яна была занадта моцна прасякнута польскім зьместам, занадта была романтычнай, мела сваёй крыніцай сантымэнтальна-

[1]) Можна сказаць, што адносіны да М. Муравьёва былі рэзка процілежныя. У Маскве ў яго была група віднейшых правых славянафілаў, на чале з мітрополітам Філарэтам, Погодиным, Тютчэвым і Катковым, для якіх Муравьёв быў правадыром, „русским богатырем“, якая бачыла ў ім збаўцу Расіі, яе гордасьць; у Пецярбургу, наадварот, да яго адносіліся з няскрыванай антыпатыяй. Увесь арыстократычны, тытуляваны Пецярбург, прадстаўлены гр. Шуваловым, кн. Суворовым, кн. Долгоруковым, баронам Лівеном, якія былі блізкі да цара Аляксандра II і стварылі яго інтымны гурток, ставіліся да яго з агідай. Ненавідзелі яго і вышэйшыя чыноўнікі, у тым ліку мін. унутр. спраў П. Валуев. Муравьёв ведаў аб гэтых адносінах Пецярбургу (гл. Н. Барсуков—„Жизнь и труды М. Погодина“, т. XX, стар. 156; „Записки“ Муравьёва, „Русская старина“, 1882, Январь і 1883, т. XXXVI).

[2]) Польскаму паўстаньню не спачувала і яго не падтрымлівала з вялікіх дзяржаў толькі Прусія, у якой панаваў погляд Бісмарка. Думкі Бісмарка, у сувязі з польскімі падзеямі, акрэсьленыя і рашучыя. У лісьце да сястры сваёй, зьяўляючыся паслом Прусіі ў Расіі, ён пісаў аб гэтым з жорсткай адкрытасьцю: „Я ўсяляк спачуваю становішчу палякаў, але мы ня можам, калі хочам існаваць, рабіць інакш, чым іх нішчыць; воўк не вінаваты, што ён створаны богам гэткім, якім ён ёсьць, а тым ня менш яго забіваюць за гэта, калі толькі могуць“ (Б. Нольдэ: „Петербургская миссия Бисмарка 1859—1862“. Прага, 1923, стар. 224). Муравьёв шмат у чым браў прыклад з Бісмарка і пасылаў да яго з Вільні сваіх афіцэраў для выучэньня сыстэмы прыгнёту палякаў.

панскую, ці, у лепшым выпадку, навукова-этнографічную зацікаўленасьць да Беларусі, як аднэй з польскіх провінцый, і таму захапіць мужыка-селяніна не магла. Гэта навуковая і романтычна-літаратурная дзейнасьць ня будзіла ў беларускіх масах пачуцьця асобнасьці іх ад палякоў, не захапляла сваёй гатоўнасьцю на змаганьне за Беларусь, як за нешта асобнае ад Польшчы. Ва ўсёй гэтай творчасьці, за малымі выключэньнямі, выяўляліся адносіны двара да вёскі, інтэлігентнага і лібэральнага пана і шляхціча да мужыка-кмётка. Па сутнасьці ўся памянёная пляяда беларуска-польскіх вучоных, поэтаў і дасьледчыкаў была толькі першым падрыхтоўчым пэрыодам выяўленьня беларускай нацыянальна-культурнай ідэі, пэрыодам надзвычайна яскравым і шмат абяцаючым, калі прыняць пад увагу прыгонны быт і тагачасныя політычныя варункі.

Яшчэ больш абяцаючым было, на наш погляд, зьяўленьне беларусафілаў з расійскай культурай, прыкладам якіх можа быць П. Шпілеўскі. Крытычным недахопам беларусафілаў з польскай культурай было тое, што яны прыходзілі да Беларусі з мэтай адарваць яе культурна і політычна *для Польшчы*, тымчасам як беларусафілы, што выходзілі з расійскай культуры, што канчалі расійскі унівэрсытэт, пісалі і думалі парасійску, але адчувалі пабеларуску, мусілі акрэсьляць і адрываць Беларусь ад Расіі *для Беларусі*. Калі Шпілеўскі і Кіркор аднолькава думалі, што беларуская мова ёсьць дыялект,—для першага расійскае, а для другога польскае мовы, дык перавага Шпілеўскага была ў тым, што для прызнаньня беларускае мовы ён павінен быў зрабіць адзін крок, а Кіркор два крокі. Расійская культура была прызнана, расійская мова была дзяржаўна забясьпечана, і рэакцыя да яе з мясцовага пункту гледжаньня прыводзіла беспасрэдна да прызнаньня мовы беларускай, тымчасам як польская культура была падбіта, польская мова ня мела дзяржаўнага прызнаньня, і толькі пасьля падобнага прызнаньня магла выклікаць рэакцыю ў форме прызнаньня мовы беларускай, як мясцовага зьявішча. На баку беларусаў польскае культуры была, праўда, адна непараўнаўчая адзнака,—гэта іх рэволюцыйнасьць, іх знаёмства з рэволюцыйна-народніцкай, соцыялістычнай тэорыяй, ідэёвая блізкасьць да нацыянальна-рэволюцыйнай барацьбы і нацыянальнага самавызначэньня на захадзе, у краінах славянскіх і ў Італіі, дзе Гарыбальдзі і Мазіні паднімалі сьцяг дзяржаўнага вызваленьня ласьне на нацыянальнай аснове, і дзе чэхі ды іншыя заходня-паўднёвыя славяне змагаліся за свае няпрызнаныя нацыянальныя правы. Але ў беларусафілаў з польскага боку гэтая рэволюцыйна-народніцкая плынь была вельмі слабая,—можа адзін Каліноўскі быў у гэтым сэнсе шчасьлівым выключэньнем, калі лічыць не даведзеным, што ён быў сьвядомым нацыянальна-беларускім барацьбітом. Рэшта іх зьяўлялася проста інтэлігентамі, краёвымі патрыотамі-этнографамі, і беларускага пытаньня ў разрэзе соцыяльным і рэволюцыйна-нацыянальным ставіць не маглі,—яшчэ ня прысьпеў на тое час.

У гэтых, калі можна так выказацца, тактычных позыцыях, залежных ад гістарычных і соцыяльных варункаў, была схована галоўная прычына, у зьвязку з якой параўнаўча больш сьвядомыя беларусафілы польскае культуры не маглі стварыць на Беларусі ў тыя гады шырэйшага нацыянальна-масавага руху. Таксама, як у свой час на Украіне, яны маглі разьвіваць „балагульшчыну“ і „хлопаманію“, маглі быць (і былі) тым брадзілам, што падрывала ў мясцовага жыхарства давер‘е да расійскага самаўладзтва і ставіла пад знак запытаньня правы Расіі на Беларусь, якія ў выніку сваёй творчай дзейнасьцю нішчылі тут расійскі культурны ўплыў і расійскую культурную традыцыю,—але самастойным фактарам у нацыянальным вызначэньні Беларусі быць не маглі. Ні беларускі Шэўчэнка, ні беларускі Драгаманаў з шэрагаў шубаруцаў, філёматаў, супрацоўнікаў віленскага музэю і ўсяе пляяды віленскіх работнікаў у 40—50 г. выйсьці не маглі.

У Шпілеўскага, Насовіча (у першы пэрыод яго працы) ды інш. становішча было ў гэтым сэнсе выгаднейшым. Для іх не існаваў орэоль падняволенай Польшчы, яны ня былі захоплены яе гэроічнай барацьбой за вызваленьне, і таму прыход іх да беларушчыны быў тэорэтычна лягчэйшы. Іх лібэралізм і любоў да Беларусі павінны былі перамагчы толькі гіпноз вялікай імпэрыі і фэтыш праваслаўя,—і яны траплялі бесрасрэдна на беларускі шлях. У 40—50 гадох падобны адыход ня быў для беларускага інтэлігента расійскай культуры немагчымы: не забудзьма, што яшчэ ў програме кірыла-мэтодыеўскага брацтва Беларусь была прызнавана, як асобны штат агульна-славянскае фэдэрацыі, побач з расійскім, украінскім, польскім, чэскім і г. д. [1]), што Бакунін у сваіх лістох да брацьцяў славян прызнаваў за Беларусьсю самастойнае месца, як незалежнай дзяржавы [2]), што падобныя правы прызнаваў Герцэн, што Надеждин акрэсьлена выдзяляў беларускую мову, як самастойную славянскую, мову разам з украінскай і польскай [3]) і г. д. Ідэя беларускага культурнага адраджэньня лунала ў канцы 50 і ў самым пачатку 60 гадоў у паветры і знаходзіла моцны адгалосак у агульным грамадзка-культурным уздыме ў Расіі, асабліва, у сувязі з моцным нацыянальным рухам на Украіне. Падняўшая галаву рэакцыя і муравьёўскі тэрор разам з польскім паўстаньнем задушылі яе далейшае разьвіцьцё.

Як-бы там ні было, але Гаворскаму і наогул усім „западно-руссам“ ранейшае формацыі не давялося прылажыць руку да беларускае справы; у 1864 г. і пазьней да канца XIX ст. яна была лішне заціснута і не выяўлялася ў прыкметных формах. Толькі два разы адгукнуўся Гаворскі на яе, - нават ня столькі на самую справу, як магчымасьць яе

[1]) В. Семевский: „Н. И. Костомаров“, „Русская старина“, 1886, № 1, стар. 187—188.
[2]) М. А. Бакунин: „Русским, Польским и всем славянским землям“. 1862 г.
[3]) „Энциклопедический лексикон“, т. IX, 1837, ст. „Великая Россия“, а таксама ў венскім выд. „Jahrbücher der Literatur“, 1841, Bb. 95, стар. 191—240.

разьвіцьця. Першы раз успамянуў ён аб беларушчыне з прычыны інструкцыі народным вучыцялём, якая была выдана Шырынскім-Шахматовым 12 студзеня 1863 г.

Загадваючы настаўнікам ніжэйшых школ усімі мерамі распаўсюджваць у школах расійскую грамату і пераконваць сялян у карыснасьці расійскае мовы, як мовы вялізарнае імпэрыі, інструкцыя дазваляла ім „пры тлумачэньні незразумелых для дзяцей расійскіх слоў карыстацца матчынай мовай народу, г. зн. — „белорусским наречием". Рэдакцыя „Вестника" цалкам была солідарна з загадам Шырынскага, і, з прычыны тлумачальнага ўжываньня беларускае мовы, зазначыла: „гэта да рэчы! Але навучаць на беларускім жаргоне—гэта бяссэнсіца, якая, дзякаваць богу, яшчэ ня ўсплыла на розум нікому з беларусінаў"[1]).

Другі раз заняўся Гаворскі пытаньнем аб беларускай мове ў сваім артыкуле *„Несколько слов о белорусской речи"*. Рукапіс гэтага артыкулу быў знойдзены надоечы ў Беларускім Аддзеле Дзяржаўнае Бібліотэкі разам з рукапісам А. Сапунова аб самым Гаворскім, прычым невядома, калі ён быў напісаны[2]). Як дакумант філёлёгічны, ён, зразумела, мала цікавы,—Гаворскі ня толькі ня быў спэцыялістым у гэтым пытаньні, але, як гадунец старой вуніяцкай сям'і, быў нават ня надта моцны ў расійскай стылістыцы і правапісу. Аднак, ён вельмі характарны, як *адно з першых*, калі ня першае выступленьне „западно-русскае" школы ў справе беларускае мовы.

„Язык жыве духам народу", урачыста перафразуе Гаворскі Шафарыка; „пасьля шматвяковых, цяжкіх цярпеньняў пад ярмом панства і папства, беларусы, як неразрыўнае цэлае аднэй магутнай расійскай сям'і, захавалі шмат у чым рускі дух, які відаць у мове іх. Доўга і рознымі спосабамі імкнуліся палякі і іх ксяндзы спольшчыць беларускі народ: у школах навучалі папольску, у дамох і касьцёлах гаварылі папольску, але ўсё дарма; польская мова засталася мовай толькі адных паноў ды па часьці дробнай шляхты. Яна не прышчапілася ніяк да тутэйшага тубыльнага народу, які цяпер гутарыць сваёй беларускай падмовай, нічога супольнага ня маючай з польскай мовай. Беларуская падмова, як галіна расійскай мовы, вельмі блізкая да яе. Простая, размоўная расійская мова зусім зразумела для беларуса, тымчасам як польскую мову, самую звычайную, ён цяжка разумее. Вось чаму ў апошнія гады ксяндзы нацягнулі было ўжо іншыя струны,—давай прапаведваць у касьцёлах ужо

[1]) „Вестник З. России", 1863. февраль, т. IV. отд. IV, стар. 239.

[2]) Гл. „Полымя" № 8. Подпісу на гэтым артыкуле няма, але Дм. Даўгяла кажа бясспрэчна, што артыкул напісаны рукой К. Гаворскага. Аб гэтым сьведчыць і стыль пісьма, вельмі характарны для Гаворскага. У „Белорусах" Е. Карскага заўвагі на гэты артыкул няма. Паводле слоў А. Шлюбскага, ён быццам друкаваўся ў адным з нумароў „Витебских Губернских Ведомостей" за 1866 г.; на жаль, Ленінградзкая Публічная Бібліотэка на запытаньне маё аб гэтым не дала пакуль што адказу.

не папольску, а проста пабеларуску і распаўсюджваць сярод народу рэлігійныя кніжкі на мове, падобнай да беларускай, каб злавіць беларуса ў свае сеткі, хоць-бы падробкай пад яго мову. Ня цяжка давесьці,—падкрэсьлівае Гаворскі,—што беларусы захавалі свой дыялект ані не падобным да польскай мовы, а, наадварот, зусім блізкім да мовы расійскай“,—і выкладае затым свае філёлёгічныя назіраньні і абагуленьні, якія маюць занадта дылетанцкі характар, каб іх пераказваць. „Пры распаўсюджаньні расійскае пісьменнасьці“, канчаецца артыкул, „беларусы натуральна і лёгка загутараць размоўнай расійскай мовай і з ахвотай выкінуць невялікі лік зьбеларушчаных польскіх слоў, якія і дагэтуль былі лішнімі“.

У гэткі прымітыўны спосаб заявіў у першы раз „западно-руссизм“ свой погляд на беларускую мову,—погляд, які з часам набыў грунтоўную—quasi-навуковую аснову, у абарону якога была ўжыта спэцыяльна распрацаваная філёлёгічная аргумантацыя, і за якім сталі сівыя акадэмічныя аўторытэты.

Іншыя моманты русыфікацыйнае програмы Муравьёва знайшлі на старонках „Вестника Западной России“ больш дакладнае і шырэйшае асьвятленьне. Гэткімі момантамі зьявіліся: „насаждение“ на Беларусі расійскае школы, вялікарускага чынавенства, духавенства і зямляўласьніцтва.

У пачатку 60 гадоў, таксама як і ўвесь ранейшы пэрыод, народная асьвета на Беларусі знаходзілася цалкам у польскіх руках. Дый гэта і ня дзіва: расійская культура мела тут надзвычайна слабыя карэньні, абапіралася толькі выключна на невялікім ліку насланых з цэнтральных губэрань расійскіх чыноўнікаў, якія, да рэчы кажучы, абкружаныя навокал польскім грамадзтвам і пажаніўшыся на мясцовых памешчыцах, хутка пазбаўляліся сваёй вялікарускай асаблівасьці і набіраліся мясцовых звычаяў, польскай мовы і польскай культуры. Вышэй было ўспамянута, наколькі вялікі быў лік настаўнікаў польскай культуры ва ўсіх школах Беларусі на пачатку 1864 году. У тым ліку ў гімназіях і прагімназіях на 243 настаўнікі 124 былі каталікамі і толькі 84 праваслаўных; у павятовых школах (уездных училищах) на 24 каталіка было 9 праваслаўных, і ў народных і парафіяльных школах на 114 настаўнікаў 91 былі каталікі і 12 праваслаўных. Рэшта настаўнікаў былі лютаране *). Паказваючы на гэтыя лічбы, ня трэба думаць, што ўсе каталікі-настаўнікі былі палякі па нацыянальнасьці,—наадварот, толькі самы нязначны процант іх былі гэткімі,—усе яны былі спалёнізаванымі беларусамі. Аднак, ад гэтага справа не мянялася,—беларусы-каталікі, пераважна дробная шляхта, асьвету выкладалі на польскай мове і праз школу пашыралі польскую культуру на Беларусі. Таксама і настаўнікі праваслаўныя ня былі рускімі па нацыянальнасьці,—яны былі пераважна беларусамі, але праз расійскую кнігу і падручнік пашыралі асьвету і культуру расійскую.

*) Op. cit., стар. 5.

Агулам, на расійскай мове школа на Беларусі таго часу складала менш аднэй трэцяй часткі ўсіх школ. Гэта былі звычайна ці парафіяльныя школы, заснаваныя праваслаўным (былым вуніяцкім) духавенствам, ці так зв. „палатские“ школы, існаваўшыя за кошт міністэрства дзяржаўнай маемасьці. За час свайго ўрадаваньня на Беларусі кн. Шырынскі-Шахматов здолеў адчыніць толькі каля сотні новых народных школ на аснове міністэрскага статуту 23 сакавіка 1863 г.[1]). Настаўнікамі ўсіх гэтых школ былі, за рэдкімі выключэньнямі мясцовыя людзі (у парафіяльных школах—сьвяшчэньнікі), хоць і праваслаўныя, але мала знаёмыя з сапраўднай Расіяй. Да таго і яны былі пад моцным уплывам польшчыны, больш ведалі і прызнавалі яе, чым расійшчыну. Зразумела, што, як русыфікацыйная сіла, яны былі зусім няпрыкметны, і таму Муравьёв разам з Корніловым перш за ўсё ўзяліся за школьную справу, каб прывесьці яе ў належны выгляд, адпаведна заданьням усёй іхняй політыкі.

„Временные правила для народных училищ Северо-Западных губерний“, што былі выданы Муравьёвым 1 студзеня 1864 г., паставілі школу на зусім нячуваных падвалінах. Галоўнае, — гэта тое, што новы закон акрэсьлена не давяраў мясцоваму настаўніцтву, незалежна ад таго ці было яно каталіцкім, ці праваслаўным. Гэткім давер‘ем карысталіся з яго боку толькі „истинно-русские учителя“, сапраўдныя вялікаросы з унутраных вялікарускіх губэрань, на якіх не ляжала і ценю якой-небудзь тутэйшасьці і прыхільнасьці да краю. Падругое, новы закон рабіў цьвёрдую стаўку на праваслаўнае духавенства, зноў-ткі з цэнтральных вялікарускіх губэрань, на якое была ўскладзена задача вышэйшага моральнага кіраўніцтва народнымі школамі на Беларусі[2]).

Падобныя прынцыпы цалкам адказвалі сьветапогляду „западно-русса“ Гаворскага і ўсёй групы „Вестника Западной России“, для якіх „вне православия не было России“. Яны таксама падазрона ставіліся да мясцовай, хоць і праваслаўнай, інтэлігенцыі з розначынцаў, якая была прасякнута мясцовымі настроямі, была блізка да польскага грамадзтва і знаходзілася пад моцным уплывам польскай культуры. Праваслаўнае духавенства для іх было найбольш пажаданым станам, найбольш упартым у барацьбе з полёнізмам.

„Вестник“ ахвотна адкрывае свае старонкі для патрыотычных корэспондэнцый провінцыяльных „западно-русских“ дапісчыкаў, і з свайго боку тэорэтычна ўгрунтоўвае асьветную політыку віленскае вучэбнае акругі.

---

[1]) А. Белецкий. „Сорокалетие русской начальной школы в Северо-Западном крае России“, (памяти кн. А. Ширинскаго-Шахматова), Вильна. 1902.

[2]) А. Миловидов. „Памяти И. Корнилова, как основателя русской национальной школы в Северо-Западном крае“, Вильна, 1911. І. Корнілов адкрыў за час свайго ўрадаваньня Віленскай акругай 10 павятовых школ (уездных училищ) і звыш 1.000 народных школ з настаўнікамі вялікарусамі.

„Народныя школы зьяўляюцца ў Заходнім краі самым магутным і пасьпяхоўным сродкам да яго абрусеньня“, кажа „Вестник“. „Асьвета тутэйшага народу ў духу праваслаўнае веры і рускай народнасьці прыводзіць да вынікаў верных і моцных. Расійская кніга, расійскія паняцьці, што вынікаюць з гэтых кніг, пад кіраўніцтвам расійскіх настаўнікаў, павінны глыбока западаць у сьвядомасьць мясцовага насельніцтва... Можна і павінна прызнаць, што цесная сувязь і грунтоўнае зьліцьцё тутэйшага народу з народам вялікарускім падрыхтоўваецца ў нас тут галоўным чынам праз сыстэму народнай асьветы“. Так пісалі дапісчыкі „Вестника“ з Горадзеншчыны [1]).

Ня менш пераканаўча паведамлялася і аб школах у віленскай дырэкцыі. „Народныя школы, толькі што адкрытыя ў Вільні, зьяўляюцца радаснай падзеяй для кожнага расійца. На іх дадатных выніках заснавана „благоденствие грядущих поколений“, у іх захоўваюцца зачаткі таго роднага саюзу, якому прызначана замацаваць навекі непарушную сувязь тутэйшага краю з рэштай нашай неагляднай бацькаўшчыны! Усе мы, расійцы, усе, у кім б'ецца „истинно-русское“ сэрца, павінны з прыхільнай увагай сачыць за ходам і разьвіцьцём народных школ і ўсімі залежнымі ад нас мерамі дапамагаць іхняму росквіту. Нельга аддаць належнага клопатам дырэкцыі народных школ і ўсяго мясцовага расійскага грамадзтва, дзякуючы якім кожны вучань Паўночна-Заходняга краю атрымае цяпер цьвёрдае пераконаньне, што край, у якім ён жыве, заўсёды быў і будзе рускім. Ранейшы малапісьменны настаўнік—заменены цяпер прыбыўшым з унутраных губэрань; жонкі гэтых настаўнікаў бясплатна навучаюць дзяцей расійскай мове, начальства зрабіла ўсё, што толькі магло,—грамадзтву застаецца заявіць сваю прыхільнасьць расійскай народнай асьвеце тым моральным падтрыманьнем, якое дае новыя сілы ў барацьбе з труднасьцямі“ [2]).

Калі ў тагачаснай прэсе ўзьнікла палеміка адносна так зв. „царкоўнапрыходзкіх“ школ і паўстала пытаньне аб іх скасаваньні ў зьвязку з увядзеньнем земстваў у Расіі, дык Гаворскі і „Вестник Западной России“ прыняліся горача бараніць гэтыя школы на Беларусі. Для абароны свайго пункту гледжаньня Гаворскі прыбягае нават да аўторытэту славутага кальвінскага моралістага Гізо, аўтара статуту першапачатковай школы ў Францыі, які прапаведваў, „каб народнае выхаваньне адбывалася ў рэлігійнай атмосфэры“.

„Калі настаўнік лічыць сябе незалежным ад духавенства, тады моральнае значэньне школы страчана, і яна недалёка ад таго, каб зрабіцца

---

[1]) „В. З. Р“. 1867., кн. III, отд. IV, стар. 406. „Письма из Гродны“.

[2]) „В. З. Р“., 1864 г., Ноябрь, т. II. отд. IV, стар. 65 і далей. Заўважым, што склад дзяцей у тагочасных віленскіх школах, аб якіх тут ідзе размова, быў пераважна каталіцкі. Так, прыкл., у 6 школах Вільні было 71 праваслаўных і 257 каталікоў. Тое самае і ў стасунку да „русских школ для еврейских детей“: у гэтых „русских“ школах былі выключна яўрэйскія дзеці—622 чал.

небясьпечнай для дзяржавы“, кажа Гаворскі. „Наша духавенства ў агромністай большасьці консэрвацыйнае, яно благонадежней и благонамеренней з боку палітычнага і моральнага ўсялякага іншага стану, і таму яно павінна быць галоўным кіраўнікoм школы, яе даглядчыкам, яно павінна контроляваць ня толькі моральны і навуковы напрамак школы, але і спосаб мысьляй і пераконаньняў самога настаўніка“.

„Мы не адмаўляемся ад магчымасьці мець найлепшых настаўнікаў вясковай школы з настаўніцкіх сэмінарый, але мы ня можам раўнаць іх да сьвяшчэньнікаў, пісаў „Вестник“: некалькі год, праведзеных настаўнікам у сэмінарыі, ня могуць выкараніць недахопаў яго клясы, ня могуць зьнішчыць хібаў яго сьветапагляду, выссанага з малаком мацеры. Скончыўшы сэмінарыю, настаўнік ня можа быць самастойным гаспадаром школы, бо ён сам яшчэ патрабуе нагляду, кіраўніцтва, бо ён сам з кволымі думкамі, з парыўчатымі, ненормальнымі імкненьнямі сэрца“. „Усе ведаюць, з якім давер'ем народ ставіцца да царкоўна-парафіяльных школ, колькі тысяч сыноў сваіх паслаў ён у гэтыя школы... На нашых старонках зьмешчана ўжо шмат фактычных доказаў гэтае ісьціны. Земствы дарма робяць памылку, калі не давяраюць сваёй школы сьвяшчэньніку. Асабліва небясьпечна пакідаць школу бяз зоркага сур'ёзнага і сталага контролю ў Заходняй Расіі, дзе так трудна абараніць школу ад партый, якія варожа ставяцца да праваслаўя і абрусеньня краю*).

Безварункова,—усе гэтыя лірычна-мэнторскія меркаваньні мелі сваёй крыніцай старыя прынцыпы Іосифа Семашкі, якія вызначыліся ў беларускіх губэрнях з часоў зьнішчэньня вуніяцтва, калі царкоўна-прыходзкія школы толькі пачалі заводзіцца. У 60 гадох пры дапамозе Гаворскага гэтыя думкі толькі ўкладаліся ў новыя формы, набывалі новыя мэты,—забясьпекі Беларусі ня толькі ад палёнізму і каталіцтва, але ад нігілізму і прогрэсыўных плыняй. Калі ў цэнтральнай Расіі царкоўна-парафіяльныя школы былі амаль зусім выцісуты школамі земскімі, дык тут на Беларусі, за адсутнасьцю земства і пры асаблівай патрэбе даць волю ваяўнічаму праваслаўю і забясьпечыць масы перад варожай пропагандай, яны парасквітлі асабліва пышна, і на працягу амаль поўвеку калечылі беларускае настаўніцтва і беларускую моладзь.

Агітуючы за „праваслаўныя“ школы для беларусаў і вымагаючы ў гэтых мэтах кантролю папоў над настаўнікамі, „Вестник Зап. России“ імкнуўся яшчэ да аднэй мэты: ён сьвядома блытаў рэлігію з нацыянальнасьцю, наўмысна ставіў знак роўнасьці паміж праваслаўем і „русской народностью“. Як ня было для яго па-за праваслаўем Расіі, так ня было для яго беларуса-каталіка. У гэтым сэнсе „западно-руссизм“ цалкам адпавядаў прынцыпу палёнізму, які таксама па рэлігійнай адзнацы акрасьляў нацыянальнасьць. Гэтае пераконаньне нагэтулькі было тады пашырана,

*) „В. З. Р.“, 1869, кн. VII, т. III, отд. IV: „Новое уклонение с пути истины“. стар. 9.

што адбілася ў больш паважных працах у стасунку да Беларусі, як, прыкладам, пры ўкладаньні этнографічнага атлясу Эркерта, які будаваў статыстыку насельніцтва Беларусі на аснове веравызнаньня, а ня мовы [1]).

З гэткай-жа адданасьцю падтрымлівае Гаворскі і іншыя пачынаньні муравьёўскае ўлады ў галіне культурнага жыцьця Беларусі.

Ён прымае бліжэйшы ўдзел у разгроме віленскага архэолёгічнага музэю; якому разгрому быў наданы характар „преобразования“. Пагромная прамова на паседжаньні Архэолёгічнай камісіі 11 лютага 1865 г нейкага А. Сталыпіна, калі гэты „преобразователь“ называў віленскі музэй „помнікам чужаземнага ярма, які з сорамам абыходзяць „западно-русские люди“, і заклікаў „западно-русских“ людзей „быть неусыпными в борьбе с полонизмом“,—называецца Гаворскім „гістарычнай, надзвычайнай і нябывалай“ па сваім актыўна-патрыотычным значэньні. У другім месцы ён дэтальна апісвае факт разгрому музэю і пералічвае ўсе тыя „крамольныя“ экспонаты, якія былі выбраны П. Батюшковым і разасланы ў Пецярбург, Маскву ды інш. гарады Расіі. У ліку гэткіх „крамолаў“ аказаліся труба Касьцюшкі, палітон А. Міцкевіча і інш. рэчы [2]).

У зьвязку з „преобразованием“ музэю і існаваўшай пры ім віленскай публічнай бібліотэкі, „Вестник Западной России“ зьвярнуўся з адозвай „к свежим русским людям, которые прибывают в Западный край для деятельности на пользу коренного здешнего народа“, дзе просіць дружна дапамагчы вялікай народнай праваслаўна-рускай справе. „Кожны з гэтых рускіх людзей“, гаворыцца ў адозьве, „што змагаецца тут з лаціна-польскай пропагандай, натыкаецца тут на зьявішчы, якія радуюць сэрца сваёй сувязьзю з карэннай Расіяй, якія зьяўляюцца сьвяшчэннымі помнікамі адзінства духоўных помыслаў і інтарэсаў Заходняй Русі з усёй вялікай Расіяй. Няхай-жа яны ўважліва зьбіраюць і запісваюць гэтыя зьявішчы. Ва ўсіх кутках Заходняй Расіі даволі знойдзецца расійскіх рук і галоў, каб настойліва зрабіць гэтую справу,—гістарычнай, політычнай і рэлігійнай сьвядомасьцю давесьці, што мы тут „исконные владыки“. Адозва канчаецца заклікам надсылаць усе сабраныя матэрыялы на адрас музэю і бібліотэкі [3]). Да рэчы, ён падмацоўвае гэты заклік зваротам „да ўсіх славян, якія пішуць лацінскім шрыфтам“, „да ўсіх славян-лаціншчыкаў“, разумеючы пад імі чэхаў, славакаў і славенцаў.

Актыўны ўдзел бярэ Гаворскі і ў выданьні „Книги для чтения на простонародном наречии“, у якой, да рэчы кажучы, менш за ўсё было гэтага „наречия“. Кніга была рэдагавана яшчэ пры Шырынскім-Шахматове, і ў першым выданьні, накшталт „Родного Слова“ Ушынскага, зьмесь-

---

[1]) Гл. крытыку атлясу Эркерта ў П. Баброўскага – „Русский Инвалид“. 1864 года. № 174.

[2]) „В. З. Р.“, 1868. кн. IV, стар. 202.

[3]) „В. З. Р.“, 1864—65 г., кн. VI, отд. IV, „К русским людям“, стар. 308. Ibid—1868. кн. II, отд. IV.

ціла даволі мясцовага пэдагогічнага матэрыялу [1]). У далейшых выданьнях, дзе прыклаў руку Гаворскі, яна абярнулася ў патрыютычна-вялікарускую хрэстоматыю, складзеную з апавяданьняў аб маскоўскіх князёх і царох, з царскіх гімнаў, табельных календароў, вялікарускіх песень і г. д. Русыфікатарскае значэньне гэтае „кнігі“ выключнае: першае яе выданьне разышлося ў ліку 5.000 экз., другое—у 10.000 экз., трэцяе—у 20.100 экз. і чацьвертае—у ліку 40.000 экз.

Выказваўся Гаворскі таксама і з прычыны організацыі маладэчанскай і панявескай настаўніцкіх сэмінарый, якія павінны былі „ўзгадоўваць у настаўнікаў любоў да праўды, самаахвярнае выконваньне законаў і прывязанасьць да расійскай нацыянальнасьці“ [2]). Аднак асаблівага захапленьня ў Гаворскага пры гэтым ня было. Па пытаньні аб мясцовай сярэдняй і асабліва вышэйшай адукацыі ён меў асаблівы погляд,—надзвычайна характарны выключна для яго „западно-русской“ партыі. Выказаў яго Гаворскі з прычыны проектаванага адчыненьня ў Вільні замест унівэрсытэту—духоўнай акадэміі. Да думкі адчыніць акадэмію схіляўся Муравьёв, бараніў яе сам Іосиф Семашка і рэшта працаўнікоў „русского дела“. „Дзеля таго, каб обрусіць Заходні край, нам патрэбна“,—пісаў „Виленский Вестник“,—„узвысіць у ім расійскую народнасьць, рускі дух, расійскую асьвету і г. д. Для дасягненьня нашых нацыянальна-расійскіх інтарэсаў мы павінны прыпомніць і скарыстаць тую практыку з народнай асьветай, якую ў свой час праводзілі тут Адам Чарторыйскі і Фадзей Чацкі. Дзеля гэтага абавязкова патрэбна адкрыць у Вільні духоўную акадэмію з гісторыка-філёлёгічным факультэтам; апошні патрэбны для таго, каб выхоўваць на месцы настаўнікаў, даваць ім адпаведную пэдагогічную падрыхтоўку“ [3]).

Гаворскі адказаў: „Мы не падзяляем гэткага пераконаньня. Пры існаваньні побач з Вільняй, на адлегласьці ўсяго толькі аднаго-двух дзён па чыгунцы, пецярбурскай духоўнай акадэміі, адкрываць тут акадэмію няма ніякае патрэбы,—толькі дарэмная страта грошай. Апрача таго, *згрупаваньне ў гэтай акадэміі студэнтаў* з заходня-рускіх, у тым ліку былых вуніяцкіх сэмінарый, *шкодна адбілася-б на іх выхаваньні ў сэнсе сучаснага ачышчэньня расійскае мовы ад мясцовых провінцыялізмаў і беларускага акцэнту* (курсіў наш—*А. Ц.*), ад чаго яны, зьяў-

[1]) Адносіны кн. Шырынскага-Шахматова да мясцовых асаблівасьцяй Беларусі былі даволі цярпімымі. Ласьне гэтая цярпімасьць і стала прычынай таго, што ён быў замененым Корнілавым. Пры Муравьёве ён быў у Вільні менш чым год,—а затым мусіў падаць просьбу аб адстаўцы. У літаратуры няма дакладных вестак аб разыходжаньнях паміж Шырынскім і Муравьёвым. А. Белецкі (гл. яго „Сорокалетие русской начальной школы“, стар. 64) глуха заўважае, што паміж імі былі „некоторые шереховатости“.

[2]) Н. Знойко. „К 50-тилѣтию Молодеченской Учительской Семинарии“ („Педагогический журнал“, 1914).

[3]) „Памяти гр. М. Н. Муравьева. „К истории Виленскаго учебнаго Округа“. И. П. Корнилова, СПБ. стар. 171.

ляючыся тутэйшымі ўраджэнцамі, ня могуць пазбавіцца ў мясцовых сэмінарыях. Калі пазбавіць іх сувязі з студэнтамі—ураджэнцамі вялікарускіх губэрань, яны ня здолеюць пранікнуцца „истинно-русским духом“, расійскім праваслаўем і расійскімі звычаямі і, гэткім чынам, ня будуць магчы пазбавіцца цалкам ад тутэйшай пальшчызны“ [1]).

Погляд Гаворскага, як вядома, перамог, і віленская духоўная акадэмія адчынена ня была.

Загады і мерапрыемствы Муравьёва аб назначэньні ў Беларусь, пасьля паўстаньня, расійскіх чыноўнікаў таксама сустрэлі з боку „Вестника Западной России“ поўнае прызнаньне і падтрыманьне. Трэба зазначыць, што адозвы, якія пісаў Муравьёў і Корнілов да расійскага грамадзтва, „прыйсьці з дапамогай Заходня-Рускаму краю“—сустракаліся гэтым грамадзянствам спачатку вельмі сьцюдзёна. „Ня гледзячы на запросіны і вызавы праз папячыцеляў і праз газэты, доўгі час не зьяўлялася ахвотнікаў займаць месцы ў Заходнім краі“, скардзіцца Корнілов [2]). „Прычыны гэткага зьявішча тлумачацца вельмі проста: служба ў Заходнім краі вымагае ад рускага большае працы, энэргіі і такту, чым у цэнтральных губэрнях. Самае жыцьцё ў павятовым горадзе або ў бедным мястэчку, воддаль ад усяго роднага, сярод людзей, чужых па веры і па пераконаньнях, а вельмі часта проста варожых, зьяўляецца малапацяшаючай. Па-за службай жыцьцё расійскага чыноўніка, поўнае трывогі і няпрыемнасьцяй, абмяжоўваецца вузкімі рамкамі сямейнага або таварыскага гуртка“.

Адзіная магчымасьць прывабіць сюды на службу вялікароса—гэта было даць яму як мага большую пэнсію. Грошы,—вось чым замест ранейшай ідэёвасьці і патрыотычнага служэньня інтарэсам імпэрыі пачаў заахвочваць Муравьёў і Корнілов расійскае настаўніцтва і чынавенства. „Вестник Западной России“ з захапленьнем падхапіў гэтае мерапрыемства: яно як нельга лепш адказвала яго ўласным апэтытам і да пэўнай ступені апраўдвала зьяўленьне яго самога ў Вільні. Програма „обрусения Белоруссии“ з гэтага моманту ясна вызначылася ня як культурнае ці нацыянальнае заданьне, а як вузка экономічны, папросту сказаць, шкурны інтарэс тых „дзеячоў“, што пачалі з 1864 году ехаць на Беларусь на цёплыя месцы, на падвойныя пэнсіі, нагароды, пад'ёмныя, ордэны і г. д.

Панаехала гэтых „дзеячоў“, трэба зазначыць, надзвычайнае мноства. „Натоўпы тых, што знаходзіліся *пры* (ген.-губарнатары) і *по* (упраўленьні краем) з кожным днём усё павялічваліся“, піша ў сваіх успамінах А. Мосолов, чыноўнік асобных даручэньняў пры Муравьёве [3]). Работы для іх у самай Вільні не хапала, і шмат каго пасылалі па мясцох проста бяз пэўнага назначэньня, „в распоряжение“ губарнатараў. Імкненьне гэтых

[1]) „В. З. Р.“, 1865—66 г., кн. 11, отд. IV, стар. 238.

[2]) „Памяти М. Муравьева“. „Общие замечания о Виленском учебном округе“, стар. 8.

[3]) А. Мосолов: „Виленские очерки“, 1863—1865 г. г.

паноў да службы было вялізарнае, — кожны ехаў сюды ці для таго, каб пралажыць сабе дарогу па службе, ці то для таго, каб паправіць папярэднія памылкі і няўдачы. На провінцыі, расьцярушыўшыся па глухіх кутках Беларусі, уся гэтая чыноўная сіла сапраўды адчувала сябе ня надта добра,—мусіла жыць у варожым акружэньні і ад нуды, як кажуць, „піла горкую“ і гуляла ў карты.

Наплыўшы з глыбіні Расіі адно ў мэтах напхаць сабе кішэню і ня маючы абсолютна нічога стрымліваючага, уся гэтая арава чыноўнікаў, паліцэйскіх, пасярэднікаў, настаўнікаў, а то проста афіцэраў тых бязьлічных жандарскіх і казачых пастояў, якія хмарай пакрывалі пасьля паўстаньня „заміраную“ Беларусь,—унесла у край надзвычайны моральны распад, збэсьціла і спростытуявала грамадзкае жыцьцё ў самых асновах. „Адзінае шчасьце для краю“, піша аб гэтых часох адзін з сучасьнікаў, „была надзвычайная хцівасьць гэтых псэўда-патрыотаў на грошы. Толькі ў хабары можна было знайсьці сабе ў той час паратунак ад гэтае ўлады; трэба было адкупляцца на ўсе бакі, каб пазбавіцца ад вобыскаў, рэвізій, скандалаў, якія пакідалі пасьля сябе сьляды поўнага зьнішчэньня“*). Толькі ў рэдкіх выпадках траплялі на Беларусь людзі грамадзкі сумленныя, якія сапраўды хацелі служыць справе, а ня грошам.

Залітая крывёй толькі што задушанага паўстаньня, разбураная гаспадарча, змучаная і зьбітая з нормальнага жыцьця, краіна сапраўды стагнала ад гэтае процьмы кар'ерыстых і прайдзісьветаў.

У Вільні ў гэтым сэнсе было крыху больш прызваіта. Блізкасьць да вышэйшага начальства і, як-ні-як, абавязваючая „ідэёвасьць“ у барацьбе за „русскую веру и народность“ прымушалі чыноўны расійскі элемэнт трымацца тут у рамках больш прызваітага грамадзкага і прыватнага жыцьця. Цэнтрам новастворанага расійскага таварыства ў Вільні быў у той час Эўропэйскі готэль, дзе спатыкалася ўся расійская колёнія. Тут быў агульны стол, тут адбываліся „патрыотычныя вечары“ з пяяньнем расійскіх песень, гімнаў і традыцыйным камарынскім, тут, разам з прыехаўшымі з Масквы і з беларускай провінцыі знаёмымі, абгаварваліся ўсе політычныя навіны, мерапрыемствы ўлады, а таксама службовыя прызначэньні. Другім месцам спатканьня расійскага грамадзтва была кватэра Корнілова, салон Е. Потаповой—жонкі віленскага губарнатара і „попечительницы детских приютов Северо-Западного края“. Урэшце, не бракавала і „русскаго клуба“. На абедах у Корнілова зьбіралася найбольш блізкая кампанія супрацоўнікаў Муравьёва, разам з чыноўнікамі віленскае і горадзенскае вучэбнае акругі, якія прыяжджалі па справах службы ў Вільню. Тут таксама адбываліся „задушевные беседы“ на тэму

*) E. Wasilewski: „Wspomnienia z przeszłości“, Wilno. 1907, стар. 108. Аб тым-жа гл. „Moskiewskie na Litwie rządy“ (1863—1869), Kraków, 1869, стар. 375,—праца ананімная і, відаць, напісаная з чужых слоў.

аб абрусеньні Беларусі, абгаварваліся дасягненьні і недахопы ў гэтай працы, выхоўваўся патрэбны ўзбуджаючы настрой[1]).

У Вільні стварылася два сьветы: з аднаго боку, старое польскае грамадзтва, стэрорызаванае, загнанае ў кут, асабліва ў асобе тых работнікаў, якія перад 63 годам зьяўляліся носьбітамі мясцовай культурнай думкі і творчасьці, пачынаючы старым Нарбутам, братамі Тышкевічамі, Круповічам, энэргічным Кіркорам ды інш., і з другога боку—грамада вялікаросаў—губарнатараў, афіцэраў, чыноўнікаў.Удзелам першых была агульна-нацыянальная жалоба, забарона выходзіць з дому пазьней пэўных гадзін увечары, грукат барабанаў і жах, шыбеньніцкія процэсіі на Лукішкі; разбураныя кнігарні, закрыты тэатр, забарона ўжываць польскую мову ў публічных мясцох, і ў пэрспэктыве—нямінучая эміграцыя з краю, дзе прайшло ўсё жыцьцё, які быў так дарагі, — эміграцыя з роднай Вільні ці то ў Варшаву, ці то ў Пецярбург, а то і за граніцу. Удзелам другіх былі афіцыяльныя парады, казённыя сьвяткаваньні з тостамі „за царя и отечество“, ілюмінацыі ў царскія дні, рапорты і камандыроўкі ў сталіцы, рэвізіі па губэрнях з малебнамі і царкоўным хорам, урачысты трыумф над падбітым ворагам. У гэтым лягеры панаваў бесклапотны настрой. „В русском клубе“, маляўніча расказвае А. Мосолов[2]), „ужо з сярэдзіны 1864 г. пачалі даваць штотыдзень сямейныя вечары, а з каляд пачаліся нямінучыя маскарады, завязваліся інтрыжкі, ладзілася язда на тройках, і ўсё стала паходзіць на звычайнае спакойнае жыцьцё. Усе прыбываючыя „молодые люди из хорошего общества“ прымыкалі да нашага гуртка“ і гэткім чынам стварылася ў Вільні першае зусім расійскае грамадзтва На чале яго стаялі, апрача Мосолова,—Л. Маков (будучы міністар унутраных спраў), О. Левшин ды інш. „З палякамі мы ня мелі нічога супольнага, мясцовыя дамы абыходзілі нас, нават мясцовыя расійскія чыноўнікі таксама глядзелі на нас падазрона і няпрыхільна“.

Гаворскі і рэдакцыя „Вестника Западной России“ ўсёй душой належалі да гэтага „хорошего русского общества“. Праўда, у гурток вышэйшых чыноўнікаў, у тую асярэдзіну, якая была блізка да Муравьёва, і Корнілова, іх ня пушчалі,—фігура Гаворскага, як зацятага рэнэгата, браўшага цішком грошы з генэрал-губарнатарскае канцылярыі, была, відаць, не да спадобы вышэйшым чыноўнікам, і асабліва з ім не таварышавалі. Тым ня менш, ён чэсна служыў ім сваім „западно-русским“ сумленьнем, і ад душы хацеў быць жывой сувязьзю паміж гэтым чыноўным сьветам і мясцовым жыхарствам.

*(Працяг будзе)*

[1]) И. Спрогис: „Из воспоминаний об И. П. Корнилове“, в записках С.-Зап. отдела Русского Географического О-ва, т. II, стар. 263.

[2]) А. Мосолов. „Виленские очерки“.

# ОРГАНІЗАВАНАЕ ВЫЎЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ Ў XIX І ПАЧАТКУ XX СТАЛЕЦЬЦЯ

**М. Касьпяровіч**

## I

У маладой беларускай навуцы існуе няправільная думка адносна таго, што Беларусь амаль зусім ня выўчана і не дасьледвана або, калі і выўчана, дык у вельмі малой ступені. Тымчасам Беларусь у навуковых працах займае амаль такое самае месца, як і іншыя краіны былой Расіі, апрача некаторых рэдкіх выключэньняў. Існуе-ж такая думка затым, што амаль усе навуковыя працы аб Беларусі аж да Кастрычнікавае рэвалюцыі пісаліся на чужаземных мовах—польскай, рускай [1]), нямецкай і інш. і шырокім колам Беларусі невядомы. Склалася гэта акалічнасьць, у сваю чаргу, затым, што да самых апошніх часоў Беларусь і яе насельніцтва служыла об'ектам выўчэньня і дасьледваньня для чужаземных, пераважна польскіх і рускіх, вучаных. Толькі пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі беларускія працоўныя гушчы атрымалі політычныя і матэрыяльныя магчымасьці навукова выўчаць і дасьледваць саміх сябе і тэрыторыю, на якой жывуць, сілаю сваіх вучаных. Стары стан рэчаў захоўваецца толькі ў Заходняй Беларусі, пад Польшчай.

Выўчаючы і дасьледуючы Беларусь, польскія і рускія вучаныя выконвалі сваю працу пад непасрэдна або ўкосна даным царом ці пануючай клясай політычным кірункам: каталіцтва, польскасьць і Польшча 1782 году, з аднаго боку, і—праваслаўе, вялікаруская народнасьць і самаўладзтва—з другога. Працы нямецкіх і інш. вучаных складаюць відавочную меншасьць і ня маюць колькасна пераважаючай вагі ў агульнай масе прац польскіх і рускіх вучаных. Беларускі-ж народ у палове XIX сталецьця, г. зн. у самы разгар польскай і рускай навуковай працы аб Беларусі, быў амаль што няпісьменным і, ня маючы доступу ў польскія і рускія вышэйшыя школы, а таксама матэрыяльных магчымасьцяй навучацца тамака, бясспрэчна ня мог утварыць сваёй навукі. Як польскія, так і рускія аматары, вучаныя, ведамствы, організацыі і г. д. выўчалі Беларусь, тэндэнцыйна асьвятлялі факты яе існаваньня і гэтай сваёю навуковай працай сьвядома ці несьвядома ставілі практычнае заданьне: запрыгоніць

[1]) Ужываю тэрмін „рускі" затым, што тэрмін „расійскі" адносіцца да тэрыторыі былой Расіі, а не да нацыянальнасьці. Захаваньне-ж гэтай розьніцы тэрміну канечна патрэбна.

беларусаў пад польскае магнацтва ці рускага цара і давесьці ўсяму навуковаму сьвету, што беларусаў, як сваяасаблівае нацыі, ніколі ня было і нідзе няма. На працягу гэтай тэндэнцыйнай працы яны ўсё-ж награмадзілі вялікую масу фактычных матэрыялаў, ня ўлічаць існаваньне якіх было-б неразумна для маладой беларускай навукі. Падлічыць гэтыя матэрыялы і мае заданьнем беларуская бібліографія.

Але мала падлічыць фактычныя матэрыялы,—трэба высьветліць і ўлічыць самы ход беларусазнаўчай і краязнаўчай працы на Беларусі. Польскія і рускія вучаныя, якія яе дасьледвалі, пераважна жылі на Беларусі-ж і ўтварылі пэўныя традыцыі выўчэньня яе, якія часамі моцна і даволі шкодна адчуваюцца ў нашай новай маладой беларусазнаўчай і краязнаўчай працы. Гэта задача вельмі цяжкая, але даўно насьпелая. Уласна яна складаецца з некалькіх галін: а) агляд працы па выўчэньні Беларусі і яе частак аматарамі і вучанымі; б) акадэмічнымі ўстановамі; в) ведамствамі; г) рознымі грамадзкімі організацыямі і д) спэцыяльна для гэтага заснаванымі грамадзкімі організацыямі. Усе гэтыя галіны адна з аднэй цесна зьвязаны і пераплятаюцца паміж сабой, але ў іх працы і мэтах яе ёсьць даволі значная розьніца.

У першую чаргу нас, бясспрэчна, павінна цікавіць апошняя галіна, г. зн. агляд выўчэньня і дасьледваньня Беларусі і яе частак спэцыяльна для гэтага заснаванымі грамадзкімі організацыямі. Такое выўчэньне ня можна назваць беларусазнаўствам, калі ідзе гутарка аб пазнаньні ўсяе Беларусі, або краязнаўствам, калі гаворыцца аб выўчэньні пэўнай часткі краю Беларусі. Краязнаўствам яшчэ нельга назваць веданьне селянінам, на якім кавалку ў яго лепш родзіць бульба: выўчэньне аматарам і вучаным ці ведамствам, акадэміяй і грамадзкай організацыяй пэўнай галіны краю, бо селянін, грамадзкая організацыя і ведамства выўчаюць пэўную зьяву мясцовага краю ў процэсе непасрэдняга ці ўкоснага выкананьня сваёй практычнай працы, аматар—для задаваленьня свайго замілаваньня краем ці галіной веды, а вучаны і акадэмія—у інтарэсах свае галіны ці наогул навукі. Толькі пазнаньне краю пэўным згуртаваньнем асоб са сьвядома пастаўленай сабе мэтай дасьледваньня і выўчэньня краю будзе краязнаўствам або адпаведна—беларусазнаўствам для паняцьця выўчэньня ўсяе Беларусі. З краязнаўства, як з усякай чалавечай дзейнасьці, могуць выцякаць практычныя вывады, а таксама ў процэсе яго можа здаваляцца пачуцьцё замілаваньня краем ці галіной веды, могуць атрымлівацца даныя для новых тэорэтычна-навуковых законаў і г. д., але ўсё гэта толькі канечна патрэбныя ўмовы паняцьця краязнаўства. Галоўная-ж адзнака яго—названая вышэй організаваная дзейнасьць згуртаваньня і сьвядома пастаўленая сабе мэта выўчэньня краю.

Гісторыяй краязнаўства ў нас цікавіўся вельмі мала хто. Д. М. Васілеўскі ў сваім артыкуле „Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі“ *)

*) „Наш Край“. Менск, 1926 г., стар. 3.

даў шэраг надзвычайна цікавых вестак у даным пытаньні. Праўда, польская часопісь „Rubon“ нічым ня зьвязаная з рускім Беларускім Вольна-Экономічным Таварыствам; з дзейнасьці беларускіх газэт „Наша Доля“ і „Наша Ніва“ ніякім чынам не выцякала заснаваньне русыфікацыйнага Таварыства Выўчэньня Беларускага Краю і г. д., але гэтыя непаразуменьні вынiклі з непасільнага заданьня даць агляд адначасна і польскай і рускай працы па выўчэньні Беларусі ва ўсіх пяцёх вышэй адзначаных галінах.

Васілеўскі першым па часе заснаваньня краязнаўчым таварыствам на Беларусі лічыць Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства, што існавала ў Віцебску, і ў гэтым грунтоўная памылка яго працы. Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства было заснавана дваранствам па загаду генэрал-губарнатара, і ў мэтах яго, зазначаных у статуце [1]), ня было ніводнай краязнаўчай задачы. Тое, што ў выданьні Таварыства [2]) амаль з 15 артыкулаў адзін гаворыць аб флёры былой Віцебскай губэрні, ня робіць Таварыства краязнаўчым. Калі-б толькі гэта зьяўлялася адзнакаю краязнаўчасьці організацый, тады-б прышлося і масонскую лёжу „Шчыры Ліцьвін Рэфармаваны“ лічыць краязнаўчай організацыяй, бо ў ёй член яе Ачапоўскі чытаў даклад аб зямляробстве ў нашым краі [3]) яшчэ за некалькі год да 1826 году, калі заснавалася Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства. Значыць, і сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі, вызначанае Васілеўскім, адпаведна гэтаму прыпала-б раней за 1926 год. Краязнаўчую дзейнасьць сельска-гаспадарчых ды інш. грамадзкіх організацый трэба выўчыць і ўлічыць, але няма ніякай патрэбы і падстаў называць іх краязнаўчымі. Краязнаўчыя таварыствы, як відаць з вышэйпаказанага, па мове і мэтаімкнёнасьці былі або польскімі або рускімі. Беларускія зьявіліся толькі ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі ды былі адзінкавыя пераходнага тыпу незадоўга перад ёю. Польскія і рускія краязнаўчыя організацыі на Беларусі ўпарта змагаліся паміж сабою, бо адны хацелі Беларусі для польскага магнацтва, а другія—для рускага царату. Краёвых організацый ня было; былі часамі толькі краязнаўцы—краёўцы, якія жадалі ўсялякага палепшаньня для мясцовага краю, але на аснове культуры тае нацыі, да якой належалі яны самі, дый і самі яны ўваходзілі ў склад польскіх ці рускіх організацый. З прычыны паказанай варожасьці паміж апошнімі, цяжка было-б шукаць паміж імі якой-колечы сувязі і наступніцтва. Таму лепш за ўсё рабіць агляд іх паасобку і толькі ў выпадку патрэбы падаваць даныя для параўнаньняў і вызначэньня ўзаемаадносін. У першую чаргу коратка пазнаёмімся з рускімі краязнаўчымі організацыямі на Беларусі.

---

[1]) „Труды перваго областного с'езда сельских хозяев в гор. Двинске в 1903 г.“. Віцебск, 1904 г.

[2]) „Летопись белорусскаго общества сельскаго хозяйства“, СПБ. 1841 г.

[3]) Запіскі Северо-Западнаго Отдела Імператорскаго Русскаго Географіческаго Общества, кн. 2, Вільня 1911 г., ст. 241.

## II

Рускія краязнаўчыя арганізацыі на Беларусі былі двох радоў: беларусазнаўчыя, што мелі на мэце выўчаць усю этнографічную Беларусь, і ўласна краязнаўчыя, што выўчалі паасобныя краі яе. Апошнія, у сваю чаргу, складаліся з розных відаў: таварыстваў, камітэтаў і камісій. Беларусазнаўчыя арганізацыі былі ў відзе таварыстваў і іх было толькі тры: Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства і Таварыства Выўчэньня Беларускага Краю—з мэтамі комплекснымі, і Віленскае Таварыства Аматараў Прыродазнаўства—з мэтамі прыродазнаўчымі.

Першаю рускаю навукова-беларусазнаўчай грамадзкай арганізацыяй на Беларусі і быў *Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства.* Увесь час свайго існаваньня ён знаходзіўся ў Вільні, зьяўляючыся дапаможнаю часткаю Таварыства, што і падкрэсьлівалася не аднойчы заснавальнікамі і дзеячамі Аддзелу. Ініцыятыва ўтварэньня такога Аддзелу ў Вільні з раёнам дзейнасьці—былым Паўночна-Заходнім краем—належала тагочаснаму сакратару Рускага Географічнага Таварыства Остэн-Сакэну. У гэтай справе пэўную дадатную ролю адыграла таксама экспэдыцыя Рускага Географічнага Таварыства на Беларусь у 1867—1870 г.г. З аднаго боку, члены экспэдыцыі дапамаглі пачатку дзейнасьці Паўночна-Заходняга Аддзелу, а з другога боку—Рускае Географічнае Таварыства хацела, каб яго праца па дасьледваньні былога Паўночна-Заходняга краю атрымала дапамогу мясцовых сіл, аб'яднаных для гэтага ў пэўную організацыю. Ініцыятыву Остэн-Сакэна ў справе заснаваньня Аддзелу Таварыства ў Вільні падтрымліваў і ажыцьцяўляў на месцы папячыцель Віленскай Вучэбнай Акругі—Карнілаў. Сабраная ім заснаваўчая група Аддзелу лічыла, што Беларусь зьяўляецца вялікім прасторам для досьледаў, для выкананьня якіх і трэба ўтварыць Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства. Пэўную навуковую дзейнасьць у тыя часы вяла Часовая Археолёгічная Камісія пры Віленскім Музэі Старажытнасьцяй, але, па думцы заснавальнікаў Аддзелу, яна і па духу і па асабоваму складу была польскай. Да таго яна лічылася зусім незалежнай ад якіх-небудзь рускіх навуковых інстытуцый і, дзякуючы гэтаму, разам з іншымі прычынамі, сталася польскаю культурнаю пляцоўкаю насупраць палажэньню аб ёй [1]). Вось заснавальнікі Аддзелу палічылі карысным зачыненьне яе, а для таго, каб захаваць Аддзел пераважна ад польскіх уплываў і не дапусьціць у яго хоць і рускіх падданых, але ня чыста рускага пахаджэньня і не праваслаўнага веравызнаньня" [2]), зрэдагавалі адпаведны параграф палажэньня

---

[1]) Пар. „Дневник заседаний комиссии для разбора, приведения в известность и надлежащий порядок предметов, находящихся в Виленском Музее древностей". Вильня, 1865, стар. 2 і наст.

[2]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", кн. I, Вільня, 1910, стар. 16.

Аддзелу так, што ў члены яго маглі абірацца толькі рускія людзі. Апрача таго, Аддзел павінен быў знаходзіцца пад апекаю генэрал-губарнатара і старшынствам папячыцеля Віленскай Вучэбнай Акругі, а таксама кіравацца заўвагамі ды інструкцыямі Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя сапраўды рускія імкненьні заснавальнікаў, Міністэрства Ўнутраных Спраў дазволіла організаваньне Аддзелу толькі пасьля паўторных хадайніцтваў як заснавальнікаў, так і Рускага Географічнага Таварыства. З тае прычыны, што памянёнае патрабаваньне аб тым, каб у члены Аддзелу абіраліся рускія людзі, супярэчыла пэўнаму параграфу Статуту самога Таварыства, ад яго адмовіліся, палічыўшы, што ўжо асабовы склад заснавальнікаў паклапаціцца аб захаваньні рускасьці асабовага складу Аддзелу. Палажэньне аб апошнім было зацьверджана царом у лютым 1867 г. Гэта зацьверджаньне віталася заснавальнікамі, як вялікае сьвята для рускай Вільні і рускіх людзей былога Паўночна-Заходняга краю.

Бясспрэчна, вельмі цікава пазнаёміцца са структурай і мэтамі Аддзелу, а таксама з пытаньнем узаемаадносін Аддзелу з самім Таварыствам і сродкамі Аддзелу з самога палажэньня аб ім. Мэты Аддзелу дакладна выяўлены ў першых трох параграфах гэтага палажэньня, а ўласна:

„§ 1. Для найпасьпяховай дапамогі мэце Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства засноўваецца ў Вільні асобны Аддзел Таварыства пад назваю Паўночна-Заходняга.

§ 2. Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства, пад бліжэйшым кіраўніцтвам галоўнага начальніка краю, займаецца пераважна вывучэньнем гэтага краю ва ўсіх тых стасунках, якія складаюць прадмет заняткаў Таварыства і асабліва дасьледваньнямі па археографіі, археолёгіі, гісторыі, статыстыцы і этнографіі.

§ 3. З гэтаю мэтаю Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства: па-1), адшуквае і прыводзіць у вядомасьць сабраныя ўжо і захаваныя ў мясцовых архівах і ў прыватных асоб весткі аб краі, разглядае іх і вырашае, які ўжытак можа быць зроблены з іх для навукі; па-2), зьбірае належачыя да краю этнографічныя і гістарычныя матэрыялы цераз мясцовых жыхароў і наладжвае вучоныя экспэдыцыі для мэтаў, паказаных у § 2 гэтага палажэньня; па-3), дапамагае прыватным асобам, якія наведваюцца ў Паўночна-Заходні край з навуковаю мэтаю, і стараецца прыцягнуць да дасьледваньня гэтага краю асоб, што могуць быць для гэтага карыснымі; па-4), клапоціцца зьбіраньнем і захаваньнем вучоных падсобнікаў, належачых да кола сваіх заняткаў, як: кніг друкаваных і рукапісных, актаў, карт і этнографічных рэчаў“ *).

*) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, кн. I, Вільня, 1910, стар. 3 вокладкі.

Асабовы склад Аддзелу вызначаўся двума наступнымі параграфамі палажэньня:

„§ 4. Паўночна-Заходні Аддзел абірае ў свае члены асоб, якія могуць быць карысны для яго навуковых прац. Асобы гэтыя атрымліваюць годнасьць членаў-супрацоўнікаў Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства.

§ 5. Асоба, якая робіць на карысьць Паўночна-Заходняга Аддзелу грашовую афяру ня менш 300 руб., атрымлівае, на падставе статуту Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства, годнасьць члена-выпярэдніка Таварыства і дыплём за подпісам старшыні Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства. Афяры гэтыя складаюць асобны капітал, хаваць і скарыстаць які надаецца права самому Аддзелу[1]).

Апрача канца гэтага параграфу, аб сродках, парадку выдаткаваньня і рэвізіі гаворыць яшчэ і § 7 палажэньня:

„§ 7. На пакрыцьцё выдаткаў, патрэбных на канцылярскія ды іншыя расходы ў Паўночна-Заходнім Аддзеле ідуць паступаючыя ў яго, на падставе статуту Таварыства, штогадовыя грашовыя складкі яго членаў. Сумы, належачыя Аддзелу, выдаткуюцца паводле загаду старшыні кіраўніком спраў Аддзелу з запісам у асобную шнуравую кнігу, якая прадстаўляецца ў канцы году на рэвізію сходаў членаў Аддзелу“ [2]).

Для кіраваньня ўсёй дзейнасьцю Аддзелу палажэньнем прадугледжана толькі абраньне старшыні яго і кіраўніка спраў:

„§ 6. Аддзел абірае з членаў сваіх старшыню і кіраўніка спраў, якія зацьвярджаюцца ў гэтай годнасьці галоўным начальнікам Паўночна-Заходняга краю. Іх абавязкі і правы па Аддзелу, таксама і ўвесь парадак распарадчых дзеяньняў Аддзелу, узгадняецца з правіламі агульнага статуту Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства, асаблівасьці-ж, якія могуць патрабавацца мясцовымі акалічнасьцямі, пастанаўляюцца самім Аддзелам з зацьверджаньнем галоўнага начальніка краю“ [3]).

Згодна § 8 палажэньня, адносіны Аддзелу да Таварыства былі даволі падначаленыя:

„§ 8. Адносіны Паўночна-Заходняга Аддзелу Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства да самога Таварыства наступныя: а) ён ёсьць непадзельная частка Таварыства, а таму карыстаецца высачайша дараванаю Таварыству пячаткаю з дзяржаўным гэрбам і правам пасылаць па пошце пісьмовую корэспондэнцыю, без плацяжу вагавых і пасылак да пуду вагою; б) Таварыства ва ўсіх навуковых прадпрыемствах і занятках Аддзелу прымае абавязак дапамагаць яму сваімі парадамі, заўвагамі, паведамленьнем вестак, матэрыялаў і іншых навуковых падсобнікаў, якія знаходзяцца ў яго, а калі сродкі дазволяць, дык і грашовую

[1]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества, кн. I, Вільня, 1910, стар. 3 вокладкі.

[2]) Тамсама.

[3]) Тамсама.

дапамогаю; в) працы Аддзелу выдаюцца на падставе прынятых для гэтага правіл на сродкі Аддзелу або на сродкі Таварыства; г) з свайго боку Паўночна-Заходні Аддзел выконвае даручэньні, з якімі Таварыства будзе да яго зьвяртацца, абгаварвае прапанаваныя яму пытаньні, распрацоўвае паказаныя прадметы і наогул дастаўляе Таварыству весткі, належачыя да спэцыяльнага кола яго заняткаў; д) Аддзел дастаўляе штогодна Таварыству падрабязную справаздачу аб сваіх занятках на працягу папярэдняга году, для зьмяшчэньня ў агульную гадавую справаздачу Імпэратарскага Геаграфічнага Таварыства *).

Дзейнасьць Паўночна-Заходняга Аддзелу Імпэратарскага Рускага Геаграфічнага Таварыства можна падзяліць на два кругабегі. Першы з іх пачынаецца з 1867 г. і канчаецца ў 1877 г., калі дзейнасьць Аддзелу аўтоматычна зусім спынілася аж да 1910 г. і другі—ад 1910 да 1915 г., калі Аддзел зачыніўся з прычыны захопу Вільні немцамі. Такім чынам, амаль 35 год, ад 1874 да 1910 г., Аддзел фактычна не існаваў; сюды трэба далучыць каля двох год, з 1867 да 1869 г., з першага кругабегу, на які час дзейнасьць яго таксама была прыпынілася. Значыць, агулам дзейнасьць Аддзелу цягнулася каля 11 год.

Праца Аддзелу на працягу першага кругабегу яго існаваньня выяўлялася, галоўным чынам, у агульных сходах, пасяджэньнях распарадчага камітэту і сэкцый, працы апошніх, наладжваньні экспэдыцый, выданьні програм, зьбіраньні матэрыялаў, трыманьні сувязі з аналёгічнымі організацыямі ды інш. Агульных сходаў было каля дзевяці. На іх пераважна абгаварваліся і вырашаліся організацыйныя пытаньні і толькі часамі заслухоўваліся навуковыя даклады, паведамленьні ды інш. На іх былі прысутнымі, зразумела, толькі тыя члены, якія ў даны момант знаходзіліся ў Вільні.

Распарадчы Камітэт зьяўляўся выканаўчым органам Аддзелу і выконваў усю бягучую працу. На працягу памянёнага часу адбылося каля 15 паседжаньняў яго. Такім чынам, на кожны год першага кругабегу прыпадае больш чым адзін агульны сход і больш чым два паседжаньні распарадчага камітэту. На апошніх разглядаліся бягучыя справы Аддзелу, паведамленьні ды інш. На пасяджэньнях распарадчага камітэту былі ўтвораны наступныя сэкцыі Аддзелу: фізычна-матэматычная, этнографічная, археолёгіі ды археографіі і статыстычная. Паседжаньні адбываліся толькі ў апошніх дзьвёх сэкцыях; у этнографічнай і археолёгічнай—праца вялася пераважна адзінкамі. Сэкцыя статыстыкі мела каля 8 паседжаньняў, археолёгіі і археографіі—1.

У 1871 годзе Аддзел організаваў экспэдыцыю для досьледаў бурага вугалю ў Горадзеншчыне. Але ў Аддзеле ня было столькі сродкаў і сіл, колькі трэба для дасьледваньня Беларусі экспэдыцыйным мэтодам. Адчу-

*) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, кн. I. Вільня, 1910, стар. 3 вокладкі.

валася патрэба ў розных матэрыялах з месц. Таму Аддзел клапаціўся апублікаваньнем інструкцый і програм для нагляданьняў, апісаньня і зьбіраньня матэрыялаў, што і рабілася або ў „Віленскім Вестніке“, або паасобнымі выданьнямі. Так, паміж іншым, былі выданы наступныя програмы: а) этнографічная—для вызначэньня межаў пляменьняў у краі; б) па зьбіраньні вестак па сельскай гаспадарцы, прамысловасьці і быту сялян; в) фэнолёгічных нагляданьняў і інш., а таксама інструкцыя для мэтэоролёгічных нагляданьняў. На програмы прысылалі з месц адказы і апісаньні, якія часамі заслухоўваліся на тых ці іншых паседжаньнях або перадаваліся для апрацоўкі сэкцыям і членам Аддзелу. Усіх адказаў было больш 600.

Праца фізычна-матэматычнай сэкцыі вялася амаль адным Смысловым, дырэктарам Віленскай обсэрваторыі, у галіне мэтэоролёгічнага і фэнолёгічнага дасьледваньня краю. Гэта праца дала бадай найбольшыя вынікі. Пачалася яна клопатамі аб організацыі сеткі мэтэоролёгічных станцый, якія-б працавалі пад кіраўніцтвам Віленскай мэтэоролёгічнай обсэрваторыі, яшчэ ў першым годзе існаваньня Аддзелу. Цераз два гады была, праз канцылярыю папячыцеля Віленскай Вучэбнай Акругі, зроблена ўдзячная спроба організацыі мэтэоролёгічных нагляданьняў школамі. У тым-жа 1869 годзе ў „Віленскім Вестніке“ (№ 118) была абвешчана інструкцыя мэтэоролёгічных нагляданьняў, а з наступнага, 1870 году аж да канца кругабегу, г. зн. да 1874 г., адбывалася адчыненьне мэтэоролёгічных станцый на мясцох. У выніку гэтага была заснавана правільная, праўда, надмерна рэдкая, сетка мэтэоролёгічных станцый. Апошнія былі адчынены: у Маладэчыне, Бярэсьці, Быхаве, Слуцку, Панявежы, Мозыры ды інш., а ўсяго—7. Зважаючы на малы лік мэтэоролёгічных станцый, а таксама на канечнасьць мець дадатковыя весткі з месц для выўчэньня біоклімату Беларусі, Смыслоў распрацаваў і апавясьціў своясаблівую програму фэнолёгічных нагляданьняў. У той час, як інструкцыя для мэтэоролёгічных нагляданьняў мае зараз амаль выключна гістарычнае значэньне,—фэнолёгічная програма ў сучасны момант уздыму зацікаўленасьці да фэнолёгічнага дасьледваньня Беларусі не пазбаўлена больш шырокай цікавасьці.

Вышэйпамянёныя этнографічныя програмы рассылаліся Аддзелам праз канцылярыю папячыцеля Віленскай Вучэбнай Акругі, губэрскія статыстычныя камітэты, царкву і касьцёл. Дзеля таго, што праца ў этнографічнай сэкцыі вялася адзінкамі, Аддзел не спраўляўся нават з распрацоўкай усіх атрыманых ім этнографічных апісаньняў з месц. Праўда, былі некаторыя адзінкавыя выпадкі друкаваньня лепшых апісаньняў у „Віленском Вестніке“, але амаль уся маса іх засталася ў матэрыялах Аддзелу. Апрача працы па зьбіраньні матэрыялаў, было ўхвалена распачаць укладаньне этнографічнай карты Беларусі, выпрацаваны асновы яе і асыгнавана 100 р. на выдаткі па выкананьні працы. З найбольш цікавых прац,

якія вяліся членамі Аддзелу на мясцох, вылучаецца этнографічнае апісаньне Палесься і ўкладаньне слоўніка яго Сокалавым [1]).

Сэкцыяй археолёгіі і археографіі была распачата праца па выданьні інвэнтароў гарадоў і паказчыкаў старажытных назваў краю, а таксама ўхвалена ўкладаньне карты Беларусі з старажытнымі назвамі. З прац на мясцох трэба адзначыць укладаньне слоўніка географічных назваў Расіенскага земскага суда.

Статыстычная сэкцыя была самаю актыўнаю, але, здаецца, і найменш продукцыйнаю. Была выпрацавана схэма статыстычнага абсьледваньня Беларусі, пачата зьбіраньне вестак аб яўрэйскім насельніцтве і вялося вывучэньне абывательскіх кніг, распрацоўка перапісу Вільні 1869 г. і пытаньняў рускага зямляўладаньня ў краі.

З матэрыялаў, прысланых з месц, надзвычайнаю каштоўнасьцю зьяўляўся літоўска-польска-латыска-рускі слоўнік М. Мятытовіча, да выданьня якога ўлада аднеслася няспрыяюча. На жаль, слоўнік гэты згінуў у Аддзеле [2]).

Сярод розных дакладаў і паведамленьняў у Аддзеле бясспрэчна заслугоўваюць увагі:

а) быт заходня-рускага селяніна;
б) аб карце цячэньня Вяльлі, укладзенай Шантырам у 1857 г.;
в) аб аднадзенным перапісу Шавель;
г) аб знаходцы рэштак мамонта ў 10 вярстах ад Навагрудку;
д) сельска-гаспадарчае апісаньне Чыплянскай вол. Панявескага пав.;
е) этнографічнае апісаньне Бягомльскай парафіі Барысаўскае акр.;
ж) аб мастацка-археолёгічнай выстаўцы ў Віцебску ў 1871 г. і інш.

У 1873 г. было ўзьнята пытаньне аб скліканьні зьезду членаў Аддзелу і сакратароў губэрскіх статыстычных камітэтаў, пачалася перапіска аб гэтым з камітэтамі і міністэрствам, была выпрацавана програма зьезду, а ў 1874 годзе адбыўся самы зьезд. У ім прымала ўдзел 25 чал., з якіх — 6 прадстаўнікоў губэрскіх статыстычных камітэтаў краю. Зьезд абгаварыў пытаньні аб статыстыцы: яўрэйскага насельніцтва краю, мэдычнай, крымінальнай, прамысловай і сельска-гаспадарчай; аб мясцовых промыслах, аб пашырэньні сеткі мэтэоролёгічных станцый ды інш. і прыняў шэраг пастаноў у кірунку разьвіцьця дзейнасьці Аддзелу, дапамозе яму статыстычных камітэтаў і г. д. У тым-жа 1874 годзе вышлі ў Вільні „Протоколы Виленскаго Статистическаго С'езда 1874 г."

Урэшце, вялікаю працаю Аддзелу ў першым кругабезе яго існаваньня зьяўляецца аднадзенны пэрапіс насельніцтва г. Вільні, зроблены Аддзелам 18, 19 і 20 красавіка 1874 г. У данай працы прымалі ўдзел 295 чал. Матэрыялы перапісу распрацаваны ў 1875 і 1876 г. г. і абвеш-

---

[1]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", кн. II, Вільня, 1911, стар. 19.

[2]) Тамсама, стар. 35.

чаны ў друку ў 1881 г. Данаю працаю перапісу і скончыўся першы кругабег дзейнасьці Аддзелу.

Журналы пасяджэньняў Аддзелу друкаваліся ў „Записках Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, а інформацыі аб працы — пераважна ў „Віленском Вестніке“.

Аддзел меў і свае сродкі. Так, у 1871 г. ён меў у Аддзяленьні Дзяржаўнага Банку звыш 300 руб. Апрача таго, пэўныя сумы Аддзел атрымліваў ад Таварыства і ўлады, як, напр., на досьледы бурага вугалю ля Горадні — ад горадзенскага губарнатара — 300 руб. і ад Таварыства — 400 руб. ды інш.

У першы кругабег дзейнасьці Аддзел трымаў сувязь з аналёгічнымі організацыямі ў былой Расіі і за межамі: Парыскім Географічным Таварыствам ды інш.; а таксама з вучанымі. Так, Аддзел адказаў на запытаньні проф. Бэрлінскага Унівэрсытэту Манагарда аб літоўскай мітолёгіі, а запытаньні яго апублікаваў, павялічыўшы гэтым лік сваіх програм і анкет.

Пасьля 1874 г. дзейнасьць Аддзелу прыпынілася, бо наежджыя рускія людзі не маглі жывіць яе замілаваньнем да выўчэньня краю, а мясцовых працаўнікоў яшчэ амаль што ня было, калі ня лічыць дзеячоў польскай орыентацыі на Польшчу ад мора да мора. Але прайшоў ладны час, умовы зьмяніліся, і ў 1899—1902 г. г. былі зроблены спробы аднавіць Аддзел. Умовы не пасьпелі яшчэ цалкам, і спробы гэтыя не далі ніякіх вынікаў.

Урэшце, 16 студзеня 1910 году папячыцель Віленскай Вучэбнай Акругі Лявіцкі склікаў пасяджэньне зацікаўленых асоб у ліку каля 32 чал., якое і аднавіла Паўночна-Заходні Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства па палажэньні 1867 году. У даным выпадку, як і пры самым заснаваньні Аддзелу, ініцыятыва аднаўленьня яго належала не мясцовым дзеячом, а Сямёнаву-Цяньшанскаму, віцэ-старшыні Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства [1]). Лявіцкі, як пажыцьцёвы сапраўдны член Таварыства, узяўся ажыцьцяўляць яе на месцы. На думку аднаўленцаў Аддзелу, галоўнаю мэтаю яго павінна была зьяўляцца дзейнасьць па ўсебаковым выўчэньні былога Паўночна-Заходняга краю. Але тады-ж была выказана і конкрэтная практычная мэта Аддзелу — даводзіць „рускаю навуковаю працаю“, што гэты край сапраўды рускі ў процівагу „польскаму пагляду на гэты край, як на край польскі або прынамсі ня рускі“ [2]). Такім чынам адноўлены Аддзел захаваў ня толькі сваё палажэньне, але і свае політычныя тэндэнцыі. Дзейнасьць яго цягнулася да верасня 1915 году — часу захопу Вільні немцамі. На жаль, за 1913 і за 1915 год існаваньня Аддзелу па гэты бок Рыскае мяжы аб

[1]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Рускаго Общества“, кн. I, Вільня, 1910, стар. 4.

[2]) Тамсама, ст. 7 і 8.

працы яго няма пэўных даных. Таму тутака паказаны вынікі працы Аддзелу пакуль што пераважна за 1910—1912 г. г.[1]).

На аднаўленчым сходзе быў абраны Савет Аддзелу, як выканаўчы орган яго, і заснаваны чатыры сэкцыі: а) географіі і статыстыкі; б) этнографіі і археолёгіі; в) археографіі і г) гісторыі. Асаблівых дасягненьняў на працягу гэтага другога кругабегу існаваньня Аддзелу сэкцыі ня мелі. Быць можа, гэта ў пэўнай меры залежала ад таго, што ўся ўвага Аддзелу зьвернута пераважна была на выданьне сваіх „Записок“ на рускай мове. З паасобных пытаньняў працы сэкцый трэба адзначыць: а) увядзеньне тэрміну „радзімазнаўства“ географічнай сэкцыяй ды імкненьне яе да ўтварэньня „агульнага малюнку радзімазнаўства“ краю і да ажыцьцяўленьня гэтай неіснаваўшай важнай галіны бацькаўшчыназнаўства праз школу“ [2]); б) далейшую распрацоўку пытаньняў статыстычнага абсьледаваньня краю; в) абсьледваньне стану мэтэоролёгічных станцый краю; г) укладаньне програм для дасьледваньня ўзорных: маёнтку і сялянскай гаспадаркі; д) інструкцыя для фотографаваньня ў мэтах антрополёгіі і этнографіі; е) вызначэньне паасобных лёгкіх тэм асобным членам Аддзелу, якія жывуць на мясцох, для распрацоўкі; ж) аб укладаньні этнографічнай бібліографіі краю ды інш. Часамі, як і раней, працы сэкцый выконваліся адным якім членам сэкцыі і дакладваліся агульнаму сходу ці Савету Аддзелу. Быць можа, і гэта ў пэўнай меры паніжала працаздольнасьць сэкцый.

З аднаго боку, зварот Аддзелу з запрашэньнем уваходзіць у склад членаў яго па лініі ўсіх ведамстваў: асьветы, унутраных спраў, вайсковага, духоўнага, шляхоў зносін, грашовага, зямлябудаўніцтва, гандлю ды інш., і з другога боку—паніжэньне членскіх складак да 6 руб. у год адразу значна павялічылі лік членаў Аддзелу. Так, замест 33 членаў і аднаўленцаў Аддзелу ў пачатку 1910 г., у пачатку 1911 г. было ўжо 219 чал., у 1912 г.—305 чал. і ў 1913 г.—276. Пасьля ўзмоцненага зацягваньня мясцовых працаўнікоў у члены Аддзелу ў 1910—11 г.г., наступаў час нормальнага зьменшаньня ліку іх. Цікава адзначыць, што ў 1912 г. з усяго ліку членаў 305 чал. у Вільні жыло толькі 76, а 229 чал. знаходзілася ў розных мясцох Беларусі.

Усіх сходаў за першыя тры гады існаваньня Аддзелу было каля 37, з іх 11 агульных, 14—Савету і 12 сэкцыйных і камісій. З камісій асабліва цікавая была камісія, кажучы пасучаснаму, па ахове помнікаў старасьветчыны. Яна павінна была сачыць, дзе адбываюцца раскопкі, дазволеныя Археолёгічным Таварыствам, ахоўваць і апісваць скарбы, знойдзеныя ў часе раскопак у краі, наглядаць за знаходкамі ў часе

[1]) Карыстаюся выпадкам выказаць сваю шчырую ўдзячнасьць Зьмітру Іванавічу Даўгялу за каштоўныя вусныя весткі аб працы Аддзелу ў 1913—15 г.г.

[2]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Рускаго Географическаго Общества“, кн. І, Вільня, стар. 279.

земляных работ у Вільні і г. д. Усіх сходаў да зачыненьня Аддзелу было 45. Такім чынам, на час з 1913 да 1915 г. прыпадае 8 сходаў.

Агульныя сходы, як і раней, абгаварвалі пераважна організацыйныя пытаньні і больш выпадкова—навуковыя. З апошніх цікава адзначыць даклад аб „жыдоўствуючых", які зьяўляўся, як вядома з папярэдняга выкладу, далёка ня першым пытаньнем у справе выўчэньня яўрэйскай насельнасьці і ўсяго з ёй зьвязанага. Наогул Аддзел зварачаў увагу на патрэбу выўчэньня нацыянальных меншасьцяй краю*), вядома, з свайго пункту гледжаньня.

Як правіла, Аддзел кожны год пасылаў дзьве экспэдыцыі: адну гістарычную і адну этнографічную, але іх адбывалася больш як дзьве. Так, у 1910 г. адбыліся наступныя экспэдыцыі: а) комплексная ў г. Барысаў; б) для запісу народных мэлёдый; в) фольклёрная і г, д) дзьве археолёгічныя. У 1911 г. было зроблена 5 экспэдыцый: а) комплексная ў Гомель; б) для запісу народных мэлёдый, в, г) дзьве археолёгічныя і д) этнографічная. У 1912 г.—2 экспэдыцыі: а) этнографічная і б) для запісу народных мэлёдый. У некаторых экспэдыцыях прымала ўдзел па некалькі чалавек. Каштоўныя вынікі экспэдыцый дакладваліся на сходах і абвяшчаліся ў „Запісках" Аддзелу. З матэрыялаў экспэдыцый, а таксама з матэрыялаў, атрыманых з месц ды інш., у Аддзеле быў утвораны архіў, які к часу зачыненьня Аддзелу ў 1915 г. складаўся з надзвычайна каштоўных вестак: сотняў апісаньняў, фотографій ды інш. для пазнаньня Беларусі і паасобных частак яе. Гэта было амаль што самым каштоўным вынікам працы Аддзелу, лёс якога зусім невядомы.

Надзвычайна цікавыя вынікі дало абсьледваньне стану мэтэоролёгічных станцый краю і іх дзейнасьці, зробленае Аддзелам у 1911 годзе шляхам рассылкі спэцыяльнай анкеты, якая, дзякуючы сваёй дасканаласьці, можа быць з посьпехам скарыстана і зараз. З адказаў высьветлілася наступная сетка мэтэоролёгічных станцый у былым Паўночна-Заходнім краі ў 1911 г.: Ліда—Маладэчына—Каралёва—Вяліж—Дзьвінск—Бельск—Ваўкавыск—Сьвіслач—Ваўкавыская—Слонім—Саколка—Несьвіж—Панявеж—Расіены—Барысаў—Магілеў. Адсюль відаць, што некаторыя мэтэоролёгічныя станцыі, заснаваныя Аддзелам у першым кругабезе сваёй дзейнасьці, у 1911 г. не існавалі, а ў шмат якіх мясцох краю былі новыя станцыі.

Даступным для ўсіх і вельмі каштоўным вынікам другога кругабегу дзейнасьці Аддзелу справядліва лічацца выдаваныя ім пры ўдзеле Віленскага Таварыства Аматараў Прыродазнаўства „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества" на расійскае мове. Іх вышла 4 кніжкі 8° агулам 1.378 старонак. Ідэолёгічна яны не пазбаўлены вялікадзяржаўнасьці і ўсяго з ёй зьвязанага,

*) Гл. „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", кн. III, Вільня, 1912, стар. 393.

але зьяўляюцца найбольш сьветлымі і здаровымі кніжкамі, якія выдаваліся ў той час навуковымі організацыямі на Беларусі. У іх ёсьць надзвычайнае багацьце фактычных матэрыялаў, бяз веданьня якіх немагчыма далейшая дзейнасьць дасьледчыка Беларусі і яе паасобных частак.

У першых чатырох кніжках „Запісак“, адпаведна аддзелам у іх, зьмешчаны наступныя матэрыялы:

1. Геолёгія: а) аб ледавіковых адкладах у ваколіцах Вільні; б) аб месцанараджэньні і складзе шпатавага жалезьняка ў ваколіцах м. Папэлян Ковенскай губ.; в) аб бурштыне з Віленскага пав.; г) аб фосфарытах Паўночна-Заходняга краю і д) аб ледавіковых адкладах у Віленскай, Ковенскай і Горадзенскай губ.

2. Географія: а) Дрысьвяцкае возера Ковенскай губ. ў гідрографічным стасунку; б) г. Барысаў, в) лесастатыстычныя весткі аб Віленскай губ.; г) г. Гомель; д) г. Амсьціслаў; е) г. Клімавічы; ж) паездка па Палесьсю летам 1912 г.

3. Этнографія: а) напоўпаслоўіцы і напоўпрыказкі, ужываныя ў Віцебскай губ.; б) літоўскія загадкі; в) сялянскае вясельле ў Віцебскай Беларусі; г) жніўныя песьні ў Барысаўскім павеце; д) па Дрыгавіцкаму краю, летам 1911 г.; е) сялянскае вясельле ў Паўднёвым Палесьсі; ж) прыметы і забабоны сялян Віцебскага павету і з) вонкавы быт Быхаўскага беларуса.

4. Гісторыя: а) Н. Я. Нікіфароўскі (1845—1910); б) А. П. Смародзкі (1850—1910); в) акадэмік Н. М. Чагін (1823—1909); г) масонскія лёжы ў Літве; д) стан Вільні ў 1812 г.; е) нарысы з гісторыі масонства ў Літве; ж) апошняя старонка гісторыі Віленскага Унівэрсытэту і з) да гісторыі заходня-рускага духавенства.

5. Археографія: а) старадаўныя рускія прыказкі па зборніку Раманава; б) праваслаўны арцыбіскуп з Віленцаў; в) прылог Сямёна Полацкага да кн. Еўфрасіньні; г) матэрыялы да гісторыі школ Паўночна-Заходняга краю ў 1812 г.; д) тры акты Драпчынскага земскага суда XV ст. па пытаньні аб стане сялян; е) купчая крэпасьць на дзеўку Ганну Пападронаву; ж) альбом мастака Струкава, як вынік экспэдыцыі па Паўночна-Заходняму краю ў 1864 г.; з) пячаткі караля Мэндаўга і вялікага князя Кэйстута; і) аб мясцовым судзе ў XV—XVI ст. на Падляшшы; к) плян г. Вільні 1648 г. і л) Слуцкі сінодзік 1674 г.

6. Археолёгія: а) Віленскі камень; б) па Горадзенскаму Палесьсю; в) нарыс Гомельскага пав.; г) разьведка па Магілеўскай губ.; д) Барысаў камень у Высокім Гарадцы, Сеньненскага павету; е) магільнік каля Смаргоні; ж) дзеньнік раскопак ля Смаргоні; з) магільнік каля Марканец на Ашмяншчыне і і) як літоўцы раней пераплывалі цераз ваду.

Апрача гэтых аддзелаў, у „Запісках“ даваліся розныя надзвычайна цікавыя весткі адносна пазнаньня Беларусі і хроніка Аддзелу.

У 1915 годзе была ўжо набрана, але ня вышла 5 кніжка „Запісок". У ёй, паміж іншым, была монографія Слуцку, артыкулы аб бурым вугалі на Горадзеншчыне, аб Стукалічу, аб падарожы ў Палесьсе, аб апошніх часох ордэну Мечаносцаў, аб полемічнай царкоўнай адлучанай літаратуры ды інш.

Такім чынам, у „Запісках" Аддзел пакінуў па сабе вельмі разнаітыя вынікі сваёй дзейнасьці. Карыстацца імі трэба з асьцярогаю адносна ідэолёгічнага асьвятленьня фактаў, але ні ў якім разе не ігноруючы іх. У апошнія часы Аддзелам атрымлівалася шмат каштоўных рукапісаў з месц.

Дзякуючы таму, што Аддзел меў зносіны з вялікім лікам розных навуковых інстытуцый і абменьваўся сваімі выданьнямі, к 1915 г. ў яго была вялікая бібліотэка і заснаваны ім раней царкоўна-археолёгічны музэй. У 1911 годзе Аддзел прымаў удзел ва Ўсерасійскім Археолёгічным Зьезьдзе.

Сродкі Аддзелу складаліся з членскіх складак, субсыдый і фонду на выдачу мэдаляй імя Папова за лепшыя працы па выўчэньні краю. Асноўны недатычны капітал Аддзелу ў 1915 годзе складаўся больш, чым з 1.000 рублёў. На выданьні заўсёды выдаваліся субсыдыі папячыцелем Віленскай Вучэбнай Акругі з параграфу „на карысныя выданьні". На экспэдыцыі атрымліваліся субсыдыі ад мясцовых урадовых установ. Такім чынам, Аддзел не адчуваў асаблівага недахопу сродкаў на сваю дзейнасьць.

Апрача вялікага ліку фактычных матэрыялаў, якія даў Аддзел у выніку сваёй дзейнасьці, ён меў выдатнае выхаваўчае значэньне, засноўваючы сталыя краязнаўчыя традыцыі сярод мясцовых працаўнікоў і гадуючы ў іх замілаваньне да пазнаньня мясцовага краю самімі насельнікамі яго.

Адносіны польскіх таварыстваў і польскага грамадзтва да аддзелу былі, зразумела, варожыя.

Другім па часе заснаваньня беларусазнаўчым таварыствам было *Таварыства выўчэньня Беларускага краю* ў г. Магілеве. Згодна статуту гэтага Таварыства, мэтаю яго зьяўлялася: а) азнаямленьне з посьпехам прыродазнаўчых і гістарычных навук; б) пашырэньне прыродазнаўчых, гістарычных і экономічных ведаў сярод насельніцтва; в) заснаваньне гістарычных і прыродазнаўчых музэяў; г) выўчэньне прыродных умоў краю,— яго фауны, флёры, мінэралёгіі, глебы, мэтэоролёгіі, этнографіі, экономікі; д) адшуканьне і распрацоўка гістарычных матэрыялаў аб мінулым краю *). У склад членаў Таварыства мог уваходзіць кожны, бяз розьніцы полу і соцыяльнага стану. Статут Таварыства быў зацьверджаны ў 1905 годзе, але Таварыства не змагло знайсьці сіл для дасьледваньня ўсёй Беларусі і дзейнасьць яго амаль што ні ў чым ня выявілася.

*) „Наш Край", Менск, 1926. № 2—3, стар. 10.

Больш дзейным за данае было трэцяе па часе заснаваньня Віленскае Таварыства Аматараў Прыродазнаўства, якое знаходзілася ў Вільні і было зьвязана з Паўночна-Заходнім Аддзелам Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства.

*Віленскае Таварыства Аматараў Прыродазнаўства* заснавалася ў траўні 1909 году і дзейнічала да верасьня 1915 году, г. зн., як і іншыя рускія організацыі ў Вільні, да часу нямецкае окупацыі яе. Ініцыятарамі ўтварэньня Таварыства былі: Паўлоўскі, Собалеў і Дабрахотаў, дырэктары віленскіх сярэдніх школ, і Лявіцкі, тагачасны папячыцель Віленскай Вучэбнай Акругі, але асяродкам, які жывіў Таварыства, бясспрэчна, зьяўлялася Віленскае Хэмічна-Тэхнічнае Вучылішча. І ў гэтым Таварыстве, падобна да Паўночна-Заходняга Аддзелу Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства, статут адпаведнымі параграфамі вызначаў мэтаімкненьні яго і, згодна пэўнага параграфу статуту, ганаровым прэзыдэнтам Таварыства зьяўляўся папячыцель Віленскай Вучэбнай Акругі. Гэта было неабходна для захаваньня рускага характару дзейнасьці Таварыства. Праўда, дзякуючы даволі далёкаму ад політычных пытаньняў зьместу працы Таварыства яго політычныя тэндэнцыі ня выявіліся так рэзка, як тэндэнцыі памянёнага Аддзелу ды іншых краязнаўчых організацый, аб якіх будзе гутарка ніжэй. Мэтаю Віленскага Таварыства Аматараў Прыродазнаўства было ўсебаковае выўчэньне прыроды былога Паўночна-Заходняга краю: яго геолёгіі, географіі матэматычнай, географіі біолёгічнай, кліматолёгіі, выкапняў і г. д. На жаль, дакладных вестак аб складзе Таварыства, яго дзейнасьці ды інш., якімі, бязумоўна, зьяўляецца архіў Таварыства, у нас няма. Але ўсё-ж некаторыя асноўныя, найбольш характарныя рысы Таварыства і найбольш важныя вынікі яго дзейнасьці можна вызначыць.

На першым годзе існаваньня Таварыства, г. зн. у 1909 годзе, у складзе яго членаў было 73 чалавекі, з якіх 59 жыло ў Вільні і толькі 14 у розных мясцох краю. Гэта рабіла Таварыства па складу членаў больш віленскім гарадзкім Таварыствам, чым агульнабеларускім, тымчасам, як вышэй ахарактарызаваны Аддзел Географічнага Таварыства меў большасьць членаў на провінцыі. Але па сваёй дзейнасьці Таварыства абхоплівала ўвесь былы Паўночна-Заходні край. Па профэсіі і ў гэтым Таварыстве была большасьць настаўнікаў.

Для палягчэньня працы праўленьня Таварыства і паглыбленьня некаторых галін яго дзейнасьці існавалі паасобныя камісіі: а) экспэдыцыйная; б) глебава-геолёгічная; в) лекцыйная; г) па пытаньні аб спосабах і сродках пашырэньня дзейнасьці Таварыства ды інш. Праца камісіі заслухоўвалася на паседжаньнях праўленьня. На агульных сходах заслухоўваліся пераважна навуковыя даклады. Так, на працягу першага году дзейнасьці Таварыства на яго агульных сходах абмяркоўваліся наступныя даклады: а) аб зьбіраньні і прэпараваньні птушак для колекцый; б) аб

ледавіковых адкладах у Паўночна-Заходнім краі; в) зьбіраньне цьвёрдакрылых і лускакрылых казюлек для прыродазнаўчых колекцый; г) фізычна геаграфічнае дасьледваньне Дрысьвяцкага возера; д) аб дасьледным выкладаньні пачатковага курсу мэханікі; е) аб апошніх працах па колёідах; ж) памяці заснавальніка Нэапалітанскай Зоолёгічнай Станцыі проф. Дорна; з) аб бурштыне, знойдзеным у Віленскім пав.; і) атомная вага аргону ў сувязі з новай правільнасьцю ў кругабежнай сыстэме Мэндэлеева; к) некалькі заўваг з поваду ходу праменяў у трубе Галілея; л) запытаньне аб нёманскіх фосфорытах; м) некаторыя новыя даныя аб пабудове бялкоў ды інш. *).

Такі-ж, прыблізна, характар мелі і даклады на сходах Таварыства ў наступных гадох яго існаваньня. Сярод іх былі даклады і аб пэўных зьявах прыроды Беларусі ды яе частак, і програмы дасьледваньня гэтых зьяў і зьбіраньня фактаў іх, і агульнанавуковыя, ня зьвязаныя з данай тэрыторыяй. Гэта дадатная, вельмі каштоўная якасьць навуковай працы Таварыства не давала ёй магчымасьці замкнуцца ў вузкім коле тэрыторыяльна-абмежаваных пытаньняў, адарвацца ад навукі і ўсім гэтым зьнізіць якасьць свае працы.

Таварыства організоўвала шмат экспэдыцый па краю, якія давалі вельмі каштоўныя матэрыялы, вынікі апрацоўкі якіх таксама заслухоўваліся на агульных сходах.

Свае працы Таварыства друкавала ў „Записках Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, прымаючы ўдзел у выданьні іх таксама і матэрыяльна. У першых чатырох кніжках „Запісак“ зьмешчана каля 10 прац Віленскага Таварыства Аматараў Прыродазнаўства. Апрача таго, Таварыства выдала, паводле слоў З. І. Даўгялы, паасобную кніжку сваіх прац, якія тычыліся амаль выключна агульна-навуковых проблем. Апрача свае навуковае працы, Таварыства шмат зрабіла ў галіне популярызацыі прыродазнаўчых ведаў.

На ўсім працягу свайго існаваньня Таварыства трымала сувязь з аналёгічнымі яму або роднымі організацыямі і ўстановамі. На 12 зьезьдзе рускіх прыродазнаўцаў і ўрачоў прысутнічаў прадстаўнік Таварыства і рабіў даклад аб паміжледавіковых адкладах у былым Паўночна-Заходнім краі.

Сродкі Таварыства складаліся з членскіх складак па 3 руб. ў год і ўрадовай субсыдыі. Так, у 1910 г. ў Таварыства было 358 руб. Праўду кажучы,—сродкі невялікія, але яны ў асноўным задавалялі патрэбы Таварыства, бо на экспэдыцыі таксама атрымліваліся дадатковыя сродкі ў відзе субсыдый.

*(Канец будзе).*

---

*) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, кн. I, Вільня, 1910, стар. 257.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ МЭТОДАХ І ПРЫЕМАХ НАШАЕ КРЫТЫКІ

М. Байкоў

I

## Наагул аб нашай крытыцы

Пытаньне аб нашай літаратурнай крытыцы, разумеючы пад гэтым тэрмінам крытыку, як уласна-літаратурных, гэтак і навуковых твораў, набывае ў наш час асабліваe значэньне, як найактуальнейшая літаратурная проблема. Аб гэтым яскрава сьведчыць як рост літаратурна-крытычных артыкулаў і зьяўленьне спэцыяльных аддзелаў крытыка-літаратурнага зьместу на старонках часопісяй „Зьвязда“ і „Савецкая Беларусь“, гэтак, асабліва, ажыўленьне літаратурнай палемікі. Усё гэта, разам і паасобку ўзятае,—ясныя „азнакі часу“. Яны паказваюць на рост і паглыбленьне нашай пролетарска-беларускай літаратуры. Як і ў іншых галінах савецкага будаўніцтва, у галіне літаратуры надыходзіць момант самакрытыкі, яснага ўсьведамленьня сабе задач і мэтаў літаратурнае працы. І ў гэтым—значная розьніца ў стане нашай сучаснай літаратуры параўнальна з тым, што было ў літаратуры ў першыя гады рэволюцыі. Толькі зрэдку і як-бы выпадкова тады зьяўляюцца на старонках нашага друку крытычныя артыкулы. Гэтым наша літаратура першых дзён рэволюцыі адрозьнівалася нават ад літаратуры „нашаніўскае пары“, калі ўжо зьявіліся парасткі сур'ёзнай крытычнай літаратуры ў артыкулах М. Багдановіча, А. Навіны, Г. Леўчыка ды інш. Дапраўды, ёсьць пэўны сэнс у гэтай зьяве ў першыя гады рэволюцыі. У той момант, калі толькі што наладжвалася пролетарская дыктатура ў Беларусі, і беларуская пролетарска-сялянская літаратура знаходзілася яшчэ ў зародкавым, гэтак кажучы, стане, тады было зручней маўчаць: усякая крытыка, асабліва жорсткая, бязьлітасная, магла толькі наперашкодзіць справе. Аднак, ужо неўзабаве пасьля таго, як зрабілася прыкметным узмацненьне савецка-культурнага будаўніцтва, патрэба крытыкі пачала адчувацца ўсё больш і больш мацней. Цяпер-жа, пасьля дзесятых угодкаў Кастрычнікавай рэволюцыі, замоўчваньне недахопаў у розных галінах нашай дзейнасьці ўжо ня толькі недапушчальна, але і проста зьявілася-б шкодным для посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва ў далейшым. Мы і бачым, што цяпер у розных часопісях выдаюцца больш-менш значныя літаратурна-крытычныя таленты. І не бяда тое, што іх крытыка часам набывае бязьлітасны выгляд, выяўляючыся нават у форме абсолютна-адмоўнай ацэнкі аўтарскіх твораў. Для аўтараў—

залатаяісьціна: „ляпей хай лаюць, чымся маўчаць“,—і поўнае маўчаньне аб кнізе або пэўным аўтарскім творы роўназначна найніжэйшай ацэнцы. Аўтар, які толькі піша і аб якім нічога ня пішуць,—самая няшчасная зьява ў літаратуры. Тутака ён, папраўдзе,—нішто, нуль у літаратурных адносінах. Гэтак у крытыцы сваіх твораў зацікаўлены і самі аўтары. Усё гэта—труізмы.

Аднак бываюць розныя віды крытыкі. Ясная справа, што каштоўнасьць выяўляе об'ектыўная бесстаронная крытыка, якая выходзіць з мотываў паспрыяць удасканаленьню навуковай або літаратурнай працы. Ёй супярэчыць суб'ектыўная крытыка, крыніцы якой амаль заўсёды даны ў асабістых цікавасьцях аўтара крытыкі. Апроч таго, маюць вельмі важнае значэньне і паасобныя прыёмы, спосабы крытыкі. Бываюць вельмі некарэктныя, лапезныя крытыкі. Часам крытыка прымае форму недапушчальнай лаянкі,—і лаянкі, накіраванай супраць асобы аўтара. Апроч „брахунства“, часам выяўляецца ў крытыкаў гарэзьлівасьць і забіяцтва,—тое, што магчыма было-б назваць, ужываючы расійскую тэрмінолёгію, „литературным мальчишеством“. Ёсьць і проста „няцнотныя“,—„блудлівыя“ крытыкі. Усё гэта, канечна, становіць адхіленьні ад норм здаровай марксыцкай крытыкі,—а шкада тое, што гэтыя адхіленьні выступаюць дзе-ні-дзе і ў нашай літаратурнай крытыцы, у некаторых-жа крытыкаў, і нават у цэлых журнальных колектывах, у апошні час маюць нахіл зрабіцца свайго роду традыцыяй. Зразумела, што гэта зьява вельмі шкодная ў нашай літаратуры. Ёю наша сучасная літаратурная крытыка пэўных асоб значна адрозьніваецца ад спакойнай сур'ёзнай крытыкі „нашаніўцаў“,—і барацьба з гэтай ненормальнай зьявай становіць чарговую задачу бягучага моманту. Посьпехі далейшага разьвіцьця беларускай літаратуры і нашага ўдасканаленьня ў навуковых адносінах, наагул посьпехі нашага нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў значнай меры залежаць ад таго, ці здолеем мы адкінуць тое шкоднае, нездаровае, што выяўляецца цяпер у галіне нашай літаратурнай крытыкі, і дарасьці да ступені сапраўднай об'ектыўнай марксыцкай крытыкі.

З гэтага погляду, ужываючы спосаб „ад супраціўнага“, варта спыніцца на некаторых паасобных выпадках у галіне нашай літаратурнай крытыкі і паасобных прыёмах крытыкаў.

У першую чаргу можна зьвярнуць увагу на крытычныя прыёмы Яз. Лёсіка і некаторых крытыкаў з „Узвышша“.

II

## Аб крытычных прыёмах Яз. Лёсіка

Крытычныя „здольнасьці“ Яз. Лёсіка выявіліся ў сваім эмбрыёнальным стане яшчэ задаўна, у часе выхаду „Вольнай Беларусі“ і „Звону“; першае-ж яго выступленьне на старонках „тоўстых“ часопісяй адбылося ў часопісі „Адраджэньне“,—і ўжо тады яскрава вызначыўся характар

яго крытычных ацэнак. „Гарачнасьцю, вульгарнасьцю і бульварным, нелітаратурным грубым тонам“, пісаў тады на старонках „Савецкай Беларусі“ адзін зганьбены паважаным крытыкам аўтар пад псэўдонімам Н. М—чук, „вызначаюцца „рэцэнзіі“ Яз. Лёсіка. Сустракаюцца, напр., такія словы, як „салапякі“, „вярзьці“, „дзяўчаты-б верацёнамі запаролі“, „вар‘яцкі дом“ і іншыя пэрлі дзіўнага лексыкону. Чуецца ў гэтых заметках нейкая надмерная нэрвовасьць, суровасьць і аднабокасьць ацэнкі. Папраўдзе, ацэнкі ніякай няма, а толькі брыдкая лаянка. „Рэцэнзэнт“ ад вялікай гарачнасьці пачынае сыпаць расійскімі ядранымі фразамі. Глядзіш і ня верыш,—думаеш, што гэтыя „рэцэнзіі“ памылкова перавандравалі з нейкага вулічнага лістка на старонкі паважнай часопісі...“ („Савецкая Беларусь“, 30 жніўня 1922 г., № 191).

Пасьля гэтай водпаведзі крытычная дзейнасьць т. Лёсіка на некаторы час прыпынілася. Ва „Ўвагах да нашае літаратурнае мовы“, што друкаваліся на старонках „Полымя“ за 1924 г., знаходзім толькі безоб‘ектныя і бескалёрныя, у значнай меры залежныя ад падобных-жа заўваг аб украінскай літаратурнай мове В. Курыла, закіды супраць усяе нашае журналістыкі ў гэтым.

Аднак, у апошні час т. Лёсік зноў вышаў на поле літаратурных боек.

У другім нумары „Ўзвышша“ за мінулы год паміж іншых рэцэнзій зьмешчана вялікая рэцэнзія, свайго роду крытычны артыкул Яз. Лёсіка на „Беларуска-Расійскі слоўнік“ М. Байкова і С. Некрашэвіча. Рэцэнзія была зачытана, як даклад, на агульным сходзе Аддзелу Мовы і Літаратуры Інстытуту Беларускай Культуры.

Гэта, так кажучы,—спроба навукова-літаратурнай крытыкі з боку Яз. Лёсіка.

Тая акалічнасьць, што т. Лёсік сярод сваіх граматычна-правапісных прац знайшоў час для дакладнага разгляду слоўніка і нават зачытаў сваю рэцэнзію на сходзе навуковай інстытуцыі, сама па сабе становіць дадатную зьяву ў галіне нашага навукова-літаратурнага жыцьця. У дакладным разглядзе слоўніка, папершае, зацікаўлены самі аўтары. Гэта—неабходная ўмова для выпраўленьня іх памылак і апушчэньняў. Самая прырода слоўнікавае працы такая, што кожны, нават найбольш дакладны, слоўнік павінен выклікаць крытыку. У наш-жа час, момант сформаваньня літаратурнай беларускай мовы, суворая, бязьлітасная крытыка беларускіх слоўнікаў зьяўляецца простай неабходнасьцю.

Аднак, ці зьявілася карысным выступленьне т. Лёсіка? Ці пазбавіўся ён ранейшых лапезных прыёмаў сваёй крытыкі? Ці ўдалося яму натрапіць на шлях об‘ектыўнага, бесстароннага, угрунтаванага разгляду?

Суб‘ектывізм, выбрыкі некарэктнасьці і бульварнай грубасьці, разьлічаныя на танны эфэкт, заразумеласьць рэцэнзэнта і неўгрунтаванасьць паасобных заўваг пры адсутнасьці чуцьця навуковай крытыкі,—вось што кідаецца ў вочы, калі чытаеш рэцэнзію.

Суб'ектыўны падыход да слоўніка заўважаецца ўжо ў пачатку рэцэнзіі. Рэцэнзэнту, бач, *не падабаецца*, што „за час друку слоўніка аб ім ня раз апавяшчалася ў газэтах і часопісях, успаміналася і ў рэцэнзіях", дзякуючы чаму „цікавасьць грамадзтва да яго вельмі вырасла",— і ў гэтым афішыяваньні слоўніка, відавочна, на думку рэцэнзэнта, вінавайцы—аўтары і ранейшыя рэцэнзэнты слоўнікавых прац. Вось ужо сапраўды суб'ектыўны і некорэктны падыход! Об'ектыўна разважаючы, можна проста казаць, што ў наш час больш-менш поўны беларуска-расійскі слоўнік павінен цікавіць грамадзтва без абы-якога спэцыяльнага афішыяваньня. І ці аўтары слоўніка вінаваты ў тым, што рэцэнзэнты ранейшых слоўнікавых прац мелі на ўвазе выхад у сьвет беларуска-расійскага слоўніка, які, ня гледзячы на ўсю сваю непаўнату і хібы, усё-ж такі можа быць карысным у справе выўчэньня беларускай мовы? Пры чым тут аўтары і ці пад іх уплывам пісаліся рэцэнзіі на „Практычны расійска-беларускі слоўнік" М. Байкова і М. Гарэцкага?

Дапусьціўшы адну некорэктнасьць супроць рэцэнзэнтаў „Практычнага расійска-беларускага слоўніка", Яз. Лёсік праз некалькі радкоў дапушчае і другую. „Галаслоўнай" называе ён пахвалу тых крытыкаў, што аб ім пісалі, ня прыводзячы ніякіх аргумэнтаў, апроч спасылкі на прадмову саміх аўтараў да другога выданьня слоўніка, дзе яны пісалі: „На жаль, і да гэтага часу не зьявілася ў друку паважнае крытыкі на наш слоўнік. Ацэнкі, якія былі зьмешчаны ў часопісях „Полымя" і „Асьвета", больш хваляць, чымся ганяць слоўнік: крытыка вельмі павярхоўная". Але-ж ясна, што з заўвагі на павярхоўнасьць крытыкі яшчэ не вынікае вываду аб галаслоўнасьці агульнай ацэнкі, якая ў рэцэнзэнтаў не залежала ад крытыкі паасобных перакладаў слоўніка, а абумоўлівалася яго агульным значэньнем, як *першага* больш-менш поўнага расійска-беларускага слоўніка. У кожным разе ўжо адно чуцьцё мовы і літаратурная далікатнасьць прымушалі-б да асьцярожнасьці з ужываньнем тэрміна „галаслоўнасьць". Гэтых якасьцяй, як відаць, бракуе т. Лёсіку, і ў сваёй рэцэнзіі ён адналяе прыём лапезнай крытыкі: каб павялічыць вартасьць сваёй крытыкі, вылівае ў пачатку рэцэнзіі памыі на ранейшых крытыкаў! Прыём застарэлы і ня варты насьледаваньня!

А вось-жа сам т. Лёсік бяз сур'ёзнай рацыі кажа, што „ў Бядулі, як у поэты, *часта* (курсіў мой. *М. Б.*) ужываюцца словы ў неналежным значэньні". З гэтай заўвагі выходзіць, што наагул у нашай поэзіі словы часта ўжываюцца ў неналежным значэньні. Ці ўгрунтавана гэта галаслоўнае дапушчэньне? Яно высказана без абы-якіх угрунтаваньняў. З аднакавай рацыяй можна казаць, што ў Бядулі, як і ў іншых поэтаў, словы ўжываюцца ў неналежным значэньні не часьцей, чымся ў самога рэцэнзэнта.

Суб'ектыўна і пры тым ненавукова, без знаёмства з адпаведнай слаўнікарскай літаратурай і прынцыпамі слоўнікавай працы, т. Лёсік

пярэчыць занясеньню ў беларуска-рускі слоўнік слоў пэўнай катэгорыі, тых слоў, што зазвычай называюцца брыдкімі словамі. Відаць, што крытыку невядомы словы вядомага расійскага слаўнікара Ўл. Даля: „Словарник не узаконитель, а раб языка: что есть, он обязан собрать и не может выкидывать то, что ему не нравится" (В. Даль. „Искажение русского языка)". Пэўна, што гэтых слоў Даля ня ведае т. Лёсік, а калі-б ён ведаў іх, дык ня пісаў-бы так катэгорычна, як ім напісана ў рэцэнзіі аб „неабходнасьці раз назаўсёды выясьніць і зьліквідаваць адну недарэчнасьць, якая нязьменна паўтараецца ва ўсіх нашых слоўніках, што складаліся сумесна з М. Байковым"; з другога боку, прыродная далікатнасьць і тактоўнасьць недапушчалі-б рэцэнзэнту абвінавачваць апошняга аўтара ў прыхільнасьці да падобных слоў. Каго і да чаго абавязвае рэгістрацыя такіх слоў? Нікога і ні да чога! Аўтарамі слоўнікаў рэгіструюцца толькі факты, фэномэны мовы.

Праўда, у крытыка ёсьць прычэпка: беларуска-расійскі слоўнік ён разумее *толькі* (курсіў мой. *М. Б.*), як слоўнік літаратурнай беларускай мовы.

Ці правільнае гэта разуменьне і ці не выяўляюцца ў ім пэўныя спэцыфічныя для крытычнай мэтоды Лёсіка прыёмы?

У прадмове да слоўніка чытаем: „Мэта гэтага беларуска-расійскага слоўніка—даць дапамогу пры чытаньні сучасных беларускіх выданьняў тым асобам, якія хаця і маюць або элемэнтарна тэорэтычнае або практычнае знаёмства з жывой беларускай мовай, але яшчэ ня зусім дакладна ўяўляюць сабе тое слоўнікавае багацьце, якім уладае сучасная навукова-літаратурная беларуская мова ў параўнаньні з мовай расійскай. Паказанай мэтай тлумачыцца тая асаблівасьць слоўніка, што тут *значная* ўвага накіравана на словы і тэрміны, ужываныя ў навукова-літаратурнай мове". З гэтай выняткі ясна відаць, што, паколькі значная ўвага ня ёсьць яшчэ выключнай увагай, беларуска-расійскі слоўнік толькі ў пэўных адносінах ёсьць слоўнікам літаратурнай мовы, і ня ўсе словы, якія зарэгістраваны ў ім, маюць літаратурнае ўжываньне. Каб давесьці сваю думку, крытык бярэ толькі першую палову цытаты, не зважаючы на тое, што самі аўтары не надаюць сваёй працы значэньня, якое ёй хоча надаць рэцэнзэнт. Апошні сказ з цытаты без цырамоній выкідваецца ў рэцэнзіі. Як назваць гэты прыём абкарнаньня і, значыцца, наўмысьля-няправільнага вытлумачэньня слоў аўтараў? Разумеецца, што гэты прыём ня гожы для сур'ёзнай крытыкі.

Занядбаньнем або няведаньнем таго, што „словарник не есть узаконитель языка", тлумачацца пэўныя заўвагі рэцэнзэнта аб зьмесьце слоўніка. Да гэтага далучаецца надзвычайная, хаця і нічым ня выпраўданая, заразумеласьць крытыка. Ён папікае аўтараў слоўніка, што вось яны пішуць: „адзяржаць", а не „аддзяржаць", „атрымаць", а не „адтрымаць", як *яму* хочацца, што яны бяруць прыметнік „буйны" ў сэнсе

„буйны горад“, што, урэшце, перакладаюць: „зачынены—закрытый“, а „зачыняць—закрыть“. Гэта, на яго думку, значныя хібы. Аднак-жа, наша навукова-літаратурная мова ведае „зачыніць“ у сэнсе „закрыть“, адкуль „зачыніць сход“, як роўна „зачынены сход“; „буйны горад“ знаходзім у падручніках географіі Азбукіна, у географіі-ж Беларусі Арк. Смоліча напаткаем „буйны капітал“. Слаўнікар ёсьць нявольнікам мовы, і выпраўленьняў да таго, што de facto існуе ў звычайнай мове, ён ня робіць. Гэта занядбае т. Лёсік і вымагае ад аўтараў слоўніка таго, на што яны ня могуць згадзіцца, лічачыся з тым, як ужываюцца словы звычайна, а ня толькі Яз. Лёсікам. Таксама звычайна пішуць: „атрымаць“ і „адзяржаць“; так даны гэтыя словы і ў „Беларуска-Маскоўскім слоўнічку“ М. Гарэцкага (прыраўн. польск. otrzymać і odzierżyć); думка-ж аб тым, што трэба пісаць „адтрымаць“ і „аддзяржаць“, пакуль што ёсьць прыватная, неабавязковая ні для каго, думка т. Лёсіка,—і лічыцца з тым, што і як думае ён, асабліва ня прыходзіцца. Бо не ўзаканіцель-жа мовы Яз. Лёсік, і яго погляды ня могуць быць догмай нашага моваізнаўства. Наадварот, зусім дапушчальна, што ён можа памыляцца, і вельмі часта памыляецца. Так, напр., памылкова з погляду жывога народнага ўжываньня тлумачыць „зачыняць“ толькі, як „затворять“, і „адчыняць“ толькі, як „отворять“. Іначай, як можна перакласьці хаця-б вось гэты прыклад з „Казак і апавяданьняў“ Ал. Сержпутоўскага, 6 ст., у выданьні Інстытуту Беларускае Культуры: „Прышоў пуоп і веліеў адчыніць дамавіну“ Ніводзін расіец ня кажа, што „гроб“ можна „отворить“. Тутака адзіночна магчымы пераклад: „открыть“. Такім спосабам, у гэтым, прынамсі, выпадку, жывая беларуская мова супярэчыць зацьвярджэньню Лёсіка *). Супярэчыць яна і іншым яго зацьвярджэньням, як, напр., упартаму адстойваньню штучнага „сапраўды“ замест народнага „запраўды“. Чаму-ж тут напушчаць на сябе міну *непахібнасьці* і няпрызнанай аўторытэтнасьці?

Пераходзім цяпер да аб'ёму і зьместу слоўніка. Гаворачы аб аб'ёме слоўніка, Яз. Лёсік, як гэта зазвычай да яго, *ломіцца ў адчыненыя дзьверы* і даводзіць, што ў слоўніку няма некаторых характэрных беларускіх слоў. Няма, кажа ён, такіх слоў, як астычыны, ашморгаць, ашаламуціць і г. д. Зусім непатрэбна было рабіць такіх пералічэньняў. У прадмове да слоўніка ясна сказана, што ён ня ёсьць яшчэ поўным слоўнікам беларускай мовы, з „літаратурных-жа твораў выбраны толькі некаторыя характэрныя словы“. Паказана ў прадмове і на тое, што слоўнік напісаны ў працягу 4 месяцаў. Рэцэнзэнт чамусь замоўчвае гэтыя пака-

---

*) Тую самую памылку паўтарае Яз. Лёсік у сваіх „Граматычных нататках“, выдрукаваных у № 5 „Узвышша“. Таксама няправільна ў гэтых „Нататках“ ён тлумачыць „па“ ў сказе „Відаць па вочках, што ходзіць па ночках“ у сэнсе „пасьля“. Тутака прыйменьнік „па“ мае такі-ж самы сэнс, што і ў аднаковых расійскіх сказах. Адсюль, папраўдзе, пабудаванымі на пяску аказваюцца далейшыя разважаньні аўтара „Нататак“.

заньні і, як відаць з яго рэцэнзіі, ставіць аўтарам задачу ня больш ня менш, як напісаць у працягу 4 месяцаў поўны слоўнік беларускай мовы, які мог-бы перасягнуць „Словарь белорусского наречия“ Насовіча, і дзе было-б вычарпана поўнасьцю слоўнікавае багацьце нашай літаратурнай мовы. „Я не памылюся“, заяўляе ён, „калі скажу, што слоўнік Насовіча яшчэ доўга будзе служыць для нас недасяжнаю велічынёю“. Я-ж магу спытацца ў т. Лёсіка: ці магчыма, *навукова* разважаючы, дапусьціць апрацаваньне ў працягу 4 мес., хаця-б і дзьвюма асобамі, слоўніка, які перасягнуў-бы з боку свайго аб'ёму і зьместу слоўнік Ів. Насовіча, матэрыял для якога назьбіраўся ў працягу 16 год? У гэтай заяве Лёсіка, як нельга больш, выразна выявілася ўся слабасьць яго мэтодолёгічнай падрыхтоўкі да крытыкі слоўнікавых прац, а бяз гэтай падрыхтоўкі ня трэба было зусім брацца за крытыку, асабліва з тэй чыста ненавуковай надзіманасьцю, якой яна прасякнута ад пачатку да канца.

Канечна, у цяперашнім сваім выглядзе слоўнік мае шмат недахопаў. Наагул можна згадзіцца з т. Лёсікам, што аўтарам слоўніка трэба яшчэ шмат папрацаваць, каб давесьці яго да належнай вышыні. Аб гэтым няма чаго і спрачацца. А каб аўтары слоўніка змаглі давесьці сваю працу да дасканаласьці, патрабуюцца выпраўленьні з боку знаўцаў да паасобных месц слоўніка. Пры гэтым ясна, што тыя выпраўленьні, якія даюцца на старонках друку, набываюць для ўдасканаленьня слоўніка асаблівую каштоўнасьць, бо нельга-ж выступаць на старонках друку з павярхоўнымі заўвагамі.

Выпраўленьні да паасобных месц слоўніка, адзначаючы памылкі, якія „кожнаму могуць кінуцца ў вочы“, і дае т. Лёсік.

Аднак-жа паглядзім, што гэта за выпраўленьні, якая іх об'ектыўная, навуковая вартасьць?

Трэба прызнацца, што некаторы процант гэтых выпраўленьняў мае рацыю. Да гэтай катэгорыі належаць выпраўленьні да слоў: „абноч“ (не „ночью“, як растлумачана ў слоўніку, а „в течение ночи“), „азярод“ (ня „сушилка“, а „приспособление из жердей и бревен для сушки снопов“), „азярына“, „акыш“, „вымерхацца“ і інш. Аднак такіх удалых выпраўленьняў зусім нязначны процант. Большасьць-жа іх няўдачныя, выяўляюць незнаёмства рэцэнзэнта з крыніцамі, слабае веданьне ім расійскай мовы, адсутнасьць у яго прыёмаў навукова-літаратурнай крытыкі і могуць нават сьведчыць аб тым, што ён „слаба разьбіраецца ў значэньні беларускіх слоў“, чым ён думае папікнуць аўтараў слоўніка.

Гэтыя „выпраўленьні“ вельмі паказальны для характарыстыкі паасобных прыёмаў і мэтодаў „крытыкі“ рэцэнзэнта.

Каб ня быць галаслоўным, варта спыніцца на некаторых выпраўленьнях.

„Адкуль гэта аўтары ўзялі“, пытаецца т. Лёсік, „што слова „акуляры“ жаночага роду?“

Трэба было яму даведацца да недасяжнага пакуль што „Словаря белорусского наречия“ Насовіча,—і тут ён прачытаў-бы:

„*Окуляры*,-ръ с. ж. употр. во мн.“

Таксама, не зазірнуўшы ў слоўнік Насовіча, рэцэнзэнт без абы-якой падставы лічыць слова „абкарнаць“ не беларускім, а расійскім, і нават выпраўляе яго значэньне „окоротить“. А тымчасам у Насовіча знаходзім: „карнаць“ і „карнаціць“ у сэнсе „окорачивать“; далей ідуць словы „карнаны“, „карнат“, „карнаты“, „карнаценькі“, „карнацік“, „карначык“, „карнавухі“, „карнавушка“. Цікава, што слоў „карнат“, „карначык“, „карнавушка“ зусім ня знойдзем у расійскім ужываньні. Таксама „небеларускае“, на думку Лёсіка, слова „сабачыцца“ дана ў Насовіча. Папікаючы памылкова аўтараў слоўніка за вялікарусізм, рэцэнзэнт сам дапушчае яўны полёнізм. „*Дзяржальна*—гэта не *черенок*; черенок—гэта *тронкі*“. Што *тронкі* (польскі tronek)—гэта полёнізм, досыць ясна.

Даю іншыя прыклады падобнага-ж роду.

„*Абпляскаць*“,—зацьвярджае рэцэнзэнт,—гэта зусім не „оттрепать“, а ў Насовіча бачым: „*Обпляскаць*, сов. д. гл. Пляскаць. Оттрепать. „Щоки обпляскаю твое за гето“.

„*Абшар*“—слова польскае, паводле паказаньня рэцэнзэнта, а „значыць яно ня „край“, як тлумачаць аўтары, а толькі „пространство“. Каб давесьці, што аўтары слоўніка слаба разьбіраюцца ў значэньнях слоў, рэцэнзэнт дапушчае скажэньне тлумачэньня гэтага слова. У слоўніку надрукавана: „*Абшар м.*—край, пространство“. Гэты, зразумела, спосаб крытыкі недапушчальны з погляду літаратурнай этыкі! Але дапусьцім, што слова „абшар“ — польскае, хаця яно і ўжываецца ўсімі нашымі пісьменьнікамі. Чытаем з слоўніку польскай мовы Karłowicza (Słownik języka polskiego) „Obszar, u, lm. y, 1. pzestrzeń rozległa wzdłuż i wszerz; 2. określona wielkość powierzchni, terytorjum“. Відаць, што рэцэнзэнт слаба ведае польскую мову!

„*Будзька*—будзільнік“ (правапіс рэцэнзіі! *М. Б.*): „Зусім ня тое“,—кажа т. Лёсік. У слоўніку М. Гарэцкага чытаем: „*будзька*—тот, кто будит, будильник“ з прыкладам: „З нашым будзькам не засьпімся“.

„*Вартоўны*—дорого стоющий“,—сказана ў слоўніку. „Дорого стоющий“, разважае т. Лёсік, „будзе дарагі, а вартоўны—гэта скарэй тое, што належыць да варты“. А вось-жа ў слоўніку Насовіча чытаем: „*Вартовный*, прил. Дорого стоющий, цѣнный. Вартовный товар, вартовная хустка, одзежа“.

„*Галачка*“—зацьвярджае т. Лёсік,—гэта ня галька, а маленькі *шарик*, скамечаны, напр., з хлебнага мякіша“. А тымчасам у двох выпусках „Беларускай Навуковай Тэрмінолёгіі“ (III і V) расійскае „*галька*“ перакладаецца „галачка“. І чаму-б Лёсіку не зазірнуць у выпускі навуковай тэрмінолёгіі, тым больш, што беларусаведы-прыродазнаўцы больш за яго компэтэнтны ў разуменьні слоў „галька“—„галачка“.

„*Загусьці*—заплакать, зареветь, завыть?! Першы раз чую, такое тлумачэньне звычайнага слова“,—кажа т. Лёсік.

Аднак, у „Маскоўска-беларускім слоўніку“ М. Гарэцкага так і напісана: „*загусьці*—заплакать, зареветь, завыть“. І ў слоўніку Насовіча: „*Загусьць*, сов. глагола Гусьць. Завыть, завопить—„Загула, як воўк“.— Аб чым-жа можа сьведчыць Лёсікава „першы раз“?—Аб тым, што ён „першы раз“ заглядае ў слоўнікі беларускай мовы.

А вось яшчэ характарны выпадак:

„*Казлытаць*—ці не казытаць гэта?“—пытаецца рэцэнзэнт. А вось, напр., на 62 стар. роману Ц. Гартнага „Сокі цаліны“, „Бацькава воля“, чытаем: „Рыгору ўсё гэта дужа падабалася, наводзіла на прыемныя думкі і казлытала сваёй пекнасьцю ўсю яго істоту“. І на працягу ўсяго гэтага роману праводзіцца толькі адзіная форма „казлытаць“. З погляду-ж лексыколёгіі, ужываньне слова ў пэўным выглядзе ў Ц. Гартнага больш паказальна, чымся сотні і тысячы пытаньняў т. Лёсіка.

„*Радзіма*“, кажа т. Лёсік,—гэта ня родина; радзіма або радзіна—гэта радня, усе родственники, родные“. А вось-жа ў романе „Сокі цаліны“, квадра II, стар. 296 чытаем: „Рыгор прасіў напісаць ліст таварышу на радзіму“. У сэнсе „родина“ слова „радзіма“ ўжываецца і ў популярным падручніку „Радзімазнаўства“ М. Грамыкі.

Даных прыкладаў, як здаецца мне, досыць, каб паказаць, як *знаёмы* аўтар рэцэнзіі на слоўнік з крыніцамі слоўніка, паказанымі ў прадмове.

А як-жа т. Лёсік ведае *расійскую* мову?

Пытаньне—натуральнае, бо веданьне расійскай мовы для крытыка беларуска-расійскага слоўніка зьяўляецца абавязковым.

„*Ішоўшы*—идя по пути; идя, то идя, але прычым тут „по пути“? Ісьці можна і па траве“,—думае састроіць жарт, выкідаючы коску паміж идя“ і „по пути“ (у тэксьце слоўніка: „*Ішоўшы*—идя, по пути“), аўтар рэцэнзіі і выказвае сваё няведаньне зваротаў расійскай мовы. Бяру, напр., беларускую фразу—„Ішоўшы ў лес, я сустрэўся з дзяўчынай“. Ясна: што кожны расіец тут скажа: „По пути в лес я встретился с девицей“.

„*Лунаць*—вітаць (правапіс рэцэнзіі! *М. Б.*); нешта зусім незразумелае“, піша т. Лёсік. Незразумелае для асобы, якая ня зусім добра ведае расійскую мову, прытым пішучы няпісьменна „вітаць“ супраць „витать“, што стаіць у слоўніку. Ня ведаючы добра расійскай мовы, трэба было-б зазірнуць у адпаведныя слоўнікі. І вось, згодна тлумачэньня Даля, слова „витать“ значыць „двигаться в вышине, носиться“. І ў расійскім акадэмічным слоўніку (I т., СПБ, 1891 г.) чытаем пад словам „*витать*“ „в современном языке употребляется в смысле: носиться в воздухе (фр. planer)“ і прыклад з Дзяржавіна:

„А здесь по воздуху витает
Пернатых, насекомых рой“.

Ці цяпер ня зусім зразумела, што расійскае „витать“ якраз адпавядае ў сваім сэнсе беларускаму „лунаць“?

І ці не зразумела пасьля гэтага, чаму Лёсік, чытаючы ў слоўніку: „*лява*—лава“, ня ведае, якая гэта лава. Якая?—Звычайная „вулканическая лава“, і канечна,—ня „ўслон“, не „тапчан“, ня „лава“ ў беларускім сэнсе гэтага слова.

Слабым веданьнем крыніц беларускай лексыколёгіі і слабым веданьнем расійскай мовы тлумачыцца тое, што рэцэнзэнт часам вельмі слаба разьбіраецца ў значэньнях беларускіх слоў у перакладзе іх у расійскую мову,—і яго тлумачэньні часам супярэчаць сапраўднаму сэнсу слова ў літаратурным або вусным народным ужываньні.

Цікава ў гэтых адносінах спыніцца на некаторых тлумачэньнях рэцэнзэнта.

„*Вожаг* (або *вожыг*), кажа ён,—гэта ня „палка от метлы“, а ўся мятла з хваёвых зялёных лапак, якою вымятаюць печ перад тым, як садзіць пячы хлеб“. А вось у слоўнічку М. Гарэцкага чытаем: „*вожыг*—обгорелый конец палки“, у рукапісу слоўніка Мядзьведзкага: „*Вожыг*—остроконечная палка“. Картка, запісаная корэспондэнтам Слоўнікавай Камісіі т. Ан. Саладуха ў в. Падлужжа Грэск. р., Случчыны, дае паказаньні: „вожаг—кол, на які надзяецца венік. Падай вожаг—я надзену венік“. Значыцца, народнае ўжываньне слова адпавядае таму значэньню, якое яму даецца ў слоўніку. І як гэта можна пісаць, што абпаленая мятла, якой вымятаюць печ, мае *зялёныя лапкі?*

Спынімся яшчэ на адным характарным для мэтодаў крытыкі рэцэнзэнта прыкладзе.

„*Почат*—гэта не абразец“, кажа т. Лёсік, „*абразец* (правапіс рэцэнзіі *М. Б.*),—панашаму—узор. У Насовіча гэтае слова тлумачыцца гэтак: однообразие, сходство. Невядома, *чым кіраваўся* рэцэнзэнт, даючы недакладную выпіску з Насовіча. А ў слоўніку Насовіча дакладна чытаем вось што: „*Почет*, у, с. м. Однообразие, сходство, образец“. А з прыкладаў, якія даны ў Насовіча і прыводзяцца Лёсікам—„Не аднаго почату рукавіцы“; „На почат гэтага *зьдзелай* (у рэцэнзіі даны прыклад: „На почат гэтага *зрабі*“),—з гэтых прыкладаў ясна відаць, што „почат“ парасійску будзе якраз „образец“ (або „фасон“).

Ня дзіва, што часам рэцэнзэнт зьяўляецца беспарадным у тлумачэньні беларускіх слоў у расійскую мову.

„*Жахліва, жахлівасьць*—гэта трохі ня тое, што баязьлівасьць“. А што-ж, т. Лёсік? Ня можна-ж азначаць так паняцьці. Элемэнтарная лёгіка зацьвярджае: азначэньне не павінна быць адмоўным.

„*Пячурка*—гэта ня норка і не ямочка в печи, а *загнетка*“. Ніколі ня ўжывае расіец слова „загнетка“, а гэта беларускае слова парасійску і будзе мець тое значэньне, якое даецца ў слоўніку Насовіча слову „пячурка“,—„горнушка, ямка в печи, нарочито сделанная для загребания туда жара“.

Пэўны процант заўваг рэцэнзэнта тлумачыцца занядбаньнем ім прынцыпаў навуковага цытаваньня. Напр., чытаем у рэцэнзіі:

„*Мыт*—панос, а далей ідзе такое аб'ясьненьне: редкие и частые испражнения. Рэдкія—гэта пабеларуску, а парасійску — жидкия". Дапусьцім, што гэта так, аднак у слоўніку „Редкие и частые испражнения из заднего прохода" пастаўлены ў дужках з адзначэньнем „Ц.", г. зн., што гэта тлумачэньне ўзята з слоўніка Ціхінскага. А ці невядома вам, рэцэнзэнту, што правілы навуковага цытаваньня не дапушчаюць аніякіх зьмен у тэксьце цытаты супраць аўтэнтыку? Кажу ад сябе: пэўна невядома,—іначай ў рэцэнзіі не скажаўся-б тэкст слоўніку, які рэцэнзуецца, не скажаўся-б тэкст слоўніку Насовіча, не скажаліся-б прыклады з Насовіча! А такія скажэньні факт, прыкры факт!

Гаворачы аб крытычных прыёмах Яз. Лёсіка, у адным ня можна яму адмовіць, у нейкай не адпаведнай нашаму часу „*непасярэднасьці*".

Гэтай непасярэднасьцю выкупляюцца шмат якія яго нетактоўнасьці.

З якой, напр., непасярэднасьцю напісана ў тэй-жа самай рэцэнзіі: „Зрабілі сабе людзі цацку ды, як той летапісец сказаў, „ніхто-ж іх біша, самі ся мучыху". А збавіцца ад гэтае цацкі можна проста і лёгка, калі ўмовіцца пасьля націску заўсёды пісаць „я", а ня „е". Гэта простае кароценькае правіла збавіла-б нас, паміж іншым, і ад тых 14-ці выключэньняў, якімі абдараваў нас правапіс Б. Тарашкевіча".

Гэтак піша Яз. Лёсік аб правапісе чужаземных і некаторых беларускіх слоў у слоўніку.

Аднак-жа ясна, што ня ўсё просьценькае з неспакушонага погляду зьяўляецца такім з погляду навуковага. А „*иная простота*", як кажуць расійцы, „*хуже воровства*". І ня так проста, як думае рэцэнзэнт, стаіць справа з правапісам Бр. Тарашкевіча, які ў нашых школах вывучваецца ў „простым" выкладзе Яз. Лёсіка.

У кожным-жа разе аўтары прац, якія рэцэнзуюцца, маюць усе падставы вымагаць, каб у іх крытыкаў, апроч непасярэднасьці, было яшчэ пачуцьцё навуковай об'ектыўнасьці і патрэбны запас мэтодолёгічных ведаў. Суб'ектыўныя-ж неўгрунтаваныя закіды супраць пэўных асоб могуць толькі нашкодзіць інтарэсам нашай крытыкі.

II

## Аб „крытыках" з „Узвышша"

Рэцэнзіяй Яз. Лёсіка на беларуска-расійскі слоўнік была распачата кіраўнікамі „Узвышша" полемічная кампанія 1927 году. Згодна прыказкі— „чым далей у лес, тым болей дроў". І вось з цягам часу баявы тонус узвышаўскай крытыкі ўсё больш ды больш узмацняецца.

Перада мною ляжыць № 3 „Узвышша" за 1927 г., які, папраўдзе, дзякуючы артыкулу К. Кундзіша „Sine ira et studio" і шэрагу іншых кры-

тычных ацэнак, павінен пакінуць пасьля сябе сьлед у гісторыі ненормальных ухілаў беларускай крытыкі.

Каб зразумець і ацаніць сэнс гэтых крытычных ацэнак, трэба мець на ўвазе папярэднія факты.

Факты—наступныя.

Папершае, у № 106 „Савецкай Беларусі“ за 13 траўня 1927 г. быў выдрукаваны крытычны артыкул З. Жылуновіча „Ці сапраўды „Узвышша“ ёсьць узвышша?“, прадоўжаны ў двох наступных нумарох газэты. Артыкул—строга об‘ектыўны, які мог-бы знайсьці месца ня толькі ў газэце, але і на старонках „тоўстае“ часопісі. Тутака крытык на зусім паважных падставах даводзіць адмоўныя бакі літаратурнага аб‘яднаньня „ўзвышаўцаў“, паколькі яны вызначыліся ўжо ў першым нумары часопісі, ад якое сапраўды аддае маркотай настрояў і расплыўчатасьцю ідэолёгіі пры ўхілах ад задач пролетарскай літаратуры, на што паказвалася ў артыкуле.

Было зусім натуральным чакаць ад рэдакцыі „Узвышша“ об‘ектыўнага адказу на абвінавачваньні ў шкодных ухілах, высунутыя крытыкам. Аднак, *такога адказу ня было дадзена*.

Без адказу застаўся і артыкул Тодара Глыбоцкага „Пад шыльдай пролетарскай літаратуры“, выдрукаваны ў № 4 „Полымя“.

Для ацэнкі асноўнага кірунку і нахілаў „Узвышша“ абодва гэтыя артыкулы захавалі сваё значэньне аж да выхаду з друку апошняга нумару „Узвышша“; асабліваe-ж значэньне мае сур‘ёзны, угрунтованы, вялікі артыкул З. Жылуновіча.

Гэта, так сказаць,—завязь далейшай гісторыі.

Замест адказу па сутнасьці, „Узвышша“ скарыстала даволі лёгкі, але і вельмі кепскі прыём, які вядомы ў лёгіках пад назвамі „пераход у іншы род“ (metabasis eis allo genos) і „argumentum ad hominem“.

Трэбавалася давесьці, што крытычныя заўвагі З. Жылуновіча па адрасу „Узвышша“ няправільныя, трэбавалася абвергнуць яго, як крытыка. Замест таго, крытыкі „Узвышша“ накіравалі сваю ўвагу на лірыку Гартнага і аблілі брудам яго творчасьць, як поэты, зачапіўшы прытым і ранейшых крытыкаў яго твораў.

Сьляпое пачуцьцё помсты кіравала ўзвышаўцамі пры ўкладаньні № 3 „Узвышша“,—і гэтым можна растлумачыць шмат што з крытычных заўваг і артыкулаў Ю. Бярозкі, К. Кундзіша і інш.

Папершае, адносна Ю. Бярозкі: яго даволі нудненькі, вучнёўскі артыкулец „Проблемы прыгодніцкага роману“, як здаецца, даваў-бы менш за ўсё месца для ацэнкі соцыяльна-бытавога роману Ц. Гартнага „Сокі цаліны“.

Аднак, крытык, абураны злой помстай, ня можа ўстрымацца ад таго, каб ня ўбрыкнуць свайго літаратурнага опонэнта („няхай асьліны копыт знае!“). „Ва ўсякім выпадку можна сьцьвярджаць“, піша ён,

„што над добрым, ідэолёгічна вытрыманым прыгодніцкім романам наш беларускі чытач ня будзе павольна ўміраць ад зялёнай нуды і выварочваць у пазяханьні скіvіцы, што яму давядзецца, калі, запасшыся немалою адвагаю і гэроічным муствам, пачне ён чытаць такі „бытавы“ і „цьвяроза-рэалістычны“ роман, як „Сокі цаліны“ Ц. Гартнага“ (128 ст.). Няма чаго спэцыяльна даводзіць, што прыгодніцкія романы, як, прыкладам, романы Пінкертона, Марыэтта, Кіплінга і інш. становяць вельмі цікавы матэрыял для чытаньня для такога кола чытачоў, як „кісейныя“ паненкі і бязвусыя хлопцы; аднак-жа тое, што цікавае для адных, можа быць нудным для другіх, і тое, што цікавіць у адных адносінах, аказваецца няцікавым у іншых. Наагул-жа, пытаньне аб нуднасьці або захопнасьці пэўнага літаратурнага твору, па сутнасьці,—вельмі складанае пытаньне. Я, напр., з вялікім захапленьнем чытаў першую квадру роману Гартнага, ня гледзячы, нават, на дэфэкты знадворнага боку гэтай квадры, і, наадварот, лічу найнуднейшай рэччу ва ўсёй беларускай прозе аповесьць аднаго маладога аўтара, якая зьявілася ў мінулым годзе на старонках „Узвышша“. Ёсьць і іншыя вельмі нудныя рэчы ў нашай літаратуры, аб якіх, аднак, самі іх аўтары (з катэгорыі „клясыкаў“ і „саноўнікаў“) трымаюцца высокага зданьня. Імён не называю, бо „nomina odiosa sunt“, і няма чаго дражніць слаўных пісьменьнікаў.

Пераходзім да артыкулу „sine ira et studio“. Артыкул, папраўдзе,—асяродкавы сярод пісаніны часопісі. Калі Ю. Бярозка толькі, так сказаць, спадарож і выпадкова чапляе Гартнага, як romaністага-прозаіка, дык К. Кундзіш усе свае стрэлы пушчае ў адзін пункт,—на поэзію пролетарскага поэты.

Задарма, аднак, і проста на жарт артыкул надпісаны „Sine ira et studio“, што ў перакладзе на нашу мову будзе,—бяз „гневу і староннасьці“.

Гнеў і староннасьць адчуваюцца ў кожным радку, кожным сказе навака-полемістага і выяўляюцца ў шэрагу выбрыкаў аўтара.

Першы „выбрык“—у самым пачатку артыкулу, выбрык, вельмі характарны для крытычнай манеры аўтара. „Крытычная літаратура пра Цішку Гартнага“, піша ён, „вельмі бедная... Пра хвалебныя дыфірамбы штатных „алалоўнікаў“ у „Полымя“ я знарок не гавару, таму што нельга лічыць іх сталымі (сур'ёзнымі)“.

Прыём—даволі стары і зьбіты!

Каб расчысьціць дарогу для далейшай крытыкі, Кундзіш аблівае гразьзю ўсіх аўтараў, якія выказваліся на старонках „Полымя“ аб творчасьці Гартнага. А такіх аўтараў зусім не адна адзінка,—і сярод іх фігуруюць вельмі выдатныя літаратурныя велічыні,—профэсары унівэрсытэту. Да ўсіх іх Кундзіш без абы-якой малімоннасьці прыкладае эпітэт „алалоўнікаў“, і мала таго, „штатных“. Дапушчальна спытацца, што гэта значыць „штатны“? Можа—на пэнсіі, можа—на матэрыяльнай узнагародзе? Ці ўсьведамляе сабе Кундзіш, якую *пакасьць* ён напісаў у па-

чатку свайго артыкулу? Як, у свой чарод, рэдакцыя „Узвышша“ магла прапусьціць гэты выбрык на старонкі часопісі?

Выбрыкам па адрасу крытыкаў твораў Ц. Гартнага пачынаецца артыкул Кундзіша, выбрык па гэтаму-ж адрасу знаходзім і ў канцы артыкульца. „Ведаю“,—піша Кундзіш, „што на гэты артыкул будзе шмат нападкаў з боку штатных прыхільнікаў поэзіі Гартнага. Даю ім поўнае права перакуліць мае палажэньні і давесьці адваротнае. Буду вельмі рад, але ўпэўнены, што гэта ім ня ўдасца“. Можна разупэўніць крытыка ў яго пераконаньні: ніхто і не падумае сур'ёзна лічыцца з артыкулам Кундзіша. Ёсьць рэчы, нападаць на якія ня вельмі прыстойна згодна прыказкі: „не чапай,—сьмярдзець будзе“. І артыкул Кундзіша *сам па сабе* зусім *ня варты* таго, каб быць об'ектам нападак. Ён набывае інтарэс *толькі* ў сувязі з агульным пытаньнем аб мэтодах і прыёмах нашае крытыкі, як паказальнік адмоўнасьцяй крытыкі.

Найбольш звычайны для Кундзіша прыём крытыкі—падтасоўваньне паасобных вершаў. Гэты ганебны прыём падмацняецца прыёмамі набрэхваньня і простай дыфамацыі. Пры гэтым Кундзішу ўласьціва скажэньне тэксту.

Такімі вось спосабамі аналізуе крытык работніцкую лірыку Гартнага. Дыфамуючы і набрэхваючы, ён хоча давесьці, што ў пасьлярэвалюцыйных вершах поэты ня можна „прасачыць магутнага ўздыму, які ахапіў рабочыя масы ў гэты кругабег“. „Наадварот“, кажа крытык, „Ц. Гартны і ў гэты час малюе працу рабочага ўсё тымі-ж змроклымі згушчанымі фарбамі, што і ў „Песьнях гарбара“:

Мруць яны
У духаце,
У стоме, у поце.
Лезе ў вочы
Пыл, смурод...

Адсюль вывад крытыка, які папахвае дыфамацыяй: „пры такім стане рэчаў у істоце, паводле вершаў Ц. Гартнага, няма ніякай розьніцы між працаю ў капіталістычных умовах і ва ўмовах нашае савецкае рачаіснасьці“.

Але можна спытацца ў крытыка: *чым* ён кіраваўся, даючы скарочаную і, значыцца, *скажоную* ім цытату з аўтэнтыку?

А ў аўтэнтыку чытаем:

Галасы
Рабочых
Пры рабоце
Ў траскатні,
Ў браскатні
Ня чутны—
Мруць яны
У духаце,
У стоме, у поце.

Скажэньне тэксту—відавочнае, і калі так, дык якімі нікчэмнымі зьяўляюцца выпады крытыка супроць усяе работніцкае лірыкі Гартнага ад часу рэволюцыі!

Наадварот, увесь верш „Праца“, з якога зроблена цытата, прасякнуты дынамікай працы:

Як адзін,
Колькі сот
Чалавек
За парухам
Машын
З заміраньнем
Дыханьня
Сачаць...
Малаты—
Тук-грук
Тра-а-ты—
Грукацяць...

Зразумейце-ж, Кундзіш, не рабочыя, як хочацца вам, „мруць“ у духаце, у стоме, у поце“, а галасоў рабочых ня чуваць у нясустрыманым руху працы.

Расправіўшыся гэтак, у высокай ступені проста, з работніцкімі вершамі Гартнага, крытык такімі самымі прыёмамі распраўляецца і з тымі яго вершамі, што афяраваны гораду.

„Неабавязкова кожнаму поэту“, піша ён, „піць з вялікага поэтычнага каўша, але кожнаму са свайго каўша, хоць і маленькага, піць абавязкова. Зусім ясна, бо ў іншым разе трацяцца жадны сэнс. З такою меркаю я і падыходжу да вершаў Ц. Гартнага. Не падаючы пакуль што ніякіх вывадаў, я разьбяру два яго гарадзкія вершы, каб такім чынам паказаць навочна, як ён выяўляе горад:

Люблю сачыць, як дзень пагодліва канае.
І шэрасьць лёгкая над горадам шумлівым
Памерна ў вуліцы спадае,
А над мурамі вісьне дымам сівым.

І гэтак далей. Адным словам, даецца вечаровы малюнак, калі загараецца электрычнасьць у хатах і ў магазынах, калі заціхаюць фабрычныя гудкі і прыціхае неўгамонны грукат дня. Тады вось дзе-небудзь на прызьбе разьліваецца звон гітары, а ў зацішных куточках шэпчуцца шчасьлівыя пары.

Крыху пазьней—і скрозь жыцьцё, як дым, зьнікае.
Адно з куткоў пачуеш парак шэпт шчасьлівы...

Дык вось усё тое, што засталося ад вершу поэты ў уяўленьні крытыка. „Парак шэпт шчасьлівы“... Па праўдзе, дзіўная апэрцэпцыя! Аднак, іншае ўяўленьне павінна застацца ад вершу, калі зьвярнуць увагу на яго сярэдзіну, блізка што не прааналізаваную крытыкам. А тутака чытаем:

„Паветра ціхае паволі рэдне, стыне.
Выразьней рэха гулкае ўтуруе;

Гудок фабрычны сьвіст зацяжны строма кіне.
Й працоўных натаўп рэзва, шумна зашнуруе.
Драты, што сеткамі крыжуюць вулкі, пляцы,
Губляюць ніткі доўгія ў прысьценных ценях.
І пэнт нядаўны цяжкай дзеннай працы.
Прымоўкне, стуліцца ў каменных цесных сьценах.

Ад гэтай зноскі верш набывае зусім іншы сэнс, іншую ахварбоўку, чымся тыя, што надае яму крытык. Паступовае патуханьне цяжкай дзеннай работніцкай працы,—вось чым малюецца горад прызмрокамі вечаровымі ў думках поэты-работніка. Зразумела, гэта ня ёсьць тое ўяўленьне і тыя гарадзкія малюнкі, што знаходзім у М. Багдановіча, „пакуль што нікім не перавышанага“, як кажа Кундзіш, „песьняра гораду ў беларускай поэзіі“,—усе гэтыя бадзяньні па бруку інтэлігента, цёмныя алеі, погляды сустрэчных жанчын і інш. Відаць, што інтэлігенцкая „душа“ М. Багдановіча блізкая „душы“ Кундзіша. Цішка Гартны-жа ўяўляе сабе горад, як працаўнік, які, бязумоўна, чужы „інтэлігенцкай“ душы К. Кундзіша.

Ці варта пасьля гэтага ацэньваць разгляд другога вершу Ц. Гартнага, зроблены К. Кундзішам: ён такі самы тэндэнцыйны, прадузяты, як і разгляд першага?

Дзіўна, аднак, тое, што па-за ўвагі крытыка засталіся такія мастацкія і прасякнутыя жывым натхненьнем зарысоўкі гарадзкога жыцьця, як тыя, што даны ў разьдзеле „Сучасны Бэрлін“.

Чаму, напр., крытык не зьвярнуў увагі на гэта вось месца з вершу „Im Grünewald“.

„Дзесь здалёк—чуць даходзіць ка мне ў шуме хвой
Голад-волат ў каменным закуцьці гняцьця
Ня спыняе ўздымаць рух агромністы свой,
Рух людзкога, як мора, жыцьця.
Рэзкім сьвістам гудок ад заводаў наўрэз
Цераз дахі дамоў, праз узьюшаны пыл
Мчыцца роўна і проста на лес...

І як гэта мог Кундзіш забыцца слоў Гартнага, якія зусім адбіваюць сучасную рачаіснасьць і разам з тым прасякнуты крылатай надзеяй?

Ў гэтым гудзе яго адчуваецца штось,
Чаго шолам лясны ня зглушае сабой.
І што ў душу маю прабіваецца скрозь
Ды ўздымае у ёй гардзялівы настрой.
Веру ў палкую творчасьць працоўных людзей,
Для якіх покуль сонца і лес—чадны дым
У заводах, але каму хутка ўжо йдзе
Час другі, час інакшы зусім—
Такі час, калі лес будзе песьні гусьці,
А праменьні вясновага сонца зіяць,
Каб заўсёдную весну ў ягоным жыцьці,
Неабмежнай свабодай ўбіраць...

(*„Урачыстасьць“*, ст. 53).

Прадузятымі і проста нясталымі, у сэнсе нясур'ёзнасьці, зьяўляюцца і іншыя разважаньні К. Кундзіша,—паасобку разважаньні аб слоўніку Гартнага і яго фразэолёгіі.

Ці ведае Кундзіш, што слоўнік Гартнага—найбагацейшы з слоўнікаў усіх беларускіх літаратараў?

Гэта паасобку датычыць і яго поэтычнага слоўніка. Усе паказаньні на архаічнасьць, нясучаснасьць ужытых поэтаю вобразаў ня варты нават і крытыкі. Тон блазенскай задзірлівасьці прасякае наскрозь заўвагі крытыка. Напр., як назваць такі выбрык Кундзіша? Ён спыняецца на словах поэты:

Мне сэрца раніла страла<br>
І каплю яду заранiла;<br>
Ці знойдзе сэрца маё сілу,<br>
Якая-б рану зажыла?

Крытык пытаецца з гэтага поваду: „Ну што такое ў нашы дні страла, хоць-бы сабе і труёная, калі існуе такая ўдасканаленая зброя, як куляметы, аўтоматычныя вінтоўкі і да т. п.?“ Калі чытаеш гэтыя словы крытыка, мімаволі зьяўляецца вывад:—пісаць так, як піша крытык, могуць толькі *мальчишки*. Нават пра аўтоматычную вінтоўку ведае К. Кундзіш! Глядзеце-ж, якія мы асьвечаныя, адукаваныя! Пасьля аднэй толькі гэтай заўвагі Кундзіша зьяўляецца натуральнае пытаньне: як рэдакцыя часопісі, якая сябе паважае, магла надрукаваць такую крытычную лухту? Ячшэ адзін-другі такія артыкулы, як артыкулец К. Кундзіша, і рэпутацыя „Узвышша“ павінна спусьціцца вельмі нізка.

Аднаго ня можа адмаўляць Кундзіш, гэта—пролетарскага характару лірыкі Гартнага, хаця і тут ён ня можа абыйсьціся без інсынуацыі, кажучы аб „сумніўнай якасьці пролетарскай ідэолёгіі“ поэты. Аднак, сам крытык, аналізуючы толькі „работніцкія“ і „гарадзкія“ вершы поэты і думаючы ўшчапіць яго менавіта з гэтага погляду, тым самым бесьсьвядома для сабе даводзіць пролетарскі кірунак лірыкі Гартнага, даводзіць, што ў нашай беднай пакуль што на пролетарскія мотывы беларускай поэзіі Гартны займае выдатнае месца. Калі-ж так, дык чым можна растлумачыць зацьвярджэньне Кундзіша, што Гартны „колькі-небудзь прыкметнага месца ў беларускай літаратуры не займаў і не займае“, што „ён ня здолеў стаць на адзін ровень з такімі поэтамі, як Я. Купала, Я. Колас і М. Багдановіч“? „У адносінах да хору гэтых трох выдатных“, кажа Кундзіш, „Ц. Гартнаму даводзілася быць толькі падпявалам, толькі падгалоскам“. Пры гэтым—папікі на адрас М. Гарэцкага, які адвёў месца Ц. Гартнага ў гісторыі беларускай літаратуры, як здаецца крытыку, „зусім не па заслугах“. Можна заспакоіць разьюшанае пачуцьцё ўзвышаўскага крытыка: яшчэ да М. Гарэцкага адвёў належнае месца Гартнаму ў беларускай літаратуры і даў належную ацэнку яго поэтычнай творчасьці такі выдатны і бесстаронны беларускі крытык, як Антон Навіна. Вось яго ацэнка: „Miż pieśniarami „Maładoj Biełarusi“ piereważywaje ideo-

łogija sielanskaja: najbolš paetaŭ i piśmieńnikoŭ daje biełaruskaja wioska. I Kupała, i Kołas, i cełу rad pieśniaroŭ mienšaj miery apiewajuć rodnuju wiosku, ŭ katoraj jany radzilisja, uzrastali i prawodzili wialikšuju čaść swajho žyćcia,—i ŭsie ich ideały zwiazany z ziamloj. Ale, naradziŭšysia ŭ wioscy, biełaruski ruch da adradžeńnia skora zachapiŭ i miastowyje elementy,—rabotnikoŭ, ramieśnikoŭ, intelihentaŭ. I ŭ maładoj biełaruskaj literatury znachodzim tak-že dawoli wydatnych pradstaŭnikoŭ rabotnickaj ideologii. Spamiž apošnich zwiertaje na siabie ŭwagu pieśniar-rabotnik Ciška Hartny. Ideały jaho nie ukladajucca ŭ ramki žadańnia ziamli, jakoje stanowić adznaku pieśniaroŭ wioski: Ciška Hartny—pierš za ŭsjo proletaryj, świadomy swaich klasowych interesaŭ i hatowy addać usie siły swaje za wyzwaleńnie pracy ad panawańnia kapitału“. Гэтак піша Антон Навіна ў сваім зборніку артыкулаў „Našy pieśniary“ (стар. 38—45), і яго-та у кожным выпадку ня можна падвесьці пад рубрыку „алалоўнікаў“: артыкул пісаўся ў той момант, калі сярод беларускіх культурнікаў ужо пачаўся процэс расслаеньня, дыфэрэнцыяцыі, і Ц. Гартны апынуўся на адным берагу, а Навіна—на другім; самая кніжка „Našy pieśniary“ вышла не ў Савецкай Беларусі, а ў Вільні з нататкай: „Zur Verbreitung in Gebiet des Oberbefehlshabers Ost und zur Ausfuhr zugelassen“.

З усёй даволі багатай крытычнай літаратуры аб творчасьці Ц. Гартнага Кундзіш надае вагі толькі аднаму артыкулу або, правільней сказаць, артыкульцу П. Любецкага, які калісь, у 1922 г., быў надрукаваны ў „Савецкай Беларусі“.

Гэта—таксама выбрык з боку крытыка. Артыкул П. Любецкага толькі тым і выдаецца, што неспагадны для Гартнага. Іншае пытаньне—аб тым, наколькі гэты артыкул варты па сваіх об'ектыўных якасьцях. П. Любецкаму Кундзіш надае асаблівага значэньня для ацэнкі мовы Гартнага. „Лічу“, з чыста маладзенскай самапэўнасьцю заяўляе ён, „што самы правільны і грунтоўны агляд мовы Гартнага зроблены вышэйзгаданым П. Любецкім, да якога і адсылаю ўсіх зацікаўленых гэтым пытаньнем“. Здаецца, што Кундзіш наўмысьля абмежаваўся такой агульнай фразай, маючы пэўнасьць, што ніхто і не падумае зьверыць яго спасылку з аўтэнтыкам. А, зацікавіўшыся думкамі П. Любецкага, мы маглі-б атрымаць зусім іншае ўражаньне. „Пры параўнаньні вершаў Цішкі Гартнага з вершамі другіх нашых поэтаў“, пісаў у свой час гэты Любецкі, „раней, чым мы заўважым розьніцу ў чыста-поэтычным сэнсе,—нам адразу кінецца ў вочы розьніца ў мове. Такою моваю, як Цішка Гартны, ня піша ніводзін з іншых беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. Мова Ц. Гартнага рэзка адрозьніваецца ад мовы другіх нашых поэтаў і пісьменьнікаў з боку слоўнікавага, сынтаксычнага і этымолёгічнага. Наогул, чуеш сябе так, як-бы меў перад сабою кніжку ў нейкай маласнаёмай мове. Здаецца, што разумееш, а стань думаць, дык толку не дабярэшся. Трэба брацца за слоўнік. З творамі Ц. Гартнага ў гэтым

сэнсе справа стаіць кепска, бо слоўніка да іх яшчэ ня выдана, а слоўнік Насовіча занадта малы“ („Сав. Беларусь“, 1922 г., № 202, ад 12 верасьня). Трэба быць поўным невукам у мовазнаўчай навуцы і маласьвядомым у беларускай народнай мове, каб пісаць тое, што напісана П. Любецкім. Бо, папершае, ніякай розьніцы паміж мовай Гартнага і агульнай беларускай літаратурнай мовай у этымолёгічным стасунку няма, што-ж датычыць лексычнага боку, дык запісы з народных вуснаў могуць давесьці поўную блізкасьць лексыкону Гартнага да жывой народнай мовы, чым яго мова выгодна адрозьніваецца ад *мовы* некаторых іншых пісьменьнікаў.

Я наўмысьля спыніўся па пытаньні аб мове Гартнага, каб паказаць на недапушчальнасьць манеры крытыкаў выказваць неўгрунтаваныя суджэньні, спасылаючыся прытым на няпэўныя аўторытэты. Да Кундзіша з поўным сэнсам можна дастасаваць расійскую прыказку: „бух в колокол, не посмотрев в святцы“.

І вось такімі, павярхоўнымі, неўгрунтаванымі, нахабна-блазенскімі зьяўляюцца ўсе разважаньні ўзвышаўскага крытыка аб творчасьці Гартнага.

У выніку ўсяго гэтага артыкул у цэлым набывае характар ня крытыкі, а *лаянкі* вельмі нізкага гатунку.

Надрукаваўшы лаянку супроць галоўнага опонэнта літарацкага аб'яднаньня „Узвышша“, рэдакцыя часопісі „Узвышша“, у № 3, не магла не абмінуць і іншых няпрыхільных ёй асоб. Такім спосабам супраць проф. М. Піотуховіча накіраван артыкулец С. Замбржыцкага „Нацягваньне чужога халата“, а ў аддзеле „Бібліяграфія“ нейкі Л. Трыер разносіць на ўсе застаўкі поэму М. Чарота „Ленін“.

Магчыма мець пэўнасьць, што сам паважаны проф. М. Піотуховіч, калі знойдзе патрэбным, абароніць свае выказваньні аб творчасьці М. Багдановіча ад закідаў С. Замбржыцкага. На мой, прынамсі, асабісты пагляд, асноўны тэзіс профэсара аб тым, што „інтэлігент па пахаджэньні М. Багдановіч быў адарваны ад працоўных мас, як быў адарваны ён і ад айчыны“ застаўся пасьля ўзвышаўскай крытыкі неабвергнутым, спасылкі-ж крытыка на гурток студэнтаў, як на пэўны аўторытэт, зьяўляюцца, па меншай меры, сьмешнымі. Праз увесь-жа артыкульчык праходзіць пачуцьцё нейкай дзіўнай заразумеласьці. Вось, напр., апошнія фразы з артыкулу: „Нарэшце, *мы* адзначаем, што дадзеныя думкі зьявіліся ў *нас*, калі *мы* ў першы раз чулі гэты даклад. Дакладу проф. І. Замоціна *мы* ня чулі. *Мы* тады-ж абурыліся супроць такога асьвятленьня проф. Піотуховічам творчасьці М. Багдановіча і выказалі гэтыя думкі групе студэнтаў, якія з *намі* былі згодны“. Вось такое-та „мыканьне“, што называецца, з ног да галавы выдае ўзвышаўскага крытыка: звычайна яно ўласьціва бяздатнасьцям у навуцы і літаратуры.

Рэцэнзія Л. Трыера на поэму Чарота па свайму тону мала чым адрозьніваецца ад крытычнага артыкулу К. Кундзіша. Рэцэнзэнт выбіваецца з усіх сіл, пускаючы ў ход і падтасоўкі, і жарты, і кпіны, каб давесьці, што поэма „Ленін“ ня ўдалася аўтару,—і тым ня менш, гэта не ўдаецца: дзякуючы мядзьведжым, лапезным прыёмам крытыка адразу відаць, што ў яго маецца на ўвазе адна мэта—зганьбіць свайго літаратурнага супрацоўніка.

Канечна, С. Замбржыцкаму і Л. Трыеру далёка яшчэ, каб зраўнацца з К. Кундзішам, і артыкул апошняга па бессаромнасьці займае ў № 3 „Узвышша“ першае месца.

Бачачы гэты артыкул на старонках часопісі, прыходзілася дзівіцца з таго, як наагул рэдакцыя „Узвышша“ магла з лёгкім сэрцам даць яму месца.

Калі вышаў у сьвет № 4 „Узвышша“ з больш-менш сур'ёзнымі і вытрыманымі ў спакойным тоне крытычнымі артыкуламі і заўвагамі Юр. Бярозкі, магчыма было спадзявацца, што літаратурная крытыка „Узвышша“ ўзышла на больш нормальны шлях.

Аднак, № 5 часопісі даводзіць адваротнае.

Тутака ізноў выяўляе свае „крытычныя“ здольнасьці той-жа самы К. Кундзіш сваім артыкулам „Альбо грай, альбо скрыпку аддай“, аб зборніку вершаў А. Александровіча „Угрунь“. Самы загаловак артыкулу, жартаўлівы і зусім не адпаведны сур'ёзнае часопісі, нават да чытаньня яго, намякае на новыя выбрыкі з боку аўтара. І сапраўды, тут паўтараюцца тыя-ж самыя прыёмы крытыкі, уласьцівыя К. Кундзішу, што і ў ранейшым яго артыкуле,—хаця і ў больш грубых, няпрыстойных формах. Папершае, выліваюцца памыі на рэцэнзэнта зборніка „Угрунь“ у № 225 „Зьвязды“ за 2-X—1927 г. Джугара. „Я ня ведаю“, са злосьцю кажа крытык, „ці пісаў яшчэ хто больш дурныя рэцэнзіі, як гэна, але яна, кажучы шчыра, назвыш усякага глупства. Слоў шмат, а клёку—ні на гарэлы шэлег“... Тон-та які! А клёку хоць адбаўляй ад Кундзіша! І як гэта хапіла ў яго клёку пісаць пра *гарэлы* шэлег? Вось ужо, папраўдзе, дасканальнае веданьне мовы! У далейшым артыкул перасыпаны падтасоўкамі, скажэньнямі тэксту і, што зусім нізка, проста інсынуацыямі па адрасу поэты. Ці гэта не інсынуацыя, калі крытык піша: „Аўтар ня толькі перастаў лаяць савецкую ўладу, але нават становіцца комсамольцам, ня спыняючыся падаўнейшаму „бурапеніць“. Толькі абставіны сталі некалькі іншымі. Раней біў шыбы, гуляў па бульварах, цяпер-жа стаў хадзіць з сонцам па нажы“. І гэта інсынуацыя ёсьць злоснай выдумкай крытыка, падмацаванай скажэньнем тэксту. Як назваць такую крытыку? Правільную ацэнку дае артыкулу К. Кундзіша Т. Глыбоцкі на старонках „Савецкай Беларусі“ за 7-I—1928 г. „Узяўшы поэму Александровіча „Дванаццаць“, якая вельмі добра малюе нам жыцьцё хлапца з сям'і гарадзкога саматужніка, Кундзіш па ўсіх правілах гэту поэму згвалціў і з гэтага

зрабіў вывад, што: 1) Андрэй Александровіч—мешчанін; 2) Андрэй Александровіч—пагромшчык і хуліган; 3) Андрэй Александровіч—алькоголік; 4) Андрэй Александровіч—мала ня контр-рэволюцыянэр“. Вось інсынуацыі крытыка. І ўсё гэта Кундзіш падмацаваў жывасілам нацяганымі з поэмы радкамі. Натуральнае пытаньне: ці такіх крытычных прыёмаў, такога падыходу вымагаюць інтарэсы здаровай марксыцкай крытыкі? Зусім можна згадзіцца з паказаньнем Тодара Глыбоцкага, што „інтарэсы самай звычайнай об'ектыўнасьці прымушаюць разглядаць гэтую крытыку, як злачынную і нясумленную падтасоўку“. Папраўдзе, шкада тоўстае беларускае часопісі, зганьбенай *блазенскай* крытыкай, шкада і аўтара зборніку Андрэя Александровіча, на якога бяз дай прычыны выліты цэбар найбруднейшых памыяў, тым больш, што яго зборнік „Угрунь“ прасякнуты шчыраю натхненнасьцю пролетарскага поэты, об'ектыўна кажучы, сапраўды зьяўляецца адным з найлепшых зборнікаў вершаў, выданых нашым Дзяржаўным Выдавецтвам.

Апошні артыкул Кундзіша проста рубам ставіць пытаньне аб канечнасьці аздараўленьня прыёмаў нашай літаратурнай крытыкі.

Разглядаючы № 5 „Узвышша“, магчыма абмінуць той факт, што ў аддзеле „Бібліографія“ зьмешчаны хвалебныя рэцэнзіі на кніжкі ўзвышаўцаў „Шыпшына“ П. Глебкі і зборнікі Ул. Дубоўкі: „Credo“ і „Наля“. Пахвала, нават у тым выпадку, калі яна накіравана па свайму ўласнаму адрасу— шкоды ня робіць. Дый, згодна прыказкі, „аржаная каша сябе хваліць“.

Аднак, калі пад відам літаратурнай крытыкі даецца лаянка, накіраваная супроць асобы аўтара,—і гэтая лаянка прыймае недапушчальныя грубыя формы, прыходзіцца благім матам крычаць: „гвалт, ратуйце!“ І гэты крык мімаволі вырываецца, калі чытаеш такія выявы літаратурнай крытыкі, як артыкулы К. Кундзіша.

У нашай сучаснай крытычнай літаратуры можна наглядаць і іншыя факты падобных-жа ўхілаў ад здаровай літаратурнай крытыкі.

Аднак, гэтыя ўхілы могуць быць прадметам спэцыяльнага разгляду.

# ЛІТАРАТУРНАЕ БАЛОТА

*(Пра „Узвышша“)*

**Тодар Глыбоцкі**

Заканчваючы першае дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі, рабочыя і сяляне ўсяго Савецкага Саюзу адзначылі гэты вялікі юбілей шырокаю кампаніяй падрахаваньня ўсяго зробленага за гэты час, што павінна было вызначыць некаторыя тычкі і на будучы час. Не засталася ў баку ад гэтага руху і справа культурнага будаўніцтва. І асабліва ў нас, на Беларусі, гэты рух паказаў да якіх непараўнаных дасягненьняў прывяла нашу занядбаную калісьці культуру невялічкая параўнаўча пара—дзесяць (а ў нас толькі восем) год пролетарскай рэвалюцыі. Узмацняецца гаспадарка, утвараецца беларуская школа, ніжэйшая і вышэйшая, адбываецца нячуваны ўзрост літаратуры ды іншых мастацтваў і г. д.

Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Узвышша“ ніякім чынам не магло выявіць дрэнны тон і ня прыняць удзелу ў агульнай кампаніі. І ў № 5 сваёй часопісі „Узвышша“ яно адводзіць пэўнае месца для адзначэньня дзесятай гадавіны. Сюды належыць: верш Дубоўкі, апавяданьне Крапівы, апавяданьне Бядулі, верш Лужаніна і пара артыкульчыкаў.

На добры лад разгляд трэба пачынаць па парадку, што мы і зробім, зьвярнуўшы ўвагу ў першую чаргу на апавяданьне старэйшага ва „Узвышшы“ па гадох і па літаратурнаму стажу сябра—З. Бядулі. Апавяданьне мае прэтэндыйную назву „Дзесяць“ і ў ім аўтар пэўна меў на ўвазе даць нешта накшталт Кастрычнікавай эпохі, прынамсі даць малюнак рэвалюцыі ў вёсцы Глухі Бор. Даецца малюнак рэвалюцыі, разьдзелу панскай зямлі, надыходу нямецкай і польскай окупацый. Потым ідзе жыцьцё пагранічча, голад у Паваложжы, новы быт, селькораўскі рух. Канчаецца ўсё гэта, як яму і належыць канчацца: электрыфікацыяй і палётам героя на самалёце. Герой, як водзіцца—не селянін, а нібыты—„пролетарыят“, вясковы каваль Міхалка. Гаворыць ён, як пісанаму, пра бальшавікаў і пра Леніна. Хаця і няпісьменны, але добра ведае, што „хто не працуе—той ня есьць“, потым організуе разьдзел панскай зямлі, змагаецца з окупантамі, з польскім шпіёнажам. Потым пачынае будаваць новы быт. І да таго гэты быт у яго даходзіць, што ён і думаць пачынае лёзунгамі. Вось ілюстрацыя:

„Міхалка ўспомніў сваіх бацькоў і дзядоў. Гэтыя абразы яму ад дзеда ў спадчыну засталіся...

— Ня мала дзед і бацька „бацюшку“ за абдзірства лаялі.
— Далоў гэту панскую выдумку!
— Прэч бляшаныя цацкі!
— Не патрэбны мне ідалы!
Такія думкі праміьгнулі ў яго мазгох трыма кароткімі лёзунгамі, якія павялічылі яго рашучасьць, паднялі гнеў“.

Калі дзеці ў апавяданьні гуляюць у „грамадзянскую вайну“, дык у „белагвардзейцы“ трапляюць дзеці кулакоў; праўда, каб нечакана не сканфузіць аўтара, ім у „начальнікі“ даецца бядняк. Калі пачынаецца селькораўскі рух, каваль Міхалка, ня гледзячы на сваю няпісьменнасьць, робіцца селькорам, церпіць зьдзекі з боку сельсавету, які, зразумела, складаецца з кулакоў. Справа канчаецца перамогай Міхалкі, „нечестивые“ пакараны. Тут надыходзіць ленінскі прызыў, Міхалка ўступае ў партыю і часова адступае ў цень, каб даць магчымасьць аўтару пераказаць у кароткіх словах Чаротаву поэму „Карчма“. Потым Міхалка ліквідуе царкоўныя сьвяты. Потым бярэцца за газэты і ўважна сочыць за ангельскаю забастоўкаю. Калі канчаецца забастоўка, Міхалка праводзіць электрыфікацыю, заводзіць радыё, зьяўляецца трактар і аўтомобіль. Нарэшце зьяўляецца лётнік, бярэ яго з сабою на самалёт. Апавяданьне канчаецца так:

„Пасьля абеду (у лётніка) Міхалка папрашчаўся. Трэба было ісьці цяпер назад у Камуну пехатой некалькі дзесяткаў вёрст, каб заўтра ў пару стаць на працу ў кузьні.

— Па дарозе людзі дзівіцца будуць, што ў мяне кажух,— падумаў Міхалка.—Няхай сабе завуць мяне лятуном, але я па ўсёй ваколіцы Глухога Бору буду зьбіраць грошы на самалёт „Камуна“.

Міхалка пусьціўся нацянькі палямі і гародамі, каб хутчэй папасьці на шырокі тракт. Ён трымаў кажух у левай руцэ, як трофэю свайго першага хрышчэньня ў паветры. Думкі аб заваёве будучыны ня выходзяць з яго галавы“.

Вось і ўсё.

Нудна! Такія апавяданьні сотнямі валяюцца па рэдакцыях і ў друк ніколі ня трапяць. „Узвышша“ дрэнна пажартавала з Бядулі, надрукаваўшы гэткі твор. Калі гэта першы твор пачынаючага аўтара, дык з гэтым можна мірыцца. Але, калі пісьменьнік з амаль што дваццацігадовым стажам, ды надпісвае такія штукі, то гэта ўжо аб нечым пачынае гаварыць. Апавяданьне цалкам належыць да таго гатунку твораў, пра якія Бухарын пісаў, што ад іх „непривычного человека начинает прямо тошнить“ *).

Можна гаварыць пра нашы дасягненьні, але можна і трэба гаварыць пра недахваты, не баючыся і не хаваючыся; ніхто ня стане адмаўляць, што яны ў нас ёсьць. А гэткія творы, як Бядулевы „Дзесяць“, былі-б

*) Бухарин. Злые заметки.

об'ектыўна шкоднымі для соцыялістычнага будаўніцтва, робячы яму „мядзьведжую ўслугу". І толькі тая шчасьлівая акалічнасьць, што падобныя творы па сваёй мастацкасьці ня здольны нікога зацікавіць (як і ў гэтым выпадку), параліжуе тую шкоду, якую яны маглі-б прынесьці.

Поэма Дубоўкі „Кругі" магла-б з пэўным посьпехам зьмясьціцца ў аддзел крытыкі, бо яна ў большай сваёй частцы прадстаўляе рыфмованы літаратурна-крытычны артыкул. Цэнтральным месцам поэмы зьяўляецца ліст, напісаны Дубоўкам самому сабе пад псэўдонімам Насты Нарутавічанкі. У лісьце выказваецца скарга на крытыку, якая перашкаджае пазнаёміцца з творчасьцю Дубоўкі:

„Конкрэтнага ня кажучы, яна нагадвае туман у цёмным лесе. Напішуць: „добра ўсё, у самы раз", а заўтра: „брак настрояў пролетарскіх". Ня крытыка, а нейкі самавар: усё залежыць ад староньняй ласкі *)".

Далей аўтар скардзіцца, што крытыка „замкнула об'ектыўнасьць на замок" і пераходзіць да ацэнкі творчасьці Дубоўкі:

Мяне у вас цікавіла даўно  
Ідэолёгія, кірунак, мова.  
Ідэолёгію, здаецца мне,  
Акрэсьліў у „Зьвязьдзе" Ўладзімер Жылка,  
Тлумачыць трэба нейкаю памылкай,  
Што не казалі гэтага раней.

Калі аўтар мае на ўвазе рэцэнзію пра зборнік „Наля", даволі падлыжную і падпісаную Ўл. Жылкам, дык нам здаецца, што ідэолёгія Дубоўкі там калі і высьвятлялася, дык далёка ня поўна, дый непраўдзіва. Што-ж тычыцца нашага погляду адносна ідэолёгічных шляхоў Дубоўкі, дык мы лічым, што паваротным пунктам у яго творчасьці зьявіўся зборнік „Credo", у якім выразна выступае адыход таленавітага поэты ад тых прынцыпаў, да якіх ён раней далучаўся. Ідэолёгічны заняпад Дубоўкі павёў за сабою заняпад і мастацкі, што выявілася ў яго апошнім зборніку „Наля" і асабліва ў разгляданай намі цяпер поэме. У гэтай поэме Дубоўка, упэўнены, як відаць, у сваёй непарушнай мастацкай сіле, яшчэ меней лічыцца з формальнымі элемэнтамі вершу. У выніку мы бачым заняпад рыфмы; яна або вельмі *ўбогая*, як: *хараства—хто сам, кілёмэтр—бярэ, прарокаў—наогул, мерацъ—стварэньні*, або *прымітыўная*, як: *агні—дні, глядзяць—зазнаць, сонца — бясконца, стала — дачакала, даль—сталь*, або такая, якой *наогул нельга назваць рыфмай*, як: *самы раз—самавар, наш—турбаваць, з ім—зямлі, кійком—прынясло*, і г. д. Калі ўзяць гукавы склад гэтага Дубоўкавага твору, дык убачым перавагу больш глухіх гукаў, як *г, д, к, б*, у процілегласьць ранейшаму—*дз, ц, с, р*. Гэта, бязумоўна, яшчэ не адзнака заняпаду, але, калі дамінуючыя

*) Гэты ўрывак мы зусім сьвядома падаем без падзелу на вершы, бо лічым, што гэткі падзел, у гэтым месцы, як і ў шмат якіх іншых, зроблены Дубоўкам зусім выпадкова.

гукі ідуць у разрэз з настроем і ўстаноўкаю поэтычнага твору, дык ад гэтага такі твор траціць процантаў 40 сваёй эмоцыянальнай насычанасьці. Рэжуць вуха няпрыемныя зьбегі галосных, якімі таксама грэшыць Дубоўка, як: уважлів*а ў яе*.., хвал*ю*е *ў а*боймы, квол*ую і*нтымнасьць і г. д., а таксама надаедлівыя паўторы, як здаваль*неньне не*шта ня чутно. Да значных хібаў трэба аднесьці шматслоўе, калі адзін радок занадта перагружаецца паўзамі; гэта робіць верш тугім і няпрыемным для чытаньня:

Што нават сорамна самой мне слухаць.

або:

Лепш за ўсё, дамоў прышоўшы з працы.

Таксама і адваротнае зьявішча, калі на адно слова прыпадаюць два націскі, як:

Вы, таварыш *Нарутавічанка*.

або:

Шуканьняў, так сказаць, экстравагантных.

Калі, адкінуўшы ўсякія каноны, узяць поэму, як нешта суцэльнае (прынамсі, той пачатак яе, што надрукованы ў № 5 „Узвышша"), дык яна праз сваю сухасьць і нацягнутасьць нагадуе нешта вымучанае, выседжанае і, у кожным разе, далёкае ад якога-б там ні было пачуцьця. „Экстравагантныя шуканьні" з боку мовы абмяжоўваюцца на гэты раз увядзеньнем толькі некалькіх сапраўды экстравагантных слоўцаў, як „ліштва". Наогул-жа, нам здаецца, што „Ганна Нарутавічанка" ў сваім лісьце да Дубоўкі даволі выразна ахарактарызавала творчасьць яго за апошні час:

... Ці доўга будзе так?
жабрацтвы духу—не вялікі гонар.
Аджа-ж літаратура—не тартак,
не пагулянка з клёцкамі за горад.

Пра вершы Пушчы „Асеньнія песьні" і „Лісты да сабакі" пісаў ужо А. Сянкевіч *), даўшы ацэнку настрояў Пушчы з боку палітычнага.

Гэтыя вершы Пушчы з боку іх зьместу зьяўляюцца, на наш погляд, лёгічным працягам ранейшай яго дзейнасьці. Тут, як і раней:

„Беларусь краіна,—найміцай астатняй
ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.
Ой, Зямля-Плянэта і браты-народы!
Я спраўляю штодзень страшнае маленьне:
расьпяваю псальмы аб краіне роднай,
расьпяваю ўвечар, стаўшы на калені.
. . . . . . . . . . .
Будзе дзень сьвяточны, дзень другога прыйсьця:
прыдзе Маці з Сынам, на услоне сядуць..
Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця.—
будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.

*) Соцыяльныя мотывы творчасьці, або сабачыя лісты поэты Язэпа Пушчы. („Зьвязда" № 9).

Прыдуць з песьняй тыя, што сабе ня хлгалі,
што сьлязу ранялі на сырым кургане...
. . . . . . . . .
Азяблае цела ў трагічным уздыме;
зямлі нагату акрывае лістота.
Хто з крыжа краіну расьпятую здыме?
Ўзываю, малюся у грэшнай істоце.

Краіна наша і бяз Пушчавых псальмаў жыве і красуе; з крыжа яна сышла дзесяць год таму назад. А калі чытаеш гэтыя Пушчавы лемантацыі, дык мімаволі ўспамінаюцца радкі Гайнэ:

Сабаку я ў Дрэздэне бачыў; калісь
Быў добры сабака; цяпер-жа
Ў нябогі за зубам стаў зуб выпадаць,
Ён мочыцца толькі ды брэша.

І вось Пушча разражаецца лістамі да сабакі. Лісты безадказныя:

Ліста мне ад цябе ні разу ня прыслалі,
хоць ты й пісаў яго вячэрняю парой.

Мы ня будзем разьбірацца, якім спосабам пісаў сабака Пушчу лісты. Пярэйдзем далей і паслухаем тую мораль, якую прапаведвае Пушча:

Стаю вось перад зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю й чаго, дрыжу.
І сам ня ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыдзі хутчэй і ўкрыжуй!
Канец хай будзе ўсім маім цярпеньням;
няхай лісты разьвеюцца з асін,
з чала краіны вырву ўсё-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.
Няўжо мне ранаў песьня не загоіць,
што гэтакі трывожны б'ецца пульс?
Паэт, які ня ведае агоній,
ня здолее услáвіць Беларусь.

Праўду кажа наша прыказка: „вясельле слаўна песьнямі, а хаўтуры— выем“. Але ніякім выцьцём цяпер не ўхаўтурыць беларускага вясельля. Дый ці сур'ёзна Пушча думае, што Беларусі гэта патрэбна, каб ён сьпяваў Лазара пад кожнаю брамай? І ці ня гучыць пахабнейшым паклёпам на Беларусь заключны акорд апошняга ліста:

Жыві, жыві, знаць, дома лепей;
услухвайся ў таемны шум і шэпт,
*чужыя людзі ходзяць каля склепу* (!)
пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.

Больш нічога і не застаецца!

Ліст ад сабакі, як відаць, Пушча знарок напісаў дрэнна (з мастацкага боку), бо ня можа-ж сабака пісаць лепш за свайго гаспадара. Але сабака, хоць і няпісьменны (Пушчавы лісты яму чытае Пушчаў брат), але ўсё ж ткі ў значнай меры здолеў праняцца Пушчавымі настроямі.

—Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
я штоночы і штодня

ня маю радасных гадзін.
Добры мой, пішы яшчэ,
пішы навіны мне свае.
З песьняй жыць куды лягчэй,
душа ня хоча з ёй сівець.

Так, да гэтых твораў словы Г. Гайнэ вельмі пасуюць:

...Цяпер-жа
ў нябогі за зубам стаў зуб выпадаць...

З формальнага боку Пушча стаіць значна ніжэй за шмат каго з нашых пачынаючых поэтаў. Калі ўзяць яго мову (вяліканы, ўзываю, бежанец, калісьць (?), жыву ў шумнае (!) сталіцы), яго рыфму (штацкім—мастацкім, расьпаляць—сплямяць, вазёр—зор),—дык застаецца дзівіцца, ці той гэта Пушча піша, які некалі падаваў такія багатыя надзеі. Верш цяжкі, перагружаны нязграбнымі і няпрыгожымі гукавымі і слоўнымі композыцыямі. Архітэктоніка вершаў дазваляе рабіць самыя нечаканыя экспэрымэнты: у кожным разе—перастаноўка строф ні ў чым не зьмяніла-б вершаў; горш ня было-б, а сэнс быў-бы такі самы.

Што-ж тычыцца палітычнага сэнсу Пушчавых вершаў, дык мы ў большасьці згодны з вывадамі А. Сянкевіча, пакідаючы ў баку некаторыя мэтодолёгічныя моманты. Так, мы лічым, што т. Сянкевіч ня зусім дакладна тлумачыць думку Плеханава аб аналізе формальнага боку мастацкага твору. Ёсьць і яшчэ некаторыя мясьціны, з якімі мы ня можам згадзіцца.

Верш Лужаніна, прысьвечаны гадавіне, ня гледзячы на некаторыя хібы, робіць значна лепшае ўражаньне, чымся Пушчава і Дубоўкававарыва. Верш Кляшторнага „Праксэда" прадстаўляе з сябе адзін з вядомых трафарэцікаў,—спыняцца на гэтым вершы ня прыходзіцца. Крыху больш цікавым для нас зьяўляецца апавяданьне К. Чорнага „Спатканьне". У XVIII ст. расійскі кніжны рынак быў завалены безьлічу перакладных сантымэнтальных романаў, у якіх пераважаў лірычна-апісальны элемэнт. Гэта даходзіла да таго, што быў роман у 300—400 старонак, увесь сужэт якога заключаўся ў тым, што „некто женился и жена его умерла". Для лірычна-настроеных людзей гэткая рэч і можа падыйсьці, але-ж колькі гэткіх людзей на сьвеце набярэцца, якім ніколі не надакучыць набіваць сябе поснаю лірыкай!.. Вось да гэткага гатунку твораў можна аднесьці і „Спатканьне". Апісальны элемэнт у гэтым апавяданьні зусім задушыў і той мізэрненькі сужэцік, які там быў. Трэба мець даволі цярплівасьці, каб прачытаць нават тыя 4 старонкі, што займае гэта апавяданьне.

Даволі гладкім, ня гледзячы на тую самую тандэтнасьць, што і ў Бядулі, зьяўляецца апавяданьне Мрыя „Колектыў Яўмена". Можа Мрыю трошкі лепей, як Бядулю, удаўся яго абразок таму, што ён узяў толькі адзін момант, адну зьяву з пасьля-рэволюцыйнага жыцьця, а Бядуля паквапіўся на ўсё. Ну, а вынікі паляваньня на двох зайцаў адразу (а там іх і болей было) даўно ўжо ўсім вядомы.

Бадай што зусім расчароўвае нас Крапіва, асабліва сваімі апавяданьнямі. Няма ўжо тут калішняй вастраты і сакавітасьці, нейкімі дзікімі і няжыцьцёвымі зрабіліся героі ды іх дзеі. У першым апавяданьні („Доўг“) Крапіва, перш чым прыступіць да кастрычнікавых успамінаў, зводзіць, паводле ўзвышаўскага звычаю, асабістыя рахункі, і гэта зусім забівае ўсялякую каштоўнасьць гэтага апавяданьня. Другое—больш цікавае. Але ўсё-ж ткі і тут Крапіва ня здолеў як сьлед апрацаваць досыць цікавы сужэт.

Пярэйдзем цяпер да публіцыстычнага разьдзелу часопісі, дзе зьвяртаюць на сябе ўвагу два артыкулы: „Аб разуменьні мастацкай творчасьці і аб некаторых пытаньнях у вывучэньні беларускай літаратуры“ Бабарэкі і „Альбо грай, альбо скрыпку аддай“ В. Кундзіша.

Артыкул Бабарэкі, як звычайна, вызначаецца сваёю размазанасьцю і паказвае вялікі поступ у разьвіцьці „беларускага Бялінскага“ *); ён цяпер можа гаварыць на працягу некалькіх старонак, і... нічога не сказаць—нешта накшталт лёгкай фізкультуры. Гэты артыкул таксама характарызуе яго здольнасьць. Бабарэка бярэ верш Багдановіча „Песьняру“ і пачынае разважаць, што азначае гэта слова, а што тое, і чаму менавіта так, а не наадварот, і чаму гэта трэба разумець не як-небудзь іначай, а іменна так. І толькі ўжо на пятай старонцы робіць вывад, што „матэрыялам для вершу „Песьняру“ былі думы пра песьняра, яго творчасьць, яго дачыненьне да мастацтва і наогул пра ролю і значэньне літаратурна мастацкага твору. Які глыбокі аналіз, які дыапазон крытычнай думкі, які геніяльны вывад!!! Прыблізна такую самую опэрацыю прарабляе Бабарэка і з вершам Гаруна... на тую-ж тэму. Калі прыняць пад увагу, што гэты артыкул зьяўляецца ўступам да кнігі пра творчасьць Дубоўкі, дык пэўне-ж Дубоўка разам са ўсёй сваёй творчасьцю патоне ў моры паперы, якую змарнуе паважаны „крытык“ на такую справу; а на паверхні гэтага мора будуць адзінока хістацца, нібы ўбогія чаўны, нямногія, але „геніяльныя“ крытыкавы думкі.

І ў гэтым кашападобным артыкуле можна ўлавіць некалькі паасобных думак, якія выказваліся „беларускім Бялінскім“ і раней, але ў інакшай крыху форме. Першае—гэта палажэньне Бабарэкі пра „мастацтва для мастацтва“. Паважаны крытык мае нахіл думаць, што „мастацтва для мастацтва“ (або як яго называюць—„чыстае мастацтва“) зьяўляецца нікчэмнаю забаўкаю. Сьледам за Каўцкім Бабарэка кажа: „Я з свайго боку дадам, што такія мастакі падобны дзецям, якія забаўляюцца рознымі цацкамі“. Няпраўда, тав. Бабарэка! „Чыстае мастацтва“ прадстаўляе сабою адну з самых моцных зброяў ваяўнічай буржуазіі ў галіне мастацтва. Об‘ектыўна яно можа прыносіць большую шкоду часамі, чымся, нават, чэмбэрленаўскія гарматы, атручваючы сьвядомасьць клясы; а об‘ектыўна вы зрабілі-б ня вельмі ўжо вялікую паслугу для рэволюцыі, каб заклі-

*) Так называе Бабарэку Кундзіш („Кр. Нива“, 1927 г., № 16).

калі рабочых і сялян у наступ, суцяшаючы, што „гэта Чэмбэрлен у цацкі гуляе, мы яго—сьнежкамі“. Мы лічым, што Бабарэка трымаецца такога пагляду па сваёй наіўнасьці, але раім яму гэту наіўнасьць адкінуць, а болей сур'ёзна ўдумацца ў гэта пытаньне.

У другім месцы Бабарэка заяўляе:

„... Каштоўна тая творчасьць, якая ўвасабляе ў вобразах мастацкіх, ці, іначай кажучы, матэрыялізуе ў формах мастацкага слова *самасьвядомасьць чалавека* (курсіў аўтара), менавіта—чалавека, а ня рэчаў, розных адцятасьцяй і „праўды тэй, што ў небе“ і г. д...

Такім чынам, Бабарэка лічыць каштоўным толькі той твор, які прадстаўляе сабою ўвасабленьне сьвядомасьці чалавека, зусім адкідаючы тыя фактары „рэчы“, якія адыгрываюць асноўную ролю ў сформаваньні гэтай сьвядомасьці. Не гаворачы ўжо пра статычнасьць гэтай формулы (бярэцца дзейнік і выключаецца дзея), яна дапускае ацэнку любога твору толькі па формальных адзнаках. Адгэтуль у вачох крытыка могуць мець аднолькавую вартасьць пагромны твор якога-небудзь Меражкоўскага і рэволюцыйны роман, скажам, Зарэцкага. Так і толькі так можна разумець формулу Бабарэкі, пабудаваную ў кожным разе не з матэрыялістычнага матэрыялу!.. З меркаваньняў далікатнасьці аднясем і гэту формулу да Бабарэкавай наіўнасьці. На блытанай клясыфікацыі мастацкіх твораў па іх форме мы спыняцца ня будзем, бо тут справа зыходзіць да ўмоўных тэрмінаў; Бабарэка толькі ня здолеў разабрацца як належыць у зьмесьце гэтых тэрмінаў і безнадзейна ў іх заблудзіў.

Кундзіш у сваім артыкуле „Альбо грай, альбо скрыпку аддай“ накінуўся на апошні зборнік вершаў Андрэя Александровіча і разматлашыў яго ўшчэнт. Узяўшы поэму Александровіча „Дваццаць“, Кундзіш па ўсіх правілах гэту поэму згвалціў і ўзьвёў на Александровіча столькі грахоў, што проста застаецца дзівіцца, як гэта Александровіч да гэтага часу вольна ходзіць па вуліцы. Узяўшы сабе ў галаву, што Александровіч—выхадзец з мяшчанскай сям'і, саматужны крытык разагнаўся з грамавою цытатаю:

„Той пласт гарадзкое грамады, з якога вышаў Александровіч і які ён зараз адлюстроўвае ў сваёй творчасьці, зьяўляецца міжлеглым паміж пролетарыятам і буржуазіяй, гэта тое, што завецца мяшчанствам“.

Далей ідуць малапісьменныя радкі пра ролю мяшчанства ў грамадзкіх адносінах. Нам здаецца, што толькі малапісьменнасьцю аўтара тлумачыцца паданая вышэй цытата. Андрэй Александровіч паходзіць з сям'і пярэсьпенскага шаўца-саматужніка, сам працаваў у майстэрні, мае блізкую сувязь з рабочымі сем'ямі Пярэспы, і ў сваёй творчасьці адбівае паасобныя моманты з жыцьця заводу і саматужнікаў. Калі гр. Кундзіш ня ведае Менску, дык яму варта было-б з ім пазнаёміцца (вядома, не па Дубоўкавых вершах пра Менск; на іх далей Савецкай вуліцы не

даедзеш), тады Кундзіш ведаў-бы, што пярэсьпенскі саматужнік, гэта, пераважна, чалавек, які ня мае ніякай маемасьці, працуе ў майстэрні, у стары час прымаў немалы ўдзел у рэволюцыйным руху, у забастоўках і г. д. У царскі час па пашпарту ён лічыўся мешчанінам, але лічыўся тады мешчанінам і рабочы. Цяжка думаць, каб нават гр. Кундзіш клаў у аснову вызначэньня соцыяльнай групы царскую пашпартную сыстэму. Кундзіш ставіць у віну 7—10-гадоваму хлапцу, які ў сілу экономічных прычын выхоўваецца без усялякага дагляду, некаторыя грахі супроць клясавай этыкі; мабыць, з пункту погляду Кундзіша, у рабочых дзеці павінны нараджацца ўжо з аформленаю клясаваю сьвядомасьцю і, у кожным разе, усвоіўшы курс прынамсі Берднікава, Сьвятлова.

Далей Кундзішу не падабаецца, што бацька поэты пачаў бойку з гарадавым, пяючы „Марсэльезу“. Кундзішу толькі гэтага і трэба. Мораль у яго гатова:

„Рэволюцыйнасьць зусім ня ў тым, каб, ушчаўшы бойку з гарадавым, сьпяваць марсэльезу, а ў арганізаваным выступленьні мас“.

Гэта і бяз Кундзіша кожны ведае! Але, на наш погляд, Александровіч тут ніякай рэволюцыйнасьці і ня думаў паказаць.

*Не працуе, працы—нічога,*
*дзе мага яго вочы лезуць!*
Раз п'яны страсануў гарадавога,
Трасануў, пяючы „Марсэльезу“.
Гаварылі яшчэ, што з азартам
аб калена зламаў „селядзец“.
*Прыляцелі суседняя варта...*
*Так вісела бяда на бядзе...*
*Судзілі... Сядзеў... Вышаў... і г. д.* *)

Возьмем яшчэ некалькі радкоў, якія могуць апраўдаць перад гр. Кундзішам гэткія неэтычныя з пункту погляду Кундзіша паводзіны шаўца:

... сьціскала гора нас,—
тупой сякеры сталь.
І так жыцьцём зморана
Гібела бедната.
Але за што? За што гэта
адны ў сухатох мруць,
другія сытым рогатам
дукаты ў банк кладуць.

Вось чаму шавец сьпяваў марсэльезу, ды пэўна і гр. Кундзіш,—давядзіся яму папасьці ў гэтыя абставіны,—менш-бы „мудрагеліў“ над клясавай этыкай. Жыцьцё навучыла-б. Мы-ж гэткія „крытычныя“ прыёмы разглядалі, як падтасоўку.

Далей Кундзіш пачынае мудраваць над паасобнымі вобразамі Александровіча, як „румяная цаглінка“, „нязнаныя дні“ і г. д. Тут у яго

*) Падкрэсьлены тыя радкі, якія падаюць прыведзены Кундзішам адрывак у некалькі іншым асьвятленьні, і якія Кундзіш палічыў за лепшае абмінуць. *Т. Г.*

больш іроніі па адрасу нашага будаўніцтва, чымся па адрасу Андрэя Александровіча. Мы спынімся на тым месцы, дзе Кудзіш палічыў патрэбным і магчымым прыкрыць сваё плявузганьне імем Леніна. Пералічаючы некаторыя эпітэты з вершаў Александровіча, гр. Кундзіш гаворыць:

„Нямала і „залатых". Да ведама Александровіча і Джугара: ужываць эпітэт „залаты" час-ад-часу ня шкодзіць, але ня шкодзіць таксама прачытаць у тав. Леніна пра тое, які лёс чакае „золата" ў соцыялістычнай грамадзе".

Гэта мы чыталі, гр. Кундзіш. Калі будзе пабудованы соцыялізм, дык ня толькі для золата, а і для крытыкі, падобнай да Кундзішавай, бязумоўна знойдзецца адпаведнае месца. А пакуль што золата мае і каштоўнасьць і прыгожасьць.

Што тычыцца мовы ды іншых элемэнтаў формы, якія закранае гр. Кундзіш, дык мы-б яму адказалі крылоўскім:

Чем кумушек считать трудиться,
Не лучше ль на себя, кума, оборотиться.

Пачытаў-бы гр. Кундзіш усе творы Дубоўкі, Пушчы, Бядулі ды іншых узвышаўцаў, зьмешчаныя ў гэтым самым нумары, дык знайшоў-бы там сапраўды „залатое гняздо" для сваіх крытычных практыкаваньняў. Наогул-жа артыкул Кундзіша па сваіх мэтодолёгічных прынцыпах перавышае ўсякія нормы ўсякай этыкі.

Рэшта матэрыялаў у гэтым нумары прадстаўляе бесстароньнія досьледы па тых ці іншых пытаньнях. З іх асабліва цікавым зьяўляецца нарыс аб татарскім тэатры. У гэтым-жа нумары „Узвышша" ўпяршыню завяло аддзел „Культура мовы", даволі цікавы і карысны. З тых меркаваньняў, якія выказаны ў аддзеле, нам здаюцца зусім беспадстаўнымі дзьве апошнія заўвагі Л. і В. Л. Слова „страніца" нам не даводзілася нідзе спатыкаць у беларускай мове,—ужываецца „старонка", а слова „балона", якое Л. прапануе ўвесьці, было-б штучным і незразумелым для мас. Тое самае можна сказаць і пра слова „ратайства", якім В. Л. прапануе замяніць слова „зямляробства". Няможна згадзіцца і з мотываваньнем В. Л. і Л. гэтых пропозыцый, па іх выходзіць, што нам трэба вяртацца ў мове ледзь не да часоў „цара Батуры", прынамсі аўтар падае прыклады прыблізна з таго часу. У нас ёсьць жывая мова і замяняць яе тэрміны даўно вышаўшымі з ужытку, па меншай меры, было-б дзіка.

Вось і ўсё, чым пацешыла нас „Узвышша" ў сваім апошнім нумары. Якія-ж вывады можам мы зрабіць з гэтага?

Перш усяго, паколькі сябры „Узвышша" ня друкуюцца ні ў аднэй з беларускіх часопісяй, апрача сваёй, мы можам разглядзець гэты нумар ня толькі, як чарговы этап у жыцьці згуртаваньня, але і як чарговы этап разьвіцьця кожнага паасобнага яго сябра. Паколькі нумар, як відаць, прысьвечаны дзесятай гадавіне Кастрычніка, дык ён у пэўнай меры зьяўляўся і палітычным экзаменам як для самога „Узвышша", так і для

яго сяброў. І гэтага экзамену ні „Узвышша“, ні яго сябры вытрымаць ня здолелі, і мы ў гэтым яшчэ больш пераканаемся, калі прасачым за творчасьцю паасобных сяброў „Узвышша“ за ўвесь гэты час.

Уладзімер Дубоўка за час сваёй працы ва „Узвышшы“ напісаў і надрукаваў зборнік „Наля“ і пачаў цяпер друкаваць поэму „Кругі“. Аб зборніку „Наля“ нам пісаць ужо даводзілася і нам няма патрэбы тут падрабязна спыняцца на ім. Мы разглядаем зборнік і поэму, як паступовыя тычкі творчага заняпаду Дубоўкі. Пасьля выхаду гэтых твораў ранейшая популярнасьць Дубоўкі (праўда, толькі ў вузкіх колах, бо шырокай масе творы Дубоўкі недаступны) пачынае замяняцца роўнадушшам да яго творчасьці, якая стала бледнаю і нясьвежаю, страціла тыя колеры, якімі зьзяла ў пачатку творчага шляху поэты. Чым далей, тым больш поэма ўжо зьяўляецца другім крокам да заняпаду пасьля „Налі“.

Язэп Пушча калісьці падаваў дужа багатыя надзеі, як сьвежы, арыгінальны поэта. Але надзеі надзеямі і засталіся. Ад „рыкаючай раніцы“ да падазрэннага „вітаізму“, ад „вітаізму“ да недалужнага зборнічка „Дні вясны“ і нарэшце да славутых лістоў, якія ставяць крыж на мастацкай каштоўнасьці твораў Пушчы і зьнімаюць маску, даволі ўжо падзёртую, з яго ідэолёгічнага твару. Пушча, як поэта, можа зацікавіць ужо толькі тыя колы насельніцтва, якія яшчэ не ачухаліся ад кастрычнікавага ўдару, якія захлёбваюцца над творчасьцю Есеніна, асабліва над тымі „творамі“, што прыпісваюцца Есеніну і распаўсюджваюцца рознымі цёмнымі асобамі. Для рабочых, для сялян, для савецкай інтэлігенцыі Пушча памёр. І ў гэтым вінна перш усяго тая організацыя, якая зьбіла Пушчу з правільнай дарогі і павяла па аблудных сьцежках упадніцтва—у гэтым вінна „Узвышша“.

Такі-ж самы лёс, як відаць, чакае і Крапіву. Яго творы з кожным разам усё болей робяцца блеклымі і няцікавымі. Трапіўшы ў сэктанцкае акружэньне „Узвышша“, Крапіва страціў тую ўстаноўку, якая падтрымлівала яго сатыру—сувязь з бягучым жыцьцём, сувязь з грамадзкасьцю. Шчыра кажучы, Крапіва мог-бы сур'ёзьней аднесьціся да тых перасьцярог, якія яму ў гэтым кірунку робяцца, і зьмяніць свой шлях. У гэтым была-б вялікая карысьць і для яго самога, і для беларускай літаратуры.

Крыху горш стаіць справа з Бядуляй. Прапрацаваўшы на літаратурнай ніве блізка 20 год, ён стаў лічыць свае творы „непагрэшнымі“. А на справе аказалася, што ў гэтых творах вельмі і вельмі многа грашкоў. Больш таго. Аповесьць „Салавей“, надрукаваная ва „Узвышшы“, зьяўляецца ў Бядулі вялікім адступленьнем назад. Паставіўшы сабе задачай даць гістарычную аповесьць, Бядуля ня здолеў у ёй даць гістарычны колёрыт, ня здолеў увязаць дзею з эпохаю, палічыўшы, мабыць, непатрэбным прапрацаваць той вялікі запас матэрыялаў, які ў нас ёсьць па пытаньню аб прыгонным тэатры. Не дапамагло і ўвядзеньне (часамі

вельмі няўмелае) сужэтаў з народных казак, і намёкі аўтара на час дзеі не затушавалі сутнасьці. Аўтар даў не рэальны малюнак, не паказаў, як гэта было, ці магло быць, а расказаў у такой форме, як яму трэ' было, каб адпаведным чынам разьвіць дзею, вынікаючую ў нетрах яго ўласнай інтуіцыі. І заместа прыгоннага артыста, а пасьля паўстанца „Салаўя“ вышаў кніжны партызан з апошняй вайны. Хібы ў мастацкіх прыёмах яшчэ болей псуюць справу. Але гэтыя хібы яшчэ болей паглыбляюцца ў апавяданьні „Дзесяць“, разгледжаным вышэй. Бядуля таксама, як і Дубоўка, шпаркімі крокамі ідзе да заняпаду. Яшчэ горш ён робіць тым, што на кожную крытыку яго творчасьці глядзіць, як на асабістую абразу, аб чым сьведчыць ліст Бядулі ў „Зьвязьдзе“ адносна рэцэнзіі Ўл. Ж. на зборнік поэм Бядулі. Тымчасам об'ектыўна горшую ролю для Бядулі адыгрываюць тыя падхалімы, якія закатваюць вочы перад ім і кожную яго недарэчнасьць гатовы назваць цудоўным пэрлам мастацтва. Бядулі больш усяго трэба сьцерагчыся такіх прыяцеляў, як Ул. Жылка, які пасьпяшаўся паведаміць грамадзтва, што гэта ня ён пісаў пра Бядулевы поэмы; трэба зазначыць, што наўрад ці хто лічыў яго здольным напісаць гэткі артыкул. Ня трэба баяцца крытыкі, якая выкрывае недахваты. Найгоршы вораг пісьменьніка—гэта той, хто закрывае вочы на хібы і піша пахвальныя оды яго творам. Можна думаць, што гэткія пахвальныя рэцэнзіі ў значнай меры і вінны ў некаторым (будзем спадзявацца часовым) заняпадзе З. Бядулі.

Пра ўзвышаўскую моладзь рана яшчэ гаварыць. Усе яны пакуль што яшчэ зусім мала сформаваліся, як пісьменьнікі, і могуць яшчэ паддавацца самым рознастайным уплывам. Ці пойдуць яны ў далейшым шляхам сваіх правадыроў, ці можа зразумеюць памылковасьць свайго сучаснага шляху—пакажа будучына. А пакуль што вельмі цяжка даць ацэнку іх літаратурнага шляху з тэй прычыны, што гэтага шляху яшчэ ня было.

Што тычыцца агульнага шляху „Узвышша“ за час яго існаваньня, дык ён для нас ясны і быў прадугледжаны ў цэлым шэрагу артыкулаў, выступленьняў і г. д. зараз-жа пасьля апублікаваньня організацыйнай пляцформы згуртаваньня. Паступовы адыход „Узвышша“ ад „Маладняка“, ад усіх беларускіх газэт і часопісяй, разрыў усялякіх сувязяй з грамадзкім жыцьцём і з самаю грамадзкасьцю—усё гэта праходзіла на нашых вачох і цалкам спраўдзіла тыя пэрспэктывы, якія былі вызначаны „Маладняком“ у сваёй дэклярацыі ў мінулым годзе. „Узвышша“ зрабілася сэктаю, не хавае нават гэтага цяпер, не знайшоўшы нічога лепшага, як у кастрычнікавым нумары сваёй часопісі адвесьці месца для політычнай дэмонстрацыі свайго сябра Язэпа Пушчы. Ня робячы з гэтай дэмонстрацыі ніякіх організацыйных вывадаў у стасунку да Пушчы, не агаварваючы яго выступленьне, згуртаваньне „Узвышша“ гэтым самым падкрэсьлівае сваю салідарнасьць з гэтым песьняром ярэмічаўскага толку і

з яго выступленьнем. Гэта і адкрывае нам твар гэтай сэкты, твар, які і да гэтага часу старанна прыкрываўся паказным бляскам дэкларацыйных выгукаў.

Мы ня зьбіраемся заглядаць у будучыну, але той малюнак ідэолёгічнага і формальнага заняпаду, які прадстаўляе сабою „Узвышша“, цяпер ні да чаго добрага давесьці ня можа. Дзе яно, тое ўзвышша беларускай пролетарскай літаратуры, якое абяцала „Узвышша“? У вершах Пушчы, у штампованых параграфах Бядулі? Практыка „Узвышша“ найлепей паказвае нам, як далёка часамі разыходзяцца словы і справы. Прыклад „Узвышша“ павінен стаць перасьцярогаю для ўсіх іншых нашых літаратурных організацый. Самым-жа правадыром „Узвышша“ трэба, пакуль ня позна, пераглядзець пройдзены імі шлях і сур'ёзна ўзважыць усе тыя памылкі, якія былі імі дапушчаны.

# ЯЗЭП ГОРА

*(Аўтожыцьцяпіс)*

Нарадзіўся я ў вёсцы. Раўніна, вецер гоніць праз яе мільёны жыніх і пшанічных каласоў. Пчолы і ліпа, рэпа і коміны цукраварань, зялёныя хмяльніцы і піваварні, надворак з жарабкамі і галубятняй на высокай ножцы пасярэдзіне, каля якое кружацца на сонцы белыя крыльлі. Але бацькі трацяць маемасьць, бяднеюць, вязуць мяне ў места да сваякоў. У месьце ёсьць гімназія. З адзіноцтва і чытаньня выходзяць мае першыя вершы. І чытаю, чытаю ўсё ад Жуль Вэрна, Робінзона Крузо, чэскіх апавяданьняў аж да Золя, Ніцшэ, Ібсэна, Дастаеўскага і Маркса.

Хадзілі да нас у гімназію вучні, жыўшыя ў кляштары, апранутыя ў манашаскія расы, будучыя капуцыны. Падвечар, калі кляштарная брама ўжо зачынена і маладыя капуцыны маюць пасьля маленьня выправіцца да сну, пракрадаліся мы да кляштару і дэбатавалі за гарбатай з ромам ці ёсьць, ці няма бога. І мы і кляштарныя прыходзілі да вываду, што бога няма, і мы робімся атэістымі. У мястэчку ёсьць пяцьдзесят гасьцініц, у кожнай п'ецца піва, а ўнізе рака, якая ўзбуджае цёплымі вясновымі вечарамі юнацкую мэлянхолію. Па берагу гуляюць дзяўчаты, і вучні дзеляцца першай эротычнай практыкай.

Першага мая па месьце ходзяць процэсіі соцыял-дэмократаў. Чую работніцкія песьні, чырвоныя сьцягі разьвіваюцца і работнікі з фабрык і вёсак напаўняюць вуліцы. Раблюся соцыялістым. Паміж вучнямі іх мала. Нават і сярод бедных. Гэтыя хочуць толькі выўчыцца і зрабіцца ўрадоўцамі. З чэскіх аўтараў робяць на мяне ўплыў рэалістычны поэта І. С. Махар і крытык Ф. К. Шальда. Першыя вершы друкую ў часопісі для жанчын і дзяўчат „Vesna“ („Вясна“). Мэлянхолічныя вершы, імкненьне да далі, вялікіх мест, пачуцьцёвых авантур. А ў думках горкае ўяўленьне: мы, беднякі, ня маем бацькаўшчыны... Настаўнікі нюхаюць тытун, гандляры перад сваімі крамамі кураць з вялікіх люлек, усе заспакоеныя.

Потым еду ў Прагу вучыцца ў унівэрсытэце і жыву часткова пісаньнем фэльетонаў і сатырычных вершаў. У тыя часы, ад 1910 г. да вайны, ня было маладога літаратурнага пакаленьня. Сам чытаў, марыў, пісаў, жыў, хадзіў на опэры Вагнэра, хаця музыку не разумею. Палітычнае жыцьцё праходзіць у дробных міжпартыйных спрэчках, у няшкоднай опозыцыі проці аўстрыяцкае ўлады, у душным чаканьні катастрофы. Гэтак надыходзіць вайна, і акурат у першым годзе вайны выходзіць мая



**Язэп Гора**
выдатны Чэха-Славацкі пролетарскі пісьменьнік і рэдактар комуністычнай часопісі „Rude Pravo“.

першая кніжка „Basně“ („Вершы“). Ніхто яе не заўважыў, зразумела. Хто-б мог думаць аб лірыцы? Чэскія палкі ідуць біцца супроць сэрбаў і рускіх, соцыялістыя маўчаць, да нас у Родніцу прыяжджае правадыр партыі і тлумачыць ціхім голасам мне і даверыным організацыі, што Нямеччына і Аўстрыя маюць перавагу над саюзьнікамі і таму было-б вар'яцтвам, калі-б соцыял-дэмократы намагаліся падняць рэволюцыю. А царызм мусіў быць скінуты.

— А шпік тут нідзе не сядзіць?—гучэла апошняе запытаньне асьцярожнага правадыра, аглядаўшага рэсторацыю.

Набор. Адзін раз, другі і заусёды лекар кажа: Untauglich (няздольны). Агульная фізычная слабасьць. А я меў хвіліны, калі хацеў быць забраным, бачыць вайну, быць сьведкам, перажываць гэтую шалёную авантуру крыві і забойства. Гэта—гаварыў ва мне поэта. Не забралі мяне. Сачу па мапе ў канцыляры ход боек. Жадаю немцам паражэньне, а Аўстрыі зьнішчаньне, чэхам—нацыянальную свабоду. Няма тлустасьці, мяса, вугалю, надыходзіць голад, гарадзкая бедната носіць у вёскі каштоўныя рэчы, вопратку, бялізну на абмен за муку і бульбу. Толькі вайсковыя падрадчыкі багацеюць. Аб гэтых часох напісаў я ў 1925 г. роман „Hladový rok“ („Галодны год“).

Пасьля вайны ўваходжу ў рэдакцыю соцыял-дэмократычнае газэты „Prava Lidu“ („Права Люду“) у Празе. Аўстрыі ўжо няма, соцыял-дэмократычныя сакратары і пасльі робяцца міністрамі ў Чэхаславацкай рэспубліцы. Але ў гэты час у Расіі была рэволюцыя, і ў партыі пачынаецца паўстаньне супраць соцыял-патрыотызму правадыроў і міністэрыялістых. Тады я загадваў літаратурным дадаткам „Права Люду“, і там мы друкавалі першыя інформацыі аб савецкім будаўніцтве, а мяшчанскія газэты ў той-жа час залівалі чытачоў весткамі аб канцы Расіі і аб пачатку пананаваньня бальшавіцкага барбарства. Комуністычныя камісары елі, паводле гэтых вестках, печаных дзяцей. Але ў нас пачынаюцца дэбаты аб пролетарскай і соцыялістычнай культуры. Руская рэволюцыя са сваёй колектывістычнай духоўнай плыняй пачынае ўплываць на літаратараў усіх генэрацый. Маладая, пасьля вайны выступаючая генэрацыя адкідае зусім перадваенны індывідуалізм, і покліч соцыялістычнага мастацтва захапляе амаль усіх маладых. Стары чэскі поэта, Антанін Сова, галоўны прадстаўнік імпрэсыянізму ў чэскай лірыцы, калісь улетку 1920 г. паклікаў мяне на сваю кватэру, якую не пакідаў ужо некалькі год, разьбіты хваробаю, і выпытваўся ў мяне, калі ўздымецца рэволюцыя, калі дамо да яе сыгнал. Што ўздымецца—у гэтым ён быў перакананы, а з ім і шмат хто. Толькі, каб крыві цякло найменей... было яго пажаданьне. Рэволюцыя, аднак, ня прышла, сілы рэволюцыйнага руху хапіла толькі на тое, каб перавесьці масы з соцыял-дэмократыі ў комуністычную партыю.

Але засталася пролетарская поэзія, якую я пачаў сваёю кнігаю „Pracující den“ („Працоўны дзень“), пасьля яе прышла пролетарская лі-

рыка Зайфэрта ды іншых, а потым лірыка Іжы Волькэра, які, праўда, хутка памёр. Мы ня былі толькі тэндэнцыйнымі поэтамі. Сьвет, які ішоў ад старое, разваленае ідыліі дробна-мяшчанскага індывідуалізму да вялікіх масавых адзінак,—даваў нам новую імажынацыю, узбагаціў наш слоўнік вольным дынамічным вершам візыянэрскае сілы і новым комплексам пачуцьцяў і ўражаньняў, якія якраз разам далі чэскую пролетарскую лірыку. Паказалі мы ёю ў Чэхіі на лірызм колектыву, на незакрануты амаль запас разумовых эмоцый, якія выбіваюцца з колектыўнага захапленьня. Аднак, працягу ня было. Наймаладзейшыя і самыя таленавітыя лірыкі Зайфэрт, Нэзвал і Бібль, якія знайходзіліся пад уплывам вучня модэрнічнае францускае культуры К. Тайгэ,—перайшлі да формальнае поэзіі поэтызму

Пасьля некалькіх гадоў супрацоўніцтва з імі зноў стаю адзін на літаратурным фронце, як калісь перад вайною, сябра генэрацыі, якая ніколі ня злучылася. Стаю бяз тых выгод, якія прыносіць сваім сябрам колектыў, бяз выгод узаемнага супрацоўніцтва, крытычнага падтрыманьня, супольнае рэклямы. Таму і ў лірыцы перайшоў я праз некалькі стадый, якія досыць адрозьніваюцца адна ад аднае. Пасьля першага пэрыоду романтызму і соцыялістычных водгукаў уплылі на мяне Verhaeren з чэхам Нэйманам, потым—псыхічны ўплыў вайны і рэволюцыйнага націску.

Чытаў многа, пад час вайны пільна нават і Бодэлера. Але галоўная мая інспірацыя выходзіла заўсёды больш з жыцьця, чым з літаратурнае традыцыі. Часткаю такое жыцьцёвае традыцыі быў для мяне і амэрыканец Walt Whitmann. Даў мне разуменьне модэрнічнасьці, сьвядомасьць прыгожасьці свабоднае матэрыі. Потым прышла вайна і тэлеграмы з фронтаў нагадвалі сваім стылем поўныя здарэньняў вершы. Усё наша перадваеннае жыцьцё было несьвядомым падрыхтоўваньнем да вялікай грамадзкай катастрофы, якая зьнішчыць назаўсёды хворы індывідуалізм і на яго месца наша сьвядомасьць паставіць сталыя ўнутраныя сувязі са сьветам. Соцыялізм быў для мяне больш чым політычна-экономічнай програмай. Значыць—і літаратура больш, чым падганяньнем да тэндэнцыйнага вершаваньня. Калі гаворым пра буржуазнае мастацтва, дык не ўяўляем толькі мастацтва, якое залежыць ад капіталістычнага вонкавага выгляду сьвету, але і на ўнутранай буржуазнай організацыі нашага пачуваньня, нашых пачуцьцяў, нашае імажынацыі. Таксама, калі і думаем пра мастацтва, грамадзкай крыніцай якога мусіць быць соцыялістычны лад. Новая прыгожасьць мусіць стацца выразам таго расьпешчанага матэрыялізму, у якім лірызм будзе ня водгукам романтычна-індывідуалістычнага ўяўленьня, але кветкаю колектыўнага ладу.

Гэтыя словы абстрактныя, як кожнае прадчуваньне далі і будучыні. Лірыка жадае сучаснасьці, усучасьненьня абстракцыі, ажыцьцяўленьня сну вобразам, мэлёдызацыя матэрыі. Пасьля „Па працоўным дню" (1920 г.) я выдаў яшчэ дзьве кнігі, азначаныя, як пролетарская лірыка. Гэта—„Srdce a vrava svèta" („Сэрца і шум сьвету") 1922 г. і „Bourlivi

jaro“ („Бурлівая вясна“) 1924 г. За гэтую апошнюю кнігу меліся мне даць дзяржаўную літаратурную нагароду, але я адмовіўся. „Працоўны дзень“, сваю найсоцыяльнейшую лірыку, пісаў я ў часы, калі „здань комунізму хадзіла па Эўропе“. Уява рэволюцыі і соцыяльны дынамізм таго пэрыоду жылі ў маіх разумовых і пачуцьцёвых тканках, як рачаіснасьць дрэва каханьня, чалавечае скуры. Што рэволюцыя ня прышла да Заходняе Эўропы, напэўна гэта ня значыць, каб мы страцілі веру ў соцыялізм, але нашы вершы рабіліся ідэолёгічным шкілетам. Толькі я ніколі не хацеў пісаць вершам патэтычныя выгукі. Заўсёды лепш быць шчырым і прытарнавацца да праўды свае крыві і сваіх пачуцьцяў, чым супакойвацца толькі чытацкай дыдактыкай, якая ў мастацтве страціць нават сваю сугучнасьць.

Крызіс поэзіі. Не згаджаюся з тымі, хто хоча бачыць у ёй прыладу бойкі, бо, як такая, яна. можа быць карыснай толькі тады, калі будзе дасканалай. Можа выяўляць соцыяльны жах, надзеі, захапленьне, але ня выклік. Для гэтага існуюць тэлеграмы і тэзісы. Але я хацеў мецъ мастацтва соцыялістычным у тым, што-б нам паказала, што на сьвеце ёсьць напэўна іншая прыгожасьць і іншая мэлёдычнасьць, чым тая, якую стварае мяшчанскае мастацтва, што наша ўяўленьне і наш рытм можа напойвацца з іншых крыніц, чым з тых, якія дае буржуазная жыцьцёвая концэпцыя. Калісь я пачаў так званую цывілізацыйную поэзію, што ў футырызьме выслаўляла тэхнічны поступ веку і прыгожасьць новых форм, якія прывяла тэхніка на сьвет. Але ўжо ў „Працоўным дні“ я зразумеў, што пад гэтай новай вонкавай прыгожасьцю—толькі сапраўдная прыгожасьць, якая заключаецца ня ў вонкавым выглядзе цывілізацыі, але ў працоўным рытме, у выслаўленьні работніка, які ёсьць насіцелем модэрнічнае продукцыі і які заклікаы вызваліць яе з буржуазнае атмосфэры. Гэтага вымагае і новае ўяўленьне і пачуцьці прыстасаваньня, каб наглядалі гэтую прыгожасьць будняга дню, гэтую новую атмосфэру, якая зьявілася навокал мільёнаў працоўных рук і родзіцца ў сужыцьці чалавека з матэрыяй, у новай пачуцьцёвасьці і фантаскнасьці мас.

У 1925 г. я выдаў лірычную кнігу „Italie“ („Італія“). Тут, у краіне клясычнае культуры, я зразумеў патрэбу дакладных адносін да матэрыялу і патрэбу мастацкага стылю. У апошняй сваёй лірычнай кнізе „Struny ve vetru“ („Струны ў ветру“) я пастараўся апець уяўленьне часу і напоўніць яго людзкім лёсам. З гэтага таксама вышаў шэраг вершаў з мае падарожы ў СССР, краю пачаткаў тых новых формаў, што вырастаюць над цячэньнем часу, які тымчасам пахавае старую Эўропу.

Сьпярша я многа пісаў прозай, але мала друкаваў. Можа таму, што ўжо амаль дзесяць год займаюся журналістыкай і працую там пад анонімам. І можа ў прозе было найкарысьнейшым быць анонімам пролетарскага бою супроць рэакцыі, чым скарыстаць свае пазнаньні для бэлетрыстыкі. Аднак выдаў у 1922 г. палітычны роман-фэльетон „Socialistická

Nadije“ („Соцыялістычная Надзея“), баявы памфлет супраць соцыял дэмократыі. Цяпер гэтую кнігу пераклалі на расійскую мову, хаця для мяне было-б больш пажаданым, каб пераклалі „Галодны год“, які, аднак, таксама не ўважаю за дзіва, але ўсё-ткі за рэалістычны дакумант соцыяльнага жыцьця, у Расіі нязнанага. Або лепш, каб пераклалі мае вершы, у якіх маё значэньне.

Мне ўжо 36 гадоў, а мы ўсё сярод бою. Памятаю добра часы перад вайной, успамінаю іх з агідаю. Дачакаліся мы вайны, незалежнае чэскае дзяржавы і рускае рэволюцыі. Досыць, каб цэлае жыцьцё нашага пакаленьня было адзначана знакам вялікіх здарэньняў і пераканаmaking ньнем, што дачакаемся яшчэ больш. Гэта таксама мае пэўнае значэньне. Быў я ў Рыму, Бэрліне, Маскве і Ленінградзе. Тады ехалі мы восеньню 1925 г. праз Беларусь і праз Менск, але не затрымаліся там, і я ня ведаў, што праз два гады спаткаюся з Купалам ды іншымі беларускімі поэтамі дома ў Чэхіі. Вітаю іх усіх, і гэтым, думаю, будзе найлепш скончыць гэты артыкул.

# КНІГАПІС

**Т. Гушча — Я. Колас „У глыбі Палесься“, аповесьць.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск, 1927 г., стар. 201.*

Беларуская мастацкая проза як нашаніўская, так і пасьлякастрычнікавая, вызначаецца, можна сказаць, побач з цэлым радам дадатных у мастацкіх адносінах асаблівасьцяй, і характэрнымі для яе (характэрнымі, зразумела, наогул, бо ёсьць і выключэньні) адмоўнымі якасьцямі; у першую чаргу тут трэба аднесьці: прымітыўнасьць сюжэтнага замыслу, яго мастацкае афармленьне на ўбогай, мала разьвітай фабульнай канве, адсутнасьць інтрыгуючых элемэнтаў, неспадзеўных сытуацый і арыгінальных разьвязак, якія-б захаплялі чытача і прыкоўвалі да сябе яго ўвагу; мала таго: беларускія пісьменьнікі-прозаікі, як правіла, выяўляюць нейкую прыкрую тэндэнцыю да проста такі безгранічнага абмежаваньня апавядальных элемэнтаў у сваіх творах, забываючы, што эпічны поэт зьяўляецца, і павінен зьяўляцца, перш за ўсё, апавядальнікам, што асноўная мастацкая ўстаноўка ў эпосе—апавяданьне аб паступках і прыгодах пэўных асоб. Заместа гэтага, беларуская проза ўся наскрозь дагэтуль запалонена апісальным матэрыялам, матэрыялам далёка няўдзячным для мэт і задач літаратурнага эпосу. Ужо Лесынг (XVIII ст.) у сваёй працы „Ляокоон або аб граніцах малярства і поэзіі“, зьвярнуў увагу на тое, што апісаньне зьяўляецца больш уласьцівым малярству і пластыцы, чымся поэзіі, мастацтву пераважна часоваму, якое мае магчымасьць паказаць рад падзей і здарэньняў у іх дынамічным разьвіцьці. Гэта, пэўна, ня значыць, што пісьменьнік павінен зусім ухіляцца апісальных момантаў; гэта толькі значыць, што ў эпічнай поэзіі апісальнасьць павінна быць падпарадкавана апавядальнасьці, як самай істотнай і асноўнай базе гэтай жанравай літаратурнай катэгорыі. Гэтага прынцыпу, на жаль, ня прытрымліваецца беларуская літаратура ў асобе найвыдатнейшых нашых пісьменьнікаў-прозаікаў, довадам чаго зьяўляецца і разгляданы тут твор Тараса Гушчы, другая часьць задуманай ім трылёгіі (першая часьць „У палескай глушы“ вышла ў сьвет у 1923 г.).

Сваёй агульнай экспозыцыяй поэтычнага матэрыялу „У глыбі Палесься“ аналёгічна з „У палескай глушы“: вясковая школа, як цэнтральная пляцоўка дзеяньня, навокал якой групуюцца ўсе іншыя сцэны і пэрсонажы—прадстаўнікі ўсё тых-жа соцыяльных пластоў, што і ў I ч. аповесьці, а іменна: сельскія настаўнікі, вясковае духавенства, валасная бюрократыя (стараста, пісар, старшыня), сялянства (у розных праслойках); вандроўка і падарожжа, як мастацкі мэтод паказваньня новых фігур і сытуацый; на горызонце маладая жанчына, як пункт прыцягненьня галоўнага гэроя, усё таго-ж Лабановіча (там, у I ч. аповесьці, у большай меры; тут, у II ч. аповесьці, у меншай). У рэзультаце перад намі на канве даволі нескладанай і аднастайнай фабулы разгортваецца пісьменьнікам просты сюжэт: прыезд Лабановіча з школы

на летнія канікулы ў вёску, летні адпачынак у роднай хаце, новая школа ў глыбі Палесься пад Пінскам і прыгоды, зьвязаныя з працай у ёй. Як першая, так і другая часьць аповесьці абмяжованы рамкамі невялікага адрыўку часу—меней аднаго году (там — восень, зіма і вясна; тут— лета, восень і зіма)—характэрная рыса малафабульных твораў. Гэты сюжэт зьвязвае і організуе ў адно мастацкае цэлае асноўная тэма твору: *дасьпяваньне грамадзкага самаўсьведамленьня галоўнага гэроя аповесьці Лабановіча.* Праўда, першыя парасткі гэтага самаўсьведамленьня аўтар паказаў быў нам ужо ў „У палескай глушы“, але там яно мела ня гэтулькі грамадзкі зьмест, колькі было індывідуалізавана ў агульным разьвіцьці характару Лабановіча, у выяўленьні яго першых эмоцыянальных нюансаў, першых рысак фармаваньня індывідуальных валявых працэсаў. Ад захапленьня сваімі асабістымі пэражываньнямі Лабановіч у II ч. аповесьці ўступае ў пэрыод аграмаджаньня, у пэрыод урастаньня ў грамаду ў якасьці актыўна-дзейнай адзінкі, з ярка індывідуалізованай асабістасьці, якая значна адрозьнівалася сваёй псыхо-ідэолёгіяй ад колектыву —сялян (рэзультат, паміж іншым, і сэмінарскага выхаваньня), Лабановіч тут вачавідкі формуецца ў бок зблізкэньня з гэтым колектывам, збліжэньня, прадыктаванага грамадзкім, не скажу абавязкам (гэта мела месца ў I ч. аповесьці, дзе перад Лабановічам час-ад-часу ўставала здань грамадзкага абавязку), а самаўсьведамленьнем, грамадзкім яго самавызначэньнем. Ад глыбока-суб‘ектыўнае рэфлексіі, афарбованае змрочнымі колерамі пэсымізму, і пасыўнае (пераважна пасыўнае) нездаволенасьці рэчаіснасьцю, якія панавалі над Лабановічам у „У палескай глушы“, да актыўнага рэволюцыйнага чыну, прычым чыну не адасобненага, а зьлітага з грамадой, раствораната ў чыне грамады,—вось шлях псыхічнага фармаваньня галоўнага гэроя аповесьці. І калі на пачатку гэтага шляху мы бачым Лабановіча, пераможанага індывідуальнай стыхіяй, здрузготанага навалай асабістых пэражываньняў-няўдач, абезнадзеянага (апошні акорд I ч., ліст да Ядвісі з вельмі яркай самахарактарыстыкай у ім: „Вас ужо няма тут. Вы паехалі, а разам з сабою забралі ад мяне ўсё, што зьвязвала мяне з гэтым месцам, з гэтым кутком Палесься. Цяпер ён ня жыве для мяне, бо ўсё тое, што прыдавала яму прыгоства і нейкую чароўнасьць, забралі Вы. Я тут адзін, усё тут стала ня міла для мяне, як-бы яно памерла і зьнікла, і толькі адзін няжывы труп застаўся ад усяго, што раней гарнула і вабіла мяне...“),—то ў канцы наступнага этапу гэтага шляху, у канцы II ч. аповесьці Лабановіч, арыштованы за рэволюцыйную дзейнасьць, праходзіць перад намі пад канвоем казакаў як пераможнік-гэрой, вынесены наповерх стыхіяй грамадзкага парадку. І ня гледзячы на моцны казацкі канвой, чытач адчувае, што Лабановіч, прайшоўшы пэрыод свайго грамадзкага фармаваньня, цяпер то іменна і ўступае ў паласу самага яркага жыцьця-змаганьня, у якім разгорнуцца ва ўсю яго душэўныя сілы, як прадстаўніка сваёй соцыяльнай групы. Трэба спадзявацца, што гэта выявіць аўтар у наступнай III ч. аповесьці

У якой меры ўдалося пісьменьніку мастацкае афармленьне гэтай асноўнай тэмы яго аповесьці і на якім матэрыяле конкрэтызаваў ён яе? Распачнем з матэрыялу. Прырода-апісальная стыхія, так характэрная для вершаванага эпосу Якуба Коласа (поэмы „Новая зямля“, „Сымон Музыка“), у разгляданай тут аповесьці (як у I, так і ў II ч.), зьяўляецца толькі агульным фонам, рамкамі. Тут апісаньні прыроды пазбаўлены тэй самамэтнасьці, таго самалюбаваньня, якое мы бачым у названых вышэй творах, дый па колькасьці ў агуль-

най композыцыі аповесьці яны займаюць нязначнае месца (зачыны III і XXVIII разьдзелаў I ч. і зачыны I і XIII разьдзелаў, а таксама ўстаўка ў XIV разьдзел II ч.). Але і тут яны захоўваюць ва ўсёй моцы глыбокую эмоцыянальнасьць і мастацкую выразьлівасьць, так характэрныя для гэтага Коласаўскага жанру. У яго ня толькі паказваецца прырода, пэйзаж, але даецца і перажываньне аўтарам (або гэроямі твору) гэтае прыроды, гэтага пэйзажу, часамі быць можа яшчэ неўсьвядомленае, але прасякнутае асаблівымароматам. У гэтай іменна непасрэднасьці, у гэтым зьліцьці суб'екта (аўтара-гэроя) з об'ектам (прыродай)—чароўнасьць і мастацкая пераканаўчасьць Коласаўскіх малюнкаў прыроды. Пяшчотныя, журботналаскавыя, лагодныя тоны, пераважаючы тут, характарызуюць, быць можа, ня гэтулькі беларускую прыроду, пэйзаж, колькі іменна іх суб'ектыўнае ўспрыйманьне аўтарам і выкарыстаны часта ў якасьці композыцыйнага паралелізму, проекцыі асабістых перажываньняў у прыроду.

Аднак азначаная вышэй тэма разьвіваецца аўтарам ня толькі (дакладней кажучы—часамі толькі) на фоне прыроды. Значна большую ролю іграюць тут бытаапісальныя элемэнты; але і яны не займаюць у „У глыбі Палесься“ цэнтральнае позыцыі. Малюнкі вясковага быту, так ярка паказаныя Тарасам Гушчай у I ч. аповесьці, тут як-бы адсунуты ў цень (калі ня лічыць апісаньня побыту Лабановіча ў родным сяле Мікуцічах) трэцяй стыхіяй—портрэтапіснай. Якуб Колас, як пісьменьнік-портрэтысты (разумею тут ня толькі портрэт—знадворны выгляд, але і портрэт—характар), карыстаецца ў беларускай літаратуры ўжо даўно заслужанай славай. Але мне здаецца, што на тую вышыню мастацкае дасканаласьці і віртуознасьці ў гэтым жанры, якую мы бачым у разглядаванай тут II ч. аповесьці, ён падымаецца ўпяршыню. Фактычна кажучы, портрэт, як мастацка, так і колькасна, беспадзельна пануе тут. „У глыбі Палесься“ зьяўляецца як-бы портрэтнай галерэяй, праз якую праводзіць аўтар зачараванага і захопленага чытача, паказваючы яму ўсё новыя тыпы-характары. Гэта портрэтапісная стыхія, якая бязумоўна падпарадкавала сабе ўсе іншыя элемэнты аповесьці, якая ў значнай меры засланіла сабой і разьвіцьцё асноўнай тэмы аповесьці, знайшла сваё выражэньне і ў композыцыйнай цыклізацыі поэтычнага матэрыялу. Цыкль першы—мястэчка Панямонь і яго мясцовая інтэлігенцыя: фэльчар Мікіта Найдус, валасны старшыня Брыль Язэп, настаўнік Шырокі і яго жонка Вольга Сьцяпанаўна, сядзелец Кузьма Скаромны, панямонскі абыватаць Мікола Зязюльскі, памоцнік пісара Савось Карэнчык, дзяк Майсей Памахайлік, местачковая Клеопатра—настаўніца Тамара Аляксееўна, „рэдактар“ Бугбэрг і інш. Усю гэту кампанію, сабраную за зялёным столікам, аўтар зарысоўвае ў радзе жывых, метка схопленых портрэтаў, — зарысоўвае як-бы мімаходам, адным-другім штрыхом, але штрыхом так характэрным, што выяўляе самую існасьць характару данае асобы. Вось перад намі Базыль Трайчынскі, які „маючы размову з чалавекам, крыхуківаў галавою і глядзеў як-бы з-пад нізу, наўперад адным вокам, а потым, перакінуўшы галаву ў другі бок, другім. У гэтым пункце ён меў падабенства з курыцаю, калі яна шукае па хаце крошак“; вось „Брыль Язэп, нізенькі, кругленькі, чалавечак накшталт французскае булкі, з носам драпежніка“; вось абыватаць Зязюльскі „з худым ружовым тварам, які блішчаў, як вычышчаны рондаль. Генэральскія вусы рабілі яго важным, нават да некаторай ступені і грозным,—і толькі нізкі рост яго значна перашкаджаў поўнаму стану гэтай грознасьці“; вось дзяк, што „належаў да тыпу людзей, якіх звычайна называюць цьвілымі або сьметанко-

выміʻʻ. Вялікая спрактыкованасьць і ўпэўненасьць мастацкага пэндзля асабліва чуецца там, дзе Я. Колас дае больш разьвіты і закончаны портрэт. Вось, напрыклад, портрэт „рэдактара“ „Панямонскіх ведамасьцяй“: „Лысы, лоб круты, маршчыністы, сам сутулаваты, прысадзісты. Адзеты бедна, але паінтэлігенцку. З пачатку цёмная, па канцох рыжая, барада яго пачыналася чуць не ад самых вачэй. Бровы навіслыя, густыя. Твар пануры, але ён часта мяняецца. Вочы неспакойныя, часамі глядзяць нейк дзіка, і іх выраза таксама мяняецца часта. З вушэй тырчаць цэлыя кусты густых валасоў. Гаворыць чотка, выразна, гладка, нават красамоўна. У некаторых пунктах размовы звонка б'е далоньню аб далонь. На від яму гадоў пад пяцьдзесят“. Як бачым, Я. Колас, даючы пераважна знадворны портрэт, умее дасканала праз гэтыя знадворныя штрыхі паказаць і ўнутраны сьвет дзейных асоб, іх характар, тэмпэрамэнт, умее падкрэсьліць на маляваных ім портрэтах іменна тыя знадворныя рысы, якія выяўляюць псыхолёгічныя асаблівасьці яго гэрояў. Замест таго, каб апісваць унутраны характар свайго гэроя, яго псыхолёгічны стан, Я. Колас падмячае ў ім нейкі асаблівы жэст, рух, нейкую спэцыфічную рысу ў твары, фігуры, хадзе, вопратцы—і перад намі жывы портрэт. У гэтым сэнсе Я. Колас прыналежыць да тых об'ектыўных пісьменьнікаў, якія, як заўважыў недзе Мопасан, хаваюць псыхолёгію замест таго, каб выстаўляць яе, робяць з яе аснову, накшталт нябачанага шкілету чалавека (выключэньнем зьяўляецца галоўны гэрой аповесьці, псыхолёгічныя станы якога дае аўтар і ў непасрэдным выяўленьні).

Другі і асноўны цыкль тае портрэтнае галерэі, якой зьяўляецца разгляданы тут твор,—сконцэнтрован навокал школы у глыбі Палесься пад Пінскам. Першая фігура—дзяк Бацяноўскі, „асоба ў заношаным паліце на гарадзкі лад, доўгавалосая, з неахайным хмызам на твары“... „далонь і пальцы ў яго былі нейк ненатуральна вывернуты і напаміналі сабою лапу вялізнага крата“. Далей ідуць ня менш тыповыя фігуры провінцыяльнае дарэволюцыйнае кунсткамэры: айцец Мікалай з „дамачадцамі“, валасны пісар і яго памоцнік, старшыня Захар Лемеш, фігура вельмі колёрытная і інш.; тут перад намі портрэты прадстаўнікоў палямуцкага сялянства—дзядзькі Есыпа, старасты Бабіча, бунтара супроць валаснога начальства Цімоха Жыгі, і аднэй з цэнтральных фігур гэтага цыклю, распрацованай Я. Коласам з асаблівым замілаваньнем—Аксёна Каля, прадстаўніка найбольш рэволюцыйных, найбольш грамадзка-сьвядомых, найбольш грамадзка-актыўных пластоў дарэволюцыйнае вёскі; тут портрэт маладой настаўніцы,—энтузыясткі і рэволюцыянэркі, Андронавай, портрэты пінскіх рэволюцыянэраў-падпольнікаў Глеба, Саламона, т. Грышы, і шмат іншых.

Усе гэтыя портрэты даны аўтарам так ярка і маляўніча, з такім майстэрствам і размахам, што, ня гледзячых на пэўную мэханічнасьць і композыцыйную неапраўданасьць сувязі паміж некаторымі пэрсонажамі аповесьці, а таксама паміж імі і галоўным гэроем аповесьці, настолькі захапляюць нас, што, не адрываючыся ад іх, прабягаеш гэту портрэтную галерэю, каб зноў вярнуцца ў яе і ўжо падоўгу стаяць перад паасобнымі яе экзэмплярамі. Такім, проста-такі беспадобным, экзэмплярам, зьяўляецца, напрыклад, пісар Дулеба, калі ён у царкве чытае апостала, „пачынаючы з самай нізкай басовай ноты, гудзе як шэршань у пустым асінавым дупле“, каб закончыць „жудасным завываньнем“. Гэта другі і асноўны цыкль портрэтаў паказан аўтарам на даволі яркім экране водгаласаў рэволюцыі 1905 г. ў глухой беларускай провінцыі.

Пазнаёміўшыся ў агульных рысах з поэтычным матэрыялам аповесьці, вернемся да пытаньня, пастаўленага намі вышэй, а іменна: у якой меры ўдалося аўтару мастацкае афармленьне асноўнай тэмы гэтага твору? Ці процэс дасьпяваньня грамадзкага самаўсьведамленьня Лабановіча мае пад сабою ў аповесьці выстарчальную соцыялёгічную базу і мастацкую апраўданасьць? І наколькі тыповым зьяўляецца гэты процэс для цэлай групы вясковага дарэволюцыйнага (падзеі аповесьці адносяцца да 1905 г.) настаўніцтва?

На ўсе гэтыя пытаньні, мне здаецца, нельга даць зусім дадатныя адказы. Портрэтапісная стыхія, запанаваўшы ў аповесьці, засланіла сабой, як было вышэй зазначана, разьвіцьцё гэтай асноўнай тэмы, прымусіўшы аўтара да лаконічнасьці, а часта нават ляпідарнасьці, на гэтай іменна лініі яго аповесьці. Сапраўды, на пачатку аповесьці (стар. 60) Лабановіч яшчэ зусім політычна несьвядомы. Ён толькі ледзь-ледзь пачынае заўважваць нейкую нявязку паміж жыцьцём і тым, „што ўбівалася ў іх галавы ў сэмінарыі". Ён нават не разумее слова соцыялісты, або разумее яго так, што „гэта проста той прапашчы чалавек, які асьмельваецца нядобра думаць аб цару". На стар. 190 Лабановіч у сваёй прамове да сялян выяўляе ўжо бадай поўную сьвядомасьць што да каранёў соцыяльнага зла. Ён тут, у словах даступных, простых, зразумелых сялянству ўскрывае як політычныя, так і соцыяльна-экономічныя падваліны старога ладу і заклікае да яго разбурэньня, да будаваньня новага жыцьця. Паміж гэтымі момантамі дыстанцыя, як бачым, даволі вялікая. Што-ж запаўняе яе, якія фактары зрабілі такі вялікі ўплыў на разьвіцьцё грамадзкае сьвядомасьці Лабановіча? Ня фактары, а фактар; так, адзін толькі фактар, і гэтым фактарам зьявілася рэв.-агітацыйная брошура, падкінутая ў школу Лабановічу. Аб гэтым здарэньні аўтар расказвае на стар. 109—111. „Першае, што адчуў Лабановіч, прачытаўшы кніжачку, быў страх, страх пустаты, як-бы пад яго нагамі захістаўся грунт і перад ім расчынілася нейкая бяздоньне",—вось тое ўражаньне, якое зрабіла на яго гэта брошура. І далей „гэта маленькая кніжачка зрабіла цэлую рэволюцыю ў мысьлях Лабановіча". А пасьля гэтай брошуры Лабановіч перад намі—рэволюцыянэр, спачуваючы ці член організацыі соц.-рэволюцыянэраў, організатар сялянскага выступленьня і захвату заток і сенажаці, якімі карыстаўся дагэтуль пан Скірмунт; арышт яго ў гэтай ролі казацкім канвоем служыць заслонай для II ч. аповесьці. Процэс грамадзкага фармаваньня Лабановіча, як бачым, надта ўпрошчан аўтарам, зьведзен да агітброшуры, а таму, у значнай меры, пазбаўлен у гэтых адносінах жыцьцёвасьці, тыповасьці, а галоўнае, пераканаўчасьці. У гэтым асноўная загана аповесьці.

Мова аповесьці вызначаецца яснасьцю, стылістычнай зграбнасьцю пры багатай беларускай лексыцы (сынтакс сям-там рускі), пры колёрытнасьці фразэолёгіі; характарызуючы дыялёг, які ў аповесьці займае, бадай, пануючае месца, будуе Я. Колас віртуозна, паслугуючыся тут рознастайнымі, часта вельмі трапнымі і неспадзеўнымі аўтарскімі рэмаркамі.

У заканчэньне нашай рэцэнзіі, вернемся да таго, з чаго пачалі, а іменна, да суадносін у аповесьці апавядальных і апісальных элемэнтаў. Пераважваюць ў ёй, бязумоўна, апошнія. Дзеяньне аповесьці разгорнута больш у прасторы, чымся ў часе. Інтрыгоўнасьць у сюжэце адсутна. Тэмп аповесьці марудны (што характэрна для апісальных твораў). І тым ня менш чытаецца яна з вялікай цікавасьцю, чытаецца і перачытваецца. У чым справа? Значыць, Лесынг ня меў рацыі, называючы апісальны матэрыял няўдзячным для поэзіі? Не,

нам здаецца, што Лесынг усё-ткі нагогул меў рацыю. Вялікае мноства апісальнага матэрыялу, які пануе ў беларускай прозе, бясспрэчна адмоўна адбіваецца на літаратурнай вартасьці апошняе; ад апісаньня да распрацоўкі сюжэту, фабулы—вось мастацкая задача, якую сёньня павінны паставіць перад сабой белар. пісьменьнікі, а ў тым ліку, *часткова* і Я. Колас. Кажу часткова, бо апісальны матэрыял для апошняга бязумоўна не зьяўляецца няўдзячным. Наадварот, дзякуючы вялікаму майстэрству, мастацкай спрактыкаванасьці і віртуознасьці ў гэтым жанры (апісаньне прыроды, быту, портрэту), якія ўласьцівы пяру Я. Коласа, ён мог дазволіць сабе будоўлю на апісальных элемэнтах твору такога вялікага літаратурнага стылю, як разгледжаная тут аповесьць. Але гэта ня значыць, што Я. Колас не павінен шукаць нейкай большай сымэтрыі і роўнавагі, нейкага сынтэзу элемэнтаў апавяданьня і апісаньня ў сваіх творах. Ад такога сынтэзу нават і яго мастацкая проза можа толькі выйграць.

**Улідзе.**

**Праца Навуковага Таварыства па выўчэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі ў Горках, том IV,** *выданьне Інстытуту Беларускае Культуры.*

Гэта кніжка, што мы рэцэнзуем, мае ў сабе дзьвесьце старонак з лішкам. Выдана яна з тэхнічнага боку добра, па форме свайго выданьня і па зьместу яна зусім падобна да запісак акадэміі ці на працы старых унівэрсытэтаў. Толькі адрозьніваецца гэтая кніга ад акадэмічных запісак тым, што ў ёй мала чужаземнага тэксту, а калі часам і сустракаюцца выразы на чужаземных мовах, дык яны зараз-жа тлумачацца пабеларуску. Дзякуючы гэтаму, кніга зьяўляецца зусім даступнаю для шырокіх колаў інтэлігенцыі: прыродазнаўцаў, агрономаў, дактароў ды іншых асоб, якія цікавяцца станам прыроды Беларусі і разьвіцьцём яе экономікі. У кніжцы зьмешчана дванаццаць прац, якія зьяўляюцца орыгінальнымі досьледамі. Некаторыя з гэтых прац маюць вузкае акадэмічнае значэньне, а некаторыя не пазбаўлены агульнаграмадзкай цікавасьці. Да такое працы, якая набывае агульна-грамадзкую цікавасьць, трэба ў першую чаргу залічыць працу В. Пудава—„Галоўныя моманты організацыйна-экономічнага стану колектыўных гаспадарак Аршанскай акругі ў параўнаньні з сялянскаю гаспадаркаю“. Тут аўтар апісвае ўсё тое, што яму ўдалося заўважыць пры выўчэньні колектывізацыі гаспадарак, а таксама экономічны стан тых гаспадарак, што злучыліся ў колектывы, і вызначае прычыны, якія шкодзяць аб'яднаньню гаспадарак у колектывы. Сучасныя колектыўныя гаспадаркі падзяляюцца на сельска-гаспадарчыя комуны і сельска-гаспадарчыя таварыствы, ці земляробчыя сябрыні. Розьніца паміж комунамі і сябрынямі нязначная: у комунах большы лік маемасьці аграмаджаны (зроблены грамадзкай уласнасьцю), у сябрынях—меншы лік, але і ў комунах і ў сябрынях ня ўсё яшчэ аграмаджана. Цікава тое, што на дзесяціну ўжытковае зямлі ў колектывізаваных гаспадарках прыпадае меншая лічба рабочых рук і меншая лічба жывёлы, але ўраджайнасьць з дзесяціны ў колектыўных гаспадарках вышэйшая, чым у сялянскіх гаспадарках. Гэта тлумачыцца тым, што ў сялянскіх гаспадарках ня старчыць інвэнтару, і дзякуючы сваёй маламожнасьці набыць добры інвэнтар яны ня могуць. Адным словам, сялянская дзесяціна дае 85—90 проц. таго, што дае дзесяціна ў колектыўнай гаспадарцы. Той экономічны заняпад, які перажывалі с. г. комуны і с.-г. сябрыні тры—чатыры гады таму назад, аўтар тлумачыць тым, што ня было правільнага кіраўніцтва з боку адпавед-

ных урадавых органаў. Шкодзяць колектывізацыі гаспадарак выключна інэртнасьць і цемната самога гаспадара. Адным словам, артыкул зьяўляецца вельмі цікавым, і варта было-б, каб даныя, зьмешчаныя ў артыкуле, былі папулярызаваны і распаўсюджаны сярод шырокіх колаў сялянства.

Даволі цікавымі для сялянства зьяўляюцца артыкулы Т. А. Паўлава аб гадоўлі кароў і атрыманьні ад яе ў нашых беларускіх умовах найбольшага ўдою малака. У сваім артыкуле Алесь Дзямідовіч высьвятляе ступень засьмечанасьці сялянскіх палёў і тыя прычыны, што спрыяюць гэтай засьмечанасьці. Усе гэтыя артыкулы па сельскай гаспадарцы цікавы тым, што яны не компіляцыі, але самастойныя досьледы і да таго напісаны яны добра і зразумела. Побач з станоўчымі бакамі, у выданьні ёсьць і адмоўнасьці. Да такіх адмоўнасьцяй трэба аднесьці тое, што ў шмат якіх артыкулах не адзначана літаратура, якая зачапляе гэтае пытаньне, і атрымліваецца ўражаньне, што па гэтым пытаньні ніхто нідзе яшчэ не працаваў, тымчасам, як па некаторых пытаньнях працы вяліся. Напрыклад, артыкул Я. Сьвірскага аб афарбоўцы пігмэнтам кветак у расьлін. Гэты артыкул зьяўляецца вельмі цікавым і для біолёга і для хэміка, і аўтар у гэтым артыкуле высьвятляе шмат цікавага, але было-б яшчэ цікавей, каб аўтар паказаў і тую літаратуру, якая так ці інакш закранала гэтае пытаньне. У артыкуле М. М. Ганчарык—„Беларускія назовы расьлін“ няма тлумачальніка скарочаных назоў, напрыклад, што абазначае такое скарачэньне „Ан. Даб, Дэм і г. д.“ Калі хто хоча зразумець гэтае скарочанае слова, дык ён павінен шукаць тыя выданьні, дзе друкаваліся першыя працы аўтара па гэтым пытаньні. Значна было-б лепш, каб аўтар далучыў да гэтага-ж тому і тлумачальнік скарочаных назваў. У вогуле трэба адзначыць, што Горацкае Навуковае Т-ва шмат працуе ў галіне дасьледваньня прыроды Беларусі, і яго працы заслугоўваюць вялікае ўвагі з боку культурных працаўнікоў.

**Чытач.**

**Валеры Маракоў. „На залатым пакосе“. Вершы**. *Выданьне ЦБ „Маладняка“, Менск, 1927 г., стар. 72, цана 65 кап.*

Імя Валерыя Маракова ўжо досыць добра вядома нашым чытачом. Яго вершы друкаваліся ў часопісях „Чырвоны сьцяг“, „Маладняк“, „Полымя“, у газэтах—„Савецкая Беларусь“, „Зьвязда“ і, урэшце былі, выданы зборнікам „Пялёсткі“.

Зараз перад намі новы зборнік яго вершаў „На залатым пакосе“. Гэта—новы падарунак маладога таленавітага беларускага поэты, гэта—новая, моцная і прыгожая цагліна ў будынак беларускай літаратуры, у мур беларускай культуры наогул. Прыгожыя ўзоры высокай мастацкасьці Мараковым былі ўжо даны і ў „Пялёстках“, але зборнік „На залатым пакосе“ сьведчыць аб тым, што малады поэта зрабіў вялікі крок наперад як з формальна-мастацкага боку, так і з боку ідэолёгічнага. Яго рытм сапраўды стаў „буйным і сакавітым“, а на акаляючае жыцьцё ён пачаў глядзець зусім пановаму.

Амаль што ўсе рэцэнзэнты „Пялёстак“ вельмі непакоіліся з прычыны ідэолёгічнае няусталясьці Маракова. Трэба прызнацца, што ад „Пялёстак“ сапраўды павявае нейкай журботнасьцю, сумам і можа нават упадніцтвам. Аб чым-жа гавораць нам вершы „На залатым пакосе“? У чым разгортваецца талент маладога поэты? Дзе цені і дзе сьвятло ў творчасьці Маракова?

Дзеля лепшае выразнасьці адказаў на пастаўленыя запытаньні мы будзем разглядаць „На залатым пакосе“ ў некаторым параўнаньні з „Пялёсткамі“.

Папершае, трэба адзначыць, што рысы такога сваясабістага санты-

мэнталізму, якія адразу кідаюцца ў вочы ў „Пялёстках“, у зборніку „На залатым пакосе“ амаль не сустракаюцца. Калі ў „Пялёстках“ амаль з кожнае старонкі выглядалі сьлёзы, выглядаў плач ды нават вось у якім паступова-разгорнутым малюнку—перш:

Сэрца балюча плача,

пасьля:

Так моцна, так глуха галосіць душа,

далей:

... плачаш, плачаш, сьлёзы льлюцца,
Яны гараць, пякуць агнём;

з яго самога плач пераходзіў на акаляючую асярэдзіну:

... праплача мой родны, мой любы народ,
Праліе свае сьлёзы...

З народу плач пераходзіць на дрэвы:

... хвоі, асіны і лазьняк
Свае сьлёзы губляюць і роняць,

пасьля:

Зара праплача,

пад канец:

Зьвініць і плача залатая шыр,

і ўрэшце:

... Цяпер хай плача ад болю
Ўсё, што хоча з надзеямі жыць,
Бо ўжо хутка над лесам і полем
Маім песьням ня будзе мяжы!

то зараз, сапраўды, хутка гэты плаксівы, мэлянхолічны настрой мяняецца. Мінулае здана ў архіў і

Наша сонца сягоньня гарыць
Цьветам яркім румянай зары;

а калі так, то

... выходзь маладзецкая раць
На прасторах маёўку спраўляць,

таму што:

На прасторах зялёных палёў
Ўсё цьвіце-расьцьвітае, жыве,
Ўсюды радасьць і звон галасоў,
Ўсіх прывольле сягоньня заве.

Калі Маракоў яшчэ ўчора ішоў „на радзімую сінь“

пад асеньнія сьвісты пажоўклых асін,

то сёньня яму хочацца

.... Згубіць гэтай восені хмары,
Каб навекі забыць пра крыжы,

бо сёньня „ў юнацкіх грудзях“ чуваць новыя песьні. Калі яшчэ ўчора, кажучы

О, каменьне замоўкла, каменьне маўчыць,
Яно цёплага слова ня скажа.
Калі так, я хачу між палёў адпачыць,
Хай палі мне пра сонца раскажуць,

Валеры Маракоў уцякаў ад адмоўных зьяў жыцьця, у прыватнасьці, адмоўных бакоў гарадзкое культуры „на ўлоньне прыроды“, то сёньня ён шчыра прызнаецца, што

... калісьці думаў, думаў я ня раз,
Што ў прасторах сініх ёсьць надзей разгар,

але ён сёньня пераканаўся, што

Гэта ўсё няпраўда, гэта ўсё мана,

і з гэтае прычыны:

Я сягоньня новы, іншы як заўчора,

і таму

Не магу я болей так нікчэмна жыць.

Ён хоча жыць так,

Каб ня плакаць болей бяз душы і слоў,

бо

... сэрца палае каханьнем,

бо

Наша песьня надзей і юнацтва.
Наша радасьць ня згіне у цьме!

Ён зараз хоча,

Каб вольныя дзіўныя гукі
Краіне сваёй даравацъ,
... Каб гэты сьпеў бадзёра-новы
Разьвеяў крыўду і туман,

бо

Цяпер ў грудзёх другія словы,
Другі агонь ў душы жыве
І гэты сьпеў бадзёра-новы
Да сьветлай праўды сьвет заве.

Ён бачыць, што

Над кожнай хатаю бясконца
Вяснова новы сьпеў разьлёг,

і таму ён гарыць агнём жаданьня,

Каб песьняй радасьці і волі
Праславіць нашу Беларусь;
.. Каб у гэта раньне сьпець пра нашу волю
І пра наша шчасьце і пра наш прастор!

Ён зьвяртаецца да свае краіны:

Ах, мой край каханы, залаты мой край,
Не хачу так рана ў песьнях дагараць,

бо

Сёньня радасьць б'е у грудзі;
Сёньня людзі, ўсюды людзі...
Сёньня родны край цьвіце,
Сёньня вольны май заве!

Праўда, у гэтай сёнешняй радасьці гучаць і ноткі трывогі і турбот за грамадзкі спакой. Яму чуецца, што

Хтось крычыць аб крывавай пагрозе,
Што прыносяць для сьвету гудкі;

ён чуе, што

... там за нашым даляглядам
Жадаюць зноў і боек і ахвяр,
Каб нашу волю, наш прастор і ра-
дасьць
Пусьціць на вецер к чорту на пажар!

Але

Няхай-жа знаюць—бруднымі нагамі
Ім не прайсьці над нашай галавой,
Бо ўсе мы, ўсе адзінымі шляхамі
За кроў сваіх адплацім ім крывёй.
І ўсе аднэй вялікай пуцявінай
Яшчэ упарцей пойдзем і сьмялей,
А нашым ворагам ня быць у тэй краіне,
Дзе будзе жыць краіна БССР!

Чытаючы гэтыя радкі, радкі поўнай мужнасьці і гатоўнасьці рынуцца ў бой за вольнае і прыгожае жыцьцё „краіны БССР" і, натыкаючыся на жаданьне

Дабром за ўсё... за ўсё дабром пла-
ціць!

на гэты эвангэльска-хрысьціянскі тэзіс, дык проста дзіўна становіцца. Ідэалы містычна-эвангэльскіх шуканьняў знайшлі сабе прытулак у Маракова, што зьяўляецца аднэю з заган у яго творчасьці.

У зборніку „На залатым пакосе" знайшлі сабе адбітак мотывы грамадзянскае вайны. Яму ўспамінаецца, калі

... У палёх цёмна-зраненых
Не адзін праклінаў горкі лёс,
Калі ў сініх палёх над курганамі
Завывалі гарматы да сьлёз.

А зараз ён бачыць, што

Над сівымі абшарамі
Паланее крывёю наш сьцяг—
Гэта кроў узьнялася пажарамі,
Гэта сымболь вясны і жыцьця.

Побач з гэтым гучным акордам зьвіняць мотывы каханьня, каханьня гарачага, палка-юнацкага, шчырага. Каханьне прыроды, каханьне свае краіны, каханьне свайго „любага народу" і ўрэшце каханьне „сястрыцы Ніны"—знайшло „ў словах-вобразах" сваё выкрышталізаваньне.

Што-ж да мастацкага афармленьня і мастацкае праўдзівасьці, то тут трэба заўважыць, што зборнік вызначаецца надзвычайнай трапнасьцю вобразаў (праўда, з імажыністычным налётам) і вельмі дасканалай крышталізаванасьцю вершу. Досыць падаць некалькі наўгад выхапленых вобразаў, каб мець уяўленьне аб усім зборніку.

Вось, напр.:

Месяц чырвонцам скаціўся у травы,

або

І ночка сінім васільком
Схіліла твар свой сіратлівы,

ці

Мае грудзі прыбоі Наддзьвіньня
Грэюць ласкамі зор па начох.

Строфічны бок вершаў вызначаецца рознастайнасьцю—ад двуверша да тэрнарных строф. Рыфмоўка такая: аа вв сс... авав... а ва ва, а вав, авсавс. Вершы напісаны паводле сылябо-тонічнай сыстэмы і таму часта рытм супадае з мэтрам. Сустракаецца, праўда, і „чысты" 3-стопны ці 4-стопны дактыль, часамі ён, пры дапамозе анакрузы, пераходзіць у такі-ж анапэст, але гэтыя канонічныя формы ані ня зьвязваюць поэты.

Падагульняючы ўсё сказанае, можна ўпэўнена сказаць, што калі Маракоў больш будзе наглядаць жыцьцё і сур'ёзна адносіцца да свае творчасьці, то яшчэ не адзін дыямэнт творчасьці дасьць нашай літаратуры.

**Валеры Верас.**

**Гарт. Літературно-художній та критичний журнал Всеукраїнської спілки пролетарських письменників. № 1, квітень—травень, № 2—3, червень—липень. 1927.** *Державне Видавництво України.*

Гэта часопісь, якую заснавала тая часьціна быўшых гартаўцаў, што засталася вернай традыцыям першых піонэраў Кастрычніка ў украінскай літаратуры, традыцыям іх правадыра—нябожчыка Васіля Блакітнага. Але зусім зразумела, што, не адмаўляючыся ад гэтых традыцый, „Гарт" павінен, як гаворыцца ў прадмове („Наша путь"), ісьці далей уперад тым шляхам, які вызначае Маніфэст Усеукраінскага Зьезду пролетарскіх пісьменьнікаў.

Зусім зразумела, што ўзмацненьне саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў, барацьба за адзінства літаратурнай партыі зрабілася аднэй з найгалоўнейшых задач „Гарту“. Вось таму перш за ўсё ён накіроўвае свае сілы на полеміку з тымі сваімі былымі аднадумцамі, якія цяпер адарваліся ад „Гарту“ і ўтварылі новую літаратурную організацію (Ваплітэ). Але цалкам адмежавацца ад сваіх новых супраціўнікаў гартаўцы ня імкнуцца; яны хочуць верыць, што гэтая зрада „тимчасовая“ (гл. арт. В. Коряка, на ст. 96).

Гэтай „печальній“ Ваплітэ, якая „стоїть на роздоріжжі“, прысьвечаны ў № 1-м „Гарту“ нават верш (В. Сосюры „О, як прекрасно жить!“), які аўтар і канчае такім заклікам да ваплітоўцаў:

Товариші кохані,
скоріш ідіть до нас!
Є злочин і в ваганні
в наш динамічний час.

Шмат цікавага ў артыкуле В. Коряка „Хвильовистий соціологічний еквівалент“, накіраваны супроць Хвілёвага і іншых сяброў групы „Ваплітэ“. Праўда, ня з усімі думкамі украінскага крытыка можна згадзіцца, часам некаторыя месцы зазначанага артыкулу робяць уражаньне асабістай сваркі з Хвілёвым; нарэшце, выкладае ён свае думкі ў лірычным непарадку, але, наогул, артыкул цікавы, як выяўленьне вымаганьняў сучаснай пролетарскай літаратуры. Ставіць гэтыя вымаганьні В. Коряк на правах „крытыка-організатара“, які цяпер і павінен замяніць „крытыка-эстэта“; шмат з гэтых вымаганьняў былі выказаны ўжо на ўсеукраінскім зьезьдзе пролетарскіх пісьменьнікаў. На гэтым зьезьдзе было падкрэсьлена, што моц літаратуры не ў гэніяльнасьці паасобных адзінак, што крыніцай пролетарскай літаратуры зьяўляюцца насьценгазэты, тысячы рабкораўскіх дописаў, масы працаўнікоў—чытачоў. „Література, слушна заўважае трохі далей гартаўскі крытык (ст. 97), є тоді, коли навіть немає талантів, або коли вони зраджують“. Вось Хвілёваму ды іншым ваплітоўцам В. Коряк і прад'яўляе шэраг абвінавачаньняў; галоўны грэх ваплітоўцаў той, што яны больш клапоцяцца аб форме твораў, як аб зьмесьце, аб ідэёвым баку. Гэтыя клопаты аб стылі пераходзяць у іх у „словесне гаптування“ (ст. 90,—славеснае гафтаваньне). Але аднэй мастацкасьцю твору не заўсёды можна абмежавацца: у гісторыі літаратуры трапляюцца часам выпадкі, калі якраз „художньо недосконалі твори, але суголосні добі, мали велике організуюче значіння для певної класи“ (ст. 91). За другі грэх „хвильовизму“ В. Коряк лічыць нацыяналістычны ўхіл, што ў апошні час выяўляецца і ў літаратурах інш. народаў СССР. У сувязі з гэтым украінскі крытык і параўноўвае Ваплітэ з беларускай групай „Узвышша“, якая „проводить боротьбу з пролетарським „Молодняком“ (ст. 95).

Артыкулам М. Доленго „До питання про художню політику ВУСПП'а“ распачынае „Гарт“ дыскусію аб мастацкай програме украінскай пролетарскай літаратуры.

Паставіўшы пытаньне аб тым, што можна ўзяць ад старых клясыкаў, Доленго рашуча заяўляе, што пролетарская літаратура павінна пайсьці шляхам дынамічнага рэалізму.

У 1-м нумары „Гарту“ знаходзім некалькі апавяданьняў і вершаў. З бэлетрыстычных твораў заслугоўвае ўвагі перш за ўсё апавяданьне аднаго з рэдактароў „Гарту“—Івана Мікітенкі „Брати“. Аднаго з братоў прывабіў горад, другі застаўся ў вёсцы. І нікаму ня верыў, што гарадзкі брат шчыра запрашае яго да сябе. „У тебе син на ілістричестві прахтикується“, думае ён з горкім пачуцьцём крыўды, „а мій у гною, як той гробак“.—Ён пэўны, што калі скажа ў горадзе брату, што хоча свайго хлопца да яго „поставити на кватирю, то й носом закрутять. Та

ось чекай, приїду. Побачу, як частуватимеш мужика з черствою душею". Аднак, яго адносіны і да брата і, наогул, да гораду зьмяніліся, калі ён сапраўды паехаў да брата. Яму спадабаўся і брат, і яго сын—вясёлы камсамолец Мішка, і вялікі завод, у якім служыў брат. Трохі расчароўвае канец апавяданьня. Злая сьмерць Мішкі, якога забіў ток, калі ён у клюбе рыхтаваў ілюмінацыю, не вымагаецца, як здаецца нам, ні ідэяй твору, ані рухам сюжэту; яна мае трохі выпадковы характар. Праўда, гэты выпадак аўтар выкарыстоўвае для таго, каб паказаць вернасьць бацькі Мішкі пролетарыяту і пасьля таго, як памёр яго сын.

„Гадаеш", кажа ён брату пры разьвітаньні, „що пролетар зможе вмирати не там, де помер його син?"... „Тут може наша смерть, але тут і наша сила!" Але гэты момант трэба было-б падкрэсьліць выразьней.

Значна больш програмны характар мае сьмерць і мацеры, і сястры гэроя ў апавяданьні Л. Первомайського „Хвороба після одужання". Аўтару трэ' было давесьці, што для сапраўднага комуністага асабістыя пачуцьці нічога ня варты ў параўнаньні з грамадзка-політычнымі абавязкамі; упадаючы ў другую надмернасьць, ён прыпісвае гэрою такія думкі: „Це так і треба... я навіть не можу пригадати її (г. зн. мацеры) обличчя, значить вона недорога мені... й що вона зробила для мене крім як породила? При чому тут революція?.. Зрештою революції немає часу розбиратися в сімейних справах"... А вось думкі з поваду сьмерці сястры: „зрозумів, що він один і що це добре, що ні од кого йому буде одержувати листи завжди плаксиві, із скаргамі на теперішнє життя, що він вільно без огледання в минуле стане будувати теперішнє жыття".

Можа „це і добре", але ў чытача зьяўляюцца цалкам справядлівыя запытаньні: а ці ня вінны гэрой у тым, што яго сястра скардзілася на цяперашняе жыцьцё, ці ня мог ён падыйсьці да яе з чыста дэтэрміністычнай об'ектыўнасьцю і ці ня мог паімкнуцца зьмяніць яе сьветапогляд.

Менш трохі спадабаліся нам „Ритми шахтьорки" Івана Ле, хоць мова апавяданьня даволі добрая. Наогул кажучы, ва ўсіх апавяданьнях мова сакавітая, з захаваньнем, так сказаць, мясцовых і клясавых адценьняў. Аўтары не баяцца ўжываць русыцызмы ў мове гэрояў, асабліва працаўнікоў (напр., у Мікітэнкі: пропадьом, не (зам. *ні*), действує і інш.). Хоць аўтары не даходзяць да „словесного гаптування", але ўдалыя вобразы часта ў іх трапляюцца. У таго самага Мікітэнкі знаходзім „Трамвай плюнув у небо голубим плювком і задзвонив, задзвонив—вперед". У Івана Ле: „Перідній розхрістаний оперізував себе навскоси барвистими міхами гармонії". Нядрэнныя малюнкі гор і мора ў эскізе Ол. Кундзіча „В ущелинах республіки".

З вершаў, пасьля адзначанага вершу Сосюры, заслугоўвае ўвагі перш за ўсё „Екран віків" Полішчука.

У ролі „крытыка-організатора" ў 2-3 кн. „Гарту" выступае ў артыкуле „Література під комуністичним керовництвом" І. Ю. Кулик; напісаны артыкул у духу апошняй пастановы ЦК КП(б)У адносна політыкі партыі ў галіне мастацкай літаратуры (зьмешчанай у 1 кн. „Гарту"). Аднёсшыся ўважліва і вельмі цярпліва да розных групаваньняў рэволюцыйнага літаратурнага фронту, гэта пастанова імкнецца зьнішчыць вастрату барацьбы паміж рознымі літаратурнымі групамі сучаснай украінскай літаратуры; канчатковай-жа мэтай яна ставіць утварэньне „Всеукраїнської федерації організацій Радянських Письменників". Гэткім чынам, бачым мы, к часу выхаду ў сьвет 2-3 кн. „Гарту" ўзаемаадносіны паміж літаратурнымі групамі на Украіне трохі зьмяніліся. „Одлунали", як кажа ў пачатку свайго артыкулу І. Ю. Кулик, „громи лі-

таратурної дискусії, ущухли гострі полемічні скорпіони“.

З зазначанай, можа, прычыны ў больш прыхільным тоне напісана ў 2-3 кн. „Гарту“ рэцэнзія М. Доленго на №3 „Вапліте“. Праўда, рэцэнзэнт знаходзіць значныя зьмены ў самым Ваплітэ. „Це число „Вапліте“, кажа ён, „показує певні виробничо-ідеологічні зміни і певний художній успіх у літературній частині журналу“.

Што да літаратурнай часьці 2-3 кн. „Гарту“, дык тут з апавяданьняў напершым месцы варта паставіць „Колезькі реєстратор“ Гр. Яковєнкі (Вікторова). Быўшы калескі рэєстратар Тушкан, зрабіўшыся пасьля рэволюцыі старшым контралёрам, зьдзекваецца над сваім былым начальнікам, „дійсним штатським совітником“ Нікодымам Паўлавічам Клячком (для чаго ён нават заклікаў да сябе на службу). Давёўшы яго да сьмерці сваімі зьдзекамі, Тушкан застаецца, аднак, нездаволеным, бо ён, бачыце, хацеў большага—каб яго быўшы начальнік зварʻяцеў. Аўтар пакідае ў чытача цалкам справядлівае сумненьне, ці была заслужана гэта злая помста, бо гэрой не захацеў адказаць сьледчаму, якія былі прычыны яго зьдзекаў над сваім былым начальнікам.

Заслугоўвае ўвагі ў тым-жа нумары „Гарту“ эскіз Ол. Кундзіча з адзначага вышэй цыклю „В Ущелинах Республіки“. Відаць, што аўтар добра спэцыялізаваўся ў змаляваньні „былых людзей“.

Знаходзім тут яшчэ апавяданьні П. Радчэнкі „Прокляття“, Івана Кірыленкі „Сергій коваль“.

З вершаў гэтай кніжкі ўспомнім Гордієнкі „Біля вокзалу“ і Сосюры „Станції“. У другім з гэтых вершаў апавядае поэта, як ён адведаў родную вёску. Сустракаюць яго „в гудзиках інтелігенти: „ах,сколько зим, сколько лет!“; заныла сэрца ад болю пры ўспамінах, але аўтар гоніць прэч свае лятуценьні:

> Друже, не будь анемічний,
> гартом наповни слова.
> Вже океан електричний
> наші поля залива.

У абодвух нумарох „Гарту“ зьмешчана некалькі перакладаў з замежных літаратур.

П. Б.

**Ал. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны.** *Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск—1927, 187 ст.*

Зборнік матэрыялаў да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны, апрацаваны Ал. Шлюбскім, належыць да сэрыі „Беларуская Этнографія ў досьледах і матэрыялах“, вызначанай да выданьня катэдрай этнографіі Інстытуту Беларускае Культуры.

Зборнік Ал. Шлюбскага, гэта — ужо другая лікам кніга фольклёрнага зьместу, што выдадзена Інстытутам Беларускай Культуры (першая—„Казкі і апавяданьні“ Ал. Сержпутоўскага).

Як прызнана, беларускі фольклёр папраўдзе зьяўляецца найбагатшым сярод фольклёраў славянскіх народаў, становячы сабою невычарпальную крыніцу народнай творчасьці, і кожнае выданьне збораў з галіны беларускага фольклёру трэба лічыць вельмі каштоўным ня толькі з погляду беларусазнаўства, але і з погляду агульна-славянскага мовазнаўства. Дзеля гэтага прыходзіцца пашкадаваць, што выданьне матэрыялаў да народнай творчасьці ў Інбелкульце да моманту яго рэорганізацыі мела даволі скромны размах, і ў кожным выпадку не адпавядала зацікаўленасьці беларускага грамадзтва да выданьняў такога роду. Выданьне матэрыялаў Ал. Шлюбскага абазначае павышэньне выдавецкай справы ў гэтым кірунку.

Ці задавальняе кніжка Ал. Шлюбскага вымогам сучаснай навукі аб жывой народнай творчасьці?

Адзначаючы крыніцы і мэтод укладаньня свайго зборніку, укладальнік кажа ва ўступным слове:

„Увесь матэрыял, за невялікімі выключэньнямі (якія ўсюды адзначаны), запісан маёй уласнай рукой у былых паветах: Полацкім, Віцебскім, Лепельскім, Сеньненскім, Сураскім, Вяліскім і Парэцкім (цяпер Дзямідаўскім). Матэрыял запісан у беларускіх вёсках са слоў беларускага жыхарства і галоўным чынам са слоў жанчын, якія ў сучасны момант, дзякуючы агульна-жаноцкай консэрвацыйнасьці, зьяўляюцца галоўнымі захоўцамі беларускай народнай творчасьці. Пераважная большасьць запісаў зроблена са слоў няпісьменных жанчын, якія далей сваёй воласьці або павятовага гораду нідзе ня былі...

Усюды, дзе рабіліся запісчыкам больш-менш важныя запісы, адзначана, са слоў каго яны рабіліся, таксама адзначана становішча ў адносінах, цікавых для этнографа; з аднымі адзначэньнямі месц запісу бяз іншых этнографічных уваг засталіся толькі тыя нумары, якія былі запісаны не самым укладальнікам, а іншымі асобамі або, хаця ім асабіста, але пры выпадковых умовах у мясцох, дзе ня быў падрыхтаваны грунт для этнографічных запісаў...

Такім чынам, бачым, што пры ўкладаньні працы аўтарам былі ўжыты навуковыя мэтоды запісу фольклёрнага матэрыялу. Усюды праведзены прынцып фонэтычнага запісу. І гэта — значны плюс кнігі.

Уласна фольклёрнага матэрыялу ў кнізе Ал. Шлюбскага параўнальна мала, усяго 104 старонкі з 187 старонак тэксту. Рэшта прыпадае на этнографічныя ўвагі-нарысы і бібліографічныя паказаньні.

Аднак, кніга Ал. Шлюбскага набывае каштоўнасьць не сваім зьместам, а як першая спроба запісу беларускіх народных песень у прынятай цяпер у беларускай літаратурнай мове графіцы з ужываньнем навуковых мэтодаў апрацаваньня.

У кнізе даны толькі такія адступленьні ад правіл звычайнай беларускай графікі: прыняты літары „*и*“ і „е“ для адзначэньня няпоўнай мяккасьці і цьвёрдасьці папярэдняга зычнага. Дыфтонгі наогул не адзначаны, кароткае паказаньне на іх зроблена толькі ў прадмове ўкладальніка.

Па сваіх сюжэтах фольклёрны матэрыял, сабраны ў зборніку, распадаецца на восем якія разьдзелы: 1. Замовы; 2. Калядныя песьні; 3. Запусныя песьні; 4. Веснавыя песьні; 5. Русальныя песьні; 6. Купальскія песьні і 7. Песьні працы. Усяго дана 290 паасобных нумароў песень. Да тэксту з песьнямі далучаны: альфабэтны сьпіс іх, паказальнік песенных сюжэтаў і географічны паказьнік. Вельмі каштоўны паказальнік песенных сюжэтаў.

Недахопам выданьня зьяўляецца ня зусім дакладны друк кнігі. З заўважаных памылак друку відаць, што ў двох разох друкары налаўчыліся надрукаваць „Щейн“ замест „Шейн“. Аднак, ня ўсе памылкі друку абгавораны ў заўвагах. І да тэксту некаторых песень прыходзіцца адносіцца з асьцярогай. Напр., як здаецца мне, памылкова ў купальскай песьні пад № 129 выдрукавана:

> Арол бож'я пташка —
> Літаў пыд нябёс,
> Бачыў дзівоса... (стар. 113).

Даволі нечаканым зьяўляецца злучэньне *пыд* з родным склонам, а *нябёс* і *дзівоса*, увачавідкі, ня рытмуюць паміж сабою.

Зразумела, што недакладнасьць друку значна паніжае каштоўнасьць фольклёрных запісаў.

Аднак-жа наогул зборнік Ал. Шлюбскага можна палічыць каштоўным здабыткам у галіне вывучэньня беларускага фольклёру.

Магчыма пажадаць, каб былі выдрукаваны і іншыя сабраныя ўкладальнікам фольклёрныя матэрыялы, якія не ўвайшлі ў склад гэтага зборніка. **Мікола Крывіч.**

**Плынь. Вершы. Міхайла Грамыка.** *Выданьне Б. Дз. В.—1927г., ц. 80 к.*

Творчасьць Грамыкі М. неяк адрозьніваецца, як па свайму зьместу, так і па форме, вельмі рознастайнай, ад творчасьці іншых нашых поэтаў і таму заслугоўвае асаблівае грамадзкае ўвагі. Што кідаецца ў вочы, нават пры павярхоўным аглядзе творчасьці Грамыкі, дык гэта яго раскіданасьць, мятусеньне; поэта шукае свайго сталага прызначэньня, кідаецца ад ідэалізацыі вёскі, без яе падзелу, у горад з яго культураю і рэволюцыйнасьцю; часамі захапляецца рэволюцыйнымі ўчынкамі і падзеямі, пяе гімны барацьбе, змаганьню працы; яму сугучны грамадзкія мотывы, у іх ён знаходзіць удзячныя тэмы—і раптам кідаецца ў проймы суб'ектывізму, замыкаецца ў рамках глыбокага індывідуалізму, грамадзкасьць адыходзіць на задні плян. Поэта ідэалізуе вёску, інтэлігеншчыну, выбітую з жыцьцёвай каляіны, трапляе ў містыцызм („Крылан") і г. д.

Гэтае хваляваньне, шуканьне свайго „я" знаходзіць яскравы адбітак і ў зборніку лірычных вершаў і поэм „Плынь". Асабліваe ўвагі заслугоўвае разьдзел „Грамадзкае" ў зборніку „Плынь". Момант звароту на бацькаўшчыну поэтам даецца ў вершы „Апошняе даруй", якім і пачынаецца зборнік. Беларусь, якая перажыла ліхалецьце соцыяльнага прыгнёту і нацыянальнага ўціску, пачаўшы будаваць сваю дзяржаўнасьць, культуру, зьдзейсьніўшы жаданьні народу і мары гэрояў-змагароў за нацыянальнае вызваленьне, абудзіла найвялікшы творчы запал ды імкненьне да карыснай творчай працы ў тысячах грудзей. Раскіданыя вайсковай навалай беларускія сілы пачалі варочацца на бацькаўшчыну, бо:

Мой родны край мяне гукнуў да працы,
Як шмат каго з раскіданых сыноў,
Каб з крыўдай, цемрай, нядоляй змагацца,
Каб край ажыў, раскведзіўся каб зноў (стар. 5).

Прагучэла і сьціхла ваенная навальніца. „Калючы дрот пайшоў на атосы". Разбураны край, сіламі саміх працоўных, пачаў шпарка адбудоўваць сваю гаспадарку:

У нас сягоньня касавіца,
І пот наш льлецца не дарма (стар. 28).

Цяжкая праца! Яшчэ спадчына старога ладу, наша някультурнасьць, экономічная адсталасьць дае сябе адчуваць, але працоўныя сьмела і ўпэўнена ідуць наперад — „Ступае Босы сёньня сьмела",—а поэта ў шчырым пераконаньні кідае:

Яшчэ гадкоў з пяток на волі,
І праца будзе ўсё лягчэй,
Машын і тут набудзем болей,
Жыцьцё пальлецца весялей" (стар. 28).

Вельмі дарагою цаною працоўныя здабылі сабе магчымасьць творчай працы, каб адступіць хоць крыху сваіх заваёў. „І хоць гудзіць кругом сьляпень", але пясьняр ясна бачыць што:

„Калі-ж нам прыдзецца спыніцца
У мірнай працы дзеля куль,
Мы выйдзем з іншай касавіцай
І сьвету кінем: „Лева руль"! (стар. 29).

Вершы Грамыкі простыя, часамі не надуманыя, і таму з асаблівай шчырасьцю можна ўспрыняць радкі:

Мы хочам інача́й
Жыцьцё будаваці.
Каб песьні бядачай
Пазбыцца у хаце!
Каб спаці ня клаўся
Работнік галодны...
„Маладняцкае" (ст. 18).

Моманты барацьбы працоўных у Зах. Беларусі (тэма распрацована Грамыкам у поэме „Лясьнічанка") таксама адбіты ў зборніку „Плынь". Няраўная барацьба, калі „проці поўсотні—пяць тысяч наслалі", прымушае паўстанцкі аддзел з боем прабіцца ў краіну, дзе

Вось нас з усіх абкружаюць бакоў
Вольных чырвоныя сьцягі" (стар. 4).

Але пры наяўнасьці часамі рэволюцыйнай палкасьці, у разьдзеле „Грамадзкае“ ўсё-ж трэба констатаваць слабасьць мотываў пролетарскага зьместу. Праўда, М. Грамыка робіць вялізныя крокі ў бок набліжэньня да рэволюцыйнасьці сучаснага жыцьця. Але пакуль што тэматыка Грамыкі абмяжоўваецца вёскай ды прырода-апісальнай лірыкай. Асобна трэба выдзеліць тэмы каханьня.

Даволі прыгожа пабудованы разьдзел „За сонцам“, вершы якога падкупаюць сваёй прастатою. Вобразы, праўда, ня новыя, перайманыя, але агульная іх композыцыя простая і даволі ўдалая робіць прыемнае ўражаньне.

Затое надзвычайным індывідуалізмам прасякнуты вершы апошніх двух разьдзелаў: „Рытмы (?!) каханьня“ і „Асабістае“. Што да „Рытмаў“, дык яны сапраўды часамі „жудасна-дэмонічныя“.

„Ты паверыш, што *у муках жыцьцё*,
Што так званага *„шчасьця“ няма*,
Што ёсьць воля, ды *крыж-забыцьцё*“ (стар.68).

Або

„І *будзем мы*, як зоры, *згараць*,
Як сьвятыя, сьвятыя агні“.

І нейкім старасьвецкім романтызмам гучаць акордныя радкі гэтага вершу:

„Там душа да душы дастае,
Каб *кахаць і згараць*“... (стар. 68).

Каханьне, зразумела, рэч вельмі складаная, і, можа, ня справа літаратурнае крытыкі разьбірацца ў яго „рытмах“, тым болей што „індывідуалізм“ тут канечна патрэбны і спосабы ўспрыйманьня вельмі рознастайныя.

Мы-б ня выканалі сваёй задачы, каб не зьвярнулі ўвагі як на форму, стыль вершаў, так і на чыстату і багацьце мовы і слоў. Канечна трэба адзначыць, што і тут ня ўсё добра.

Возьмем вобразы: *„Самацьвет срэбраліты“* (стар. 8)—калі самацьвет, дык ня літы з срэбра. *„Лірнік шматструнны“*. І „нашыя бровы ў *жах* пазьбіраем“ (стар. 18). Як гэта можна выканаць—цяжка сказаць. *„Земскім раем“* (стар. 24). *„Гараць струмені ў сто карат“*. *„Цені ходзяць... скрып ды скрып“* (стар. 92). *„Пекнагнойныя красачкі“* (стар. 112).

Можна было-б пералічыць і болей, але хопіць. Адна з задач сапраўднага поэты—гэта дасканалая апрацоўка сваіх твораў, бо, апрача іх соцыяльнай вартасьці, патрэбна таксама і мастацкае афармленьне іх.

Мы ўжо раней зазначалі на шмат русызмаў, якія чамусьці ўжываюцца аўтарам. У зборніку „Плынь“ таксама іх шмат. Сустракаюцца словы, як „брэзе“, „языцы“—чысты царкоўнаславянскі лексыкон. Ня рэдкасьць і наступныя: *грохат* (стар. 8), *пабеды* (стар. 12), *пладавитай* (стар. 12), *плады* (стар. 23) *слатой* (стар. 25), *ліствой* (стар. 26), *братвой* (стар. 26), *малойцы* (стар.13), *сьпіначку* (стар.40), *саван* (стар. 48), *караван* (стар. 48), *дурман* (стар.48), *заглохнуць* (стар.52), *бубенцы* (стар. 90), *паняў* (стар. 115) у сэнсе „зразумеў“ і г. д.

Зварачаюць увагу на сябе і такія цяжкія звароты, як:

„Але кінь, *лірнік, лірнічаць лірычна* (?!)

З тэхнічнага боку зборнік выданы мастацка.

**Ф. Гарадзенскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў**

* *Якуб Колас* рыхтуе да друку першы том сваіх твораў, друкаваць які будзе Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

* *Міхась Зарэцкі* здаў у друк свой роман „Сьцежкі-дарожкі".

* *В. Сташэўскі* напісаў і здаў Белдзяржвыдавецтву для надрукаваньня новыя п'есы: „Музыкант Цьвілеўскі" (комэдыя ў 2 дзеях, 3 карцінах), „У прошчы" (комэдыя ў аднэй дзеі) і „Сьпявай, вясна" (комэдыя ў 2 дзеях).

* *Алесь Дудар* піша новую поэму з часоў англо-бурскай вайны пад назвай „Трансваль".

* *Васіль Каваль* падрыхтаваў і здаў Бел. Дз. Выд-ву для надрукаваньня зборнік сваіх апавяданьняў.

* *Валеры Маракоў* канчае пісаць драму з літаратурнага беларускага жыцьця пад назвай „Каменьні".

* *Андр. Александровіч* піша поэму „Змова" з часоў грамадзянскай вайны.

* *Аркадзь Моркаўка* падрыхтаваў і здаў Бел. Дз. Выдавецтву для надрукаваньня першы зборнік сваіх вершаў „Дымы".

* *М. Нікановічам* зданы ў друк новы зборнік апавяданьняў „Крык Працы".

* *Я. Івашын* падрыхтаваў зборнік сваіх вершаў пад назвай „Будаваньне".

* Народным Камісарыятам Асьветы БССР на 1927-28 год вызначаны стыпэндыі маладым пісьменьнікам-студэнтам вышэйшых навучальных установ і тэхнікумаў: у разьмеры 25 руб. у месяц—А. Траецкаму, В. Маракову, О. Хаміну, Я. Бобрыку, Н. Вішнеўскай, С. Серадзе, М. Лужаніну, С. Шушкевічу; у 50 руб. у мес.—М. Ліўшыцу, Х. Кляшторнаму, М. Тэйфу, С. Хрупчыку, А. Дудару і П. Глебка.

Па 3-й катэгорыі, у 75 руб., атрымаюць стыпэндыю: К. Атраховіч, Іл. Барашка, З. Вітэнсон, Я. Плашчынскі (студэнт ленінградзкага унівэрсытэту).

А. Александровічу і П. Шукайла пастаноўлена выдаць і на далей пэрсанальную пэнсію ў разьмеры 100 р.

З 1-га студзеня 1928 г. зьнімаецца з пэрсанальнай стыпэндыі А. Пфляумбаум, Я. Туміловіч, М. Дубавік і Шалаеў.

* 26 студзеня адбыўся сход аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя", на якім праведзены выбары праўленьня аб'яднаньня і разгледжаны плян яго бліжэйшай працы. У праўленьне абраны сябрамі: Якуб Колас, Цішка Гартны і Міхась Чарот і кандыдатамі: Янка Нёманскі, М. Зарэцкі і В. Сташэўскі (тэхнічны сакратар). З пляну працы пастаноўлена зрабіць паездкі па акругах з дакладамі аб стане беларускае літаратуры, наладзіць рад дыспутаў і выдаць альманах „Полымя".

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Вандроўны беларускі тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка выехаў у Мазыршчыну, дзе будзе паўтара-два месяцы. Тэатр мае намер наведаць самыя глухія куткі Мазырскай акругі.

* Ленінградзкі музэй Эрмітаж перадае Белдзяржмузэю 35 малюнкаў

італьлянскіх, флямандзкіх і голяндзкіх мастакоў.

* Другі Бел. Дзярж. Тэатр вызначае для бліжэйшых пастановак п'есу Юр'іна „Калі сьпяваюць пеўні" з жыцьця рабочых сучаснай Нямеччыны і „Разлом" Б. Лаўрэнава, якая з вялікім посьпехам ідзе ў маскоўскіх тэатрах; п'есу „Разлом" будзе ставіць рэжысэр маск. тэатру „Пролеткульт" т. Лойтэр.

* Беларуская Дзяржаўная Капэла гэтым летам мае намер зрабіць гастрольнае турнэ на поўдзень СССР.

Яна выконвае, апрача беларускіх песень, і нумары на польскай, яўрэйскай ды інш. мовах.

* Трэцьцякоўская галерэя ў Маскве купіла некалькі малюнкаў беларускага мастака Бразэра.

* Мастацкая рада зацьвердзіла прадстаўленыя Белдзяржкіно сцэнарыі „Карчма" і лібрэто „Ліст генэрал-губарнатара" з рэволюцыйнага жыцьця 1905 г. і „З-пад ярма" Дыла—з гісторыі Беларусі.

Да выкананьня двух новых сцэнарыяў будзе прыступлена ў студзені. Для гэтай мэты ў Ленінградзе на фабрыцы Белдзяржкіно арганізуюцца дзьве рэжысэрскія групы. Адначасова вядуцца перамаўленьні з выдатным нямецкім кіно-мастаком аб прыезьдзе яго для сталай працы на ленінградзкую кіно-фабрыку.

* Перад зачыненьнем выстаўкі вобразнага і тэатральнага мастацтваў нацыянальнасьцяй СССР, спэцыяльная камісія ў складзе прэзыдэнта Дзяржаўнай Акадэміі Мастацкіх Навук проф. Когана і выдатнейшых мастацтваведаў Масквы вызначыла прэміі за больш удалыя экспонаты. За лепшыя экспонаты беларускага аддзелу вызначаны ганаровыя дыплёмы наступным арганізацыям: Усебеларускаму аб'яднаньню мастакоў, БДТ 1, БДТ 2, Беларускаму Яўрэйскаму тэатру і Віцебскаму мастацкаму тэхнікуму. З паасобных удзельнікаў выстаўкі атрымалі дыплёмы: па вобразным мастацтве—Філіповіч і Каспэлянскі, па графіцы—Юдовін і Бразэр.

* У Гомелі, у канцы сьнежня 1927 г., адбыліся два вечары беларускай літаратуры, на якіх прымалі ўдзел Міхась Чарот, А. Дудар, Міхась Зарэцкі, Крапіва і П. Трус. Вечары прайшлі з вялікім посьпехам. На імя беларускіх пісьменьнікаў прыслана ад рабочых чыгуначнікаў падзяка і прывітаньне.

* Белдзяржкіно прыступіла да падрыхтоўчай працы па стварэньні першага ў Беларусі дзіцячага фільму пад назваю „Спрэчкі паміж дамамі"—Агніўцава.

Лібрэто передаецца на зацьверджаньне мэтодолёгічнага камітэту Наркамасьветы.

* Прадстаўнік асоцыяцыі беларускіх мастакоў вёў у Маскве перамаўленьні з прадстаўнікам украінскай асоцыяцыі мастакоў аб арганізацыі выстаўкі украінскага мастацтва ў Менску. Вяліся таксама перамаўленьні з некаторымі асоцыяцыямі РСФСР аб дэманстраваньні імі сваіх прац у Менску. Тая шырокая зацікаўленасьць, якую выявілі працоўныя масы Менску да ўсебеларускай мастацкай выстаўкі, дае ўпэўненасьць, што організацыя гэтых выставак будзе мець посьпех і шырака пасуне наперад гэту галіну культуры.

* Адбылася нарада, на якой прысутнічалі беларускія пісьменьнікі—Ляжневіч, Дыла, І. Цьвікевіч, Грамыка і інш. Абмяркоўвалася пытаньне аб організацыі сцэнарнай групы беларускіх пісьменьнікаў, якія павінны сыстэматычна даваць Белдзяржкіно сцэнарыі на гумарыстычныя, гістарычныя, бытавыя і сатырычныя тэмы.

* Пры Белмузэі заснавана спэцыяльная камісія, якая мае на мэце прадставіць у музэй усе лепшыя і больш характарныя працы мастакоў Беларусі.

Камісія мяркуе набыць для музэю мастацкія карціны з першае і другое ўсебеларускіх мастацкіх выставак. Усяго будзе куплена да 50 кар-

цін, у тым ліку работы наступных мастакоў: М. Аксэльрода „Пэйзаж“, А. Астаповіча „Заклік“, „Вечар на вёсцы“, „Вятрак“ і інш., Я. Ахрэмчыка „Мужчынскі портрэт“, А. Грубе (скульптура дрэва) „Лірнік“, Дваракоўскага „Аўтолітографія“, А. Касталянскага „Стары“, Я. Кругера „Завулак у Менску“, В. Кудрэвіча „Раніца“, „Над Сьвіслаччу“, І Кураян „Комсамолец“, В. Руцая „Портрэт бабкі“, „Пэйзаж“, Сарокіна „Вецер“, А. Тычыны (графіка) чатыры рысункі з цыклю „Беларуская вёска“, М. Філіповіча „Дзяўчына“, „Дудар“, В. Хрусталёва „Беларускі краявід“, Цёмкіна „Этуды г. Мазыра“, С. Юдовіна з цыклю яўрэйскага мястэчка на Беларусі 7 дрэварытаў.

На гэтую мэту вызначаецца пакуль што 3.000 руб.

* У Менску з'організаваўся новы беларускі вандроўны тэатр для сельска-гаспадарчых рабочых, які зараз выехаў у Пухавіцкі раён. Тэатрам кіруе рэжысэр Завістоўскі.

* Знаўца беларускай песьні т. Грыневіч у працягу 2 месяцаў выўчаў народныя сьпевы і мэлёдыі ў Мазырскай акрузе. Ім там запісаны звыш 200 сьпеваў і каля 30 народных скокаў ды гульняў са сьпевамі. Гэты матэрыял зараз Грыневічам апрацоўваецца і будзе выданы асобным зборнікам.

**Хроніка беларускага друку**

* У хуткім часе Інбелкульт выпускае 1-шы том лінгвістычна-літаратурных прац пад назвай „Беларускі філёлёг“. У зборніку будуць зьмешчаны навукова-дасьледчыя артыкулы па беларускай мове і літаратуры.

* Члены Інбелкульту С. Некрашэвіч і М. Байкоў апрацавалі новы расійска-беларускі слоўнік, які зьмяшчае звыш 60 тысяч расійскіх слоў і зваротаў.

* Літаратурна-Мастацкая Комуна здала ў друк другі нумар часопісі „Росквіт“.

* Зданы Бел. Дзярж. Выдавецтвам у друк зборнік „Янка Купала ў літаратурнай беларускай крытыцы“ пад рэдакцыяй Зьм. Жылуновіча і М. Байкова.

* Язэп Лёсік складае новы падручнік беларускае мовы для чатырохгодак, куды ўвойдуць элемэнты граматыкі і асновы беларускага правапісу.

* Географічная камісія аддзелу прыроды і гаспадаркі ІБК пастанавіла распачаць укладаньне географічнага слоўніка Беларусі.

Для гэтага будуць выкарыстаны літаратурныя друкаваныя матэрыялы аб паасобных паселішчах на Беларусі ды інш. сьвежыя матэрыялы, як раённыя географічныя слоўнікі. Апошнія будуць складацца раённымі краязнаўчымі т-вамі.

* Інстытут выдаў да гэтага часу наступныя выданьні: „Матэрыялы па лясной дасьледчай справе“, нумар 2-гі часопісі „Сельская і лясная гаспадарка“, „Працы станцый аховы расьлін“; на гэтых днях выходзіць кліматычны атлас Беларусі, складзены проф. Кайгарадавым, і „Валакаламскія севазвароты ў параўнаньні з беларускімі“—агронома Кіпрыянца.

* Вышла з друку выданьнем Інбелкульту этнографічная бібліографія Беларусі; гэта першая праца, якая падае вычэрпваючы матэрыял аб этнографіі Беларусі.

* Гістарычная кляса гуманітарнага аддзелу ІБК распачала друкаваць 2-гі том сваіх прац. У працах будуць зьмешчаны артыкулы У. І. Пічэты, Ясінскага, В. Д. Дружчыца, Дз. І. Даўгяла ды інш. Зборнік ахапляе выўчэньне гісторыі мест Беларусі і становішча сялянства ў XVI-XVII в.

* Распачата друкаваньне другога тому „Беларускага Архіву“ з дакумантаў Літоўскае Мэтрыкі. Гэтая праца ахапляе 16-ю кнігу судовых спраў. Матэрыялы закранаюць таксама соцыяльнае жыцьцё, галоўным чынам сялянства Полаччыны і Віцебшчыны за час 1530—38 г. г.

* Неўзабаве Інбелкульт пачне друкаваць польска-беларускі слоўнік, які будзе зьмяшчаць 60 тысяч слоў. Гэты слоўнік складзены пісьменьнікам Альбэртам Паўловічам і рэдагуецца польсэктарам ІБК.

* Цэнтральнае Выдавецтва Народаў СССР пры Саюзным ЦВК у 1926-27 г. выдала 4 кнігі на беларускай мове па мастацкай літаратуры, мэтодыцы і дашкольным выхаваньні. Паводле пляну на 1927-28 г. вызначаны выпуск 3 беларускіх падручнікаў для школ 1-ае ступені. Усе гэтыя выданьні прызначаны для беларускага насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі РСФСР.

* Знаходзяцца ў друку першы і другі нумары часопісі „Маладняк".

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва друкуе аповесьць нямецкага пролетарскага пісьменьніка А. Абуша „Барацьба перад фабрыкай" у перакладзе Л. Цьвяткова.

* Таксама друкуецца Белдзяржвыдавецтвам пяты том збору твораў Янкі Купалы.

* Знаходзіцца ў друку зборнік вершаў Алеся Дудара пад назвай „Вежа"

* Алесь Ляжневіч напісаў новую рэволюцыйную п'есу „З дымам-пажарам", якую будзе друкаваць Бел. Дз. Выд-ва. Ён-жа здаў Б. Дз. В. для надрукаваньня „Беларускі дэкляматар".

* Белдзяржвыдавецтва прыступіла да ажыцьцяўленьня пляну выданьня мастацкай літаратуры і падручнікаў для нацменшасьцяй Беларусі на яўрэйскай, польскай, літоўскай і латыскай мовах.

На польскую мову пераведзены творы Якуба Коласа „На прасторах жыцьця" і „Сяргей Карага", Нёманскага—„Маці" і „Над Кроманьню", Чарота—„Саматканая сьвітка" і „Талачка-шкрабалачка". На польскай мове будзе выдана географія Беларусі. Друкуецца кніга аб становішчы жанчын-работніц у Польшчы. Для ліквідацыі няпісьменнасьці сярод польскага насельніцтва рыхтуецца кніга „чытанка" з краязнаўчым і грамадзкім ухілам. Упяршыню будуць выданы п'есы на польскай мове для клюбаў. Маецца на ўвазе выданьне некалькіх кніжак па жывёлагадоўлі ды іншых галінах сельскае гаспадаркі.

На яўрэйскай мове рыхтуецца да друку збор вершаў Аксэльрода, поэма Харыка, збор апавяданьняў Бядулі. Рыхтуецца брошура Камэнштэйна „Зямляўпарадкаваньне яўрэяў", Ашаровіча—зборнік аб опозыцыі, Аршанскага—п'есы, Даўгапольскага—роман „Каля адчыненых дзьвярэй". Друкуецца на яўрэйскай мове цікавы роман Тайтша—„Сьмерць т. Вулі". Гэта першы мастацкі роман, які выдаецца Белдзяржвыдавецтвам на яўрэйскай мове. У друку знаходзіцца зборнік песень з нотамі для дзяцей. Апрача таго, у гэтым годзе будзе выдана „Гісторыя яўрэяў у XIX стагодзьдзі" Сосіса, „Зборнік фолькльору для школ"—Гольдбэрга і Рубіна, „Гісторыя яўрэйскай літаратуры", падручнік для пэдтэхнікумаў—Розэнцвэйга. Пад рэдакцыяй-жа Розэнцвэйга будзе выдана цэлая сэрыя дзіцячай літаратуры. Рыхтуецца да друку падручнік пэ зоолёгіі—Яхонтава, падручнік грамадазнаўства—Рубіна і фізыкі—Брохіна. Апошні падручнік ужо здаць ў друк. Будзе выдана таксама на яўрэйскай мове географія БССР і інш.

На літоўскай мове друкуецца зборнік дарэволюцыйных песень, а на латыскай мове будзе выданы зборнік дзіцячых апавяданьняў.

### Рознае

* На ўсесаюзнай поліграфічнай выстаўцы ў Маскве, якая нядаўна скончылася, Белдзяржвыдавецтва атрымала другую прэмію і дыплём за ўважлівую апрацоўку і друк беларускіх кніг.

* Наркамасьветы БССР распачаў падрыхтоўчую работу пэ правядзеньні юбілею пісьменьніка Л. Н. Талстога.

Прынята пастанова аб выданьні твораў Л. Н. Талстога на беларускай мове.

* У Гарадзецкай царкве, былога Быхаўскага павету, гр. Мельнікам знойдзены служэбнік XVI сталецьця, напісаны на беларускай мове. Гэты цікавы гістарычны дакумант пераданы Інбелкульту для выўчэньня.

* У Менску ў сьнежні м-цы 1927 г. адбылася нарада працаўнікоў архіваў БССР.

* Белдзяржмузэй набыў з Мсьціслаўшчыны каля 30 мастацкіх узорных паясоў.

* Вядомы нямецкі пролетарскі пісьменьнік І. Бэхэр у лісьце да Цішкі Гартнага выказвае падзяку рэдакцыі часопісі „Полымя" за пераклад і друкаваньне яго знатнага роману „Адзіная справядлівая вайна". (За выданьне гэтага роману І. Бэхэр прыцягнуты да суду, які меўся адбыцца 16 студзеня, але з-за протэсту рабочых і інтэлігентных колаў, ахапіўшых усю Нямеччыну, адложаны на два месяцы). Тав. І Бэхэр у тым-жа лісьце просіць выбачэньня, што ня сумеў спыніцца ў Менску, варочаючыся з Масквы, дзе ён быў на Кастрычнікавых урачыстасьцях, заграніцу. Яго спынцы ў Менску таксама паперашкодзіў суд.

* Кіраўнік нямецкага рабочага выдавецтва „Uniwersum" пісьменьнік Гэргарт Поль выказаў жаданьне паміма апавяданьняў і крытычных нарысаў даваць у „Полымі" поўныя пэрыядычныя агляды нямецкага культурнага жыцьця (літаратура, тэатр, мастацтва, кіно, вынаходкі і інш.).

* Пераклады вершаў для беларускае Анталёгіі на чэскай мове, якая мае выдавацца ў чэскім выдавецтве „Pokrok" (поступ), разьмеркаваны паміж наступнымі літаратарамі і поэтамі: вядомым чэскім пролетарскім поэтам Язэпам Горам, (Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот і часткаю Якуб Колас), знаўцам беларускай літаратуры поэтам і публіцістым Адольфам Чэрным (Якуб Колас, Янка Купала), знаўцам беларускае літаратуры проф. Ціхім (А. Дудар, А. Александровіч) і рэдактарам штотыднёвай часопісі „Nove Rusko" проф. Б. Матэзіусом (А. Гурло, Н. Чарнушэвіч).

* У № 3 за бягучы год выданьня чэскай часопісі таварыства культурнай сувязі з СССР „Nove Rusko" зьмешчаны артыкул М. Пружанскага пад назваю „Дзесятая гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі і Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка". У артыкуле праглядаецца гісторыя Беларусі дарэволюцыйнае пары, нацыянальна-культурны рух, заснаваньне БССР. Таксама адмечан этнографічны і соцыяльны склад насельніцтва, абглядаецца зямельная рэформа, плян электрыфікацыі, разьвіцьцё асьветы і выдавецтва ды інш. У артыкуле зьмешчаны портрэт З. Жылуновіча, як першага старшыні ураду БССР.

* У пятым сшытку часопісі „Ваплітэ", органу аб'яднаньня украінскіх пісьменьнікаў „Вольная акадэмія пролетарскае літаратуры", надрукаваны пераклад апавяданьня Цішкі Гартнага „Драбніцы" („Свае блінцы").

* У № 11 за 1927 г. часопісі аб'яднаньня украінскіх пролетарскіх пісьменьнікаў „Маладняк" зьмешчаны вялікі артыкул — агляд беларускае літаратуры „Шляхам жоўтня" (кастрычніка)—Тодара Глыбоцкага.

* У № ад 22 студзеня бягучага году вячэрняга выпуску газэты „Красная газета" (Ленінград) зьмешчаны артыкул аб беларускай літаратуры Рэха.

* Расійскі знаток літаратуры Н. К. Піксанаў у сваёй працы „Областные культурные гнезда", выданай Дзяржаўным Выдавецтвам РСФСР, адводзіць маленькі аддзел „Беларускай культуры і літаратуры".

* Г. І. Гарэцкі ў сучасны момант канчае сваю працу, пабудованую на найноўшых географічных і статыстычных матэрыялах, якая мае на мэце высьветліць пытаньне аб заход-

ніх межах этнографічнай Беларусі ў Віленшчыне і Горадзеншчыне. Гэтае надзвычайна важнае пытаньне ў апошнія часы і на падставе найноўшых матэрыялаў амаль што не разглядалася ў об'ектыўнай навуцы, тымчасам як польская ўрадовая статыстыка імкнецца ўсялякімі спосабамі, каб гэтае пытаньне затушаваць і прадставіць яго ў заведама фальшывым выглядзе.

Праца Гарэцкага мае быць надрукована ў выданьнях географічнай камісіі ІБК.

* У першых чыслах студзеня г. г. у конфэрэнцсалі ІБК адбылося ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае гадавіне заснаваньня Беларускага Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. З дакладамі выступалі: т. т. Прышчэпаў, Гарэцкі, проф. Дубах і проф. Мельнік.

Да гадавіны свайго існаваньня інстытут выпусьціў зборнік „Год працы інстытуту“ і чарговы нумар часопісі „Сельская і лясная гаспадарка“, прысьвечаны гэтаму юбілею.

* Пры Наркамасьвеце організавана Галоўная Ўправа па справах навукова-дасьледчых установ, інакш кажучы „Галоўнавукі“.

Веданьню Галоўнавукі падлягаюць: навукова-дасьледчыя інстытуты і катэдры; дзяржаўная бібліотэка і яе аддзяленьні; музэі; ахова помнікаў прыроды, старасьветчыны, быту і мастацтва; запаведнікі, сады, паркі; экспэдыцыі, якія маюць важнае дзяржаўнае значэньне; падрыхтоўка навуковых працаўнікоў; навуковыя таварыствы, краязнаўчыя організацыі ды інш.

На пасаду старшыні „Галоўнавукі“ Наркамасьветы прызначыў з 1 студзеня 1928 г. Некрашэвіча Сьцяпана.

* Распачалася організацыя дасьледчага музэю па сельскай і лясной гаспадарцы. Зараз робіцца апрацоўка экспонатаў. Музэй адчыняецца ў былой царкве на дзядзінцы Інстытуту.

* Гістарычная сэкцыя Ўсесаюзнай Комуністычнай Акадэміі зарэгістравала таварыства гісторыкаў-марксыстых Беларусі.

Таварыства яднае зараз 20 чалавек. У яго ўваходзяць т. т. Ігнатоўскі, Кнорын, Гельтман, проф. Матулайціс, Выдра, т. т. Сянкевіч, Каранеўскі ды інш. Старшынёй таварыства зьяўляецца тав. Ігнатоўскі.

У галіне дасьледчай працы таварыствам вызначана распрацоўка архіўных матэрыялаў, галоўным чынам па гісторыі Беларусі. Апрача таго, будуць заслуханы даклады на тэмы „Маркс і Энгельс аб рускай рэволюцыі“—тав. Панкевіч, „Аграрнае пытаньне ў другім Інтэрнацыянале“—дакладчык тав. Рыўлін, „Этапы разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці“—тав. Канаплін, „Удзел палякаў у Кастрычнікавай рэволюцыі“—тав. Гельтман, „Зямля і Воля“ 60 гадоў і сувязь яе з паўстанцкай організацыяй 63 году на Віцебшчыне“—т. Вітоўскі, „1905 год на Беларусі“—тав. Сэрбэнта ды інш.

* У сувязі з тым, што міжнародны аграрны інстытут у Маскве рыхтуе да друку зборнік „Аграрныя адносіны Заходняй Беларусі“, у Менск прыяжджаў прадстаўнік міжнароднага ін-ту т. Чорнабаеў для наладжаньня сувязі з дасьледчым ін-там і ІБК у справе вывучэньня гэтага пытаньня.

* Проф. Пічэта скончыў нядаўна навуковую працу „Гісторыяграфія Менску і Меншчыны“. Гэта праца зьмяшчае агляд усіх твораў на польскай, расійскай ды інш. мовах у галіне вывучэньня гісторыі Менску, пачынаючы з XVIII стагодзьдзя.

* Пры аддзеле с.-г. экономіі і аграрнай політыкі адчынены габінэт па вывучэньні аграрнай рэволюцыі на Беларусі.

Першай сваёй задачай габінэт ставіць збор у орыгіналах усіх архіўных матэрыялаў аб аграрнай рэволюцыі на Беларусі.

* З Магілеўшчыны дастаўлены ў Інбелкульт пэргамэнты XV—XVI ста-

годзьдзяў, напісаныя пабеларуску. Гэтыя гістарычныя дакуманты перададзены ў гістарычную клясу ІБК для распрацоўкі і выўчэньня.

* Беларускі географ А. Смоліч займаецца зараз канчатковай апрацоўкай дазіомэтрычнай карты Беларусі. Гэтая карта будзе прадстаўляць разьмяшчэньне насельніцтва на тэрыторыі Беларусі і яго гушчыню ў кожным сельсавеце. Карта складаецца ў дзесяцівярстовым маштабе і можа служыць падставай як для дробнага раёнаваньня Беларусі, так і для розных плянавых меркаваньняў як агульна-дзяржаўнага, так і мясцовага характару.

* На Бэрлінскай выстаўцы „Акно ў Эўропу", арганізаванай усесаюзным таварыствам культурнае сувязі з заграніцаю, разам з нямецкім таварыствам „Прыяцеляў Новае Расіі", БССР прадстаўлена сваімі экспанатамі ў аддзелах народнае асьветы і зямляробства. Выстаўлены рад дыяграм, якія датычаць культуры і сельскае гаспадаркі БССР, а таксама літаратура на беларускай мове па розных галінах.

Гэта выстаўка закрываецца 20-га студзеня, пасьля чаго будзе перанесена спачатку ў Вену, а потым у Прагу.

На юбілейную выстаўку, арганізаваную Ўсесаюзным т-вам культурнае сувязі з заграніцаю ў Нью-Ёрку, выпраўлены макеты Беларускага Дзяржаўнага Тэатру і рад малюнкаў, убраньняў і дэкорацый з пастановак гэтага тэатру.

Т-ва культурнае сувязі організавала заграніцаю 4 юбілейныя выстаўкі прыблізна аднолькавага зьместу. Беларусь прадстаўлена толькі на дзьвюх выстаўках, пры тым досыць слаба. Тлумачыцца гэта тым, што з Беларусі ня было прыслана выстарчальнае колькасьці экспанатаў.

Юбілейныя выстаўкі ў Маскве наглядна паказалі, што Беларусь можа прадставіць багаты і цікавы матэрыял, тым больш цікавы, што культурныя дасягненьні Беларусі за 10 год рэволюцыі надзвычайна вялікія. Шкада толькі, што на заграничных выстаўках гэтыя дасягненьні не атрымалі досыць поўнага адбітку.

Зараз ідзе падрыхтоўка да выстаўкі прэсы ў Кельне, якая адкрываецца ў маі 1928 г., дзе будуць прадстаўлены пэрыодычныя і кніжныя выданьні народнасьцяй СССР, а таксама тэхніка распаўсюджаньня выданьняў.

* За апошні год Белдзяржмузэй значна пашырыўся як паступленьнем новых рэчаў, так і адчыненьнем новых аддзелаў.

Гэтым летам БДМ былі пасланы ў Тураўскі і Мсьціслаўскі раёны экспэдыцыі па збору этнографічнага матэрыялу. Шмат прывезена каштоўных і старажытных рэчаў з Мсьціслаўшчыны, звыш 1.000 экз., сярод якіх ёсьць: 2 кавалкі дываноў пачатку XVII ст., гобэлен, некалькі цынамонавых кубкаў, талерак і інш., шмат паясоў, сьвітак і рознага адзеньня.

З паступленьнем новых рэчаў зусім пераабсталяваны нанова этнографічны аддзел, які раней быў у страшэнным заняпадзе. Адкрыты новыя аддзелы: старажытнага, іконапіснага і разьбярнага мастацтва Беларусі, старога Менску, старажытнай Беларускай вайсковасьці, аддзел гравюрнага і акварэльнага мастацтва ды інш. Перабудаваны і пашыраны яўрэйскі аддзел.

* Сэкцыяй літаратуры і мастацтва пры Камуністычнай Акадэміі ў Маскве выдаецца „Літаратурная Энцыклёпэдыя", якая пераважна аддае ўвагу літаратуры нацыянальнасьцяй СССР як у мінулым, так і сучасным.

### У Інстытуце Беларускай Культуры

* Сэкцыя мовы Інбелкульту друкуе наступныя беларускія тэрмінолёгіі: па глебазнаўстве, сельскай гаспадарцы, бухгальтэрыі, хэміі і мэдычную тэрмінолёгію (нэўролёгія).

Таксама пераглядаецца для новага дапоўненага і выпраўленага выданьня тэрмінолёгіі па псыхолёгіі, лёгіцы, пэдагогіцы, па практыцы і тэорыі літаратурнага мастацтва. Апрацоўваецца вэтэрынарная тэрмінолёгія.

* Спэцыяльная камісія пры ІБК зараз распачала зьбіраньне матэрыялаў аб гісторыі асьветы на Беларусі. Камісіяй будуць зьбірацца матэрыялы аб разьвіцьці і стане ня толькі сучасных і дарэволюцыйных школ, а і аб школах вуніяцкіх, езуіцкіх колегіях ды інш.

* Польсэктар Інбелкульту прыступіў да распрацоўкі провінцыялізмаў польскае гутаркі на Беларусі, якіх сабрана каля 3.000.

* Інбелкультам друкуецца зборнік народных песень М. Гарэцкага, якія ён запісаў у вёсцы Багацькаўцы, былога Горацкага павету. Зборнік вялікую цікавасьць мае як па дакладнасьці свайго запісу песень (фонэтычнага), так і дадаткам мэлёдый гэтых песень, запісаных Ягоравым.

Гэта першы беларускі зборнік, які будзе зьмяшчаць ня толькі словы песень, але і іх мотывы, і зьяўляецца вельмі цікавым для вывучэньня беларускай народнай мэлёдыі.

* Зараз вядзецца падрыхтоўчая работа па выпрацоўцы спэцыяльнай архэолёгічнай тэрмінолёгіі на беларускай мове. Гэта праца мае быць скончанай у сёлетнім акадэмічным годзе.

* Пры гістарычнай клясе ІБК організавана архэолёгічная камісія замест былое гістарычна-архэолёгічнае. Зараз камісія мае свой габінэт-лябараторыю, у якой вядуцца досьледы і апрацоўка ўсіх здабытых пры архэолёгічных экспэдыцыях ІБК матэрыялаў, а таксама і тых, што знаходзяцца па музэях.

Да сучаснага моманту ў камісіі распрацованы наступныя матэрыялы: па культурах новакаменнага (нэоліт) і бронзавага пэрыодаў; гэтыя матэрыялы сабраны ў 1926—27 годзе па рацэ Сож—Гомельшчыне, і Магілеўшчыне, падругое, па культурах гарадзішчаў, селішч і курганоў у раёне Банцараўшчыны (пад Менскам), Заслаўя, Гомельшчыны і Магілеўшчыны.

Матэрыялы па гарадзішчах сабраны з даславянскіх часоў (раней VIII веку) і славянскіх (IX-XII стагодзьдзе).

* Зараз архэолёгічная камісія вядзе работу па зьбіраньні матэрыялаў, часткова пры дапамозе мясцовых краязнаўчых організацый, для складаньня архэолёгічнай карты Беларусі ў этнографічных яе межах.

Адначасова заканчваецца праца па складаньні бібліографіі ўсяго друкаванага матэрыялу, які датычыць архэолёгіі Беларусі.

* Катэдра географіі зьбірае матэрыялы, якія раскіданы ў надрукованай ужо літаратуры, аб паасобных паселішчах, рэках, вазёрах і г. д.

Асабліва багатымі крыніцамі для гэтых матэрыялаў зьяўляюцца выданьні васьмідзесятых гадоў у 16 вялікіх тамох польскага географічнага слоўніка.

Гэтае выданьне мала дступнае ня толькі для шырокіх колаў грамадзтва, а нават і для асобных дасьледчыкаў і краяведаў, і зьмяшчае ў сабе шэраг цікавейшых географічных вестак. Побач з тым краязнаўчыя організацыі, а таксама навуковыя экспэдыцыі Інбелкульту з кожным годам зьбіраюць усё больш географічны матэрыял. Сабраўшы ўсе гэтыя матэрыялы разам і належна іх апрацаваўшы, катэдра географіі мяркуе выдаць поўнае географічнае апісаньне Беларусі, у першую чаргу БССР, каб падсумаваць усе веды, якія ў сучасны момант навука мае аб кожным кутку нашага краю.

* Зацьверджаны склад рады аддзелу гуманітарных навук з наступных таварышаў: старшыня—С. Некрашэвіч, намесьнік старшыні—проф. Ясінскі і члены: проф. Ігнатоўскі, Лёсік, проф. Замоцін, проф. Пічэта, Ластоўскі, Міцкевіч, (Якуб Колас), Луцэвіч (Янка Купала), Жылуновіч

(Цішка Гартны), проф. Матулайціс, проф. Эпімах-Шыпіла, проф. Бузук, проф. Дружчыц, А. Цьвікевіч і Дыла.

Рада аддзелу прыроды і гаспадаркі зацьверджана ў складзе наступных таварышоў: старшыня — проф. Ар. Смоліч, намесьнік старшыні — д-р Трамповіч, члены: проф. Блюдуха, проф. Афанасьеў і часова проф. Адамаў, Вяршук, проф. Ленц і доцэнт Кісьлякоў. Для сувязі ў раду аддзелу ўведзены ад ЦБ краязнаўства т. Казак і ад Беларускага дасьледчага інстытуту—т. Серада.

У склад прамысловай камісіі ўваходзяць: старшыня—т. Стракоўскі, намесьнік старшыні—т. Галавінскі, сакратар—т. Ярмашэвіч.

Старшынёй камісіі па выўчэньні хатніх рамёстваў зацьверджаны т. Трафімаў, намесьнікам старшыні—т. Хэйфэц, сакратаром—т. Рак.

* Азербайджанскае Дзяржаўнае Выдавецтва зьвярнулася да Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва з пропозыцыяй узаемнага выданьня на беларускай мове зборніку азербайджанскай літаратуры і на азербайджанскай мове зборніку беларускае літаратуры. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва прыняло пропозыцыю „Азгіза“, вылучыўшы для зборніку азербайджанскае літаратуры 15—17 друкаваных аркушаў.

* Азербайджанскае Дзяржаўнае Выдавецтва прыступіла да пераводу твораў Янкі Купалы на тюркскую мову.

* Чэскі проф. З. Няедлы, восеньню мінуўшага году наведываўшы Менск, зараз друкуе ў чэскіх часопісах свае ўражаньні аб агледжаных ім установах. У часопісе „Avantgarda“, органе студэнтаў і рабочых, зьмешчаны артыкул проф. З. Няедлага на тэму „У комуністычным унівэрсытэце ў Менску“. У гэтым артыкуле прыводзіцца мэтод выкладаньня, стан абсталяваньня унівэрсытэту, яго мэты. Таксама адмячаюцца ў некалькіх яскравых рысах агульныя дасягненьні ў культурным будаўніцтве БССР.

* У № 1 тэатральнае часопісі Ленінградзкай Губ. політпросьветы „Жизнь искусства“ зьмешчаны наступны артыкул аб Беларускім Дзяржаўным Тэатры першым:

„У гэтым сэзоне першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр працуе ў Віцебску. Яго пастановы даюць досыць матэрыялу на тое, каб ацаніць чыннасьць гэтае буйнейшае нацыянальнае беларускае тэатральнае організацыі.

Дзесяць гадоў ужо працуе Белдзяржтэатр. Дзесяць гадоў натужнае мастацкае працы—заслуга немалая. Белдзяржтэатр за гэты тэрмін сумеў выканаць ня лёгкае заданьне мастацкага выхаваньня шырокіх гушчаў працоўных. Ён жыва адгукнуўся на ўсе новыя дасягненьні ў галіне тэатральнага будаўніцтва і, стаўшы лепшым і першым тэатрам у Беларусі, заваяў сымпатыі пролетарскага гледача. У рэпэртуары БДТ мы знаходзім ня толькі навінкі савецкае драматургіі, але таксама і клясычныя п'есы. Вопытная і чулая рэжысура драматурга Міровіча ўпісала ня мала яскравых старонак у гісторыю Белдзяржтэатру.

З апошніх пастановак БДТ 1 павінны быць адмечанымі: „Мяцеж“—п'еса з эпохі грамадзянскае вайны на туркестанскім фронце водлуг роману Фурманова ў перапрацоўцы Поліванава, „Кастусь Каліноўскі“, „Каваль Ваявода“ і „Над Нёмнам“. Усе яны прайшлі з вялікім посьпехам. Прыдаючы вялікае значэньне знадворнаму афармленьню, аддаючы шмат увагі дэкорацыйнай маляўнічасьці і ахвотна ўжываючы прынцыпы пастановак Камэрнага тэатру і часткова тэатру рэволюцыі, Белдзяржтэатр стварыў спэктаклі немалое мастацкае каштоўнасьці. Выключны посьпех выпаў на п'есу Міровіча „Кар'ера Брызгаліна“. Дзякуючы дасканалай, срога прадуманай аўтарскай пастаноўцы, а таксама тэмпэрамэнтнай, дынамічнай і хвалюючай

ігры артысты Валадамірскага (Брызгалін), п'еса гэтая з першае пастаноўкі заваявала моцныя сымпатыі.

У огуле Бел. Дзярж. Тэатр праз доўгую і ўпартую працу стварыў актора-праўдніка сучаснай ідэолёгіі. Прыгожая тэхніка і стараннае выкананьне становіць артыстых БДТ на высокую ступню тэатральнага мастацтва. Да гэтае грамадкі мы можам прылічыць з жаночага складу: Ржэцкую, Галіну, Грамыку, з мужчынскага пэрсоналу: Уладамірскага, Крыловіча, Грыгоніса, Зорава і Платонава".

Гэты артыкул ілюструецца пяцьма портрэтамі з ліку пайменаваных артыстых.

* У тэй-жа часопісі зьмешчаны надзвычайна цікавы артыкул назваю „Пути национального кинопроизводства", у якім аўтар, Леў Шатаў, паміж іншым гэтак адзываецца аб Белдзяржкіно і некаторых іншых дзяржаўных рэспубліканскіх кіноорганізацыях, пішучы: „Узбэкдзяржкіно, Чувашкіно і Белдзяржкіно, фактычна ня гледзячы на дэклярацыі, нацыянальнымі кіно-організацыямі лічыцца ня могуць і вось чаму. Узбэкдзяржкіно і Чувашкіно выпусьцілі па некалькі фільмаў сіламі маскоўскіх кіновытворнікаў. Натуральна, што аўтары фільмаў працавалі з озіркамі на асяродакіх кар'еры—Маскву, і, зразумела, без улічэньня спэцыфічных нацыянальных асаблівасьцяй і *заданьняў нацыянальнае фільмы* (курсыў аўтара). Гэтак „Чадра" Узбэкдзяржкіно (рэж. Авербах) заражана экспрэсыонізмам, абсолютна недаступным радавому узбэкскаму гледачу. „Страна Чувашская" Чувашкіно (рэж. Каралевіч) у значнай меры ідзе за прынцыпамі Дзігі Вертава, якія таксама надмерна складаныя для чуваша... *Белдзяржкіно пабіла рэкорд зьнявагі да сваіх нацыянальна-культурных заданьняў: адна з асноўных фільмаў гэтае організацыі — „Простытутка"—цалкам зроблена ў Маскве з адкрытым выкарыстаньнем маскоўскае натуры і быту".*

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* В. Вінічэнка напісаў новы роман з жыцьця украінскай эміграцыі „Покладзі золота“.

* Кнігасполка выдае новы роман вядомага пісьменьніка П. Істраці „Міхайло“ на украінскай мове.

* У Бугуруслане знойдзены невядомыя да гэтага часу карціны Тараса Шэўчэнкі.

* У Кіеве організуецца ўсеукраінскі музэй кнігі, дзе будзе сабрана ўся кніжная продукцыя, пачынаючы з даўнішніх часоў ажно да апошніх дзён.

* Б. Антоненка-Давідовіч канчае вялікую аповесьць „Валеры Місан“. Ён-жа здаў Дзяржаўнаму Выдав. Украіны для надрукаваньня апов. „Сьмерць“.

* Іван Ле напісаў новы роман, які перадае Дз. В. У.

* Рэжысэр О. Довжэнка закончыў фільм „Звенігора“ па сцэнарыі М. Іогансэна і Юртыка, дзе малюецца мінулае Украіны.

* У хуткім часе пачынае выходзіць новая штомесячная марксыцкая крытычна-бібліографічная часопісь „Крытыка“.

* У Кіеве організуецца Ўсеукраінская акадэмія мастацтва з 3-ма аддзеламі —музычным, тэатральным і мастацкім.

* Палонік К. канчае кіно-аповесьць „Таемніча альтанка“. ВУФК робіць з яе фільм.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Лімаоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

Статут ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА
п/п Нам. Нар. Кам. Унутр.
Спраў БССР *Кроль*
16-I—28 г.

# Статут аб'яднаньня беларускіх пісьменьнікаў „Полымя“

## I. Мэты аб'яднаньня

1. Прымаючы пад увагу асаблівае значэньне колектыўнай працы ў галіне літаратурнага будаўніцтва, група беларускіх пісьменьнікаў і літаратараў закладаюць аб'яднаньне „Полымя“.

Літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“ ставіць сваімі задачамі:

а) разьвіцьцё беларускай мастацкай літаратуры шляхам узмацненьня творчае працы сваіх сяброў і ў шчыльнай сувязі з вымаганьнямі соцыялістычнага будаўніцтва;

б) афармленьне і замацаваньне ў беларускай мастацкай літаратуры пролетарскай ідэолёгіі, зьвязваючы гэта разьвіцьцём і ўдасканаленьнем нацыянальнай формы;

в) удасканаленьне і паглыбленьне літаратурнай творчасьці шляхам разьвіцьця марксыцкай крытыкі, а таксама праз пашырэньне агульных ведаў сваіх сяброў, памятаючы, што „толькі дакладным веданьнем культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўкай яе, можна будаваць пролетарскую культуру“ (Н. Ленін);

г) сувязь з літаратурнымі інстанцыямі, організацыямі і паасобнымі пісьменьнікамі як у СССР, так і іншых краін.

У стасунку да іншых літаратурных організацый і паасобных пісьменьнікаў літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“ прагалашае найбліжэйшае супрацоўніцтва, калі гэта ня будзе супярэчыць асноўным прынцыпам аб'яднаньня і яго організацыйным палажэньням, вызначаным у яго статуце. Адначасова аб'яднаньне будзе весьці барацьбу са шкоднымі ўхіламі, якія могуць вынікнуць на шляху будаваньня беларускай пролетарскай літаратуры.

Літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“ бярэцца за выкананьне сваіх задач з поўнаю надзеяю на тое, што яно зьдзейсьніць іх у процэсе паглыбленьня соцыялістычнага будаўніцтва на Беларусі.

2. Для дасягненьня вышэйпамянёных мэтаў літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“:

а) організуе як зачыненыя, толькі для сваіх сяброў прызначаныя, літаратурныя сходы і дыспуты, на якіх зачытваюцца паасобныя творы,

рэфэраты і даклады, так і адчыненыя сходы і літаратурныя вечарыны якія могуць быць платнымі і бясплатнымі;

б) склікае конфэрэнцыі па пытаньнях беларускае літаратуры і ўдзельнічае праз сваіх прадстаўнікоў у зьездах, конфэрэнцыях і інш., якія склікаюцца літаратурнымі аб'яднаньнямі БССР, іншых Савецкіх Рэспублік, а таксама і другіх краін;

в) уваходзіць па пастанове агульнага сходу юрыдычнай асобай у іншыя літаратурныя аб'яднаньні;

г) выдае свой часопіс пад назвай „Полымя";

д) організуе выдавецтвы для выданьня твораў і прац сваіх сяброў;

е) утварае выстаўкі твораў сваіх сяброў, а таксама і твораў іншых пісьменьнікаў, не ўваходзячых у аб'яднаньне, па згодзе з імі;

ж) закладае, у выпадку патрэбы, свой клюб або куток;

з) прыцягвае ў свой склад выявіўшых сябе пісьменьнікаў, гісторыкаў і крытыкаў беларускае літаратуры;

і) робіць матэрыяльную дапамогу сваім сябром як непасрэдна, так і праз належныя дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы.

3. Праўленьне „Полымя" знаходзіцца ў м. Менску.

4. Аб'яднаньне мае свой штамп і пячатку з надпісам: „Аб'яднаньне беларускіх пісьменьнікаў „Полымя" і карыстаецца правам юрыдычнай асобы.

## II. Сябры аб'яднаньня

5. Сябрамі аб'яднаньня „Полымя" могуць быць усе пісьменьнікі, крытыкі і гісторыкі беларускае літаратуры, якія належна сябе выявілі і маюць друкаваныя працы і творы на беларускай мове, адпавядаючыя мэтам і заданьням аб'яднаньня (гл. выкл. у арт. 1).

6. Сябра аб'яднаньня „Полымя" адначасна ня можа належаць да іншых літаратурных групаваньняў.

7. Уступ у аб'яднаньне „Полымя" робіцца праз пісьмовую заяву, да якое павінны быць даданы кароткі жыцьцёпіс і пералік літаратурных твораў і прац як надрукаваных, так і рукапісных.

8. Заява аб жаданьні ўвайсьці ў сябры аб'яднаньня падаецца праўленьню, якое павінна па абгаварэньні кандыдатуры паставіць пытаньне аб уключэньні таварыша на чарговым агульным сходзе сяброў аб'яднаньня.

9. Кожны сябра аб'яднаньня мусіць выконваць усе абавязкі, якія ўскладаюцца на яго статутам аб'яднаньня, пастановамі агульнага сходу і Праўленьня. Калі сябра аб'яднаньня лічыць пастанову Праўленьня або няправільнай, або няпрыдатнай для сябе, ён можа апэляваць да агульнага сходу.

10. Выхад са складу аб'яднаньня вольны, толькі выходзячы павінен падаць заяву аб тым, што ён пакідае аб'яднаньне.

11. Выключэньне з сяброў аб'яднаньня можа быць і прымусовым паводле пастановы агульнага сходу.

Прымусовае выключэньне з аб'яднаньня адбываецца ў наступных выпадках:

а) пры неадпаведнасьці літаратурнай творчасьці або грамадзкай чыннасьці сябра аб'яднаньня мэтам і напрамку апошняга;

б) пры сыстэматычным парушэньні статуту аб'яднаньня, пастаноў агульнага сходу і Праўленьня;

в) пры такіх уласных паводзінах, якія могуць дыскрэдытаваць аб'яднаньне, як такое;

г) пры няўплаце запар на працягу шасьці месяцаў сяброўскіх узносаў без выстарчальных да таго прычын (арт. 25. Стат.).

12. Прымусовае выключэньне робіцца агульным сходам па заяве Праўленьня або ня менш, як трэцяе часткі сяброў аб'яднаньня.

13. Зваротны ўступ у аб'яднаньне добраахвотна выбыўшых або выключаных за няўплату сяброўскіх узносаў адбываецца ў парадку арт. 7 і 8 гэтага статуту. Прымусова выключаныя могуць падаць заяву аб уключэньні іх зноў у аб'яднаньне не раней, як праз год пасьля выключэньня.

### III. **Кіруючыя ўстановы аб'яднаньня**

14. Вышэйшаю ўстановаю аб'яднаньня зьяўляецца агульны сход яго сяброў.

15. Агульны сход сяброў аб'яднаньня дае напрамак чыннасьці аб'яднаньня, пераглядае, у выпадках патрэбы, яго статут, зацьвярджае новых сяброў аб'яднаньня і выключае старых у парадку арт. 10 і 11 статуту, абірае і ўпаўнаважвае прадстаўнікоў аб'яднаньня для ўдзелу ў зьездах, конфэрэнцыях і інш. па літаратурных справах, абірае Праўленьне і Рэвізыйную Камісію, разглядае паасобныя пытаньні, якія ўносіць Праўленьне.

16. Агульныя сходы бываюць чарговыя і нечарговыя. Чарговыя сходы адбываюцца ня менш аднаго разу ў поўгода, а нечарговыя—у залежнасьці ад патрэбы па ініцыятыве Праўленьня або па запатрабаваньні ня менш як трэцяе часткі сяброў аб'яднаньня.

17. Агульны сход аб'яднаньня лічыцца поўнамоцным, калі ў ім удзельнічае ня менш як дзьве трэція часткі сяброў аб'яднаньня. Пытаньні вырашаюцца на агульным сходзе простаю большасьцю галасоў. Прэзыдыум сходу абіраецца кожны раз паасобна.

*Увага*: Агульны сход можа лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае ня менш палавіны сяброў аб'яднаньня ў выпадку недахопу да кворуму сходу, скліканага ў другі раз.

18. Дзеля сталага кіраўніцтва справамі аб'яднаньня агульным сходам абіраецца Праўленьне ў складзе пяці асоб і 2 кандыдатаў.

19. Праўленьне распрацоўвае плян чыннасьці аб'яднаньня, падрыхтоўвае ўсе пытаньні да пастаноўкі на агульным сходзе, выконвае даручэньні агульнага сходу, мае права даваць даручэньні паасобным сябром аб'яднаньня па справах, уваходзячых у межы чыннасьці аб'яднаньня, выступае і адказвае ад імя аб'яднаньня ва ўсіх установах і па ўсіх патрэбах або непасрэдна, або з правам выдачы даверанасьці, у выключных выпадках вырашае пытаньні, падлягаючыя компэтэнцыі агульнага сходу, вядзе агульныя справы аб'яднаньня і ведае яго грашовымі сродкамі.

20. Праўленьне абірае з свайго складу старшыню, сакратара і скарбніка.

21. Пасяджэньні Праўленьня адбываюцца ня меней аднаго разу ў месяц. Пытаньні вырашаюцца Праўленьнем простаю большасьцю галасоў.

22. Аб сваёй чыннасьці Праўленьне робіць справаздачы на чарговых агульных сходах.

23. Дзеля нагляду за грашовым справаводзтвам і мэтазгоднасьцю грашовых тратаў аб'яднаньня агульным сходам абіраецца рэвізыйная камісія ў складзе трох асоб. Рэвізыя адбываецца ня менш двух разоў у год. Акты рэвізыйнае камісіі дакладваюцца агульнаму сходу разам са справаздачаю Праўленьня.

## IV. Сродкі аб'яднаньня

24. Сродкі аб'яднаньня складаюцца з наступных крыніц:

а) уступных узносаў сяброў аб'яднаньня;

б) штомесячных сяброўскіх узносаў;

в) выручкі ад платных літаратурных вечарын, адчыненых платных дакладаў і рэфэратаў, платных выставак і выдавецтва;

г) іншых крыніц, апроч памянёных.

25. Уступныя ўзносы вызначаюцца ў 3 рублі з сябра, а сяброўскія— у адзін рубель у месяц. У выпадку выхаду або выключэньня з аб'яднаньня, уступны ўзнос варочаецца цалкам быўшаму сябру, сяброўскія-ж узносы не варочаюцца ні ў якім выпадку.

*Увага:* У стасунку да паасобных сяброў аб'яднаньня пастановаю Праўленьня ўступны і сяброўскія ўзносы могуць быць зьменшаны.

26. Сродкі аб'яднаньня трацяцца Праўленьнем паводле пляну, ухваленага агульным сходам, і на мэты, паказаныя гэтым статутам.

## V. Ліквідацыя аб'яднаньня

27. Ліквідацыя аб'яднаньня робіцца ці пастановаю дзяржаўных заканадаўчых устаноў БССР, ці паводле пастановы агульнага сходу аб'яднаньня.

28. Для ліквідацыі аб'яднаньня ў апошнім выпадку патрэбна прысутнасьць на агульным сходзе ня менш як чатыры пятых ліку сяброў і галасаваньне за ліквідацыю ня менш як дзьве трэціх усіх сяброў аб'яднаньня.

29. Для ліквідацыі аб'яднаньня агульным сходам, пастанавіўшым аб ліквідацыі, абіраецца ліквідацыйная камісія, якая акт ліквідацыі з пастановаю агульнага сходу перадае Наркамасьветы, па загаду якога скарыстоўваецца маемасьць аб'яднаньня.

Сябры-закладчыкі аб'яднаньня „Полымя“

*Міхась Чарот*
*Зьмітра Жылуновіч*
*Янка Пятровіч*
*М. Піотуховіч*
*Якуб Колас*
*Андрэй Александровіч*
*Янка Купала*
*Алесь Гурло*
*Міхась Грамыка*
*М. Зарэцкі.*

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**Я. Нёманскі**. Драпежнікі (*роман*) . . . . . . 3
**Ц. Гартны**. „Гаспадар“ (*аповесьць*) . . . . . . 19
**І. Бэхэр**. Адзіная справядлівая вайна (*роман*) . . . . . 41
**Якуб Колас**. На шляхох волі (*поэма*) . . . . . . 78
**Ал. Дудар**. Разгуляўся пошчак... (*верш*) . . . . . . 87
**Н. Вішнеўская**. Ты сказаў... (*верш*) . . . . . . 88
**А. Александровіч**. Цені на сонцы (*поэма*) . . . . . 89
**Е. Пфляумбаум**. Песьня радзіме (*верш*) . . . . . 95
„ Радасьць... (*верш*) . . . . . . 96
**І. Бэхэр**. Аглядаючы трыццацігодзьдзе жыцьця . . . . 97
**Л. Каплан**. Проблема культурнай рэволюцыі і нацыянальная культура . . 99
**А. Цьвікевіч**. „Западно-русская“ школа і яе прадстаўнікі . . . . 117
**М. Касьпяровіч**. Організаванае выўчэньне Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця . 140
**М. Байкоў**. Да пытаньня аб мэтодах і прыёмах нашае крытыкі . . . 156
**Т. Глыбоцкі**. Літаратурнае балота . . . . . . 177
**Язэп Гора**. Аўтожыцьцяпіс . . . . . . 190
**Кнігапіс**. . . . . . . . . 195
Хроніка беларускае культуры . . . . . . . 210
Хроніка украінскага культурнага жыцьця . . . . . 220
Статут аб'яднаньня беларускіх пісьменьнікаў „Полымя“ . . . . 221

## ВЫДАВЕЦТВА ДЗЯРЖПЛЯНУ БССР

Менск, Пляц Волі № 5, тэл. 2-84.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 год

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
ПОЛІТЫКА-ЭКОНОМІЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „САВЕЦКАЕ БУДАЎНІЦТВА“

**(ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ).**

Часопісь пераважна зварачае ўвагу на пытаньні экономічнага будаўніцтва і на вывучэньне гаспадаркі БССР. Апрача таго, у часопісі знаходзіць адбітак і экономічнае жыцьцё суседніх дзяржаў.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| У СССР: | | За граніцу: | |
|---|---|---|---|
| На 12 м-цаў | 10 р. — к. | На 12 м-цаў | $7^1/_2$ амэр. дол. |
| „ 6 „ | 5 р. 50 к. | „ 6 „ | 4 „ „ |
| „ 3 „ | 3 р. — к. | „ 3 „ | 2 „ „ |
| „ 1 „ | 1 р. — к. | „ 1 „ | 75 цэнтаў. |

**Для раённых організацый, нізавых савецкіх культурных працаўнікоў і студэнтаў скідка.**

Падпісчыкам пры ўнясеньні гадавой падпіснай платы да 15 студзеня 1928 г. будзе выслана з 1-м № часопісі ў якасьці дармовага дадатка кніга „Матар‘ялы да пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну народнае гаспадаркі БССР“,

**430 стар.—цана 1 руб. 50 кап.**

На складзе выдавецтва Дзяржпляну і ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва прадаюцца наступныя выданьні:

1. Проф. **П. Т. Тутковский**—Геологический очерк Минской губ.,
   вып. 1-й 1916 г., цена . . . . . . 1 р. 50 к.
   вып. 2-й 1925 г., цена . . . . . . 2 „ — „
2. **Бюллетень Госплана БССР,** 1925 г., цена . . . 1 „ 50 „
3. **Г. Гарэцкі**—Народны прыбытак Беларусі—1926 г., цана . 1 „ 50 „
4. Проф. **М. Довнар-Запольский**—Народное хозяйство Белоруссии, (1861—1914 г. г.)—1926 г., цена . . . 2 „ 50 „
5. **Материалы по вопросу районирования Западн. Области,** вып. 1-й—Гомельская губ.—1926 г., цена . . . 1 „ 25 „
6. **Б. Архангельский**—Укрупненная БССР—1927 г., цена . — „ 60 „
7. **Материалы к пятилетнему перспективному плану народного хозяйства БССР на 1927-28—1931-32 г. г.,** 430 стр., цена . . . . . . 1 „ 50 „
8. **Комплекты часопісі „Савецкае Будаўніцтва“** за 1926 г. 10 „ — „
9. „ „ „ „ 1927 г. 10 „ — „
10. **Народное хозяйство БССР** за 1925-26 г. „ 1927 г. 1 „ — „

Падпіска на часопісь прымаецца ўсімі п.-т. ўстановамі БССР, канторамі Бел. аб‘яднанага аддзяленьня выдавецтваў і непасрэдна выдавецтвам Дзяржпляну. Заказы на іншыя выданьні накіроўваць толькі ў выдавецтва.

**Організацыям і гадавым падпісчыкам па заказах на непэрыядычныя выданьні даецца скідка ад 25 да 50%.**

ЦАНА 1 руб. 50 кап.




## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1928 ГОД

НА БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

# „ПОЛЫМЯ“

(СЕМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

З. Жылуновіча, М. Зарэцкага і Я. Лімаиоўскага

**ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ЗДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ**

**ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“**

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ПАЎТАРА МЕСЯЦЫ (8 КНІЖАК НА ГОД) РАЗЬМЕРАМ КОЖНЫ НУМАР 12 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ.

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ НА 1927 г. АТРЫМОЎВАЮЦЬ ПА ВЫБАРУ БЯСПЛАТНА ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК ПА ДЗЬВЕ КНІЖКІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ І ПОЭТАЎ.**

ПОЎГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ ... ТАК АТРЫМОЎВАЮЦЬ АДНУ КНІЖКУ.

АКРАМЯ ТАГО ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ ПРАДАСТАЎЛЯЕЦЦА РАССРОЧКА З УПЛАТАЮ:

1 студзеня—4 р.; 1 лютага—3 р. 50 к.; 1 кастрычніка . р. 50 к.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | |
|---|---|
| На год . . . | 10 руб. — кап. |
| „ 6 м-цаў . . . | 5 руб. — кап. |
| „ 3 м-цы . . . | 2 руб. 50 кап. |

**АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 1 руб. 50 кап.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часопісі „Полымя“ (Менск, ...кая, 63) у цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вуг. Ленінскай і Савецкай) і ва ўсіх ...аддзяленьнях ...